## У НУМАРЫ:

# З новым снегам!



Хвіліны, якімі я пішу гэты тэкст, суправаджаюцца настроем пад дэвізам «быць можа». Наліўшы зялёнай, з ледзьве ўлоўным водарам язміну, гарбаты ў кубачак з амаль празрыстай парцэляны, я падношу да белай старонкі аловак. Люблю, калі хоць што-небудзь ненадзейна.

З чым у вас асацыіруюцца зіма ўвогуле, снег у прыватнасці і Новы год як свята?

У маім разуменні і бачанні зіма — ледзь не самая творчая пара года. І самая, дарэчы, пісьменніцкая. Хаця б таму, што снег, мяккі ён ці хрумсткі, белы да болю ў вачах ці брудна-шэры, покрывам гладкім, бліскучым ад марозу, ці шурпатым, адліжным, са старых, так бы мовіць, запасаў, — як на яго ні глядзі, а больш за ўсё нагадвае паперу. Розніца, напэўна, толькі ў тым, што па ім значна лягчэй праклaсці шлях да сэрца. Вам гэта ўсё, канечне, помніцца: рукавічкі ў белых зорачках, гульня ў снежкі на перапынку паміж фізкультурай і фізікай, замеценая снегам сцяжынка перад домам, знічкі-кропелькі на вейках апушчаных долу вачэй і таўкатня белых мошак у жоўтым святле ліхтара... Пра што гэта я? Пра літаратуру. І наступны год, які ўжо не будзе Годам кнігі, але кніг ад гэтага не стане менш.

Калі глядзець на снегапад з акна высокага паверха, можна назіраць такую з'яву: снег супраць усялякіх законаў — фізікі, логікі і нават прагматыкі — не падае зверху ўніз, а ляціць сняжынкамі ўгору, да вокнаў вышэйшых паверхаў. Чаму? Не ведаю. І ці не ў гэтым шчасце?.. І ці не ў гэты час і на паперы лягчэй праклaсці шлях да сэрца?.. Пакуль недзе побач яшчэ не займаны, «цнатлівы ліст паперы чакае першага пацалунку пяра», недзе трошкі далей або бліжэй, але ўжо дакладна так вось годна: «...і тчэцца лёсу палатно на чыстым аркушы зімовым».

Віншую ўсіх чытачоў і пісьменнікаў з Новым годам і новым снегам!

*Святлана ДЗЯНІСАВА*

Ірына ГУНЬКО

# КРУЖАЦЬ У ВАЛЬСЕ КАЛЯДНЫЯ МАСКІ...



***Ірына Гунько нарадзілася 6 лістапада 1989 года ў пасёлку Крывічы на Мядзельшчыне. Скончыла філфак БДУ, працуе настаўніцай. Гаворыць: «Я такая, якая ёсць. Але няма мяжы для дасканаласці». Ідэалістка, максімалістка, фаталістка. Любіць чытаць, позна класціся спаць, хадзіць пешшу, пісаць лісты, атрымліваць адказы, здзіўляць і здзіўляцца...***

* * *

Зіма смешнымі дзіцячымі марамі
дзьме і збівае з ног.
Зіма снежнымі дарослымі явамі
малюе мапы эпох.
І хай вее легендамі студзень,
Завіруха расказвае казкі,
хай закружаць у вальсе, што цені,
карагодам калядныя маскі.

* * *

Вы
нечакана запісаны верш,
у якім не ўсе прачытаць словы.

Ты
стаў для мяне тым,
для каго так лёгка складаць лісты.

Мы,
напэўна, ніколі не будзем бліжэй,
як за сямсот кіламетраў зімы.

* * *

Вось яна —
Восень.
Вершамі вылілася на паперу.
Вось яны —
Першыя шчырыя слёзы даверу.
Верыш?
Вераснем сцішаным быў ты.
Восенню
Шчасце пісала за нас лісты.
Вось яны.

* * *

Жыву я Вашымі лістамі,
пачынаю свой дзень з іх.
Усё ў жыцці я мераю Вамі,
сама з сабой размаўляю ўслых.

Мая свядомасць ужо адмаўляецца
ўспрымаць рэчаіснасць такой, як ёсць.
А Лёс ненадзейна трымаецца
за думку, што Вы ў ім толькі госць.

* * *

Пішу жыццё,
Жыву сваімі вершамі,
Заблыталася ў яве і ў сне…
Мяне чытаюць, быццам кнігу першую,
Ды забываюць потым па вясне.
Пішу сябе,
Ствараю з мар і мрояў…
Будую з вобразаў пустых
Свой крохкі свет.
Мне проста трэба ведаць,
Што існуе
У кожным сённяшнім імгненні
МОЙ СУСВЕТ!

* * *

У кожнага свая Краіна дзяцінства,
З рознакаляровымі дрэвамі,
У кожнага свая ідэя адзінства,
А ў завуча — папка з нашымі
педагагічнымі крэда…
А ўрокі для ўсіх адкрытыя,
А дзверы заўсёды адчынены,
А помніць патрэбна асноўнае:
Усе мы дзеці, кожны па-свойму.



Алена БРАВА

***Год «Маладосці» адкрывала яе аповесць «Рай даўно перанаселены». Ёсць спадзяванне, што наступны год не пройдзе для нашага часопіса без новай аповесці пісьменніцы.***

— «Маладосць» — мой улюбёны часопіс, і не толькі таму, што праз яго прыйшлі да чытача амаль усе мае апавяданні, аповесці і раман. Малады чытач для мяне асабліва дарагі, бо яго вочы яшчэ не «замыленыя», а погляды не паспелі «зацвярдзець», «схапіцца».

Маладосць — гэта час адвагі і энергетычнага ўздыму; за тое, што ў маладосці даецца дарма, у сталым узросце давядзецца дорага плаціць. А яшчэ гэта час самарэалізацыі, таму маё пажаданне чытачам «Маладосці» — спяшайцеся адшукаць сваё сапраўднае «я», каб не пражыць памылкова чужое жыццё. Важна не растранжырыць энергію марна, бо навокал столькі спакуснікаў, — менавіта на яе, вашу жыццёвую прагу, і палююць прыхільнікі пустаты. Будзьце сабой — гэта найбольшае, што можна пажадаць чалавеку. З Новым годам!

Ганула ПУХАЛА

# СУСТРЭЧЫ, ЯКІЯ ЗМЯНЯЮЦЬ ЖЫЦЦЁ

*Абразкі*



***Ганула Пухала нарадзілася 15 чэрвеня 1993 года ў Пінску. Вучыцца ў Шчэцінскім універсітэце на факультэце польскай філалогіі. Друкавалася ў рэгіянальнай перыёдыцы. «Але я лічу, што некалькі заметак — гэта яшчэ не сур'ёзна»,— дадае Ганула. Сціпласць — прыкмета таленту?***

***Не ведаю, як у жыцці іншых людзей, але мая жыццёвая дарога ўвесь час пакручастая і накіроўвае мяне то ў адзін, то ў другі бок. І, што цікава, заўсёды мяне чакаюць самыя разнастайныя і нечаканыя сустрэчы, знаёмствы, размовы, якія затым уплываюць на маё жыццё. Я ўпэўнена, што людзі гэтыя — ад Бога, і сустракаюцца яны мне дзеля таго, каб сваім прыкладам патлумачыць шматлікія пытанні, што хвалююць чалавецтва; гэта, відаць, анёлы, якія церпяць за ўсе нашыя грахі. Яны — ахоўнікі, дзякуючы якім на свеце заўсёды перамагае Дабрыня!..***

## ЖЫВЫЯ ВОЧКІ

Месяц май. Цудоўнае надвор'е. Вечар. Людзі вяртаюцца з працы, але стомленасці на іх тварах няма — толькі шчырая задаволенасць сённяшнім днём і, здаецца, усім сваім жыццём!

Каля акна ў аўтобусе сядзіць гадоў пяці дзяўчынка. Белыя кудзеркі весела пераліваюцца ў промнях вясенняга сонейка. Жывыя вочкі здаюцца надта блакітнымі, калі малая ўздымае іх да неба! Гэтыя вочкі прыцягваюць да сябе, захапляюць сваёй чысцінёй і радасцю. Як сапраўдны анёлак, яна склала ручкі перад тварыкам, нібы молячыся альбо дзякуючы Богу за гэты дзень.

Але чаго ж яна доўга трымае гэтак свае ручкі?..

Здаецца, дзяўчынка адчула на сабе зацікаўлены позірк, бо паглядзела ў мой бок. Я не змагла ўтрымацца і ўсміхнулася ёй. Яна засвяцілася яшчэ больш і нечакана нават для сябе самой на момант узняла далонькі ўгору, нібы цягнучыся да неба…

І тут!.. Божа мой… Заечая губа!

Яна хутка схавалася зноў у свае ручкі і паглядзела на мяне зусім недзіцячымі, напоўненымі горыччу і крыўдай вачыма.

Потым яна адвярнулася да акна, пераўтварыўшыся зноў у анёлка, які моліцца Небу.

## УСМЕШКА

Некалькі месяцаў мне давялося працаваць у адным з найлепшых анкалагічных цэнтраў Еўропы. Працы выпадала многа, рознай працы, але галоўнай нашай місіяй была ўсмешка. І без тлумачэнняў ясна, што гэтым хворым людзям яна патрэбна больш за паветра. Што ўдосталь ім ужо гэтых шкадуючых позіркаў і саступанняў месцаў у аўтобусах.

Але ўжо ў першы дзень сваёй працы я зразумела, які цяжкі гэты крыж. Стомленасць у нагах, галаўны боль, бяссонніца — усё гэта было дробяззю ў параўнанні з тым адчуваннем, калі твар баліць ад таго, што ўсміхаешся (мусіш рабіць гэта шчыра), сэрца калоціцца, і цякуць нябачныя слёзы ў душы. Трэба ж несці хворым радасць! Бо ад таго, як я ўсміхнуся, як прывітаюся з гэтымі людзьмі, залежыць іх настрой на цэлы дзень. Я ўсміхалася так, што па вяртанні дадому мне нават есці не хацелася, каб не варушыць вуснамі.

Паверце, няцяжка ўсміхнуцца быламу хлопцу, нават калі сэрца вырываецца з грудзей. Няцяжка ўсміхнуцца матулі, якую пакрыўдзіў, і чырванее ад сораму твар. Няцяжка ўсміхнуцца дзядулі, перад якім замірае дух і якому спакоем абавязаны, бо ён ваяваў і выжыў. Цяжка ўсміхнуцца чалавеку, які ведае, што праз год (ці некалькі месяцаў) павінен аддаць душу Богу, а ты, у сваю чаргу, павінен несці яму штодзённую радасць!

## ...ДАЙ НАМ ХЛЕБА ШТОДЗЁННАГА

Напэўна, у жыцці кожнага здараўся выпадак, калі жабрак прасіў грошай, бо не меў на што жыць. Вядома, людзі па-рознаму ставяцца да такой просьбы: хтосьці ад шчырага сэрца аддае ўсё дарэшты, нехта з пагардай кажа, што сам не ведае як жыць, а хтосьці проста праходзіць міма, стараючыся не зазірнуць у вочы няшчаснаму чалавеку, як гаворыцца: у дадзенай сітуацыі кожны паводзіць сябе па-свойму. Я ж хачу распавесці пра спатканне, якое і сёння вярэдзіць сорамам і болем незагойную рану ў душы.

Прыехаўшы ў Брэст, каб вырашыць сякія-такія справы, спаткала мужчыну гадоў сарака пяці. Абапіраючыся на драўляны, аздоблены разьбой кіёк, вельмі прыстойна апрануты — меў на сабе белую кашулю, камізэльку пад колер бардовага гальштука, паношаныя, але чыстыя нагавіцы і наваксаваныя боты — чалавек адразу прыцягваў да сябе ўвагу. А каля яго ног стаяла скрынка, у якую некаторыя прахожыя кідалі дробныя грошы. Я раззлавалася і падумала: «Што за нахабнасць! Да чаго коціцца свет?! Дарослы і прыгожы мужчына стаіць жабруе! Сорам!» Ды прайшла міма.

Зрабіўшы ўсё патрэбнае, у вельмі добрым настроі, я вырашыла прайсціся па бурлівай Савецкай. Раптам спынілася, убачыўшы таго самага мужчыну на ганку кінатэатра. «Што за ліха!» — зноў падумала я і, ледзь стрымаўшыся, каб не абурыцца, пайшла далей. Ён, гэты чалавек, чымсьці мяне зачапіў.

Я вярнулася ў родны Пінск. Жыццё ляціць далей. Мінула каля месяца, і я ўжо забыла пра дзіўнага мужчыну-жабрака. А тут выходжу з крамы і не магу паверыць сваім вачам — стаіць (зноў такі ж ладны і чысценькі)! Я не стрымалася, падышла і запыталася:

— Што ж гэта вы так жыццё сабе марнуеце? Ці не было б лепей пайсці папрацаваць і мець заслужаныя тысячы?



Андрэй
ФЕДАРЭНКА

***Колькі б рэцэнзій ні было напісана на яго «Дзікі Луг», а самая трапная — проста агучана, бо памерам не даўжэй за назву твора. Цудоўнае магло быць пытанне да знатакоў зімовай серыі «Што? Дзе? Калі?»! Але да гэтага мы яшчэ дойдзем.***

— Любімую рэдакцыю «Маладосці» віншую з надыходзячым Новым годам, усіх абдымаю, жадаю шчасця, здароўя, творчасці, поспехаў, матэрыяльнага дабрабыту!

Мужчына, не міргнуўшы, выслухаў мяне, а пасля заплюшчыў павекі і апусціў галаву, так нічога і не адказаўшы. Тады я падышла да кіёска і запыталася ў жанчыны, ці не ведае яна, што гэта за чалавек. Тая адказала:

— Яго ў нас усе ведаюць. Ад нараджэння ён сляпы, а як жонка памерла, дык з-за стрэсу страціў мову. Іх сын жыве цяпер у Брэсце. З глузду хлапчына з'ехаў зусім — усю бацькаву пенсію прапівае, а гэты, гаротны, не мае за што хлеба купіць.

Аж скаланулася я ўся, усё паплыло перад вачамі, затрэсліся рукі, моцна забілася сэрца, даўкі камяк захрас у горле, і я не магла ані слова вымавіць. Толькі выцягнула з кішэні ўсе свае грошы, і з усіх ног кінулася да таго месца, дзе стаяў мужчына.

Але яго ўжо там не было, ён знік… І з майго жыцця таксама… Пакінуўшы мне горыч і дзікі сорам, які шалёным полымем загараецца ў душы, калі я бачу зламаных лёсам людзей са скрынкай ля ног.

## КАЛІ ПРЭСНАЕ ЖЫЦЦЁ

Малітва… Гэта самае таемнае, самае шчырае, самае праўдзівае, што толькі можа вымавіць чалавек. Гэта голас сумлення, крык сэрца, патрэба жыцця.

Скончылася нядзельная імша. Насустрач выходзіць яшчэ адна мая настаўніца жыцця сястра Сільвія. Пытаецца: як я маюся, як вучоба ды ўсё астатняе…

Адказваю ёй, што ўсё цудоўна дый праблем аніякіх няма. Яна трошкі разгубілася і прамовіла:

— Дрэнна, што ўсё так добра.

Майму здзіўленню не было канца!

— Калі няма праблем, — працягвала сястра Сільвія, — калі жыццё прэснае, усё ідзе сваім ходам і чалавек не імкнецца ў ім штосьці змяніць, то і маліцца шчырай патрэбы няма. Бо мы толькі тады молімся, калі грузнем у багне грахоў і штодзённых праблем, а ў вачах стаяць слёзы. Калі ж няма праблем — то ствары іх! Гартуй душу, а не плыві па цячэнні! І тады шчыра маліся!

Яна прытуліла мяне, блаславіла і на развітанне падаравала лісток, на якім было напісана:

*Я не жадаю Табе, каб твой жыццёвы шлях быў заўжды бязвоблачны;*
*Каб жыццё Тваё было падобна да саду, поўнага духмяных руж;*
*Каб Табе не прыйшлося ніколі аб чымсьці шкадаваць;*
*Каб Табе ніколі не пакутаваць ад болю.*
*Не, нічога з гэтага я Табе не жадаю.*
*Але вось, чаго жадаю:*
*Быць мужнай у часы выпрабаванняў,*
*Калі будзеш павінна несці цяжкі крыж;*
*Калі Табе трэба будзе пакараць вяршыні і пераадольваць бездані;*
*Калі надзея будзе ледзь трапятацца ў Тваіх грудзях.*
*Я жадаю, каб таленты, дадзеныя Табе Богам, большыліся*
*І дапамагалі дарыць радасць усім, хто Цябе кахае;*
*Каб у Цябе заўсёды быў сябар, годны ім звацца,*
*Якому Ты б давярала,*
*Які суцешыў бы ў смутку,*
*Які дапаможа ўтрымацца падчас грымотаў жыцця.*
*І яшчэ я Табе жадаю:*
*Заўсёды — і ў радасці і ў горы —*
*Адчуваць блізкасць Бога.*
*Гэта маё пажаданне Табе і ўсім, хто Цябе кахае.*
*Гэта маё пажаданне Табе — сягоння і ва ўсе дні жыцця!*

Такі яшчэ адзін жыццёвы ўрок падарыла мне сястра Сільвія.

## АДЗІН ДОТЫК

***Каханне і веру не трэба ўсім выстаўляць напаказ — душу чуе толькі неба.***

А. Лойка

Чакаю на прыстанку свой аўтобус. Міжволі аглядаю машыны, шапікі, людзей. З левага боку ад мяне заўважыла маладую пару. Яны стаялі ў самым цэнтры прыстанку, увесь час цалаваліся, а калі гэты занятак іх нудзіў — сварыліся. Не ведаю, ці гэта мода такая цяпер «адкрытага» кахання, ці гэта простая нявыхаванасць, але непрыемна было назіраць за такімі паводзінамі. Дзяўчына, відаць па ўсім, не была цвярозай і ўсё ламала рукі, патрабуючы піва. Дзяцюк адказваў, што купіць няма на

што, пры гэтым ён няспынна мацаў сваю «каханую» за ўсё, што толькі можна. Такое каханне здалося для мяне абразай і відовішчам сапраўды брыдкім.

Настрой сапсаваўся. Але неўзабаве я звярнула ўвагу на іншую пару маладзёнаў з правага ад мяне боку. Яны сарамліва стаялі і смешна нешта тлумачылі адно аднаму рукамі. Дзьмуў халодны вецер, і хлопец засланяў сабою дзяўчыну.

Пад’язджаў аўтобус, і гарэза хацела выхапіць свой білет з рук каханага, але той, загадкава ўсміхаючыся, не аддаваў. Я і сама ўсміхнулася іхняй валтузні. Але раптам зразумела — яны ж глухія!

Да аўтобуса першай падышла дзяўчына, нечакана паслізнулася, хлопец падхапіў яе… Такі звычайны жыццёвы выпадак, але менавіта ў гэты момант мой дух перахапіла, і ў галаве мільганула думка: хіба не так выглядае яно, праўдзівае каханне?

Вось ужо і пачатак снежня. Дзіўна, але снегу няма — толькі стракатае лісце заслала халодную зямлю. Свеціць сонца, ды ўжо даўно не грэе. Твары людзей таксама «свецяць», толькі спакоем і смуткам. Дзеці ўжо не могуць дачакацца снегу ды святаў. Людзі сталага веку хаваюцца ў цёплыя шалікі і хусткі, папіваюць гарачую гарбату з лімонам. А дарослыя ўвесь час працуюць — і калі ранак пачынаецца верай у нешта добрае, у тое, што сённяшні дзень, напэўна, будзе лепшы ад учарашняга — то вечар прыходзіць такі ж самы, як заўсёды: поўны аўтобус стомленых людзей. І кожны ранак пачынаецца ўсмешкай, і кожны вечар заканчваецца расчараваным уздыхам.

А яшчэ горш складваюцца справы ў людзей самотных, якіх, на жаль, поўнапоўненька.

Вельмі прывабны хлопец гадоў дваццаці вось ужо некалькі тыдняў прадае ў самым цэнтры плошчы ружы (і дзе ён столькі іх знайшоў у снежні!). Але, што дзіўна — кветкі не псуюцца ў халодныя і пахмурныя дні: можа, таму, што людзі хутка ўсё раскупаюць і ён атрымлівае новыя, а можа, нейкая таемная добрая сіла гэтага чалавека дапамагае кветкам у нялёгкія дні.

Вечарэе рана. Яшчэ толькі чацвёртая гадзіна, а ўжо цямнее. Канец працы. А ў хлопца поўны кош руж. Аглядаючы штодзённа плошчу, ён зразумеў, што бачыць знаёмыя твары: усё тыя ж, што ўчора і пазаўчора. Бязмежна меланхалічны смутак адлюстроўваецца на тварах прахожых. І ведаеце, што зрабіў хлопец? Пачаў раздаваць ружы жанчынам.

*Наталля НАВІЦКАЯ*

# КІНАСТУЖКА



***Наталля Навіцкая (Сташэвіч) нарадзілася 27 жніўня 1986 года ў Бягомлі. Скончыла Мінскі фінансава-эканамічны каледж, Інстытут журналістыкі БДУ. Працуе ў газеце «Родныя вытокі» (Докшыцкі раён). Друкавалася ў газетах «Переходный возраст» і «Знамя юности». У часопісе «Маладосць» дэбютавала як празаік.***

* * *

Прамень прабіўся,
На шляху аблок сустрэўшы перашкоду,
І, перш за ўсё, на гэты шлях
Ён атрымаў у сонца згоду.
Цяжэй за ўсё быў першы крок —
Знайсці ў сабе адказ на мары,
І вось ён зроблены…
Цяпер
Яму не перашкодзяць хмары.

* * *

Магчымасць ёсць,
І тут яна знікае,
І вінаваты ў гэтым толькі ты.
Бы кінастужку,
У думках пракручваю
Дня эпізоды.
І так здаецца лёгка, азірнуўшыся,
Ўсё выправіць у марах (не ў жыцці).
Але ж чаму я гэта разумею
У цішыні, на пяць хвілін пазней…

**У ЧАКАННІ ШЧАСЦЯ**

Ты крычы не крычы,
Хто пачуе ў пустэчы
Гэты стрыманы стогн,
Знак нястачы, галечы.
Ды не енчы ўжо так,
Бо і горай бывала,
Адзінокі жабрак
Меў жаданне і права.
А калі што не так —
Вінаватых не крыўдзі.
Ім даруй у душы,
Можа, шчасце і прыйдзе.

## АНЁЛЫ

У сэрцах — анёлы,
Звонку — не здраднікі,
Шчыра ўлюбёныя
Ў мары, жыццё.
Лесвіца хісткая,
Брудная, вузкая,
То пад нагамі,
То над быццём.
Сумныя вочы,
Сустрэчы па запісе…
Не адчуваеш душэўны падман,
Ды разумееш —
Зусім абыякавым
Болей не будзеш.
Заўсёды і там,
Недзе над марамі,
У вышыні нямой,
Дзве адзіноты
Без назваў і цэн
Лічаць па парах,
Здымаюць на фота,
Розных людзей
Між многіх падзей.

## ЛЯ ЧЫСТАГА АРКУША

Я не ведаю што,
Але ведаць мне і не хочацца…
Дзіўныя думкі.
Амярцвелыя — разыходзяцца,
Каму дзякаваць, несці ласункі.
Нехта кажа, што чэшуцца рукі.
Непрыемна гучыць, рэжа слых,
Абнадзейвае, што па рахунках
За сябе плацім мы, не за іх.
Разуменне іншых, сваіх
Зноў на аркушы белай паперы,
Назаву гэта думкай жорсткай,
І аддзячу табе за веру.
Перадаць, а не перадаецца,
Расказаць, а пра што — невядома.
Чым глыбей углядаешся, сумна
Бачыць, як разбураюць каноны.



Алёна БЕЛАНОЖКА

***Яе аповесць «Чамадан з кракадзілавай скуры» ў адных выклікала асацыяцыю з лёгкім чытвом, іншым жа падалася запрашэннем разгледзець схаваныя сэнсы. А ці варта, на думку аўтаркі, вышукваць сэнсы ўвогуле?***

— Я мяркую, што, калі чытаеш твор упершыню, трэба проста атрымліваць асалоду ад сюжэта і мовы. Сэнс — другаснае, галоўнае — ідэя; калі яна засталася ў свядомасці пасля таго, як вы прачыталі апошнюю старонку і загарнулі кнігу, — значыць, аўтар усё зрабіў правільна. Калі ж вам захочацца перачытаць кнігу — гэта прыкмета таго, што ў ёй і праўда меліся другасныя сэнсы, адрасаваныя вам. Вось за другім разам можна чытаць «між радкоў».

Віншую ўсіх чытачоў «Маладосці» з Калядамі! Няхай ваша жыццё будзе напоўнена падзеямі, дасягненнямі і перамогамі! Любіце адно аднаго і ўмейце кожны свой дзень зрабіць пасапраўднаму святочным!

Ніка РАКІЦІНА

# ПЯРСЦЁНАК ГЕЛЕНЫ

***Легенда***

— Што ты мне брэшаш, Іцка?!

— Богам клянуся, вяльможны пан, завозна ў мяне, не ўбіцца, пані наказвала да замка ўсіх прыезджых заварочваць!

— Прадалі вы Бога, дый ім жа і бажыцеся? — Людвік пацягнуў зыгмунтоўку з похваў. — Ды я цябе, гіцаль, умомант пашаткую.

Ён кінуў вокам праз скасабочаны паркан на пусты падворак прыдарожнай карчмы: якое завозна, там і варона не лятала.

Пабітая дажджамі, счарнелая гаргара на ростанях яшчэ ніштавата глядзелася на тле курганоў торфу і гною.

— Рамянёў з тваёй спіны нарэзаць, пустабрэх?! — працягваў злаваць ён.

— Ён праўду кажа, пане! — маладая дачка карчмара кінулася-ўкленчыла на расчаўлены коламі, а потым усохлы, нібы камень, што на ім і трава не расла, глей. Раскінула чорныя шыкоўныя косы і знізу ўгару пазірала сваімі вачыма-алівамі. Малыя дзяўчынкі, якія трымалі яе за спадніцу, зарумзалі. Іх было ажно пяць, і пан Людвік падумаў, як Іцку давядзецца круціцца, каб кожную забяспечыць мужам і пасагам у гэтым пакінутым Богам кутку.

Казытлівы пах дзядоўніку і палыновы пылок прымусіў яго гучна чхнуць і тым самым прачысціць магутны нос. Людвік з роду Гусь быў адыходлівы і гжэчны — каб гожая дзеўка, хай сабе і жыдоўка, перад ім кленчыла?! Узяў прыгажуню за локці, дапамог падняцца, але адорваць пацалункам было б ужо занадта.

— Ты мне, Іцка, не мані. А што пані наказвала заварочваць, то лепш скажы... якога чорта наказала?

Карчмар запусціў пальцы ў валасы і выбухнуў:

— Ужо з тыдзень, як пан памёр... смуткуе вельмі пані на самоце.

— На самоце доўга не застанецца. Спадчыннікі ж аб'явяцца-зляцяцца, як крумкачы, — нагадала чарнакосая.

Іцка сувора зірнуў на дачку:

— Маўчы, Рыва. Лепш, хадзі, пеўня дарагому госцю зарэж. Мы ўсё для пана зробім, але ж толькі не начлег... Хай выбачае пан.



***Ніка Ракіціна (Людміла Багданава) нарадзілася ў Гомелі. Скончыла ГДУ імя Ф. Скарыны. Фантастыку чытае ўсё жыццё — нават перад іспытамі хавала томік Булычова пад падручнік гісторыі. Любімыя аўтары — Яфрэмаў, Верн, Бяляеў, Грын, Саймак і Брэдберы. У 2008 годзе выйшаў першы раман пісьменніцы «Гонитва». На «Еўраконе-2008» Ніка Ракіціна адзначана як лепшы малады фантаст.***

А Людвік, пачуўшы пра пеўня, каўтнуў сліну. І падумаў, што не дарма, зусім не дарма продкі вынайшлі парчовы пас з кутасамі, які не адзін раз вакол стана абкручваецца. Каб, падсілкаваўшыся, можна было паслабіць яго на пругкім чэраве. Варта сказаць, пан Людвік Гусь даўно падарожнічаў не пад'еўшы.

Покуль ён, знаходзячыся пры ясным розуме ды цвярозай памяці, сумленна служыў Сойму і каралю, сваякі круцілі яго маёмасцю, як хацелі. Людвік застаўся, лічы, ані з чым: неаднаразова залаплены жупан і нагавіцы, ды разяўленыя боты. А кабыла? Гора, а не кабыла — веку Мафусаілавага. Цыган, убачыўшы яе, задавіўся б ад жалю. І толькі зброю пан Людвік трымаў у парадку, бо, што за шляхціц без зброі? Адарві ды сабакам кінь. Таму былі ў яго з сабой набоі для стрэльбы, акуратна загорнутыя ў пергамент, шомпал і пэндзаль, каб змахваць з пісталетнай паліцы порах. І запасныя крэмні з суконкамі, каб не круціліся ў замку. А яшчэ ў скураным падсумку ляжалі кулькі з абцужкамі, кавалкі свінцу і анучкі — загортваць кулю, каб не выкацілася з рулі. Зашмальцаванымі драўлянымі рукаяцямі тырчэлі з перамёта абапал сядла пісталеты, але іх срэбныя і медныя часткі былі старанна адшліфаваны і змазаны. А руляй кішэннага пісталета французскай работы можна было бліскаўкі пускаць.

Але ж вось бяда, у мушкета, яшчэ прадзедаўскага, падчас апошняга бою парвала рулю ад залішняга пораху, — нічога не паробіш, на новы не ўзаб'ешся. А сапраўдны шляхціц і з шабляй заўсёды дасць рады. Як гахнуў мушкет, ажно кавалкі рулі скруціліся, як тыя пялёсткі ў ружы. Тады памяць Людвіку ад выбуху і адбіла. Ані хто ён, ані адкуль, згадаць не мог. Паднялі таварышы, нагадалі, хто такі, якога роду, дзе маёнтак ягоны, абкладзены крэдыторамі, застаўся, ды дахаты выправілі, каб ачуняў, падлячыўся.

Вяртаўся Людвік без вялікае ахвоты, нічога добрага дома яго не чакала. Што аднаму сярод пустых сцен бадзяцца? Усе думкі пра тое, як далей з ворагам біцца.

Мелася на поясе і зыгмунтоўка адпаліраваная, лёгкая і гнуткая: не шабля — песня. У паветры, што волас, што шаўковую хустку рассячэ напалам. А што похвы да дзірак абцерліся — дык не соль жа ў іх насіць. І нож годны праўдзівага шляхціца быў: дзедаў кінжал, прамы, востры з абодвух бакоў, з клінком даўжынёй у дзве пядзі.

Калі ўжо гаворка зайшла пра пажыткі, дык варта згадаць і партрэт Якуба Кажанова з Этоліі, адказнага за падтрыманне мужчынскіх сіл, і невялічкі томік «Трышчана і Іжоты», каб з дамамі мелася пра што пагаварыць. Усё гэта было старанна закручана ў радно і складзена ў сумку пры сядле. Моцна весяліў Гуся той Трышчан. Якія могуць быць амуры з мужчынам, які імя такое мае! Наконт сябе Людвік таксама не цешыўся, нават з дапамогай Кажанова дзеўкі наўрад ці стануць на ім з двух бакоў віснуць. Твар пан меў азызлы, вусы абвіслыя і вочы галодныя, як у ката, на ўвесь Вялікі пост адлучанага ад смятаны.

Ну і апошнюю сваю ўласнасць сыгнет — пярсцёнак-пячатку з цяжкога срэбра Людвік насіў на сардэчным, безыменным, пальцы левай рукі, хаця адружаны ніколі не быў. На пячатцы не вензель, а святы крыж. Наконт паходжання пярсцёнка Гусь цяпер і не ведаў, што меркаваць. Як ён памяць пасля выбуху страціў, то таварышы пра ўсё яму распавялі, толькі пярсцёнак таямніцай застаўся. Нібыта і раней, як пыталі ў яго пра сыгнет, то ён адмоўчваўся, а як нападпітку быў, то і за шаблю хапаўся. Цяпер і думай: ці то родавы, тады невядома, што за спадчына? Або фурман, паміраючы на палескай пустцы, загадаў перадаць жонцы, а пану Людвіку адшукаць удаву не выпала... Ці то з турэцкага палоннага зняў: тады чаму крыж? Або каханая падарыла — чорт цяпер толькі згадае... Але ж не здымаецца, халера, быццам урос у палец...

* * *

Пасля абеду Людвік павесялеў. Адным толькі племя іўдзейскае нялюдскае — свініны не ядуць. А як бы да гарэлкі пасаваў парсючок: абкладзены журавінамі і хрэнам, залацісты і блішчасты ад тлушчу, з анісавым яблыкам у роце. І сала з праслойкай, ды пакроенае буйнымі лустамі, з цыбуляй і перцам на густа пасоленым хлебе.

Хаця і пад'еў Людвік удосталь, і пояс пацёрты слуцкай работы крыху распусціў, а ўсё адно думка пра сала не давала спакою.

Ну няма, дык няма. Ён затуманеным позіркам развітаўся з чарнакосай дзяўчынай і падаўся на двор. Прыбраў мех з аўсом з-пад храпы кабылы, адвязаў яе, цяжка ўскараскаўся ў сядло і ўжо хацеў гнаць да той змрочнай крушні на даляглядзе, якую Іцка па недасведчанасці называў замкам, калі дарогу адважна заступіў хлопец. Ён быў басанож, ды, шчыра кажучы, і без штаноў, ягоныя калені прыкрывала толькі канапляная падперазаная кашуля. Хлопчык быў увесь шэры, быццам попелам прысыпаны, толькі блакітныя вочы свяціліся на худым твары.

— Бабця Маланка наказала, каб пан прочкі ехаў.

Людвік паглядзеў на ружовае неба, на рэдкія дымкі над хаткамі — і ўтаропіўся на хлопца:

— А я што, зайчык, пад хмызам начаваць?

— Не трэба ў замак, бяда пану будзе.

Вох, як не спадабаўся Людвіку гэты шэры. Міргае, рукі калоцяцца. І толькі ведае, што адной нагою чухае другую. Раптам падумалася пра падучку, вошы і каросту, што не дзіва ў гэтым краі.

— Ты вось, дудніш, — буркнуў ён з прыкрасцю. — Дык, можа, бабця твая мяне пакладзе ў стадоле якой?

Хлопец пачаў чухацца і торгацца яшчэ мацней:

— Нізавошта, пане! Гаспадыня тады нас са свету зжыве.

— Тады не замінай! — Людвік раздражнёна ціскануў каленямі кабылу.

— Ай, пане... — хлопец сунуў руку ў жабрацкую торбу на плячы і падаў Людвіку тоўстую, памерам з хлебны нож, залепленую пылам васковую свячу:

— Гэта грамнічная! Бабця Маланка казала: калі ўсё ж пан паедзе, дык хай асвеніць паню... як месяц узыдзе. Толькі каб воск на яе не патрапіў.

— Давай ужо, — разумеючы, што іначай не адчапіцца ад бажаволка, хіба толькі гвалтам, Людвік сунуў свячу ў прымацаваную да сядла сумку. — А ці далёка да замка?

— Вярста з гакам недзе.

Хлопец пакланіўся і збег. А кабылка патроху патрухала, набліжаючыся да халоднай каменнай грамадзіны. У прыцемках Людвік не наважыўся з'ехаць з дарогі, была небяспека, што кабыла паломіць ногі на купінах ды ў кратовых норках. А яшчэ горш, угразне ў багне — нізіна па баках гасцінца падазрона нагадвала балота. А шлях, быццам вужака, звіваўся ўздоўж ракі, і той гак, абяцаны хлопцам, расцягнуўся ўжо вярсты на дзве, калі нарэшце падарожны пад'ехаў да пад'ёмнага моста, здавалася, навекі спушчанага і ўрослага ў гразкі бераг абарончага рова.

— Каго там лешка прынёс?

Баба ў намітцы паласкала з моста споднікі з гульфікам. На другім баку худы, як жэрдка, хлопец у шэрай кашулі і падкасаных нагавіцах шлёпаў па вадзе таптухай. Ён падняў галаў і спуджана зірнуў на Людвіка.

— Вось, вандрую, прыстанак на ноч шукаю.

Баба абцерла спадніцай чырвоныя, быццам клюшні ў рака, рукі.



Уладзімір МАЖЫЛОЎСКІ

***Адкрыццё года — аповесць «Праклён мітрапаліта Феафіла». Пытанне да аўтара: што б ён адказаў на параўнанне яго творчасці з творчасцю Уладзіміра Караткевіча?***

— Для мяне гэта агромністы гонар. Аднак мы розныя, і яднае нас хіба толькі прыхільнасць да гістарычнай тэматыкі: я, як і Уладзімір Сямёнавіч, імкнуся перакінуць масток з сучаснасці ў мінулае і прапаную чытачу прайсціся па ім, адшукаць у сівой даўніне цікавых, мужных людзей, дакрануцца да іх ладу жыцця, думак, перажыванняў, вынесці з глыбіні стагоддзяў штосьці важнае і патрэбнае для сябе. І мая мэта — праз літаратурныя творы зрабіць займальны падручнік гісторыі Беларусі. Караткевіч жа ставіў перад сабой зусім іншыя мэты.

Хачу павіншаваць калектыў часопіса «Маладосць» і яго чытачоў з надыходзячымі Калядамі і Новым годам. Жадаю ўсім моцнага здароўя, аптымізму, добрага настрою. Каб усё ў вас атрымлівалася, каб вы заўсёды дасягалі пастаўленай мэты, каб у вашых сэрцах жыў Бог і каб вас заўсёды суправаджала ўдача.

— Дык, калі ласка, прашу, панічок.

І Гусь з жахам падумаў, што калі гэта пані, то ён начаваць у замку не застанецца. Лепш пад вярбой атабарыцца.

Але баба ўжо вяла госця за сабой, і адступіць было няёмка і сорамна.

* * *

Усярэдзіне пан Людвік пабачыў тое, што і мае быць у замку: высокія скляпенні, раскрэсленыя карункамі прасмоленых ад шашалю бэлек, і вытачаныя каваныя агароджы бясконцых галерэй. І шаты павуты; і зубчастыя штандары, закураныя і запыленыя да такой ступені, што гербаў на іх ужо не відно. І трон на памосце з невысокімі прыступкамі; і камін ва ўсю сцяну, дзе можна цалкам запячы лася. І выкладзеная трыснягом падлога...

Адчуў пранізлівы холад, што прадзірае спіну і кусае за пальцы; і скразнякі, якія прымушаюць жыхароў замка і летам хадзіць у футрах, а на старасці гадоў пакутаваць на раматус і радыкуліт.

Але калі пані выйшла насустрач, Людвік забыўся на ўсё.

Магчыма, яна не прыпала б да густу сталічнаму гуляку, які прынёс свой розум у ахвяру апошняй модзе, а для Гуся, дык самае тое. Сапраўдная правінцыйная прыгажуня: дзе трэба, тонка, дзе трэба, раскошна і пышна. Такую пасадзі на лаву — на арэхі: што там шкарлупінне — лава захрабусціць.

Пані, а звалі яе, як падказала баба з бялізнай, Гелена, была невысокай, але трымалася спраўна, годна, спіна прамая, плечы разгорнутыя, пакатыя і толькі, як для маладзіцы, трохі цяжкаватыя. І клубы — шырокія, важкія; і грудзі наліўныя, сціпла прыкрытыя празрыстай тканінай.

А талія — дзвюма далонямі абхапіць.

Старадаўні ўбор несла на сабе годна, як каралева. А на галаве, хаваючы чорныя косы, рагаты «караблік», пакрыты вэлюмам. Вэлюм Гелена прыўзняла, дзёрзка бліснула зялёнымі вачыма з-пад густых веяў і дазволіла прыкласціся да белай рукі, скрозь знізанай пярсцёнкамі і бранзалетамі — старадаўняй мясцовай работы, на гэтым пан Гусь добра знаўся.

Ад пані патыхала пудрай і накрухмаленай бялізнай, прыемна патыхала.

Яна далікатна павіталася, пацікавілася пра імя і род госця, прапанавала на выбар вячэру або лазню.

Паколькі Людвік пад’еў у Іцкавай карчме, то выбраў лазню. Паскардзіўся толькі, што на змену ў адзенні нічога не мае. Пані Гелена сказала, каб госць пра тое не турбаваўся.

І сапраўды, старасвецкі кунтуш з футраным каўняром быў цёплы і зручны, а што даўно ўжо выйшаў з моды, дык і трасца з ім. Такія гадоў па сто захоўваюцца ў куфрах, перакладзеныя піжмай і палыном, і горшымі не робяцца...

Кашуля ажно рыпела ад крухмалу...

А боты Людвік пачысціў ад пылу і пакінуў свае. Возьме заўтра кавалак скуры, дратву ды залапіць.

Вячэра таксама ўдалася. І празрыстая, не раўнуючы, сляза, гарэлка, і чырвоныя вогненныя буракі, і лісічкі, і гуркі, і хрумсткая белая капуста, палітая алеем... а, галоўнае — сала. Яно, у срэбным сподку, стаяла каля Людвіка, белае, як снег, з чырвонай праслойкай. Нібыта пані загадзя ведала, чаго не ставала Людвіку ў апошнія дні ягонага падарожжа.

Пачалася гаворка. Пані жалілася, як ёй пуста ў агромністым замку і самотна без мужчынскай абароны. Пан пайшоў у іншы свет і нават дзетак ёй не пакінуў.

— А колькі малілася, каб нарадзіць... І да Іваняцкай Панны паломнічалі, і да Маткі Боскай Чанстахоўскай нават... басанож, вось гэтымі ножкамі... — Гелена ўзняла на Людвіка вялікія празрыстыя вочы. — І да млынара ў Хвойнікі.

— Гэпс, — Гусь ашаломлена перапыніў рух сваёй шклянкі да рота. — А да чаго тут млынар?

Пані бліснула вачыма:

— Дык тут кожны ведае: лекуе ён ад бясплоддзя. Як прыйдзе да яго якая — вось табе і дзіцёначак... Зыгмусь быў супраць, дык я ўпотайкі...

Яна адвярнула да талеркі паружавелы твар і больш пра гэта не згадвала.

* * *

Па вячэры разамлелага госця правялі ў спачывальню — вялікі, падобны да лёхаў, цёмны пакой з агромністым ложкам пад пыльным балдахінам. Пакаёўка паставіла на столік свячу і таропка выйшла. Людвік збіраўся ўжо легчы, як з’явілася гаспадыня. Яна міла выбачылася і няспешна, скарыстаўшыся прыступачкай, уладкавалася на разабраную пасцель: удакладніць, ці не мулка. Прытупваючы ножкай аб ножку ў паабразаных белых валёначках з вышыўкай, уся такая цёплая, пульхная. Шаль ці не наўмысна спаўзла, і грудзі пад кашуляй захацелася прымяць, як выняты з печы каравай.

— Дык ён дакладна не заручальны? — Гелена скасавурылася на пярсцёнак Людвіка.

— Хай пані мне верыць.

І паваліў жанчыну на ложак.

Пазней, задаволены і шчаслівы, Людвік упаў у пярыны і хацеў толькі аднаго — спаць. Але сярод ночы прахапіўся: цела прагнула свайго, напэўна, занадта шмат піва ўжыў і салодкай раманеі за вячэрай. Выбег у калідор ды ледзь за кут да акна забегчы паспеў.

Там яго і перахапіла за плячо баба, якая надвячоркам займалася мыццём, яна ж і ключніца. Так і цягнула яе аблаяць. Яна ж сыкала ў вуха:

— Думаеш, Геленка на цябе паквапілася? Думаеш, пад вянец павядзе?

Насамрэч Людвік так і думаў у сваіх патаемных марах, таму нервова тарганууся і з цяжкасцю вызваліўся з яе ўчэпістых пальцаў.

— А хрэн табе ў вочы! — завішчала ключніца. — Яна пра майно клапоціцца, што ад Зыгмуся засталося. Яна ж бяздзетная, а тут як родзічы набягуць, трасцай ёй, а не майно. Таму яна па старому звычаю цябе, дурня, у дом і залучыла. Як зацяжарыць — будзе дзіцёнак спадкаемцам памерлага пана лічыцца. А табе дулю ды пяткай пад дупу.

Людвік узнёс руку, потым перадумаў — не трэба кабету біць, павярнуўся і ў спачывальню накіраваўся. Праўда, бабай задураны, заблукаў і палову ночы па замку швэндаўся.

— Геленка!

— Га?

— Скажы мне, ты са мною дзеля спадчыннага майна?

Яна раптам прачнулася і села:

— Хто табе наплёў?

Людвік не стаў цямніць. А гаспадыня замка, папраўляючы густыя валасы, сярдзіта кінула:

— Вось жа баба завідушчая.

І на справе давяла Гусю, што не толькі маёмасць тут спрычынілася.

Потым нараніцу ён заспаўся і прачнуўся ад дзікіх енкаў знізу, яны прабіваліся нават скрозь тоўстыя замкавыя муры.

— Забілася! Вой, забілася!

Гусь памацаў рукою — Гелены побач не было, толькі пярына ды падушкі захоўвалі след ад цела. Людвік, падскокваючы, нацягнуў нагавіцы і, раскудлачаны, кінуўся на ніз.

Пасярод параднай залы выла і скавытала маладзіца, спрабуючы рваць на сабе валасы.

Гусь супакоіў яе важкай аплявухай. Пасля ўчыненага допыту ён даведаўся, што ключніца Ганна пайшла раніцой у склеп па капусту. Сходы там старыя, стромкія, прыступкі шчарбатыя, ды яшчэ і мохам паабрасталі. І колькі разоў загадвалі Павелку той мох абадраць... Пэўна, Ганулся каўзанулася, за сцяну не здолела ўтрымацца, паляцела ды аб дзяржальна свацільніка галавой гахнулася. Пані ўжо і злавацца пачала, што яе доўга няма. З раніцы гаспадыню на салёнае пацягнула. Загадала Павелку з Даротай ісці, Дарота — гэта вось яна, кухарка. Ну і Ганусю знайшлі... ужо змярцвелую.

— Трэба ўладам паведаміць, — пачаў казаць Людвік.

Але тут ззаду падышла Гелена — Дароту ветрам знесла.

— А навошта паведамляць? Каб сказаць, што дурэпа пад ногі не глядзела? Павелка па ксяндза выправім, будзе каму адпець.

— Дык можа, пакуль у капліцу яе? Ёсць тут у вас капліца? — Людвік расправіў плечы, гатовы дагадзіць каханай. Тая сумелася і прапанавала паснедаць.

Кіслая капуста была ўжо на стале. Але Людвіку не тое, што есці, глядзець на яе не хацелася, а пані нічога — так ела, ажно вушы варушыліся.

* * *

Пасля сняданку Гусь адшукаў Дароту, падзякаваў за прысмакі ды спытаў без аніякіх хітрыкаў, што там з каплічкай.

Баба збляднела, але потым распавяла пра тое, што памерлы пан перад самай смерцю там блюзнерыў, буяніў. І калі ўвайшлі да яго — жахліва зрабілася. І трэба было, на добры розум, каплічку вычысціць і наноў асвяціць, ды ў пані рукі не дайшлі, моцна яна па мужу бедавала. А то, можа, і сама падступіцца ўжо да той капліцы баіцца.

Гусь пакутаваў ад непаразумення. І пакольні каваныя жалезам дзверы капліцы, не раўнуючы, што тая цытадэль, былі надзейна замкнёны на завалы, ён ускараскаўся на каменны падмурак і зазірнуў праз высаджаны вітраж у сярэдзіну.

І хаця ў сваім жыцці шляхціц бачыў багата ўсялякага, пачуўся несамавіта, ён тройчы перажагнаўся, абражаны такой знявагай да святыні.

У капліцы і сапраўды пашчыраваў вар'ят: абразы і харугвы сарваны, скульптуры святых павалены і патрушчаны; масіўныя лаўкі абадраны і нечалавечай сілай ссунуты з месца. Усё навокал у бурых плямах, быццам нехта пырскаў крывёю. Людвік напружыў зрок і ўбачыў на падлозе, скрозь невялікі яшчэ слой пылу, крывавы адбітак сабачай лапы.

— А ці трымаеце сабак? — звярнуўся ён зноў да Дароты.

— Былі дзве зграі паляўнічых, але ж, як пан ажаніўся, дык прадаў, — ахвотна адказвала кухарка. — Пані да сабак ласкі не мела. Быццам, у маленстве ганчак яе напужаў да ікаўкі.

Людвік адзначыў гэты факт і забыў пра яго. Гелена! Быццам чэрці адабралі шляхціцу розум. Ён усё чакаў прыцемкаў і хваляваўся, нібы той хлопчык: прыйдзе — не прыйдзе?

Прыйшла…

Гусю б задаволіцца, прыхінуцца да Геленкі, якая сапла побач, ды спаць да світанку, і прачынацца толькі для новых любошчаў. Дык не, нешта пад'южвала, варушылася, як уюн на патэльні. Мроіўся то заліты крывёю твар Ганусі-ключніцы, то адбітак сабачай лапы ў каплічцы.

Людвік не вытрымаў, ціхенька падняўся ды запаліў грамнічную свечку.

Замест Геленкі, замест прыгажуні Геленкі, у якой дзе трэба пульхна, а дзе трэба тонка, ляжала ў ложку ваўчыха.

Рука Гуся задрыжала, кропля воску сарвалася на слінявую пысу.

Ваўкалачка з выем ускочыла.

Гусь стрэліў у яе, схапіўшы пісталет з начнога століка. Ды толькі раз'ятрыў яшчэ больш і дарма змарнаваў зарад. Рана на шэрай грудзіне ўмомант зацягнулася. Людвік выхапіў зыгмунтоўку. Паласнуў крыж накрыж. Таксама — без знаку. Зубы клацнулі ўжо каля шчакі. Трэба кінуцца ў дзверы — ды дзе ж тыя дзверы?

Гусь злаўчыўся і ўціснуўся пад ложак, вужакай папоўз углыбіню, гучна чхаючы ад пылу.

Ён ведаў, што нават на ранку, перакінуўшыся зноў на жанчыну, Гелена не пакіне яго ў спакоі. Хутчэй за ўсё, і муж даведаўся страшэнную таямніцу жонкі ды спрабаваў абараніцца ад яе ў капліцы...

Валасы на галаве шляхціца сталі дыба. У цемры пад ложкам гарэлі зялёным агнём вочы ваўчыцы. Звера можна збянтэжыць занадта пільным поглядам, але ж

гэта не звер, пачвара, якая паскудзіць Божы свет. А Гелена тым часам не сядзела без справы. Яна паспрабавала зачапіць яго лапай, як котка мыш, толькі кіпці шкрабанулі па каменнай падлозе. Потым яна сунула пад ложак галаву. Гусь выдыхнуў з сябе ўсё паветра, падцягнуў пуза, адпоўз да сцяны і знерухомеў, было вельмі дарэчы, што ён паспеў схуднець з галадухі. Мажныя клубы не далі Гелене прадрацца следам. Ваўкалачка кідалася па спачывальні, перакульвала мэблю, шкамутала дыван. Скочыла на ложак, раскідала бялізну і пярыны, узялася грызці дошкі, але выдраць іх не здолела. А Людвік ляжаў прыціснуты, не ў стане нават дыхаць, усё думаў, што так ганебна скончыць жыццё пад ложкам, пакуль побач шалее пачварны пярэварацень.

Ад пылу свярбела ў носе. Ён выцер яго, дакрануўшыся пярсцёнкам, і тут раптам у адчаі ўзгадалася загнанае ў самыя глыбіні падсвядомасці, здавалася, цалкам забытае з дзяцінства:

— Дзеда, а яна прыгожая была?

— Гох, якая прыгожая... валашка. Косы чорныя, вочы сінія. І кахаліся мы з ёю...

…а потым навакольных пачаў турбаваць агромністы воўк. Кулі звера не бралі, нават срэбныя. І навучыў нехта дзеда выразаць на кулі крыж. Так і забіў ваўка, а потым высветлілася, што прыстрэліў уласную жонку. Калі падбег — яна яшчэ дыхала. Паклялася адпомсціць.

З кулі, што забіла пярэваратня, дзед загадаў зрабіць пярсцёнак і аддаў унуку са словамі: «Не згіне наш род, пакуль ты яго носіш з панам Богам і верай у душы».

Гэта толькі расказваць доўга, а ўзгадалася імгненна, быццам нешта шчоўкнула ў галаве. Рыўкамі Гусь праціснуўся наперад. Прасачыў за Геленай. Здзівіўся, што свяча на століку не згасла, і канцом зыгмунтоўкі рвануў да сябе пояс з лядункай.

Ваўчыха падскочыла, павеяла смуродам, зноў каля шчакі ляснулі зубы. Але Гусь паспеў аберуч адштурхнуцца і схавацца ў свой прыстанак. Выпусціў паветра, адпоўз падалей на пузе і пачаў рыхтавацца. Ён прачысціў шырокую рулю і паставіў курок на засцерагальнік. Потым падумаў і насыпаў пораху ўдвая больш звычайнага, спадзеючыся на моц рулі ды на сваю ўдачу. І таргануў пярсцёнак з пальца. Але як ні круціў яго Гусь, як не торгаў, той быццам прыліп. Рукі ў Людвіка дрыжалі, вочы залівала потам, ён размазваў яго па брудным твары. А потым з усёй дурасці цяпнуў па пальцы.

Разам з крывёю пярсцёнак саслізнуў лёгка, як па масле. Гусь скамечыў мяккае срэбра, загарнуў у анучку і з дапамогай шомпала запхаў у рулю. Сэрца азывалася каля горла. Зубамі ён падраў яшчэ адзін папяровы патрон, злаўчыўся і насыпаў расцярушаны порах на палічку. Апусціў крэсіва, узвёў курок і з малітвай стрэліў.

Ваўчыха ўсхліпнула. Яе адкінула, і Гелена больш не паднялася.

* * *

Людвік выкалупаў з яе вока гарачы пагнуты пярсцёнак, абцёр, запхнуў у лядунку. І нейкі час проста сядзеў, прыходзячы да цямы. Краем прасціны выцер твар і рукі, стаў збірацца. Ён чамусьці загадзя ведаў, што чэлядзь не збяжыцца на стрэл. Ды і муры таўсценныя: хоць з гарматы бі.

Шляхціц глыбока ўздыхнуў. Мусіць, не лёс яму за бабуліны грахі сямейнага шчасця паспытаць, ды і Бог з ім. Людвік перажагнаўся, пераступіў ваўчыху, і, не азірнуўшыся, выйшаў з пакоя.

***Пераклад з рускай Ірыны КЛІМКОВІЧ***

*Алесь КАМОЦКІ*

# ЧЫЕ ДАЛОНІ ЗАТРЫМАЮЦЬ ВЕЦЕР?..

* * *

Хацелася слову парушыць маўчанне,
Хацелася небу сачыць за узлётам,
Хацелася скончыцца ўрэшце чаканню.
Хацелася ведаць, адкуль ты і хто ты.

Вясна перастала здавацца вясною,
І здзіўлены позірк блукаў паміж снамі,
А заўтра было недзе там, за табою,
А сёння было недзе тут, перад намі.

Твой дзень, панядзелак, спыніўся у часе,
Што так не бывае, ніхто не заўважыў,
Каб неяк пазбегнуць памылак уласных,
Пытанні знікаюць у нетрах адказаў.

Але панядзелак былыя надзеі
На ёсць і няма беззваротна падзеліць,
Хоць кожны па-свойму, але разумеем —
Заўсёды бывае не так, як хацелі.

Хацелася слову паслухаць маўчанне,
Хацелася небу паспець за узлётам,
Хацелася крочыць за межы чакання.
Хацелася ведаць, ці будзе субота.

* * *

Я казаў табе тысячу слоў
Самых розных, вясёлых і сумных.
Час разгублена ўперад ішоў,
Дні знікалі без лішняга шуму.
Скіраваўшы свой позірк назад,
Я міжволі ўпадаю ў скруху,
Бо ні разу табе не сказаў
Аднаго — што люблю цябе слухаць.



***Алесь Камоцкі нарадзіўся 9 чэрвеня 1958 года ў Барысаве. Скончыў філасофскі факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Паэт, выканаўца ўласных песень. Аўтар паэтычных зборнікаў («Спроба ісці па расе», «Наспадзяванае», «Глыбіня дажджу») і музычных альбомаў («Дом», «Дах», «9»). Удзельнік многіх нацыянальных і міжнародных культурных праектаў.***

* * *

На вуліцы быў панядзелак,
Душа ж вымагала суботы,
А дні мітусні не хацелі,
Марудна ішлі, неахвотна.

Было у жыцці няўтульна
Ад вечара, ночы і лета,
Пад раніцу думкі заснулі,
Аўторак прыйшоў непрыкметна.

Жыццё не па-роўнаму дзеліць —
То густа, то пуста, то смешна.
І што ў ім рабіў панядзелак?
Напэўна, усё перамешваў.

* * *

Фарбуюць вочы ночы цішыню,
Сон не дае жаданага спакою,
Бо, як заўсёды, я не тое сню,
Каб апасля і думаць не пра тое.

Сівее золак звыклага жыцця,
І вочы рання на мяжы з усмешкай,
Напэўна, спадзяюцца на працяг...
Ну, карацей, звані, калі прачнешся.

**ГАЛАВА НА ПЛЯЧЫ**

Перайдзі мой сон уздоўж,
А пасля перайдзі яго ўпоперак,
Не пакінь, як удасца, слядоў
Па-за межамі новага сну.
Калі зможаш паспець да відна,
Забяжы на хвілінку зноў,
Каб пабачыць, як робяцца попелам
Рэшткі колішніх сноў.



Жанна НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЯ

***Друкаванне яе перакладу «Радзівіліяды» Яна Радвана закончылася. Самы час дзяліцца ўражаннямі.***

— Беларусы спазналі сваю «Іліяду», свой гераічны эпас, а творы менавіта гэтага жанру стаяць ля вытокаў большасці нацыянальных літаратур Еўропы. Бачу і адчуваю вялікую цікавасць да гэтага помніка многіх людзей, якія неабыякава ставяцца да нашай святой мінуўшчыны. Усцешана, што нават на міжнароднай навуковай канферэнцыі ў Санкт-Пецярбургу я атрымала пытанне, дзе можна знайсці поўны тэкст паэмы; усцешана, што яшчэ да сканчэння публікацыі ў «Маладосці» студэнты пачалі пісаць навуковыя працы, прысвечаныя «Радзівіліядзе». Той факт, што менавіта са старонак «Маладосці» Ян Радван праз 420 гадоў звярнуўся да сваіх суайчыннікаў, сведчыць пра высокі інтэлектуальны ўзровень, культурны патэнцыял і шырыню творчых даляглядаў гэтага часопіса.

Віншую ўсіх чытачоў і аўтараў «Маладосці» з Новым годам і Калядамі!

* * *

Чые далоні затрымаюць вецер?..
Не псуй пытанне пошукам адказу,
А лепш сама, як вецер, непрыкметна
Ляці кудысьці,
толькі не адразу,
А пакружляй спачатку няўлоўна
Вядомымі адной табе кругамі,
Спарадкуй дзеля будучага памяць,
І не спрабуй пакуль што асэнсоўваць
Мае пытанні.

* * *

Не пройдзе шлях Ваш там, дзе зараз я
Свае сляды да выхаду рыхтую,
Дзе галава ссівелая мая
Спакою яшчэ доўга не адчуе.

І будзе дом Ваш заўтра на зямлі,
Якую абмінае бездарожжа,
І не са мной Вам сподзевы дзяліць —
Я ўмею толькі складваць
альбо множыць.

І будзе лета сілу набіраць,
На драбязу ўвагі не звяртаючы,
Каб знікнуць у зімовых вечарах
І жыць там, больш нікуды не знікаючы.

* * *

**1**

Як разумееш ты што я хачу сказаць,
Тады навошта нам наогул словы —
Няхай у думках адбываецца размова,
Няхай у позірках адказы прагучаць.

**2**

Глядзіць пытанне на цябе з маіх вачэй,
Ты робіш выгляд ціпа — Што? Не чую!
Я так і ведаў, што з табой не засумуеш,
Усё ж са словамі, здаецца мне, прасцей.

* * *

Я стаміўся з табой сябраваць,
Выбачацца, чакаць, даравацъ,
Разумець, адкладаць, пераносіць...
Да таго ж, пачынаецца восень —
Незваротна знікае цяпло.
Падуладны яго недахопу,
Паступова марнее мой клопат
Дбаць пра тое, чаго не было.

* * *

Спякота зверху, спякота знізу,
Навокал ліпень і вольны дзень,
Цябе прывычна няма паблізу,
Ды я і сам невядома дзе.

Душы няўтульна ў арганізме,
А вочы прагна шукаюць цень,
З дарогі збіўся я не наўмысна —
Ці засынаю, ці звар'яцеў.

Ратуе розум адно імгненне,
Калі на шчасце ці на бяду
Твая усмешка выходзіць з ценю,
І я нарэшце за ёй іду.

* * *

*P. S.*

Было не так учора на зямлі —
Другія кветкі у другіх букетах,
Шляхі не тыя не туды вялі,
Мы думалі не тое не пра гэта.

Уражвала і цешыла жыццё,
Здавалася — яно не мае краю,
Галоўная сустрэча з небыццём
Яшчэ далёка, і не нас чакае.

Але не роўны маюць людзі лёс,
Бог бачыць самых лепшых адмыслова,
Бывае, што яны у бок нябёс
Сыходзяць часам несвоечасова.

Мінае час, і нашыя гады
Так непазбежна колькасць набіраюць,
А хтосьці, назаўсёды малады,
З нязнаных даляў моўчкі пазірае.

*Генрых ТАРАСЕВІЧ*

* * *

**Жаночыя вочы,
Яны не сурочаць.
Святло іх кахання — паходня ўначы.
Жаночыя вочы,
Угледзіш — не збочыш,
Яны не адпусцяць, хоць плач — хоць маўчы.**

**Жаночыя рукі —
Салодкія мукі,
Ад іх дакранання хвалюецца кроў.
Жаночыя рукі —
Таемныя гукі,
Іх дотык замесціць мільён палкіх слоў!**

**Жаночыя ночы
Паклічуць — пакрочыш.
Іх моц прыцягнення заведама ў чым.
Жаночыя ночы —
Да шчасця ахвочы
Яны з найважнейшых у свеце прычын.**

**Жаночыя ласкі —
Усходнія казкі,
Пяшчота кахання, трыумф пачуцця!
Жаночыя ласкі —
Жаданыя пасткі,
Ў якія трапляем па клічу жыцця.**

Наталля ЯРМОЛЬЧЫК

# АБРАЗКІ



Наталля Ярмольчык нарадзілася 9 лютага 1980 года ў вёсцы Багданаўка Лунінецкага раёна. Скончыла факультэт французскай мовы МДЛУ. Вучылася на франкамоўным аддзяленні факультэта міжнародных эканамічных адносін Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта. Працуе перакладчыкам. Друкавалася ў абласных і рэспубліканскіх выданнях.

## ПЛІНТУСЫ

Пасля дзесяцігадовага блукання па чужых кватэрах, нарэшце жыву ў сваёй аднапакаёўцы пад Мінскам. Насалоджваюся ўласніцкім жыццём з верасня. Усе грошы пайшлі на набыццё квадратных метраў, а на рамонт не засталося амаль нічога. Тут крызіс падаспеў, і цэны на будаўнічыя матэрыялы стрымгалоў паімчалі, не інакш, як у пошуках бясконцасці.

Мой квартал — гэта суцэльная новабудоўля. Адны дамы толькі-толькі закончылі накладаць «мэйкап», а ў другіх і вачэй-акон яшчэ зусім няма. Пачалося ўсё не ўчора і закончыцца не заўтра. Адным словам, увесь свет навокал займаецца толькі адным — рамонтам. Смеццеправоды ў дамах ёсць, але пры засяленні жыхары звычайна вырашаюць не карыстацца імі, а выносіць смецце ў спецыяльныя сметніцы — дашчаныя крытыя буданчыкі, у якіх стаяць вялікія бакі. Нязручна, канечне, але ў пад'ездзе заўсёды чыста. Дык вось, выношу я неяк смецце, заходжу ў гэты буданчык, а там збоку, у куце, стаяць плінтусы: доўгія, метры з два кожны, і штук дзесяцць іх.

Першая думка — «трэба забраць» — прымушае мяне спыніцца, другая — «сорамна, дзень на дварэ, людзі ходзяць» — выганяе мяне на вуліцу. Пятнаццаць гадзін. Трэба пачакаць цемры. Квартал знаходзіцца паблізу лесу, я накіроўваюся туды, каб падыхаць свежым паветрам. Іду, а думкі ўсе мае толькі пра плінтусы. Тэлефаную сяброўцы. Светкіна рэзюме: «У чым праблема? Табе патрэбны яны, ідзі і забяры». — «Не магу, сорамна…» — «А ты ўяві, што яны твае, ты іх памылкова-выпадкова (з кім не бывае!) выкінула, а потым спахапілася».

Падказка сяброўкі надае ўпэўненасці, якая ў сваю чаргу заганяе мой сорам у самы куток рынга, на якім так любіць паспаборнічаць са мной душа.

Вяртаюся, прыспешваю хаду.

«Плінтусы, мае ж вы дошчачкі, хутка я вас забяру адтуль, з такой халадэчы, ах, так неабачліва вас выкінула, дзе ж мае вочы былі?..»

Заходжу ў буданчык, цяпер вочы мае, здаецца, на месцы — а плінтусаў няма. Пусты куток, а прамінула ж

мо толькі з паўгадзіны. І некаму ж нясорамна было сярод белага дня цягнуць са сметніцы Мае плінтусы.

У кватэру ўвайшла з пачуццём, што мяне абрабавалі. Увечары я яшчэ і падлічыла наколькі менавіта. Прыкладна, канечне. Так, дзеля прыліку і каб канчаткова выбіць гэтымі плінтусамі сорам з рынга, на якім так любіць паспаборнічаць са мной душа.

## ЖЫЦЦЁВЫ ДОСВЕД

У дзяцінстве, калі мама вырашала, што досыць мне ўжо есці салодкае, выдаючы чарговую цукерку, гаварыла: «Последняя!» Праз некалькі хвілін я падыходзіла да яе і, гледзячы ёй у вочы, патрабавала:

— Дай пасенюю!

Мама выцягваючы са схованкі прысмакі, зноў спрабавала давесці да маёй свядомасці, што гэта цукерка ўжо дакладна апошняя. Я нахіляла галаву так, каб у перакладзе на словы гэта азначала: не маленькая, разумею. Хуценька запіхвала свой набытак у рот, амаль не адчуваючы ягонага смаку, бязмэтна швэндалася сюды-туды па хаце яшчэ некалькі хвілін, каб у патрэбны, згодна з маім меркаваннем, момант падысці да маці, і цяпер ужо ўмольна і ціха-ціха, па-змоўніцку прашаптаць:

— Дай пасенюю!

Такім чынам, усе наяўныя ў хаце цукеркі праз некаторы час станавіліся маёй здабычай.

Я вырасла і, выкарыстоўваючы тую самую тактыку, буду спачатку нахабна патрабаваць, а потым умольна прасіць Лёс.

І ў каторы раз, папярэджваючы неразумную мяне, Лёс прамовіць: «Гэта апошні шанц. Больш не будзе. Зразумей!» Я кіўну галавой, маўляў, не маленькая, разумею. Зараз жа хуценька яго «праглыну» і зноў пайду на паклон да Лёсу. Я не баюся, што аднойчы вярнуся ад яго ні з чым, бо заўсёды маю той, што сапраўды стане некалі апошнім. Самым дарагім. Апошні шанц. Прыхаваны ў кішэні. Хітрая, кемлівая я! Навучаная на цукерках…

## ПРА ЕЖУ…

— Ведаеш, не магу больш глядзець на Рафаэла. Цукеркі ў маленькіх прыгожанькіх пакуначках. Наелася іх столькі, што на ўсё жыццё хопіць! Мой былы бойфрэнд без асаблівай фантазіі чалавек. Неяк заўважыла я ў размове, што люблю гэтыя цукеркі. І пачалося: Рафаэла — на сняданак, абед і вячэру, на 14 лютага, 8 сакавіка і Дзень Канстытуцыі… А ты што-небудзь не можаш есці?

— Нейкі час, будучы студэнткай, я не магла есці сметанковага масла…

— Масла?! Як можна аб’есціся маслам?

— Гэта быў 1999 год. Я — студэнтка першага курса. Крама паблізу дома, у якім я здымаю пакой. Стаю ў чарзе. Перада мною стары. Гадоў семдзесят яму. На выгляд звычайны стары, відаць па ўсім не п’е, але ж вельмі ён худы. Хваравіта худы. Купляе нейкую драбязу. Падыходзіць да яго ахоўнік. Малады здаровы дзяцюк. Засоўвае руку ў кішэню да старога — і выцягвае адтуль кавалак сметанковага масла. Маленькі (грамаў сто, не больш), загорнуты ў харчовую плёнку. Раней масла прадавалі «на вагу». Стары не ведае куды схаваць свае вочы, рукі, куды схавацца самому. Ахоўнік паказальна, як апошняга злачынцу, выводзіць яго з крамы.



Віктар ЛУПАСІН

***Чытачам ён запомніцца як спецыяліст па кайназойскай эры. Цікава, на якую тэму будуць наступныя яго вершы для «Маладосці»?***

— У новым годзе я думаю працягнуць пісаць пра кайназойскую эру, таму што ведаю яе лепей, чым палеазойскую або мезазойскую. Было б някепска, каб я распрацаваў, напрыклад, кулінарную альбо любоўную тэму: мяркую, шмат хто з чытачак «Маладосці» вартыя вершаванага прысвячэння.

Віншую ўсіх і жадаю шчасця!

А я стаю, гляджу на гэты кавалак масла і разумею, што ў мяне былі грошы, каб купіць яго…

Яшчэ доўгі час я буду выглядваць у краме высокага і страшэнна худога старога, а ў асобнай кішэньцы майго партманета некалькі паперак будуць цярпліва чакаць, каб іх абмянялі на кавалак сметанковага масла. Марна чакаць…

## ШОУ, АЛЬБО ЖЫЦЦЁ…

Аднойчы мне падалося, што выразы «Show must go on» (Шоу павінна працягвацца) і «Жыццё працягваецца» маюць аднолькавае значэнне.

Цалкам верагодна, што я так і працягвала б думаць, каб не гісторыя, якую распавяла мая цётка.

Масква. Апошнія дні напярэдадні Новага года. Вядомая буйная расійская кампанія адзначае надыходзячае свята. Месцам гуляння, піцця-забыцця абраны толькі што ўзведзены будынак — будучы цэнтр усялякіх магчымых пацех і забаў для заможных масквічоў.

Паўгадзіны да пачатку балявання. Супрацоўнікі кампаніі, карыстаючыся нагодай, фатаграфуюць адно аднаго на фоне шыкоўнага інтэр'ера, не заўважаючы, што яны тут — часовыя танныя аксесуары дарагога аздаблення. Маладая дзяўчына абдымае пазалочаныя парэнчы маленькага балкончыка на трэцім паверсе. Раптам парэнчы нахіляюцца, пазбаўляючы сябе ад дзявочых абдымкаў. Нерухомае цела на халоднай мармуровай кафлі.

Арганізатары хуценька-чысценька прыбяруць падлогу, хуценька-аператыўненька вырашаць усе пытанні з міліцыяй і, скажуць калегам: «Show must go on», бо нельга адмяніць свята, на якое выдаткавана сотня тысяч долараў. А родныя і сябры памерлай, каб хоць неяк суцішыць невыносны боль, як мантру, будуць паўтараць самі сабе іншыя словы: «Жыццё працягваецца».

Такія розныя значэнні…

## ЗДЗЕКІ

Яшчэ ў дзяцінстве я пачала здзекавацца з мужчын. Канечне, толькі з тых, хто быў на той час побач.

Дзеду я зачэсвала дзве ягоныя валасіны і прымацоўвала да іх банцік. Доўга валэндалася я з гэтым упрыгожваннем на галаве ў дзеда: то завяжу, то развяжу, зноў завяжу, адыду ўбок, пагляджу, ацаню, не, нешта не тое, перарабляю. Дзядуля ўвесь час сядзеў нерухома, любы цырульнік у свеце мог бы пазайздросціць мне, уладальніцы такога пакорлівага кліента. Я ж, як сапраўдны творца, заўсёды была незадаволена вынікам свайго арт-праекта. Усё нешта дапрацоўвала, дапрыдумвала. Пакуль не знішчыла ўвесь наяўны матэрыял. Дзед застаўся без валасоў, я — без працы, дакладней, без самарэалізацыі, а гэта яшчэ горш.

Але ж з-за такой прыкрай недарэчнасці я не магла прыпыніць, няхай і на непрацяглы час, развіццё свайго творчага патэнцыялу. Праўда, выбар ахвяры быў у мяне не надта каб вялікі, шчыра прызнаюся, ён быў адзіна магчымым на той момант — малодшы брат. А што з яго возьмеш? Рэдзенькія, кароценькія валасы, на іх не тое што банцік, нітку не пачэпіш. Аднак, трэба аддаць мне належнае, не разгубілася нават у такіх абставінах, узяўшы ў дарадцы сваю бязмежную фантазію, выйсце знайшла. Нацягнула брацiку на галаву ягоныя дзіцячыя калготкі і пачала з двух калашын коскі плесці. А колькі ж за гэтым няўрымслівым кліентам пабегаць мне давялося, ды нічога… прафесіянал, ён у любых абставінах павінен навучыцца працаваць.

Калі я вырасла, то зразумела, што толькі дзве катэгорыі мужчын могуць цярпець здзекі жанчыны: тыя, хто не разумеюць, што над імі здзекуюцца і тыя, хто вельмі моцна кахаюць.

Аднак, мне ў жыцці чамусьці сустракаюцца толькі тыя, хто адразу абражаюцца. Трэцяя катэгорыя. Невядомая мне.

## САБАКА

Слухаю па радыё інтэрв'ю з маладой, але ўжо вядомай беларускай балерынай і даведваюся, што яна, убачыўшы на вуліцы беспрытульнага сабаку, можа расплакацца.

Я ж не… Звычайна, сутыкнуўшыся з такім няшчасным стварэннем, сумленна дзялюся з ім наступнымі думкамі: «На жаль, няма ў мяне нічога для цябе» альбо «ежа ёсць, але ты такое есці не будзеш» ці «каўбасу нясу, але нажа няма, не буду ж я табе адгрызаць кавалак, а ўсю палку не дам, ты не думай, не таму, што шкадую. Наадварот, ты вунь які худы, наясіся і памрэш, пра цябе ж хвалююся, зразумей».

Калі аднойчы я апынуся на месцы гэтага сабакі, мне будзе ўсё роўна: ці пройдуць паўз мяне, хаваючы позірк, адны, ці прабягуць, расплакаўшыся, другія.

Бо я застануся адна. Паміраць. З чэрствымі думкамі адных і ўражлівымі слязамі другіх.

Лаўрэн ЮРАГА

# АНТОНІЯ

*Апавяданне*



***Лаўрэн Юрага нарадзіўся 30 лістапада 1966 года ў Мінску. Аўтар перакладаў з польскай («Мша за места Арас» А. Шчыпёрскага), англійскай і ўкраінскай (шэраг апавяданняў) моў. Творца гістарычных стылізацый на гэты раз прадстаўляе нешта містычна-рамантычнае.***

## I

Я сустрэў яе ўпершыню ў бары «У павука». Было ўжо даволі позна, недзе пасля дзесяці — час, калі ўзорна-прыкладным дзяўчаткам не надта выпадае заседжвацца ў такіх установах. Яна ж была падобна да такой дзяўчынкі; ці, можа, дакладней, — да школьніцы, якая ўрэшце вырвалася з-пад бацькоўскай апекі і хоча даказаць усяму свету — а перш самой сабе — што яна ўжо дарослая. Зрэшты, так, мусіць, і было, бо выглядала дзяўчына гадоў на 17—18. Апранута была ў чырвоны пінжачны касцюм са спадніцаю вышэй калень, а русявыя валасы распушчаны па плячах, і толькі пасмачкі на скронях заплецены ў коскі, што зусім не пасавала да прычоскі. Сядзела яна пры стойцы і дзіўна, што дагэтуль да яе ніхто не прычапіўся. Зрэшты, час ад часу на яе ўжо скіроўваліся з розных бакоў хіжыя позіркі. Але вось з процілеглага канца залы падняўся з-за стала з куфлем піва ў руцэ Піт і накіраваўся да стойкі: ён заўважыў маю цікавасць да незнаёмкі і вырашыў перахапіць ініцыятыву. Мне не падабаліся метады, якімі Піт схіляў дзяўчат да кахання, таму і я паспяшаўся да вольнага зэдліка-круцёлкі побач з дзяўчынай. А паколькі мне ад увахода было бліжэй, то я дэманстратыўна праціснуўся проста перад Пітавым носам да стойкі. А яшчэ, здымаючы скуранку, нібы незнарок зачапіў залётніка крысом па твары. Нікому іншаму гэты нахаба-здаравяк такога абыходжання не дараваў бы; са мной жа, аднак, ён заводзіцца не рызыкнуў, бо вядома было, чыёй перамогай магла скончыцца бойка. Таму ён толькі незадаволена чмыхнуў і прайшоў далей, робячы выгляд, што некага шукае сярод натоўпу. А я павярнуўся да дзяўчыны і распачаў з першага, што прыйшло ў галаву: «Вы тут адна?..»

У той вечар мы пайшлі да мяне. Яна распавяла, што яе завуць Антоніяй, што прыехала з невялікага мястэчка на паўднёвым захадзе края, дзе за плотам пачынаецца лес, а ўначы прыходзяць алені і скубуць траву ў парку. У сексе яна была гэткая ж неспрактыкаваная і наіўная,

як і ў рэальным жыцці. Ейная даверлівасць паланіла і выклікала жаданне абараніць дзяўчыну ад усялякага ліха.

Наступным ранкам мне не захацелася адпускаць яе, расстацца з Антоніяй, як здаралася гэта з іншымі дзяўчатамі, якія раней бавілі ночы ў маёй сялібе. Ёй, падобна, таксама не надта хацелася сыходзіць, ды ці было ёй куды ісці? Бадай, толькі ў халодную самоту гатэля. Аднак, я цешыў сябе думкай, што яна не сыходзіць з іншае прычыны…

Так яна засталася — спачатку на адзін дзень, потым яшчэ і яшчэ. Мы неўпрыкмет пачалі жыць разам.

Нашыя з Антоніяй дні праходзілі ў лагодзе і супакоі. Не магу сказаць, што гэта быў найшчаслівы час у маім жыцці — каханне мяне наведвала і раней, тады я таксама быў вельмі шчаслівы. Аднак, мушу прызнаць, што мне з Антоніей было добра. Я паспакайнеў характарам і ледзь не стаў зусім хатнім.

Але аднаго дня Антонія знікла. Я не знаходзіў прычын гэтаму. Меркаваў, што нечым пакрыўдзіў яе. Так часам здаралася: гэтая дзяўчына мела вельмі тонкую душу, а я са сваім дзікім норавам, бывала, выпадкова даводзіў яе да слёз. Мне заўсёды потым рабілася сорамна, і, схіліўшы галаў, я ішоў мірыцца. Відаць, гэтым разам я не заўважыў ейнай крыўды, а яна, не дачакаўшыся маёй павіннай, вырашыла сысці.

Я апрануў куртку, паклаў, на ўсялякі выпадак, у кішэню Антонін здымак і выйшаў на вуліцу. Там усё выглядала шэрым, імжэў дробны дождж, і ўвогуле было брыдка…

## II

Гаспадар «кабака» Павук сапраўды нагадваў гэтае брыдкае стварэнне не толькі знешне, а больш звычкамі ды паводзінамі. Тым, мусіць, і «зарабіў» такую мянушку, якая, зрэшты, яму падабалася і якую ён выкарыстаў у назве. Худы, з доўгімі нагамі і рукамі, з выкрыўленымі, парослымі рэдкімі чорнымі валасамі, пальцамі, Павук выклікаў агіду ў тых, хто сустракаўся з ім ўпершыню. З часам, аднак, гэтае ўражанне мянялася, бо ён умеў жартаваць, быць дасціпным і нават прыцягальным — калі яму гэта было патрэбна. Але потым да чалавека прыходзіў страх і асуджанасць, бо Павук, нібы незаўважным покрывам, ахутваў ахвяру сваёй павутай, аж пакуль не здабываў поўнай улады над небаракам. Так ён, пачаўшы ад невялікае піўнухі, стварыў па ўсім горадзе сетку бараў, а персанал, які наймаў у тыя бары на працу, ператварыў ледзь не ў сваіх рабоў. Мне ён уяўляўся пярэваратнем, падобным да ваўкалака, але з павучыным аблічам ды звычкамі. Можа, таму ў ягоных барах — асабліва ў першым, з якога і пачалася Павукова «экспансія» — збіралася розная псота. Зрэшты, трэба прызнаць, нярэдка там бавіў час і я. Менавіта туды і пайшоў, калі знікла Антонія.

Наведнікі спаўзаліся ў бар з усяго горада; кожная падзея там была на слыху, і пачынаць пошукі заўсёды варта было менавіта адтуль. Я паказаў фотакартку Антоніі спачатку кельнёрам, пасля — наведнікам. Ніхто яе не ўзгадаў. Толькі адзін з барменаў прыгадаў, што бачыў дзяўчыну тут недзе з месяц таму (дзякуй за каштоўную інфармацыю — я менавіта тады з ёй і пазнаёміўся!). Калі я заканчваў апытанне, пераседзеўшы ўжо за ўсімі столікамі, у бар уваліўся Піт са сваім прыхваснем — Дэнам. Скінуўшы набрынялыя ад дажджу скуранкі, яны падселі

да століка, дзе я спрабаваў выцягнуць хоць некалькі слоў з алкаголіка ў шэрым палінялым паліто.

— Што ты ад яго хочаш? — здзіўлена запытаў Дэн. Я без асаблівага імпэту працягнуў ім здымак:

— Ці бачылі яе дзе?

— Клёвая дзяваха! — прыцмокнуў языком Дэн.

— Дык гэта ж твая красуня, — здзівіўся Піт. І потым датумкаў: — Што, кінула?

— Але, — адказаў я. Яны не паверылі:

— Гэта, мусіць, Павук!

— Я яе пакрыўдзіў, і яна сышла, — паўтарыў я.

— Расказвай… — працягнуў Піт. — Мы ж, Ваўкі, павінны дапамагаць адзін аднаму. Калі хочаш, будзем шукаць разам?

Я падумаў: «А чаму, уласна кажучы, не?» Зрэшты, мы і напраўду з аднае хеўры. Дый Піт на самай справе не такі ўжо і благі — толькі занадта цешыцца сваёй моцай.

— Згода, — працягнуў яму руку.

Пасля мы доўга кружлялі ўтрох у цемры па горадзе, абыходзілі адзін за адным усе «кабакі» (няглядзечы на праведзены разам месяц, я зусім не ведаў Антонію і проста не мог уявіць, куда яна магла пайсці; таму найбольш цвярозай ідэяй было параспытваць пра дзяўчыну наведнікаў бараў — хтосьці з іх мог яе бачыць. Так прамінула некалькі тыдняў, але — безвынікова. Я быў удзячны хлапцам, што яны сноўдаюцца паўсюль са мною. Хоць з кожным днём шанцы знайсці Антонію выглядалі ўсё больш безнадзейна.

Неўзабаве прыйшоў час поўні, і гэта трохі палегчыла нашыя высілкі: з надыходам цемры мы ператвараліся ў ваўкоў і шнырылі па вуліцах, вынюхваючы знаёмы пах. Аднак і гэта поспеху не прыносіла. Ды, як вядома, поўня абвастрае не толькі натуральныя здольнасці, але і звышпрыродныя. Калі поўня дасягнула найвышэйшай фазы, я пачаў лавіць флюіды чужых думак. Якая ж злосць апанавала мяне, калі аднойчы, падчас начнога выбегу, я раптоўна зразумеў, што Піт прапанаваў дапамагаць зусім не дзеля ваўчынае салідарнасці — у яго меліся цалкам іншыя планы. Я ў скачку развярнуўся і кінуўся на яго. У адказ мне ашчэрыліся дзве пашчы…

Не магу сказаць, што тая бойка прайшла без вялікіх страт. Але перавагай ваўкалака з'яўляецца тое, што ўсё на табе гоіцца, як на сабаку. Да змены новай квадры я ўжо адчуваў сябе прыстойна, каб працягваць вышукі. Што праўда, цяпер ужо самастойна, але затое Піт з Дэнам, падаецца, ад сваёй задумы вырашылі адмовіцца.

Калі я яшчэ адлежваўся дома пасля бойкі, мне прыйшло ў галаву, што не можа такога быць, каб чалавек так схаваўся ў горадзе, што нават ваўкалак яго не здолеў бы знайсці. Праўда, чалавек мог з'ехаць, але пасля тае ночы, калі ўсе знешнія пачуцці максімальна абвастрыліся, прыйшла да мяне нейкая ірацыянальная перакананасць, што Антонія ўсё яшчэ тут і што ёй патрэбна мая дапамога. Я ведаў такога кшталту адчуванні — яны часам з'яўляліся пасля чарговага пераўвасаблення. Я не надта разбіраюся ў парапсіхалогіі і не магу сказаць напэўна, ці яны з'яўляюцца асаблівай формай тэлепатыі, ці гэта нейкі элементарны ўзровень яснабачання. Адно ведаю дакладна, што тыя адчуванні мяне ніколі не падманвалі. А таму варта было разважыць: 1) Хто мог схаваць чалавека? 2) Хто быў здольны схаваць яго настолькі добра? 3) Каму ад гэтага чалавека нешта патрэбна? 4) І хто не пабаяўся гэта зрабіць, ведаючы, што Антонія — дзяўчына ваўкалака?



Андрэй СУЗІНЬ

***Яго фота было размешчана на вокладцы лютаўскага нумара — навагодняга па кітайскім календары. Цікава, ці верыць ён ва ўсходні гараскоп?***

— Не, я чалавек свайго часу і ў гараскопы не веру. Супадзенні? Так, бываюць. Больш таго, нам хочацца іх шукаць і знаходзіць, таму мы не заўсёды бачым недакладнасці. Усё ў нашых руках — і толькі ў нашых.

Хачу пажадаць чытачам «Маладосці», каб ніводны гараскоп не змог сапсаваць светлы настрой і радасць жыцця! З надыходзячым Новым годам!

У мяне меліся два варыянты: або гэта нехта «левы», невядомы ў мясцовых колах «падводнага» жыцця і які не ўяўляе, у што ўблытаўся; або — Павук. Зрэшты, больш адпаведную кандыдатуру чым ён, і падшукаць цяжка. Але існуе адзін пункт. Павук заўсёды быў даволі асцярожны і стараўся весці сваю справу ціха, праз стварэнне сістэмы фінансавых залежнасцей. Наступіць жа Ваўку на хвост азначала б адкрытую вайну, непажаданы інтарэс да павучынае «імперыі» і канец усім тайнам. А яшчэ, Павук прынцыпова ніколі не «завязваўся» з Ваўкамі, прызнаючы за імі сілу і не спрабуючы ўлезці ў іхныя зоны ўплыву — зрэшты, цалкам далёкія ад ягонага алкагольна-азартнага бізнесу…

З усяго гэтага вынікала, што калі б Павук па нейкіх прычынах вырашыў распачаць з намі канкурэнцыю, ён не меў бы ніякай нагоды красці маю дзяўчыну. Але ўсё гэта выглядала даволі неверагодна, і я вырашыў пагаварыць з ім сам-насам.

Ведаў, што ён звычайна палуднуе ў рэстарацыі, якая месцілася пры ягоным казіно. Таму ўжо наступным днём я выправіўся туды, сеў на лаўку ў скверыку насупраць увахода і стаў чакаць. Неўзабаве пад'ехаў чорны «мерс», з якога выкараскаўся Павук з двума бугаямі ў гарнітурах. Сам ён быў у шыкоўным чорным фрэнчы з каўнерам пад горла, і я падумаў, што, падобна, ён вырашыў перабрацца ў «верхні слой». Каму б прыйшло ў галаву, што гэта ўсё той жа прыблуда-панк, які дзесяць гадоў таму вышкрабаў з кішэні апошнія грашы, каб купіць прагарэлую, нікому не патрэбную піўнуху на ўскрайку рабочых трушчоб?

Я ўстаў з лаўкі і развалістай хадой скіраваўся да яго. Бугаі напнулі грудзі і загарадзілі сабой Павука, які, здаецца, напалохаўся, але, пазнаўшы мяне, адсунуў іх рукой, загадваючы адысці, і першы павітаўся:

— Здаровы будзь, Воўк! Ці не мяне чакаеш?

— Анягож… Пагамонім?

Ён прапанаваў пагаварыць у рэстарацыі за абедам, але я адмоўна хітнуў галавой — яшчэ не хапала быць чымсьці яму абавязаным. Таму мы вярнуліся да ўжо нагрэтай мною лаўкі і з паўгадзіны мянцілі языкамі. Павук, як здавалася, упершыню чуў пра Антонію і пра ейнае знікненне. Ён быў ледзь не да смерці абражаны, што я мог так пра яго падумаць і абурана даказваў сваю любоў і пашану да Ваўкоў. Поўны сяброўскіх пачуццяў, ён прапанаваў дапамогу сваіх «хартоў», якія зазвычай расшуквалі для яго тых, хто меў неабачлівасць ад Павука хавацца. Я, натуральна, адмовіўся. Тым не менш, ён абяцаў адразу мяне праінфармаваць, калі выпадкова пра нешта даведаецца. На тым мы і развіталіся. Ён быў непадробны ў сваёй зычлівасці, аднак я ведаў кошт ягоным словам і майстэрства ягонай гульні. З другога боку, тое было праўдай, што да Ваўкоў ён заўсёды ставіўся лаяльна, а калі дапусціць, што ён вырашыў распачаць вайну — дык тады навошта яму так перада мною выгінацца? Дый кабет у яго заўсёды была плойма, а ён не з тых, хто ставіць пад удар справу з-за спакуслівых акругласцей, — хай нават найвялікшае прыгажуні ў свеце.

Гэх, каб жа можна было адкласці гэтую размову да часу поўні — я б, напэўна, вычуў, ці праўду ён гаворыць! Але ці мог я чакаць цэлы месяц?! Урэшце, усё ж вырашыў пакуль паверыць ягоным словам, але, тым не менш, мець яго на бачнасці.

## III

Наводку мне нечакана даў паголены да бляску бармен у адным з цэнтральных, што канкурыравалі з Павуковымі, бараў. Тым разам я завітаў туды ўжо не распытваць — проста сядзеў за куфлем піва.

— Слухай, — пачаў ён. — Ты там надоечы карцінку паказваў… Дык вось, здаецца, бачыў я тваю кабетку. Ну-ка, пакажы яе зноў. — Я не марудзячы выцягнуў з кішэні фотку, а ён пацвердзіў:

— Так, гэта яна… На днях мы хадзілі з босам да Павука — трэба было пару пытанняў вырашыць мірна, — дык угледзеў яе ў вар'етэ. Павук спецыяльна сустрэчу прызначыў у зале для рэпетыцый, каб пахваліцца, якія паненкі ў яго класныя. Сядзіць — нага за нагу. Цыгарэтка ў руцэ дыміць, а сам з важным выглядам нумар прымае, нібыта рэжысёр… Дарэчы, уваходзячы, я крайком вуха пачуў, як ён выгаворваў свайму балетмайстру, што той, не праверыўшы, ваўчыны тавар прыняў… — далей я слухаць не стаў і, схапіўшы скуранку, пашыбаваў да дзвярэй.

— Прашу прабачэння, шаноўны, але ў нас прыстойная ўстанова — у спартовіках уваход забаронены! — ахоўнік спрабуе мяне стрымаць — і праз момант ягонае вялізарнае цела згінаецца ад трапнага аперкота пад дых; я ж паскараю хаду, не затрымліваюся. Наступныя дзверы — і чарговыя два ахоўнікі падаюць паабапал: адзін — ад левага бакавога ў сківіцу, другі — ад доўгага «сакута» нагой з развароту ў галаву. Расхінаю дзверы — гэта зала для рулеткі і сціркавых гульняў. Ахова адчула, што нешта не ў парадку і кіруе да мяне; іх чалавек пяць ці шэсць. Гэта ўжо

будзе складаней. Каб цяпер перакінуцца ваўком — я б з імі разабраўся ў хвіліну! Але не той час — не поўня, і я займаю баявую паставу. Яны набліжаюцца паўколам, стараючыся атачыць мяне з бакоў. За іх спінамі бачу, як ад століка з покерам падымаюцца Піт з Дэнам — гэтага яшчэ не хапала: хлопцы яўна захочуць мне адпомсціць за нядаўнюю бойку. Трэба хутчэй канчаць з ахоўнікамі, пакуль яны сюды не дапялі. Я раблю падманны рух у кірунку да таго байца, што наўпрост мяне, — і крайні злева купляецца. Ён спрабуе наскочыць са спіны і сам насаджваецца на «йока-геры» з левай нагі — вось небарака ўжо курчыцца на падлозе. Чаму іх толькі вучаць?! А я цяпер маю перад сабой толькі аднаго праціўніка; астатнія апынуліся за ім — і яны мусяць пераадолець трохі прасторы, каб дабрацца да мяне, а за гэты час з ім паспею разабрацца. Вось ён ужо сам атакуе, спрабуючы правесці мне хук у галаву (яшчэ б! пры такой масе цягліцаў сто разоў падумаеш перад тым, каб ужыць ногі!), — я ухіляюся, падныраю пад ягоны локаць — і ён ужо, трымаючыся за страўнік, хіліцца долу. Але ў гэты момант астатнія дасягаюць мяне і, нібы ў кадрах пра амерыканскі футбол, збіваюць сваёй вагой, памножанай на колькасць. «Усё ж нечаму іх навучылі…» — гэта я думаю праз некалькі хвілін пасля, калі патроху пачынаю апрытомневаць ад удару спінай аб падлогу. Пад некалькімі цэнтнерамі цягліцавай масы немагчыма ўздыхнуць, і я ўжо ледзь зноў не занураюся ў бяспамятнасць, але раптам чую баявы покліч: «Ваўкі, наперад!» — і цяжар на грудной клетцы пачынае змяншацца. «Нечаканая падмога: воўчая салідарнасць перамагла асабістыя рознагалоссі», — перад вачыма паўстае загаловак перадавіцы ў стылі мясцовай газеты. Я пакідаю Піту з Дэнам цешыцца з безабароннасці іхніх ахвяр, а сам, падкульгоўваючы, кірую да дзвярэй наступнай залы. За імі — рэпетыцыя вар'етэ: дзяўчаты ў белых кашульках ды кароткіх спаднічках пад кіраўніцтвам хударлявага балетмайстра рэпеціруюць, як зручней паказваць свае вабноты публіцы.

— Сюды нельга! — вішчыць балетмайстар, намагаючыся загарадзіць мне дарогу. Пасля ахоўнікаў ён не здаецца мне вартым увагі, і я адной рукой адпіхваю яго ўбок. Небарака, нават ад такога лёгкага штуршка ледзь не падае і са скавытаннем «выпараецца» з залы. А Антонія, з пахудзелым тварыкам і заплаканымі пекнымі вочкамі, выбягае з тлуму скуголячых балетніц і кідаецца мне на шыю.

— Не давай мне залішняй свабоды! — просіць яна замест прывітання. Я прыслухоўваюся да сябе: не, у маіх планах зусім няма намеру даваць ёй волю — нават мінімальную.

— Угу, свабоды ёй! Абыдзешся! — буркачу я і, нахіліўшыся, цалую Антонію ў мокрую шчаку…

*Валеры ПАЗНЯКЕВІЧ*

# МЕЛОДЫЯ ЗАБЫТЫХ ДЗЁН



***Валеры Пазнякевіч нарадзіўся 10 красавіка 1968 года ў вёсцы Сінкевічы Лунінецкага раёна. Скончыў філалагічны факультэт БДУ. Працаваў выкладчыкам роднай мовы на кафедры Інстытута мовазнаўства НАН Беларусі. Пасля — спецыяльным карэспандэнтам газеты «Чырвоная змена», механікам на прыватным прадпрыемстве, цяпер — аператар АЗС-32. Піша не толькі вершы, але і песні, якія сам выконвае пад гітару.***

## НА МІНСКІХ ВУЛІЦАХ

На мінскіх вуліцах старых
Маўкліва свецяць ліхтары.
Тут позірк даўняе пары
Заваражыў усе дамы.

Мелодыю забытых дзён
Пяе стары, руплівы звон.
І рэха гулкае — бом, бом...
Тут залятае ў кожны дом.

І ад таго душы лягчэй,
Што з ім жыццё бруіць, цячэ...
Што падае́ надзею звон,
Што не маўчыць, спявае ён.

Я запрашаю ўсіх гасцей,
Вы прыязджайце ў Мінск часцей.
Тут думкам зробіцца чысцей
На ўсе гады, на кожны дзень.

## ВАМ

Вялікія людзі сыходзяць, згараюць,
Знікаюць, бы знічкі ў палёце высокім.
Няма іх... Ды толькі яскравая памяць
Імёнамі сноў расхінае аблокі.

Мне творчым палётам заўжды захапляцца,
Быць сведкам падзей у прызначаным часе.
Мне твары сяброў маіх страчаных сняцца, —
Квіткі на канцэрт іх раскуплены ў касе.

Яны не жылі, а жыццю ўсіх вучылі,
Бо вера такая закладзена ў нас:
Калі ты паэт, то жыві для Айчыны,
Навошта губляць у палёце свой час?

Няма больш кастра. На зямлі —
срэбны прысак
Сівым курганом працінае дарогі.
І неба начное застыгла да рысак
Тых знічак, што грэлі сябрам маім ногі.

## ПАМЯЦІ АНАТОЛЯ СЫСА

Вы дужыя духам?
Тады паглядзіце
У вочы паэта —
Там плача душа.
Вы можаце дух свой
Тым плачам насыціць
Ці сэрцы параніць аб джала нажа.

Вы дужыя целам?
Тады не чапайце
Душы, што сцякае
На прысак крывёй.
Лепш міма прайдзіце
І волю ёй дайце
Ці смехам разбаўце паранены боль.

Бо сам я падмануты
Ружаю славы.
Яна мне скалола
Ўсё сэрца да ран.
Не дзеля паэзіі —
Дзеля забавы
Я вас і сябе
Ўсё жыццё дакараў.

Вам хочацца плакаць,
Дык плачце са мною,
Пакуль не скручуся,
Не згіну, як вуж.
Пакуль не з'яднаецца
Цела з зямлёю,
Датуль не дарыце
Букетаў мне руж...

* * *

Я дакрануўся думкаю да зорак,
Да белае ў нябёсах чысціні,
Адкуль святло плыве да нас праз морак,
Хоць ты яго пад ногі пасцялі.

Я шляхам тым шыбую да Айчыны,
Да каранёў, вытокаў, дабрыні...
Бо без яе не будзе мне спачыну,
Засохнуць без айчыны карані.

Мне без яе не чуць пяшчоты зыкаў,
Не выказаць пачуцці да зямлі.
Бо кожны творца — перш за ўсё музыка,
Што можа граць на ўласным мазалі.

— Баліць? — калі струна кранае душы,
Калі наўкол нямая цішыня,
Якую рытмам гукаў ты парушыў,
Каб дакрануцца да пяшчоты дня.

Ды толькі хто паэта зразумее?
Ён не належыць людзям і сабе.
Калі ён творыць — салавей нямее,
І нават рэчка прыпыняе бег.

* * *

Згараю у язычніцкім агні
І над Айчынай іскраю ўзлятаю;
Прымі мяне, душу маю прымі,
Зямля пакут, зямля надзей святая!

Люблю цябе, як сонца любіць дзень,
Як любяць меданос у вуллях соты...
Сказаў не ўсё, што выказаць хацеў,
Бо існуюць для думак вольных квоты.

Прыдумаць немагчыма дабрыню,
Як немагчыма выказаць пачуцці
Да той зямлі, якую я люблю,
І ад якой той дабрыні вучуся.

## ГАННА

А ў нашай вёсцы, што на Палессі,
Вясну гукаюць, спяваюць песні
Аб тым, як Ганна ўплятала ў косы
Не дыяменты, а з траваў росы.

Дзяўчына Ганна, бы чараўніца.
Ну як, скажыце, мне не ўлюбіцца?
Бялява з твару, сама чарнява, —
Такая хлопцу любому пара.

Прымусіць сэрца каханнем біцца,
А потым будзе начамі сніцца.
Параніць думкі адным паглядам —
Не будзе болей у думках ладу.

Бо там каханне цячэ ракою:
Ні днём ні ноччу няма спакою.
Купляю кветкі і песні граю
Для той, што сэрцам сваім кахаю.

**ПЕСНЯ ЖНЯІ**

Заспявай мне песню тую, мама,
Што пяяла жнейка за сялом.
Помню я, як ты ёй падпявала,
Як снапы абвязвала вузлом.

Ой, у полі жыцейка ўрадзіла,
Хіліцца калоссем да раллі.
Песня тая — моц, душа і сіла
Нашай беларускае зямлі.

У кашулі белай, саматканай,
Ухваляла жнейка ураджай.
Пана Бога да сябе гукала —
Прыязджай у госці, прыязджай.

Пачастуйся смачным караваем,
Што спячом мы з жыта ўсім сялом.
Мы цябе за хлеб наш усхваляем
І чакаем, Божа, за сталом.

Першы сноп — у кут для пана Бога,
Дзе вісіць намолены абраз.
А другі, расло каб жыта рогам,
Перамелем на салодкі квас.
Ну а трэці будуць есці дзеці —
Ім яшчэ, бы жыцейку, расці.
Няхай зерне сушаць сонца, вецер,
Бо сяўба — галоўнае ў жыцці.

Песня тая ў сэрца мне запала,
Бо з яе мы пачыналі жыць;
Сеяць жыта, жаць яго, бы мама,
І зямною працай даражыць.



Мікола КАНДРАТАЎ

***Круглы год часопіс суправаджаў яго спецыяльны праект пад назвай «Літаратурны задыяк». Чаго пажадае нам зорны гуру?***

— Жыццё кожнага чалавека, любой зямной істоты, па вялікім рахунку, з'яўляецца сукупнасцю цыклічных заканамерных працэсаў. Згодна з гэтым, хачу пажадаць аўтарскаму калектыву часопіса «Маладосць» і ягоным чытачам у наступным годзе быць сугучнымі касмічным рытмам, адпавядаць гэтай цыклічнасці — інакш кажучы, быць сучаснымі ва ўсіх справах, праявах і памкненнях. І проста — быць!

*Міхась ЗІЗЮК*

# КАРОЛЬ КАПАЙЛА І ЯГО АТАЧЭННЕ

***Аповесць***



***Міхась Зізюк нарадзіўся 30 чэрвеня 1967 года ў вёсцы Лучыцы Петрыкаўскага раёна. Скончыў Новасібірскае вышэйшае ваенна-палітычнае агульнавайсковае вучылішча і Акадэмію МУС. Жыве і працуе ў Навагрудку. Пісаць пачаў у 2005 годзе. Друкаваўся ў газеце «ЛіМ», часопісе «Маладосць». Аўтар трох кніг прозы, выдадзеных у 2007 і 2011 гадах.***

Па сухой і пыльнай, збітай безліччу босых ног, дарозе марудна паўзлі вазы з людзьмі, за імі варушыўся маўклівы натоўп. Уздоўж дарогі ланцугом расцягнуліся легіянеры ў металічных шлемах і з коп'ямі ў руках. На адным з вазоў везлі траіх асуджаных да пакарання смерцю на крыжы. За імі везлі і ўсё астатняе, што спатрэбіцца для выканання прысуду: слупы, вяроўкі, рыдлёўкі, сякеры. Уся калона ахоўвалася стражнікамі, якія ў душы пракліналі спёку і няшчасных асуджаных. Гарачыня даймала ўсіх, але не стрымала цікаўных, якія ў вялікай колькасці сунуліся за працэсіяй, каб не прапусціць відовішча. Яны ішлі за вазамі і, здавалася, толькі і чакалі таго моманту, каб закрычаць у адзін голас:

— Распні яго, распні!

Ад колаў і людскіх ног падняўся пыл, які шэрым ценем асядаў на тварах усіх, хто ішоў у натоўпе. Сярод асуджаных вылучаўся адзін, з доўгімі чорнымі валасамі, што сядзеў пасярэдзіне. Зняволены быў яшчэ малады, недзе крыху больш трыццаці гадоў. Пры ўсёй цвёрдасці і стрыманасці ён глядзеў на людзей са скрухаю, нейкім ціхім, спакутаваным позіркам і адначасова з велізарнаю надзеяй, што свяцілася ў яго чорных жывых вачах. І было ў яго позірку нешта незвычайнае: ці то нейкае вялікае шкадаванне пра штосьці назаўсёды страчанае, ці то вера ў нешта вялікае, што хутка адбудзіцца на грэшнай зямлі. А, магчыма, і спадзяванне на тое, што людзі, якія яшчэ не зведалі сілы і моцы сапраўднага слова, вольнага духу, усё ж расплюшчаць вочы. Ён глядзеў некуды далёка, праз людзей, нібыта ведаючы, куды імкнецца і дзеля чаго.

Лявон ішоў у натоўпе цікаўных. Яму было страшна, і ў той жа час цікаўнасць падштурхоўвала наперад. Да таго ж у плечы піхалі тыя, што ішлі за ім. Ён усведамляў, што хутка працэсія прыбудзе да месца і пачнецца нешта жахлівае, што назаўсёды застанецца з ім. Але ён ішоў, ішоў за ўсімі, бо шляху назад не было. Інакш пойдзе на крыж і ён. Ад непазбежнасці такога выйсця ногі рабіліся ватнымі, час ад часу пад грудзі падкочвалася нешта агіднае і цягнула на ваніты. Вельмі хацелася піць, а ў роце нават не засталося сліны, каб зглынуць і прагнаць той даўкі камяк. Унутры варушыўся клубок пачуццяў, якія ён ніяк не мог асэнсаваць…

## 1

Лявон прыйшоў у сябе і з напружаннем прыўзняў неверагодна цяжкую галаву. Што з ім робіцца, дзе гэта ён? Густая цемень стаяла перад вачыма, не было чым дыхаць. Хто зняволіў яго і кінуў у цёмны склеп, за што? Ён памацаў галаву і сцягнуў з сябе нейкую брудную анучу, заплюшчыўшы вочы ад яркіх сонечных промняў. Калі ж пакрысе прызвычаіўся да святла, стаў аглядацца.

Лявон ляжаў у неглыбокай яміне з розным смеццем, і ўсё наваколле, наколькі ён мог бачыць, было засмечана. Горы смецця, малыя і вялікія, узвышаліся ўсюды — і за імі нельга было хоць нешта разгледзець. У паветры кружылася брудная пацяруха і яшчэ нейкая драбяза, востра пахла гарэлым і гніючымі адходамі, сіпла кігікалі птушкі. Ад аднаго позірку на такі малюнак станавілася млосна і цямнела ў вачах. «Зямля мая, што з табою зрабілася? Хто так здзекуецца з цябе, хто цябе ператварыў у гэты велізарны сметнік, у якім цяжка дыхаць? Няўжо выйсця няма, і ён загіне тут, у бруднай яміне, бо сілы падняцца няма? А жыць так хочацца…»

— Ты хто?

Пытанне прагучала як збавенне, як вокліч з нябёс, бо ёсць тут нехта жывы, і гэты нехта дапаможа, не дасць загінуць у такім жудасным месцы. Лявон, усё яшчэ лежачы, зноў падняў галаву. Перад ім стаялі кірзавыя боты, ладныя яшчэ боты, запыленыя, падношаныя, але моцныя. Уладальнік ботаў нецярпліва варухнуў мыском аднаго з іх і зноў паўтарыў пытанне:

— Ты хто?

Крэкчучы і стогнучы ад таго, што галава трашчала, як перапоўнены цэбар, Лявон усё ж здолеў сесці. Насупраць яго стаяў не малады ўжо мужчына, бадай што пад пяцьдзясят, са строгім уладным позіркам, паголены, з вялікімі чорнымі вусамі, адзеты ў палінялую вайсковую форму. Утаропіўшыся ў Лявона, ён чакаў адказу на сваё пытанне. А той толькі з цяжкасцю вымавіў:

— Піць.

Мужчына аднекуль выцягнуў пластыкавую бутэльку, кінуў Лявону, які, спрытна падхапіўшы яе, адкруціў корак і закінуў галаву. Вось яно, імгненне шчасця! Вада як выратаванне ад усіх пакут: ад слабасці і млоснасці, ад цяжару і страху. Выжлукціўшы паўбутэлькі, Лявон з палёгкаю ўздыхнуў, выцер успатнелы лоб, закруціў корак і аддаў бутэльку мужчыне. Той паўтарыў пытанне трэці раз:

— Ты хто?

— Хто я? — Лявон задумаўся. Сапраўды, хто ён? Учора ён быў Лявонам Сухадольскім, бізнесменам, не тое каб ужо буйным, але і не слабым. У свае сорак два гады трымаў невялікую прыватную фабрыку па вырабе мэблі, дзе працавала каля трох дзясяткаў работнікаў, і цвёрда стаяў на нагах. Але ўчора ўсё абвалілася. Пачалося з таго, што яму патэлефанавалі з аднаго абласнога цэнтра: фірма, якой ён паставіў партыю мэблі без папярэдняй аплаты, абанкруцілася, яе дырэктара арыштавалі і цяпер невядома, як спагнаць грошы. Пасля гэтага пасварыўся з начальнікам падатковай інспекцыі, той прыстрашыў праверкаю і буйным штрафам. Прыехаўшы дахаты не ў пару, заспеў жонку з маладым палюбоўнікам, якога ледзь не забіў, ды той паспеў спрытна скокнуць у акно і збегчы. Збегчы то ён збег, але пакінуў пад вокнамі іхняй сядзібы сваю невялічкую машыну, нешта падобнае да «Акі». Лявон са злосці пахвастаў тую малюху, плюнуў на жонку, што апраўдвалася — маўляў, нічога не было, ён не так усё зразумеў — і паехаў у бар «Фартуна». Пакінуў машыну на платнай паркоўцы і засеў за стойкаю. Ад жонкі ён такога не чакаў: падабраў, можна сказаць, на вуліцы, бо яна з беднай вясковай сям'і, мо толькі пару сукенак

і мела. Калі пажаніліся, нарадзіла сына і сядзела дома. Лявон вырашыў, што няхай займаецца домам, сынам, а астатняе ён сам усё заробіць. Круціўся, зарабляў грошы, сын нядаўна ў школу пайшоў. А яна, паскуда, бачыш што вырабляе, за ўсё добрае аддзячыла. Выгнаць яе на вуліцу, хай ідзе куды хоча.

У бары, апустошыўшы бутэльку каньяку, Лявон пазнаёміўся з дзвюма прыгожымі дзяўчатамі. Эх, і дзяўчаты былі, салодкія, вясёлыя, маладыя! Ён паставіў ім каньяку і шампанскага, закусі нядрэннай. Потым дзяўчаты прапанавалі паехаць з імі адпачыць. Ён пагадзіўся: чаму б і не? Калі ёй можна, то і яму — не грэх. Таксі знайшлося хутка, па дарозе дзяўчаты весела смяяліся, падлівалі шампанскага, а потым… Што было потым, ён ужо не памятае, але з ім няма ні дзяўчат, ні шампанскага, ні таксі. Цяпер ён сядзіць тут, у смецці, невядома дзе. Лявон паляпаў па кішэнях. Так і ёсць: ні грошай, ні карткі, ні дакументаў. Хто ён? І раптам думка, вострая і хуткая, як маланка, працяла яго. А няхай будзе як будзе, няхай яна пакруціцца там, паспрабуе, як гэты хлеб здабываецца. Ён жа знікне на нейкі час, проста знікне і ўсё, потым вырашыць, што з ёю рабіць. За які тыдзень з бізнесам нічога не зробіцца, за гэты час ніхто і нічога не зменіць, а ёй будзе нясоладка. Ці, можа, соладка? А ён пакуль будзе ніхто і ніадкуль.

— Хто я? — Лявон варухнуўся і зрабіў выгляд, што напружваецца,

Успамінаючы, пакутліва зморшчыў лоб, пацёр скроні. — Нічога не памятаю. Памятаю, што нехта б’е мяне па галаве, потым правал, цемра — і я тут.

— Добра, а зваць цябе як?

— Не ведаю. Сапраўды, не ведаю, — Лявон разгублена развёў рукамі. — Нешта круціцца ў галаве, а нічога не выходзіць. І галава моцна баліць.

— Добра, пайшлі. Можа і праўда, нешта такое я ў кіно бачыў.

Мужчына павярнуўся і пайшоў наперад. Лявон падняўся на ногі, яго павяло ўбок, але ён утрымаўся і паціху паплёўся за сваім новым знаёмым.

Яны прайшлі праз завалы, падняліся на грэбень, і цяпер Сухадольскі змог добра разгледзець месца, у якое яго занесла. Гэта быў палігон цвёрдых бытавых адходаў, або вялізны гарадскі сметнік. Недзе злева вуркатаў трактар, трамбуючы смецце, з правага боку даносіліся нечыя крыкі, над сметнікам матляліся няўрымслівыя чайкі, цягнула лёгкім шызым дымам і смуродам. Мужчына, крыху пастаяўшы на грэбні і пільна паўглядаўшыся, павярнуў налева. Недзе з паўкіламетра яны тупалі па старым, ужо ўтрамбаваным і прысыпаным зямлёю сметніку і выйшлі да месца заезда на палігон. Заезд перагароджвала доўгая металічная труба, пафарбаваная ў белачырвоны колер, з ланцугом на канцы. Фарба на трубе месцамі аблупілася, і ад гэтага здалёк здавалася, што на ёй засохлі крывавыя плямы. Каля шлагбаума прытулілася невялікая цагляная будка з трыма бруднымі акенцамі і дзвярыма. Па абодва бакі ад будкі цягнулася шэрая бетонная агароджа, якая хавалася ў зарасніках кустоў і гары смецця. Мужчына рашуча пакрочыў да будкі, дзе, схаваўшыся ад сонца, на зашорганым крэсле дыміў папяросаю невысокі, хваравіты з выгляду, мужчына ў яркай з жоўтымі пальмамі кашулі.

— Здароў, Капайла, — гукнуў ён. — Каго гэта ты прывёў?

— Здароў, Рэмба, — адгукнуўся мужчына ў вайсковым адзенні. — Ды во, знайшоў сёння на тым баку, каля дарогі. Кажа, што нічога не памятае. Трэба разабрацца. Што ў нас сёння?

— Абяцалі, што прыйдуць машыны з кандытарскай фабрыкі і завода металавырабаў.

— Добра, я цяпер да сваіх, а пасля да цябе зайду.

Мужчына, якога назвалі Капайлам, пакрочыў уздоўж палігона, так нічога больш і не сказаўшы Лявону.

У хуткім часе яны выйшлі да пабудовы, штосьці кшталту чалавечага жылля. Тры невялікія буданы, збітыя з дошак і кавалкаў драўніны, з невялікім аскепкам шкла пасярэдзіне сцяны і жалезнай трубою над нізкім дахам, што прыткнуліся тут жа, пад гарою смецця, былі падобны да сабачых будак, толькі большых памераў. За буданамі прыгарнуліся дзве пабудовы, якія ўвогуле мелі толькі сцены з кавалкаў фанеры і дах са старога толю, каля сцяны стаялі дзве старыя брудныя лядоўні. А крыху воддаль Лявон убачыў невялічкую ладную хатку, абшытую дошкамі, крытую старым шыферам, з навесам над дзвярыма і сціплым ганкам. Пакуль ён са здзіўленнем разглядаў незвычайную «вёсачку», аднекуль павылазілі людзі ў заношаным адзенні. Глянуўшы на іх, Сухадольскі зразумеў, што перад ім шасцёра звычайных бамжоў. І тут жа з-за хаткі выскачыў малы, чорны, з доўгай звалянай поўсцю сабачка. Ён залівіста забрахаў, кінуўшыся да Лявона.

— Ціха, ціха, Чарныш, — цыкнуў на яго Капайла.

Чарныш, яшчэ крыху павурчаўшы, лёг на пясок, цікуючы адным вокам за незнаёмым чалавекам. Тыя, што сабраліся каля Капайлы, хто ўважліва, хто з абыякавасцю, але разглядалі Лявона.

— Та-а-ак, — працягнуў Капайла, абвёўшы людзей учэпістым позіркам, — усе сабраліся. Добра, слухайце загад. Па-першае, учора тут таўкліся нейкія тыпы з горада, а нам ніхто не патрэбен, бо гэта наш хлеб. Кныш, схаваешся сёння каля шлагбаума і ледзь каго ўбачыш — да мяне. Кныш, зразумеў?

Кныш, высокі, худы, з рэдкаю барадою, у кароткіх нагавіцах невядомага колеру, хуценька кіўнуў галавою ў знак згоды.

— Па-другое, сёння павінны быць машыны з кандытарскай фабрыкі і завода металавырабаў. Карась, застанешся пакуль тут. Зразумела?

— Ага, чаму ж не, — густым басам адазваўся Карась, яшчэ даволі малады мужчына з грывай валасоў.

— Карась і Кныш, дапаможаце здаць тое, што прынеслі ўчора. Астатнія — за працу, — скончыў сваю ранішнюю планёрку мясцовы бос.

— А што гэта за хлюст з табою, Капайла? — выгукнуў з імправізаванага строю Карась.

— А гэтага я сёння знайшоў каля старой дарогі. Кажа, што стукнулі па галаве, нічога не памятае. Нават імя свайго не ведае. Так? — звярнуўся да Лявона Капайла.

— Так, так, — пацвердзіў той, — нічога не памятаю.

— Калі так, то застанешся ў нас. Будзеш працаваць добра — не прападзеш, кавалак хлеба і вугал знойдзем. Чапяла прыгледзіць за табою.

Лявон на ўсялякі выпадак кіўнуў галавою. Вырашыў маўчаць, бо нічога не зробіш, трэба неяк прыстасоўвацца да часовага жыцця. Калі ён правільна зразумеў, то гэты самы Капайла камандуе бадзягамі, і ўсе яны жывуць тут, на сметніку. Так, Лявон Іванавіч, прыйдзецца і вам добраахвотна пабамжаваць.

## 2

Капайла павярнуўся — і ўсе яго падначаленыя сталі разбрыдацца ў розныя бакі. Лявону нічога не заставалася, як ісці за ўсімі. Спыніліся яны каля вялізнай кучы свежага смецця. Мясцовыя звыкла пасунуліся да кучы, а Капайла павярнуўся да Лявона:

— Слухай сюды. Калі будзеш старанна працаваць, не ленавацца, слухацца мяне, то ўсё будзе добра. У адваротным выпадку, калі я праганю цябе прэч, ты здохнеш з голаду. Зразумеў?

— Так.

— Добра. Сёння разам з усімі будзеш працаваць тут. Складанага ў гэтай справе нічога няма: разграбаеш смецце, выбіраеш усё патрэбнае: паперу, металы розныя, шкло, бутэлькі, старую бытавую тэхніку. Адным словам, усё, што можна здаць і атрымаць грошы. Бывае, што і яшчэ нешта патрэбнае трапляецца. Але не спрабуй схаваць што-небудзь ад мяне: усё роўна даведаюся. Толькі літасці потым не чакай. Калі ёсць пытанні, звяртайся да Чапялы: ён тут старэйшы. Усё, зарабляй на хлеб, бо дарэмна ніхто карміць не будзе. Зразумеў?

— Зразумеў, — Лявон зрабіў выгляд, што ён разгублены і запалоханы, згодны на ўсё, хоць яму і карцела адшыць Капайлу куды падалей. Калі той, агледзеўшы сваю гаспадарку, пайшоў, Сухадольскі прыладкаваўся каля Чапялы, як быццам не вельмі старога, але сівога, як дзед, мужчыны, з такой жа сівой, акладзістай папоўскай барадой. Падначаленыя Капайлы павольна варушыліся, паціху складваючы каля сябе паасобку паперу, бутэлькі, кавалкі металу і нават нейкую ежу. Уздыхнуўшы, як бы шкадуючы, што ён пагадзіўся ўзваліць на сябе такую няпростую будучыню, Лявон таксама стаў разграбаць смецце. Галава пакрысе стала балець менш, і ён, прыцярпеўшыся, перастаў зважаць на яе, але хутка заныла паясніца, а забруджаныя рукі засмылелі ад драпін. Тады, пакасіўшыся на суседзяў, падабраў нейкі дручок і ўжо ім стаў разграбаць кучу. Самае горшае было тое, што даймаў непрыемны пах — нязменны спадарожнік любога сметніка. Лявон спачатку стараўся хоць неяк пазбавіцца ад яго: то хаваў нос за адварот кашулі, то дыхаў толькі ротам, але дапамагала гэта слаба. Каб неяк тут выжыць, трэба глядзець, як жывуць іншыя. Таму ён паціху аглядаўся на суседзяў: як і што яны робяць. Вось нейкі невысокі, з дробнымі, як птушыныя, рысамі твару, бадзяга, выцягнуў аднекуль з сярэдзіны кучы яблык і, выцершы яго аб свае брудныя порткі, са смакам пачаў есці. Лявон гідліва зморшчыўся і адвярнуўся, адчуўшы, што страўнік адазваўся характэрным гукам: як-ніяк, а з учарашняга ён яшчэ нічога не еў. Між тым, рэшткі ежы траплялася часта. Лявон заўважыў, што некаторыя, адшукаўшы штосьці прыдатнае для спажывання, складаюць яго ў свае торбы. Няўжо тут няма нічога іншага і яго чакае такое ж, «падножнае», харчаванне? Не, ён не зможа есці гнілыя адходы. А як жа тады яго план? Прыйдзецца патрываць, а потым пацікавіцца ў Капайлы, чым той харчуецца. Вунь як выглядае — паголены, акуратна апрануты, жыллё нядрэннае. Мабыць, і ежа ў яго іншая.

Недзе праз гадзіну да іх прыйшоў Карась — той, што павінен быў дапамагаць Капайле. Яшчэ здалёк ён свіснуў:

— Гэй, ханурыкі, пайшлі са мною, Капайла загадаў. Там машына прыйшла з кандытарскай фабрыкі, ёсць чым падсілкавацца.

«Ханурыкі» спешна пакінулі працоўныя месцы і пасунуліся за Карасём. Лявон зразумеў, што такія прывозы тут бываюць нячаста і ў яго ёсць магчымасць таксама нешта перахапіць. Сапраўды, каля машыны, якая толькі рыхтавалася выгрузіць смецце, ужо хадзіў сам Капайла. Як толькі грузавік ад'ехаў, усе насельнікі сметніка рынуліся да кучы і з імпэтам узяліся перабіраць адходы. Лявон вырашыў не адставаць. Праз нейкую хвіліну ён змог адшукаць кардонную скрынку пячэння, паламанага на дробныя і буйныя кавалкі, а потым яшчэ і загорнуты ў паперу, зліплы камяк цукерак-карамелек. Усе ўдзельнікі не засталіся без здабычы. Праз колькі хвілін Капайла гукнуў:

— Хопіць, няма тут больш нічога. Карась і Кныш, аднясіце дахаты здабычу, астатнія ідзіце працаваць далей.

Сухадольскі паспеў пакласці сабе ў кішэню крыху ад здабытага: голад не цётка, трэба хоць нечага паесці. І ён з задавальненнем укінуў у рот пячэнне, якое мела даволі прыемны смак.

Па-летняму цёплае вераснёўскае сонца паказвала за поўдзень, калі Чапяла буркнуў:

— Досыць, пайшлі адпачнём.

Моўчкі за ім пайшлі ўсе астатнія. Капайла сядзеў на ганку і ляніва пакурваў, а каля яго ляжаў Чарныш. Насельнікі мясцовай «вёскі» вынеслі ў пабітым эмаліраваным вядры вады, павыцягвалі з торбаў прыпасы і сталі прамываць іх, выкладваючы на кавалак бруднай цыраты. Здабыча ва ўсіх была розная, але найбольш траплялася садавіна і гародніна: крыху прыпсаваныя яблыкі, агуркі, памідоры, быў нават кавун. Акрамя таго, на цыраце Лявон заўважыў хлеб, кавалкі каўбасы невядомага паходжання, некалькі бляшанак кансерваў. Заўважыўшы, што ён стаіць воддаль, Капайла, зацягнуўшыся цыгарэтай, сказаў:

— Чаго стаіш, як слуп? У наш рэстаран заходзяць без запрашэння.

Жарт начальніка спадабаўся бадзягам — усе засмяяліся, а адзін аж зайшоўся ад смеху, закінуўшы ўгору рэдкую рудую бараду.

— Ідзі, ідзі, — больш лагодна запрасіў Чапяла, — яно толькі спачатку здаецца, што гэта нельга есці. Ажно бачыш, ядзім, і нічога, жывём. Сядай, сёння мы пачастуем, а заўтра глядзі сам, варон не лаві.

Лявон прысеў. Так, падобна на тое, што яму давядзецца прывыкаць да такой ежы. Хоць, з іншага боку, некалі ў дзяцінстве, калі ён жыў у вёсцы, таксама ніхто асабліва не глядзеў на, так званыя, санітарныя нормы. Яны, дзетвара, выцершы яблык аб порткі, елі яго і не хварэлі на жывот. І Лявон рашуча стаў выбіраць лепшыя кавалкі.

— А як цябе зваць? — жуючы, звярнуўся да яго Чапяла, які, мабыць, вырашыў узяць над Лявонам шэфства.

Лявон ледзьве не ляпнуў сваё імя, але своечасова ўспомніў, што па сваёй легендзе згубіў памяць, і прыкусіў язык. За яго адказаў Капайла:

— Сапраўды, мы ж не ведаем твайго імя. Як жа нам цябе зваць?

На некалькі імгненняў ён задумаўся, а потым выскаліўся:

— Я знайшоў цябе ў пятніцу, таму будзеш Пятніцай, зразумеў?

Лявон няпэўна сцепануў плячамі: што яму з таго. Капайла задаволена дадаў:

— Вось і ў нас будзе свой Пятніца.

— Які ты Пятніца, — ціха сказаў Чапяла, — ёсць жа ў цябе імя, толькі ты не хочаш гаварыць яго. Гэты мярзотнік усім мянушкі павыдумляў.

— Як цябе зваць на самай справе?

— Як мяне зваць? — пытаннем адказаў Чапяла і на момант задумаўся. — Нікому не патрэбна маё сапраўднае імя. Некалі мяне звалі Іванам, але тое было даўно.

Чапяла сумна ўздыхнуў і змоўк, а Лявон вырашыў за лепшае не лезці са сваімі пытаннямі: захоча чалавек — сам раскажа. Бадзягі сабралі рэшткі ежы з цыраты і палеглі на траве. У зацішку за сметнікам, на сонейку, было нават горача, і Лявон схаваўся пад старой раскідзістай вярбою. Чысцюткае, без адзінай аблачынкі, сіняе неба нічым не нагадвала пра тое, што восень ужо прыйшла. Сонца лагодна разлівала сваё цяпло на прыціхлае наваколле, у хмызняку ажыўлена пераклікаліся нейкія птушкі, заспакойваюча шапацела лістотай старая вярба. Толькі лёгкі ветрык, які абдаваў зусім не летняй прахалодай, нагадваў, што цёплыя дзянькі скончыліся і халады не за гарамі. Па лістоце сям-там пракінулася жаўцізна, а ў невялічкім зарослым азярцы, што прыхавалася за высокай травой, матляўся пацямнелы чарот. Лявон заплюшчыў вочы, адагнаў непрыемныя ўчарашнія ўспаміны. Чаму ён, як і большасць людзей, увесь час некуды спяшаецца, імкнецца зарабіць як мага больш грошай? У дзяцінстве Лявон марыў пра неверагодныя прыгоды, цікавыя

падарожжы вакол зямлі па марах і акіянах. Але неяк склалася, што паступіў на эканамічны факультэт, бо гэта добрая спецыяльнасць, потым працаваў на заводзе, пасля захацеў займець уласны бізнес. Увесь час круціўся, спяшаўся, нешта рабіў, з некім спрачаўся, падымаўся ўгору. І вось цяпер, лежачы тут, у цяньку, і нікуды не спяшаючыся, можна азірнуцца назад і спытаць самога сябе: ці задавальняе яго такое жыццё? Падспудна ён ведаў адказ і баяўся яго. Толькі як павярнуць сваё жыццё ў іншы бок, памятаючы, што ты ў адказе за лёс свайго дзіцяці. Лявон цяжка ўздыхнуў: зноў усё вяртаецца да тых праблем, якія сёння ці заўтра, але прыйдзецца вырашаць…

Пасля невялікага адпачынку Капайла зноў пагнаў бадзяг на сметнік. Калі яны праварушыліся там яшчэ некалькі гадзін, з'явіўся сам і, агледзеўшы ўсё, ухвальна кіўнуў:

— Для першага дня нядрэнна, Пятніца. Цяпер усё складаем, пакуем і пераносім да жылля.

Зразумець, што да чаго, не ўяўляла асаблівай цяжкасці. Падначаленыя Капайлы пазвязвалі кардон і паперу, склалі паасобку ў брудныя мяхі бутэлькі і шкло, а таксама крыху нейкіх адходаў з металу, збоку ляжаў стары тэлевізар і два акумулятары. Гэта быў іх здабытак за цэлы дзень, калі не лічыць таго, што яны выбралі да свайго стала. Прыцягнуўшы мяхі і пакункі да буданоў, бадзягі ўзяліся гатаваць вячэру. Не сказаць, каб вельмі дружна, але ўсё ладзілася ў агульны кацёл: нехта прыцягнуў бульбы, хтосьці ўжо расклаў вогнішча, Чапяла варыў булён. Лявон, каб не застацца ўбаку, пайшоў па сметніку шукаць дровы. У хуткім часе пад вярбою прыемна запахла наварыстым булёнам; Карась з таварышам разаслалі цырату — і мясцовае насельніцтва пацягнулася да стала. Чапяла недзе адшукаў для Лявона пагнутую алюмініевую міску і моцна падрапаную лыжку. Да іх далучыўся нават Капайла з Чарнышом. Кухар урачыста напоўніў міску боса, і той са смакам стаў хлёбаць варыва. Чарныш, атрымаўшы сваю порцыю ў невялічкай іржавай місцы, весела закруціў хвастом, заглядаючы ў вочы гаспадару. Нейкі час за сталом панавала цішыня, чулася толькі гучнае хлёбанне, цмоканне ды бразганне лыжак па місках. Першым маўчанне парушыў Чапяла:

— Вось яшчэ адзін дзень пражылі.

— Хіба што пражылі, — буркнуў адзін з насельнікаў невядомага ўзросту ў зашмальцаванай да бляску вопратцы, з ускудлачанымі валасамі.

— А што табе не падабаецца, Сыч? — адазваўся Капайла. — Тут ты на волі, ёсць дзе жыць, накормлены, нават нейкія грошы атрымліваеш. А бадзяўся б у горадзе — загрэблі б цябе ў міліцыю, сядзеў бы на зоне ці зусім пад «вышку» пайшоў бы. У нас дыхаеш вольным паветрам.

— Ага, вольным, толькі смуродным, — зноў буркнуў Сыч.

— Тут цябе ніхто асабліва не трымае, але сам ведаеш, колькі тваіх фота расклеена паўсюль. Таму лепш сядзі моўчкі. Памятай, хто тут кароль.

Сыч вырашыў за лепшае пагадзіцца, бо змаўчаў. Крыху пасядзеўшы і паслухаўшы размовы насельнікаў, Лявон пазнаёміўся яшчэ з двума жыхарамі «вёскі» — Бугаём і Фрыцам. Чаму першаму Капайла даў мянушку Бугай, стала зразумела з першага погляду: той сапраўды меў нешта ад бугая, але не столькі ў сэнсе постаці і моцы, колькі ў адметным твары — шырокая лабаціна, маленькія вочкі з чырвонымі пражылкамі, кучаравыя валасы і погляд спадылба. А вось чаму другога, таго, з птушынымі рысамі твару, клікалі Фрыцам, невядома. Начныя прыгоды, нялёгкі дзень і сытная вячэра так размарылі Лявона, што ён стаў кляваць носам, седзячы за сталом. Але не ведаў, дзе прыткнуцца, самому

ж прасіцца было неяк няёмка. Ды Чапяла, заўважыўшы, што новенькі засынае, пацягнуў яго за руку:

— Ідзі ў мой будан, там хопіць месца на дваіх.

Сухадольскі паплёўся за ім, прымасціўся на брудным, прапаленым у некалькіх месцах матрацы, і амаль адразу праваліўся ў глыбокі сон.

## 3

Капайла прачнуўся, як звычайна, рана, недзе каля, апаловы шостай. Спяшацца не было куды, і ён нейкі час паляжаў, потым пацягнуўся за цыгарэтай, закурыў. Калі падняўся і сеў на ложку, закашляўся. Ужо даўнавата душыць гэты курэцкі кашаль, халера яго, неяк трэба было б развітацца з дурной звычкай, але, уцягнуўшыся за столькі год, хіба кінеш…

Курыць Кастусь Рахубовіч пачаў яшчэ ў школе, у дзясятым класе. Спачатку дзеля таго, каб быць як усе, трымацца хлапечай кампаніі, пасля ўцягнуўся яшчэ больш, калі пайшоў служыць. Трапіў спрытны і вёрткі хлопец на службу ў роту хімабароны, узводны хутка заўважыў яго, прызначыўшы сваім намеснікам. А калі напрыканцы службы стараннаму і паслухмянаму старшаму сяржанту Рахубовічу прапанавалі паступіць у школу прапаршчыкаў, той пагадзіўся. Здольнасцей да навук, каб паступаць у ВНУ, у Кастуся не было, як не было і жадання вяртацца ў глухое, акружанае балотамі роднае мястэчка. Праз паўгода новаспечаны прапаршчык стаў старшынoй роты. Асвоіўшыся, Кастусь скумекаў: калі служыць з розумам, то можна няблага жыць. Даволі хутка ён разабраўся, што да чаго, каму што выдаць, а каму недадаць. Сярод грамадзянскага насельніцтва таго невялікага гарадка, дзе размясцілася іх вайсковая часць, Рахубовіч знайшоў сваіх пакупнікоў. Такая гандлёвая дзейнасць прыносіла прадпрымальнаму прапаршчыку стабільны прыбытак, але гэтага было мала. Кастусь даўно марыў жыць заможна, мець рахунак у ашчадным банку і машыну. Толькі вайсковая служба не магла ажыццявіць яго мару, хоць ён старанна насіў грошы на ашчадную кніжку. А тут яшчэ, на бяду, яго перавялі старшынoй роты ў полк, што стаяў у лесе, і бізнес накрыўся медным тазам. У той час Рахубовіч ажаніўся, потым полк зноў перакінулі ў іншае месца. Пабадзяўшыся так, гадоў з дзесяць-дванаццаць і, зразумеўшы, што служба не зробіць яго заможным, ён ужо хацеў звальняцца ды ехаць на якія-небудзь заробкі. Бо з жонкай да трыццаці пяці разышліся з-за таго, што Святлана абвінавачвала яго ў сквапнасці, а ён яе ў несусветнай траце грошай. Былая жонка забрала дачку і з’ехала са службовай кватэры да бацькоў, прыхапіўшы з сабой усю маёмасць. Менавіта тады яго прызначылі начальнікам склада ракетна-артылерыйскага ўзбраення. Вось у той момант Кастусь і зразумеў, што гэта — Кландайк, калі рабіць усё асцярожна і з розумам. Ён умела афармляў спісанне боепрыпасаў і зброі, акуратна рабіў справаздачы, добра ладзіў з начальствам і быў на добрым ліку ў палку. Але, як кажуць, да пары збан ваду носіць. Пад выглядам пакупнікоў да яго з’явіліся афіцэры дзяржбяспекі, і прапаршчык Рахубовіч трапіў за краты. Так у адзін момант Кастусь атрымаў немалы тэрмін і пазбавіўся ўсяго: службовай кватэры, пасады, грошай і будучай вайсковай пенсіі. Было цяжка, ён ледзьве не зламаўся, але, як чалавек бывалы, не здаўся, вытрымаў і прайшоў калонію без асаблівых цяжкасцей. Пасля вызвалення трэба было ехаць у роднае мястэчка, а гэта азначала страшэннае прыніжэнне, бо там усе ведаюць адзін аднаго. Вырашыў застацца ў горадзе, дзе лягчэй уладкавацца, згубіцца, дзе кожны жыве сам па сабе. Але, як выявілася, нават пры наяўнасці вакансій, знайсці пры-

стойную працу быламу зэку вельмі цяжка. Са скрыпам неяк пралез у прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі і, дапамагаючы ў вывазе смецця, трапіў сюды, на гарадскі палігон бытавых адходаў. Пабываўшы тут усяго двойчы, прадпрымальны Кастусь скеміў: грошы ляжаць пад нагамі, трэба іх толькі падняць. Спачатку спрабаваў збіраць кардон, паперу і ўсё іншае сам, але зразумеў, што вялікага поспеху мець не будзе, патрэбна каманда. Былы прапаршчык прыплаціў мясцоваму міліцыянту, разагнаў канкурэнтаў-бамжоў, пакінуўшы тых, хто пагадзіўся працаваць на яго, Чапялу і Карася. Пасля натрапіў на Бугая і Фрыца, угаварыўшы іх пайсці да сябе. Крыху меней за год таму ў горадзе сустрэў двух былых зэкаў: Сыча і Кныша, якія бадзяліся без справы і грошай у кішэні. Выпадкова даведаўся, што Сыч знаходзіцца ў вышуку і даў зразумець: калі той хоча жыць не ў турме, хай ідзе да яго. А Кныш, нічога не маючы за душой, пагадзіўся лёгка. У той жа час да Рахубовіча прыліпла мянушка, якая зрабілася новым прозвішчам. А ўсё з-за таго, што ён меў звычку падганяць сваіх падначаленых:

— Чаго стаім? Капайма, капайма.

Тады бадзягі, крыху перайначыўшы слова, сталі зваць яго Капайлам, што зусім не турбавала былога вайскоўца: хутчэй забудуць сапраўднае прозвішча. Рахубовіч наладзіў добрыя сувязі з усімі, ад каго мог залежаць: з начальнікам палігона, мясцовым міліцыянтам, скупшчыкамі другаснай сыравіны. Цяпер ён валодаў інфармацыяй, ведаў, што прывязуць на сметнік і чым можна пажывіцца. Некалькі разоў на тыдзень прыязджала машына і вывозіла здабычу, а Капайла атрымліваў грошы. Нешта ён плаціў і сваім падначаленым, каб тыя працавалі з надзеяй на будучыню, тым больш, што на ўтрыманне працоўнай сілы значных выдаткаў не патрабавалася. Жыллё бадзягі зляпілі самі, а ён раз ці два на тыдзень даваў падначаленым таннага віна, купляў ім цыгарэты, а ежу тыя знаходзілі на сметніку. На працягу года ён збудаваў сабе маленькую хаціну і жыў тут. На сметніку Капайла адчуў сябе гаспадаром жыцця: былы прапаршчык — некаранаваны кароль. Грошы паціху сцякаюцца, і, мяркуючы па ўсім, праз два-тры гады ён зможа прыдбаць сабе невялікую кватэру. Як не круці, а жыццё наладзілася.

Капайла патушыў недакурак, апрануўся і вызірнуў на вуліцу: дзень абяцаў быць пагодлівым. Чарныш пачуў гаспадара, ціха заскавытаў і заскробся ў дзверы. Рахубовіч адчыніў і ўпусціў сабаку:

— Ідзі, ідзі да мяне, малы.

Капайла прылашчыў гадаванца, сабачка радасна закруціўся вакол яго, зазіраючы ў вочы. Адзіным, каго любіў і шкадаваў Кастусь, было гэтае малое калматае стварэнне. Знайшоў яго Капайла выпадкова тры гады таму, калі толькі стаў працаваць на сметніку. Абыходзячы зранку прывезеную кучу, пачуў адтуль слабы піск. Калі крыху разгарнуў смецце, то знерухомеў ад жудаснага малюнка: гукі падавала падрапанае і ледзь жывое шчанё. Невядомы жывадзёр, адняўшы ад сучкі шчанюкоў, жыўцом кінуў іх у бак са смеццем, а цудам выжыць пашанцавала толькі аднаму, які яшчэ крыху варушыўся. Жаль ахапіў Кастусёву душу, ён выцягнуў няшчаснага, выцер ад бруду і панёс да жылля. З тыдзень, як клапатлівая маці, выхаджваў спакутаванае шчанё, паіў з соскі, залечваў драпіны і ранку на шыі. Свайго гадаванца назваў Чарнышом — той быў спрэс чорны, з калматай поўсцю. Калі Чарныш падрос, то стаў самай адданай істотай на свеце, гатовай выканаць любы загад гаспадара. Падабалася Капайле і тое, што сабачка аказаўся разумным. З ім ніхто не займаўся, але ён усё разумеў з паўслова: калі Кастусь загадваў таму заставацца на месцы, малы чакаў, калі ж бачыў хоць якую пагрозу для гаспадара, смела кідаўся на любога.

Капайла выйшаў з хаты, зірнуў на бамжацкія буданы. Хутка павылазяць і яны, будуць доўга чухацца і пазяхаць, бурчаць адзін на аднаго, потым снедаць рэшткамі вячэры і расказваць пра свае сны. Усё гэта ён бачыць не першы дзень і не першы год. Сам жа, пасядзеўшы крыху з бадзягамі, пакіне Чарныша каля жылля і пойдзе ў штодзённы ранішні абход. Кожную раніцу, у любое надвор'е, ён рабіў абход гаспадаркі, каб ведаць, што адбылося за ноч на яго тэрыторыі. Як было, напрыклад, учора, калі ён знайшоў гэтага навічка, якому даў смешную мянушку Пятніца. Што гэта за фрукт, Капайла яшчэ не зразумеў, але ён нешта недагаворвае, хітрue, хоць і не выключана, што ў яго нешта з галавою. Ды нічога, хай папрацуе, а там будзе відаць, можа, і застанецца працаваць на карысць гаспадара, адрабляць свой хлеб. Калі ў яго ёсць нейкія прычыны, каб хавацца тут, хай сабе, рабочыя рукі спатрэбяцца.

Сонца тым часам паднялося вышэй, прыгрэла росную мураву на ўзгорку, і над травою закурэла лёгкая пара. На вярбе пра нешта заспрачаліся вераб'і, парушыўшы ранішнюю цішыню гучным ціўканнем. Недзе ў траве завалтузіліся і адазваліся піскам палёўкі, прымусіўшы навастрыць вушы Чарныша. Чыстае яснае неба надавала настрою і бадзёрасці. Капайла любіў вось такія ціхія раніцы, калі ніхто не перашкаджае застацца сам-насам, назіраць за абуджэннем наваколля, паціху думаць пра сваё. У крайнім будане нехта заварочаўся, і адтуль паказалася ўскудлачаная галава Карася.

— А, не спіш ужо, — буркнуў ён, — а я б паляжаў яшчэ, каб не прыспічыла.

— Уставай ды астатніх будзі. Я прайдуся пакуль, а вы збірайцеся і не цяліцеся доўга: сёння шмат працы, — зазначыў Капайла.

Карась нічога не адказаў, пазяхнуў і паплёўся ў бліжэйшыя кусты, а мясцовы начальнік, загадаўшы Чарнышу заставацца каля хаты, пайшоў на сметнік.

## 4

Лявон прачнуўся ад таго, што на вуліцы нехта гучна лаяўся. За тонкаю дашчанаю сцяною былі добра чуваць адборныя мацюкі. Ён прыслухаўся: падобна на тое, што там лаяліся паміж сабою Сыч і Карась.

— Я не хацеў, ты сам падсунуўся, — апраўдваўся Карась.

— Ды ты, шлындзік, яшчэ дзевак не мацаў, а ўжо зону таптаў, — крычаў Сыч, густа перасыпаючы сваю мову крутымі мацюкамі. — Глядзець трэба, куды кіпень нясеш, а то я табе хутка зрок папраўлю.

Лявон вылез з будана і агледзеўся: бадзягі збіраліся снедаць. Чапяла каля будана хлябаў учарашні булён, Бугай і Фрыц нешта жавалі, седзячы на траве, Кныш асцярожна пасміхаўся з таго, як лаюцца Сыч з Карасём. Але тыя ўжо разышліся ў розныя бакі, каб таксама паснедаць.

— А вось і яго вялікасць Пятніца, — спрабаваў было пакпіць з Лявона Карась, мабыць, дзеля таго, каб спагнаць сваё раздражненне. — Добрай раніцы, ваша вялікасць! Як спалі? Можа, вам кавы з булкай?

Ён дробненька засмяяўся, рассыпаючы гарохам свой смех, але Чапяла хутка абсек яго:

— Чаго ты вяжашся да чалавека? Еш моўчкі, хутка Капайла прыйдзе.

Карась змоўк, а Чапяла гукнуў Лявона:

— Ідзі, паеш, да абеду доўга чакаць. Во, тут яшчэ крыху булёну засталося.

Сухадольскі з удзячнасцю кіўнуў свайму абаронцу, падсеў да яго і плюхнуў у міску ўчарашняга варыва. У хуткім часе з'явіўся бос. Як толькі той падышоў да буданоў, усе заварушыліся, падняліся і выстраіліся ў рад.

— Так, — звыкла пачаў Капайла развод на працу, — слухай мой каралеўскі загад. Сёння павінна ўсё ж прыйсці машына з завода металавырабаў. Як толькі прыедзе — усе туды. Калі пашанцуе, то можам няблага зарабіць. Таксама павінны быць машыны з малаказавода і, галоўнае, з мясакамбіната.

Бадзягі дружнымі воклічамі падтрымалі прыемную навіну.

— Таму я і кажу, — узвысіў голас Капайла, — у шапку не спаць. Працы шмат. А цяпер усе наперад, на сметнік, калі што, сам паклічу.

Лявон бачыў, што капанне ў смецці ўсім даўно абрыдла, але, мабыць, іншага выйсця не бачылі, бо адпачываць ніхто не садзіўся. На працягу ўсяго дзвюх гадзін працы Капайла сам некалькі разоў нечакана з'яўляўся і глядзеў, ці не сачкуе хто. Хутчэй за ўсё ён неяк караў сваіх падначаленых, таму яны нават не спрабавалі адпачыць дзе-небудзь у прахалодзе. Сухадольскі крыху прыцярпеўся да смуроду і міжволі паглыбіўся ў свае думкі. Так, мабыць, яго шукаюць дома і на працы — усюды вэрхал. Шкада, канечне, бацькоў. Хутчэй за ўсё, Валя шукала яго там, а потым ужо паведаміла ў міліцыю. Але нічога, хай пабегае, хай пахвалюецца, бачыш ты, на дурніцу жыла, усё мела, і ёй мала. Можа, трэба было проста адлупцаваць яе? Не, ніколі ён не ўзнімаў руку на жанчыну і не будзе, лепш проста развесціся. Але яна забярэ з сабою сына, вось што самае дрэннае. Нечакана яго думкі спыніў крык Капайлы:

— Усе сюды! З мясакамбіната прыйшла машына.

Бадзягі навыперадкі, хто як мог, паспяшаліся за босам, што стаяў каля свежай кучы. Звонку яна нічым не адрознівалася ад іншых, але насельнікі сметніка, здаецца, ведалі, што іх можа чакаць. Яны з імпэтам узяліся за працу і праз нейкі час выграблі з два дзясяткі палак каўбасы з пахам, яшчэ нейкіх адходаў, на якія Лявон раней і не зірнуў бы. Цяпер жа ён разумеў, што калі гэта ўсё прамыць і адварыць, то будзе даволі прыстойная ежа для мясцовых насельнікаў, якія за гадзіны працы паспелі знайсці з паўмяха мясных прысмакаў, хоць і ўмоўнай якасці. Да абеду яшчэ паспелі разгрэбці кучу смецця з завода металавырабаў, але здабытак там аказаўся не такім, як разлічваў Капайла: да вывазу старанна падрыхтаваліся там, на месцы. Хмуры бос незадаволена касавурыўся на тое, што змаглі знайсці падначаленыя: два невялікія скруткі дроту, некалькі металічных балванак ды два вядры рознай драбязы.

— Сёння не пашанцавала, — сказаў Бугай Сухадольскаму, — а вось тым разам мы ледзь перацягнулі знойдзенае. Капайла няблага атрымаў, нам па бутэльцы чарніла даў і грошай крыху. Добра было.

Ён аж прыцмокнуў ад прыемных успамінаў. Лявон уздыхнуў: вось і ўсё шчасце, ці шмат чалавеку патрэбна. Мо і яму не так шмат трэба?

Абедалі даволі позна, недзе каля паловы другой. Перамыўшы знойдзеную каўбасу, лепшую бадзягі адразу парэзалі на стол разам з памідорамі і агуркамі, у ход пайшло і ўчарашняе пячэнне. Пасля абеду Капайла недзе знік, і насельнікі буданоў, карыстаючыся момантам, разлягліся хто дзе. Сухадольскі бачыў, што Чапяла ставіцца да яго неяк больш добразычліва, чым іншыя, таму прымасціўся побач.

— Не спіцца? — варухнуўся Чапяла.

— Ды не, сёння добра адаспаўся. А вы чаго не спіце?

— Таксама не хочацца.

— Прабачце за пытанне, — Лявон зірнуў на субяседніка. — Колькі вам год?

— Колькі, пытаеш? Думаеш, стары надта, — усміхнуўся той. — Яно як лічыць: калі па гадах, то не надта, калі па тым, што пражыў, то стары, а па дакументах, якіх няма, то пяцьдзясят толькі будзе. Жыццё састарыла.

— Прабачце, калі што не так.

— Не, нічога, ты добры чалавек. Павер, я шмат пабачыў за сваё жыццё. Але, ведаеш, калі б мне ў дваццаць год сказалі, што некалі буду жыць на сметніку, я б са смеху памёр. Бо жыў пры добрых, адукаваных бацьках, у класе быў камсоргам, боксам займаўся. Праз яго ўсё і пайшло. Пасля школы паступіў у тэхнікум, з дзяўчынай сустракаўся. Нейк мы гулялі з ёю, а да нас кампанія прычапілася, абразілі яе, слова за слова, я заступіўся, і таму, што чапляўся да дзяўчыны, паказаў, сапраўдны бокс. Як гэта бывае ў бойках, не разлічыў сілу і зламаў яму сківіцу. А ў таго бацька — пракурор горада, і мяне ўпяклі на два гады. Пакуль сядзеў, дзяўчына пайшла замуж. Выйшаў, стаў думаць, куды дзецца, бо пра навуку давялося забыць, мяне адлічылі з тэхнікума. Цяпер, тых хто адседзеў, не надта хочуць на працу браць, а раней — тым больш. Сяк-так уладкаваўся ў рэмбудтрэст. Спачатку простым рабочым, пасля вывучыўся на шафёра, стаў вазіць на аб'екты будматэрыялы. Праз некалькі месяцаў да мяне падыходзіць загадчык склада, партыйны, дарэчы, ды і кажа: маўляў, ты хлопец неблагі, таму прапаную простую схему: я загружаю табе лішнія матэрыялы, а ты адвозіш, куды скажу, зразумела, не бясплатна. Я адказаў, што красці не буду і паабяцаў, што калі яшчэ паспрабуе падысці, то патэлефаную куды трэба. А ён мне ў адказ кажа, што я — зэк. Таму не трэба рабіць з сябе нявінную авечку. Я не стрымаўся, даў яму па вуху, а ён, гад, не забыўся. Недзе праз месяц выязджаю праз прахадную, а мяне міліцыя затрымлівае, знаходзіць матэрыялы без дакументаў на немалую суму. Выявілася, што нехта патэлефанаваў начальніку трэста і паведаміў, што на маім аўтамабілі будуць вывозіць крадзенае. Зразумела, чыіх рук гэтая справа, але мне ніхто, канечне, не паверыў: там жа член партыі, сумленны і паважаны, чалавек. Так я зноў трапіў за краты. Адседзеў пяць год і вырашыў, што больш у горад не паеду, досыць з мяне гэтых партыйцаў і пракурораў. З адным таварышам, што разам тэрмін адбывалі, паехаў у вёску, лёгка ўладкаваўся ў калгас шафёрам. Спачатку працаваў на «газончыку», потым даверылі калгасны аўтобус, бо не піў, працаваў старанна. Жыццё пачало наладжвацца, з жанчынай пазнаёміўся, сталі жыць разам. І вось неяк у сакавіку загадаў старшыня везці вяселле ў суседнюю вёску, а да яе, калі па дарозе, — больш як пяцьдзясят кіламетраў, калі напрасткі, праз рэчку, — усяго пяць. Таму на мяне ўсе накінуліся: давай праз рэчку, маразы зімою моцныя былі, лёд вытрымае. Я, як адчуваў, казаў, што не буду рызыкаваць, але маладыя сталі мяне прасіць так настойліва, што прыйшлося пагадзіцца. Паехалі, хвалююся сам, а яны ўсе п'яныя, песні спяваюць.Ужо недзе бліжэй да другога берага аўтобус раптам правальваецца пад лёд. Яно не надта і глыбока там, нават крыху верх аўтобуса быў бачны, ды ўсе п'яныя, пакуль валтузіліся, спрабавалі дзверы і вокны адчыніць, утапіліся. Я каго змог выцягнуў, але загінула дзесяць чалавек, у тым ліку і маладыя. Не ведаю, як вытрымаў такое, хацеў на сябе рукі накласці, але людзі не далі, выцягнулі з пятлі. Што ні кажы, а вінаваты ўсё роўна я. На судзе прасіў, каб мяне расстралялі, бо не мог глядзець бацькам маладых у вочы. Мне ж толькі далі васямнаццаць год. Адседзеў пятнаццаць, крыху раней выпусцілі за прыкладныя паводзіны, і я адразу паехаў у вёску, на могілкі. Прыбраў магілы ўсіх, хто загінуў падчас той аварыі, кветак купіў і з'ехаў. Ведаеш, нікога не хацеў бачыць, хацелася схавацца як мага далей ад людзей, каб яшчэ каму не нашкодзіць. Вось тады я і зламаўся. Бадзяўся спачатку, не ведаў, куды сябе дзець, а потым неяк асеў вось тут, на сметніку. Потым з'явіўся Капайла, прыйшлося, каб не шукаць іншае месца, падпарадкавацца яму. Так вось і жыву на гэтым свеце — з болем, без надзеі, але гэта мой лёс, мой крыж, таму я ні на каго не наракаю.

Лявон, уражаны балючай споведдзю, не знайшоў патрэбных слоў і нейкі час маўчаў. Як жа, бывае, бязлітасна б'е жыццё людзей, а ён ускіпеў ад пазаўчарашніх

абставін: самая сапраўдная дробязь ў параўнанні з тым, што расказаў Чапяла, не-не, Іван, ніколі ён не будзе зваць гэтага чалавека недарэчнай мянушкай, а толькі па імені.

— А чаму вы не паехалі дахаты? — асцярожна пацікавіўся ён у Івана.

— Спачатку не змог, каб не рабіць бацькам балюча, бо ім пад семдзесят ужо, толькі паведаміў пісьмом, што жывы. А цяпер і не хачу, каб яны нават ведалі, дзе я: хай лепш спадзяюцца, што недзе жыву і ў мяне ўсё добра. Толькі ці жывыя яны яшчэ? Даўно не пісаў ім.

Побач, закінуўшы рукі пад галаву, ляжаў Карась і жаваў зялёную сцяблінку.

— Стары знайшоў свежыя вушы, вось і пляце свае байкі, — усміхнуўся ён, — нямала я наслухаўся іх.

— Вядома наслухаўся, — пагадзіўся Чапяла без ценю крыўды на кпіны Карася. — Мы тут жывём не першы год, ты пра мяне ўсё ведаеш, я пра цябе. Чаму б і табе не расказаць?

— А што мне расказваць? — Карась пацiснуў плячамі. — Гэта ў цябе суцэльныя прыгоды: бокс, турма, трупы, а ў мяне ўсё проста: дзетдом, калонія, сметнік.

— А чаму цябе Карасём завуць? — спытаў Лявон.

— Як чаму? — фыркнуў той. — Бо прозвішча маё Карасёў.

— Ты бацькоў зусім не памятаеш?

— Чаму гэта не памятаю? — шчыра здзівіўся Карась. — Я ў дзіцячы дом трапіў у адзінаццаць год. Мае бацькі пілі, і іх пазбавілі бацькоўскіх праў, забралі нас усіх чацвярых. Спачатку мне вельмі спадабалася ў дзетдоме: кармілі добра, апраналі, з намі займаліся выхавальнікі, гулялі ў розныя гульні. А дома што — елі раз на дзень, а то і радзей, насілі абноскі нейкія, у хаце зімой холадна, п’яны тлум. Але, самае цікавае, праз год ці меней засумаваў я па доме, па таварышах сваіх, захацелася бацькоў пабачыць, хоць тыя ні разу не наведалі нас. Уцёк, даехаў, а там — хаты няма, згарэла, куды бацькі падаліся, ніхто з суседзяў не ведаў. Крыху пабадзяўся, потым мяне злавілі, адвезлі зноў у дзетдом. Да мяне там інакш пачалі ставіцца, я рабіў усё на злосць выхавальнікам, чым далей, тым больш. Тады я зноў уцёк, трапіў у кампанію такіх жа, як і я, мы пацiху кралі, пакуль нас аднойчы не затрымалі. Потым было яшчэ шмат падобнага, бо рабіць я нічога не ўмеў і не хацеў. А потым (не памятаю калі ўжо) неяк сышоўся во з гэтым, старым, Чапялою, падаліся сюды, абжыліся. Усё нядрэнна было, вольна жылі, ніхто не турбаваў, пакуль гэты не з’явіўся… — Карась скрывіўся і плюнуў, відаць, Капайла яму нечым насаліў.

— Што, з ім нясоладка?

— Ды ну яго, — зноў скрывіўся Карась, — прывык, як у сваім войску: станавіся, раўняйся, наперад — усё па раскладзе. Яго толькі грошы цікавяць, вядома, кусок, ён і ёсць кусок.

— Капайла — былы прапаршчык? — здзівіўся Лявон.

— Аняго ж, але адкуль табе ведаць. Гэта мы з Чапялою ветэраны сметніка, нам няма куды ісці, а вось чаго цябе сюды прынесла?

— Сам не ведаю.

Лявон разумеў, што ў нейкім сэнсе ён пагарачыўся, усё можна было вырашыць без лішніх прыгод. Але цяпер назад не павернеш, не ў яго характары адступаць: калі вырашыў правучыць Валю, то правучыць. Мо гэта нават і да лепшага.

У хуткім часе з’явіўся Капайла і зароў:

— Чаго разлегліся? Я ў вас пытаю: чаго разлегліся? Не скажаш, не пакамандуеш, дык яны да вечара ляжаць будуць. А ну марш на працу.

Неахвотна падняўшыся, бадзягі пацягнуліся на абрыдлы сметнік.

Працоўны дзень зноў скончыўся недзе а дзевятнаццатай гадзіне. На гэты раз Карась з дапамагой Лявона заняўся прыгатаваннем вячэры. Сыч з Кнышом, пакінуўшы працоўнае месца крыху раней, накапалі недзе бульбы, і Карась з Лявонам меліся стаўчы яе, прыправіўшы дробнапарэзанымі кавалкамі каўбасы. Капайла ў задуменні сядзеў на сваім ганку і курыў, Чарныш ляжаў каля яго, цікуючы адным вокам за тым, калі згатуюць вячэру. Астатнія насельнікі «вёсачкі» на чале з Сычом з гучнымі воклічамі рэзаліся ў карты. З азярца, парослага аерам і чаротам, пацягнуўся туман, збіваючыся ў лёгкія клубы, а над палянаю таўкла мак дробная машкара. Барвовае сонца ўжо больш як напалову схавалася за тонкай рысай лесу ўдалечыні, калі Карась паклікаў усіх вячэраць. Бульба разышлася ўмомант, галодныя бадзягі ўмялі амаль усё, што было згатавана. Бугай, вылізаўшы лыжку і заўважыўшы, што бос палагоднеў пасля вячэры, гукнуў:

— Слухай, Капайла, можа заўтра выдзеліш нам пакрыху, ужо два дні нічога не было.

— Ага, — падтрымаў яго Сыч, — у горле перасохла.

— Халера вас не возьме, — буркнуў у адказ начальнік, — не зарабілі яшчэ.

— Не зарабілі?! — ускочыў Сыч. — Ты гавары ды не загаворвайся!

І брудна вылаяўся.

— Закрыйся, Сыч, — зноў буркнуў Капайла, — заўтра будзем бачыць.

Калі сцямнела, усе пайшлі спаць, а Лявон доўга сядзеў каля вогнішча, варушыў дубцом вуголле і задумліва сачыў, як ляцяць у неба яркія іскры.

## 5

З раніцы Капайла чамусьці пакінуў пры сабе менавіта Лявона і Бугая: сказаў, што тыя пойдуць здаваць з ім нарыхтаванае. Пакуль бос хадзіў да шлагбаума, Сухадольскі з напарнікам, выцягнуўшы пакункі і мяхі, сядзелі ды чакалі яго загаду. Бугая, як падалося Лявону, нічога не цікавіла ў жыцці, апроч ежы і выпіўкі. За некалькі дзён, што ён бачыў гэтага бадзягу, той мала размаўляў, а калі нешта казаў, то гэта тычылася толькі вышэйназванага. Вось і цяпер Бугай сядзеў каля пакункаў, заплюшчыўшы маленькія вочкі, і драмаў, ці рабіў выгляд. Здалёк даносіўся шум аўтамашын, слабае кігіканне чаек і лёгкі пах гарэлага смецця.

— Спіш? — Лявон гукнуў напарніка.

— Не, так сяджу. А што больш рабіць? — ляніва адазваўся той.

— Даўно тут?

— Трэці год.

— Чаму ты тут, хіба няма дзе жыць?

— Раней было, а цяпер няма, — усё так жа лянiва адказаў Бугай, не расплюшчваючы вачэй. — А ты як тут апынуўся?

— Сапраўды не ведаю. Памятаю, як нехта б'е па галаве, потым цемень, а прыйшоў да сябе, то не памятаў, хто я, дзе жыў, што рабіў.

— Зразумела, — коратка адказаў суразмоўца, а Сухадольскі так і не зразумеў, паверыў той яму ці не.

— А ты што раней рабіў? — пацікавіўся Лявон.

Бугай паварушыўся, расплюшчыў вочы.

— Недзе ў вёсцы маці яшчэ жыве, але туды ехаць не хачу. Там, побач братава хата, пачне зноў ганяць, біцца будзе, а участковы мяне зноў у ЛПП здасць. Я ўжо два разы там быў, болей не хачу.

— Ты ніколі не працаваў?

— Ды не, у калгас крыху хадзіў, але якія там грошы. Я болей выпіваў, спачатку з заробку маці, а потым з пенсіі. А брат, перадавік, — Бугай пагардліва скрывіўся, — чапляўся да мяне — пабіліся мы. Участковы некалькі разоў садзіў мяне на суткі, а потым і ў ЛПП. Год я там адбыў, прыехаў і далей стаў піць, а мяне зноў туды, дзе быў, але ўжо на два гады. Я вырашыў не ехаць дахаты, бо ведаў, што чакае. Некаторыя ў ЛПП па пяць-шэсць разоў пабылі. Я з Фрыцам сышоўся і мы падаліся ў горад, вырашылі асесці. У Фрыца былая жонка там жыла, дзіця ёсць. Яна яго з-за п'янкі здала ў ЛПП, нават развесціся паспела. Але Фрыц такі: куды папіхнеш, туды і пойдзе.

— А чаму Фрыц?

— Дык прозвішча ў яго нейкае не нашае, — расплыўся ва ўсмешцы Бугай, — нямецкае — Лейнер. Сам казаў, што яшчэ з дзяцінства так клічуць, і ён не крыўдзіцца. Ну вось паспрабавалі мы папасці ў кватэру, а яго былая нас вытурыла. Ды яшчэ прыгразіла, калі будзем лезці, патэлефануе ў міліцыю. Куды было ісці? Мы крыху пацягаліся каля вакзала, неяк хаваліся, выжывалі, а потым на нас Капайла натрапіў, і цяпер мы тут. Ведаеш, я неяк прывык ужо, нічога, жыць можна. Ежы хапае, гэты кусок нам крыху грошай падкідае, жыць ёсць дзе, ніхто не чапае. Дрэнна толькі тое, што зімой халаднавата, бо калі яшчэ намерзнешся за цэлы дзень, увесь вечар адаграешся. Але Капайла тады нам часцей чарніла даваў — і нічога, зімавалі. Галоўнае — што ніхто цябе не турбуе: ні міліцыя, ні брат — ніхто.

— Дык ты лічыш, што тут можна ўсё жыццё пражыць?

— Уга, куды ты загнуў, хто ведае, колькі ён пражыве. Ты вось сам, жывы яшчэ, а калі б табе, як кажаш, па чарапку добра цюкнулі, то сёння са мною і не размаўляў бы, — лагічна выказаўся Бугай.

Пакуль яны размаўлялі, паказаўся Капайла:

— Гэй вы, цягніце ўсё да шлагбаума.

Узваліўшы на плечы мяхі і схапіўшы па немалому пакунку макулатуры, сагнуўшыся ад цяжару, яны пабрылі за босам. Наперадзе бег Чарныш, раз-пораз азіраючыся на гаспадара і весела цяўкаючы на чорных груганоў, што сядзелі на ўскрайку сметніка. Прыйшлося хадзіць некалькі разоў. Цяжка сапучы, яны закінулі пакункі і мяхі ў белы грузавы мікрааўтобус, а Капайла адышоўся з гаспадаром аўтамашыны ўбок. Сухадольскі бачыў, як той дастаў з кішэні грошы, каб разлічыцца за груз.

Сёння бадзягі грэбліся каля вялізнай кучы, туды, пэўна, высыпалі не адну машыну смецця. На Лявона з Бугаём ніхто не звярнуў увагі, усе паціху корпаліся, зрэдку спыняючыся, каб пакурыць. Пакапаўшыся ўсяго некалькі хвілін, раптам ускрыкнуў Лявонаў напарнік:

— Ого, нядрэнна я капнуў!

Каля яго ляжаў электрарухавік ад нейкага станка. Бугай задаволена дадаў:

— Не, хай Капайла раскашэльваецца, за такую знаходку сама меней мне бутэлька зверху павінна быць. Тут жа столькі жалеза, ды яшчэ і медзь ёсць.

— Часта такія знаходкі бываюць? — Сухадольскі прысеў каля рухавіка.

— Не вельмі, але бывае, — адказаў за Бугая Чапяла. — Часцей пральныя машыны знаходзім, старыя лядоўні, тэлевізары ды шмат чаго яшчэ, а там каляровыя металы, разбіраем, і Капайла здае. Так што іншы раз прэміяльныя нам перападаюць, не без гэтага.

— Памятаеш, — падаў голас Кныш, — летась стары матрац знайшлі, а ў ім поўна грошай. Шкада, халера, што савецкія яшчэ, а то б ого-го…

Што хавалася за тым «ого-го», ён не ўдакладніў.

— От, каб чые залатыя запасы знайсці, тады можна было б зажыць, — падтрымаў гаворку Сыч.

— Што з таго золата, калі розуму няма, — адазваўся на яго словы Чапяла.

— Затое ты разумны вельмі, — пакпіў Сыч, — сядзіш на гэтым сметніку колькі год і здохнеш тут. А я, каб былі грошы і менты не шукалі, адразу б махануў за мяжу. Там не прападзеш.

— А я кажу: калі няма розуму, то і вялікія грошы дабра не прынясуць, ад іх толькі няшчасці і смерць. Багацце — гэта калі сям'ю добрую маеш, сваю хату, дзяцей. Вось што такое шчасце, — стаяў на сваім Чапяла і, цяжка ўздыхнуўшы, закурыў.

— Шчасце мне знайшоў — дзяцей, — ускіпеў Сыч. — Ды ты не ведаеш, як яно выглядае. Шчасце — калі ў цябе поўныя кішэні грошай і перад табою ўсе сцелюцца, заглядаюць у рот: ах, як вы, Пётр Сцяпанавіч, што вам падаць? А ты адпіхваеш іх нагою: пайшлі прэч, свінні, я адпачываю.

— Чаму ты так людзей ненавідзіш? — не стрымаўся Лявон.

— О, у новенькага голас прарэзаўся, — зыркнуў на яго Сыч. — А ты адкуль ведаеш пра жыццё? Можа, успомніў штосьці? Ці табе дапамагчы?

— Не, не ўспомніў, але так, як ты хочаш жыць, я не хацеў бы.

— Дык і маўчы, разумнік знайшоўся, — паспрабаваў падняць сварку Сыч, але яго ніхто не падтрымаў і спрэчка неяк сама па сабе заціхла.

Сыч, яшчэ крыху пабурчаўшы, стаў вяла, без усялякай ахвоты, корпацца ў кучы. Што казаць, няма з кім гаварыць, хіба яго зразумеюць гэтыя дурныя бадзягі, якія не ведаюць смак грошай? Вось ён ведае. Калісьці, у дзіцячым узросце, Пятрусь Сычоў вельмі зайздросціў суседу, Толіку Бяспаламу, які за бойку паспеў пабываць у месцах не вельмі аддаленых. Толік каралём хадзіў па двары, меў сваё кола сяброў і знаёмых, нейкі бліскучы пінжак, залаты зуб наперадзе і, галоўнае, грошы ў кішэні. Дзе ён іх браў, Пятрусь не ведаў, бо Толік нідзе не працаваў. Ён бачыў: яго бацькі, працуючы на фабрыцы і гадуючы траіх дзяцей, не могуць дазволіць сабе таго, што можа сусед: хадзіць у рэстаран, шыкоўна прыбірацца, спяваць у двары блатныя песні. Петрусю вельмі хацелася спадабацца крутому Толіку: ён круціўся вечарамі каля суседа, слухаў песні «пра далёкі Магадан». Аднойчы той папрасіў аднесці нейкі пакунак свайму знаёмаму, што жыў у цэнтры горада, і хлопчык мігам выканаў даручэнне, за што атрымаў пяць рублёў — такое багацце! Праўда, праз год Бяспалага зноў пасадзілі за кватэрныя крадзяжы. Але Петруся такое развіццё падзей не збянтэжыла. Ён зразумеў, што за прыгожае жыццё трэба плаціць, затое які аўтарытэт: рэстараны, дарагія цыгарэты, модныя прыкіды.

Скончыўшы школу, Сычоў адразу пацягнуўся да Толіка, які з паўгода целяпаўся на волі. Толік не адмовіў у сяброўстве суседу і ў хуткім часе новенькі пайшоў на першую «справу». Пятрусь нервова курыў цыгарэты і часта азіраўся, аднак хваляванні аказаліся марнымі: усё прайшло на найвышэйшым узроўні. Сыч асмялеў і хутка стаў «працаваць» на ўзроўні са сталымі зладзеямі. Пятрусь цвіў ад гонару, курыў самыя дарагія цыгарэты, купіў шыкоўны пінжак і нахабна падміргваў маладым дзяўчатам у рэстаране. Самае горшае было тое, што яго павінны былі забраць у войска, на тэрміновую службу, але гэтага не здарылася: за месяц да прызыву Сычоў апынуўся за кратамі. Адбыўшы пакаранне, ён узяўся за старую справу і праз год зноў трапіў у калонію. Калі ж адбыў і гэты тэрмін, то пацягнуўся за сябрукамі ў сталіцу: там лягчэй схавацца і пракарміцца. Спачатку ўсё ішло добра, удала «ўзялі» дзве «хаты», а потым фартуна павярнулася да іх пятай кропкай. Хто ж ведаў, што на той кватэры, якую яны прыкмецілі ўдваіх з Босым, жыве маёр. Ён, на сваю бяду, нарваўся на іх, калі зладзеі пераварочвалі маёмасць у пошуках золата. Маёр

выцягнуў пісталет, паставіў іх да сцяны і стаў званіць у дзяжурную частку. Не, так па-дурному папасціся і зноў ісці за краты Петрусю зусім не хацелася і, міргнуўшы саўдзельніку, ён накінуўся на маёра, але той не збіраўся здавацца: неяк выкруціўся і стрэліў. Ён трапіў у Босага, той грымнуўся на падлогу, але Пятрусь паспеў стукнуць міліцыянта па галаве цяжкай крыштальнай вазай. Схапіўшы зброю і вырашыўшы, што Босы нежывы (той быў увесь у крыві), ён кінуўся наўцёкі. Але хто ж мог падумаць, што маёр сканае, а саўдзельнік Сыча застанецца жывы. Так Сыч стаў асабліва небяспечным злачынцам, якога шукала міліцыя па ўсёй краіне: ледзь не на кожным слупе вісела яго фотакартка. Хаваючыся ад міліцыі, Пятрусь выпадкова пазнаёміўся з Кнышом, разам з ім неяк перабіваўся каля месяца, пакуль на іх не натрапіў Капайла. Той прапанаваў пайсці з ім, папрацаваць крыху, абяцаючы ўзамен нейкія грошы і бяспеку, бо на сметнік ніхто не палезе, у яго, маўляў, усё схоплена. Абдумаўшы Капайлавы словы, Сыч зразумеў: гэта найлепшы варыянт, трэба залегчы на дно на нейкі тэрмін, пачакаць пакуль усё аціхне і пра яго забудуць. Тады можна будзе паслаць куды падалей сквапнага да грошай ваяку, можна нават «замачыць» і зажыць, як раней. Канечне, корпацца ў смецці і есці чорт ведае што — не лепшы варыянт, прыйдзецца паступіцца гонарам злодзея. Ды была яму ў той час нявыкрутка, а пасля ён яшчэ пагуляе, у яго ўсё яшчэ наперадзе. Тым больш, што ён едзе на запалоханым Кнышу: той палову свайго барахла аддае яму, працуючы за Сыча і за сябе.

Увечары Капайла выдаў бадзягам чаканую пайку: па бутэльцы чарніла кожнаму. Лявон аддаў сваю бутэльку Чапяле. Праз нейкі час Бугай пакрыўджана зароў:

— Капайла, я ж сёння знайшоў рухавік, мне прэмія павінна быць.

— Абыдзешся, другім разам.

— Калі так, то, другім разам, я закапаю знаходку ў сметнік, — яшчэ больш пакрыўдзіўся Бугай.

— Ты мне не пагражай, — вызверыўся бос. — Тут я кароль і сам магу любога з вас закапаць, лепш смакчы сваю бутэльку і маўчы.

Бугай насупіўся і адвярнуўся, але праз хвіліну Капайла чамусьці перадумаў і гукнуў яго:

— Ідзі, бяры, так і быць, памятай маю дабрыню.

Той моўчкі ўзяў бутэльку і пасунуўся да будана. У гэты вечар разамлелыя і падабрэлыя насельнікі сметніка доўга сядзелі ля вогнішча, распавядаючы адзін аднаму даўно вядомыя гісторыі са свайго жыцця. Лявон з цікавасцю слухаў байкі, у якіх праўда перапляталася з прыдумкамі. Капайла сам не піў, і не толькі з бадзягамі, але ўвогуле рэдка ўжываў алкагольныя напоі, бо лічыў, што спіртное дрэнна ўплывае на розум. А той яму вельмі патрэбны, каб складаць рубель да рубля, каб зарабляць і збіраць грошы — самае галоўнае ў яго жыцці.

## 6

З ночы хмурылася і паказвала на дождж, але хмары расцягнула халаднаватым пранізлівым ветрам, неба пасвятлела, бліснуўшы адчужанымі восеньскімі промнямі. Вецер сціх, а лёгкая, ледзь улоўная смуга, якая павісла над наваколлем, накрыла зямлю ціхім сарамлівым сумам і лагоднаю шчымліваю журбою. Зрэдку ў вышыні сумным рэхам адзываліся далёкія галасы птушыных чародак, што адляталі ў вырай. Усё гэта напаўняла сэрца і душу неверагодным жалем да праляцелага лета, няпэўнай будучыні і свайго няўдалага лёсу. Кныш адышоўся па патрэбе крыху ўбок ад кучы

смецця і спыніўся, узіраючыся ў вераснёўскае неба. Што яно прынясе яму, што будзе з ім далей? Эх, жыццё…

Кныш — а гэта прозвішча прыляпілася да Сяргея Каношкіна яшчэ са школы — колькі сябе помніў, заўсёды нечага баяўся. Чаму Сяргей нарадзіўся такім баязліўцам, ён і сам не ведаў, але пераадолець сваю слабасць не мог. У дзяцінстве баяўся заставацца адзін у цемры, палохаўся розных ценяў, рэзкіх гукаў, нават певень іншы раз ганяў яго па ўласным падворку. Маці так часта вадзіла яго да нейкай сівой бабулькі выбіраць пярэпалах, што тая здзіўлялася:

— І што гэта за хлопец у цябе, Настася, далібог, як дзяўчынка.

У школе яго крыўдзілі ўсе, хто не ленаваўся. Таму Кныш рос ціхім, забітым і непрыкметным, вучыўся слаба, і настаўнікі проста дацягнулі яго да заканчэння школы. Пасля школы цэлы год працаваў у калгасе і з жахам уяўляў, што будзе, калі яго забяруць у войска. Пра «дзедаўшчыну» шмат расказвалі хлопцы, якія паспелі адслужыць тэрміновую. Сяргей вельмі баяўся, што з яго будуць здзекавацца. Яго прадчуванні спраўдзіліся яшчэ на перасыльным пункце, бо два нейкія хлопцы адабралі ў яго грошы. У войску на першым месяцы, да прысягі, Кныша ніхто не чапаў: дысцыпліна была жорсткая. Затое потым, калі іх, «духаў», далучылі да старэйшых прызываў, «дзяды» паднялі маладых у першую ж ноч. Сяргей не вытрымаў, калі білі бляхай па грудзях, пусціў слязіну, хлюпаў носам і гэтым прынізіў сябе ў вачах усёй роты. З таго часу яго лічылі мамчыным сынком, кідалі на самую брудную працу, піхалі ў плечы і здзекаваліся з баязлівага і слабавольнага хлопца. Не вытрымаўшы, Кныш уцёк з войска, бадзяўся некалькі месяцаў, пакуль яго не злавілі і далі паўтара гады дысцыплінарнага батальёна. Пасля, калі ён даслужваў у часці, за месяц да звальнення ў запас, «дзяды» пацягнулі яго з сабою на начную дыскатэку, бо адмаўляцца Сяргей пабаяўся. Там завязалася бойка з мясцовымі, і, хоць Кныш з самага пачатку забіўся ў куток, міліцыя затрымала іх усіх як зачыншчыкаў. Да ўсяго ж, падчас бойкі моцна збілі аднаго хлопца і ён застаўся інвалідам. Доўга не разбіраючыся, усім затрыманым салдатам далі па тры гады, у тым ліку і Кнышу. Падчас адбывання пакарання адбылося неверагоднае: зэкі ўчынілі ў калоніі бунт, і, пакуль не было спецназа, некалькім дзясяткам зэкаў удалося збегчы. У іх ліку, канечне, апынуўся і Кныш, якога ўцекачы пацягнулі за сабою. Зэкі разбегліся ў розныя бакі. Спачатку Сяргей хаваўся ў таварным цягніку з аднакамернікам Вальтэрам, але па дарозе той недзе адстаў. Кныш бадзяўся ў пошуках ежы і жылля, бо дахаты вяртацца баяўся, а потым сустрэўся з Сычом. Сыч хутка падгроб яго пад сябе, разам ім было лягчэй выжываць, затым іх прыгрэў Капайла. Тут Сяргей таксама стараўся нікуды не лезці, чакаў, што ўсё гэта скончыцца само па сабе, як страшны сон, і ён вернецца дахаты, у сваю вёску. Сёння, гледзячы на восеньскую смугу і далёкае халоднае неба, Кныш успомніў, што дома, мабыць, ужо выкапалі бульбу, маці недзе цярэбіць буракі, а па вёсцы разносіцца пах спаленага бульбоўніку. Так, пэўна маці чакае яго, працуючы, азіраецца назад: ці не ідзе яе Сярожка, яе сыночак. Калі ж яна дачакаецца?

Кныш, выцершы тыльным бокам далоні няпрошаныя слёзы, падыбаў да кучы: трэба рабіць, боязна — нарвецца часам Капайла, будзе крычаць. Ён падняў свой кіёк, прыладкаваўся каля Лявона і хуткімі рухамі стаў разграбаць смецце. Кій раптам упёрся ў нешта цвёрдае. Кныш яшчэ раз варухнуў кучу і ўбачыў, што гэтае цвёрдае — ні што іншае, як запэцканы чорны дыпламат. Зацікаўлены, ужо рукою разгроб смецце і выцягнуў знаходку, якую заўважылі і іншыя бадзягі. Усе пацягнуліся да Кныша, а той стаяў і глядзеў то на іх, то на дыпламат. Сыч адразу падышоў да Кныша:

— Чаго стаіш? Давай праверым, што там.

Ён прысеў, спрытна шчоўкнуў замкамі і адкінуў верх. Ад убачанага бадзягі знерухомелі, стаіўшы дыханне, цішыню парушалі толькі крыкі чаек і хрыплае карканне груганоў: дыпламат быў набіты доларамі, складзенымі ў пакункі, шчыльна прыціснутымі адзін да другога. Цяжка сказаць, колькі там ляжала грошай, але нават з першага позірку было зразумела, што шмат. Цяжка дыхаючы, Сыч павярнуўся да іх тварам:

— Мужыкі, гэта ж такое багацце, вы разумееце? Тут на ўсіх хопіць, нават я ніколі столькі грошай не бачыў. Ну, Кныш, ты і адкапаў.

Кныш разгублена ўсміхаўся, не верачы сваім вачам і неяк жаласліва паўтараў:

— Як жа так, адкуль жа гэта, хлопцы, га?

Хлопцы і самі не маглі зразумець, адкуль такія грошы на сметніку, хто іх мог выкінуць вось так проста.

— А можа, яны фальшывыя? — падаў голас Карась.

— Сам ты фальшывы, — адказаў Сыч, уважліва агледзеўшы купюры, — я грошай нямала пабачыў, не тое, што вы — фраеры недатоўчаныя. Карацей так: Капайле нічога не кажам, дыпламат прыхаваем, а потым усё падзелім пароўну. Згода?

— Згода, — пачулі ўсе за сваімі спінамі голас Капайлы і аж страпянуліся ад нечаканасці. А той працягнуў:

— Што гэта вы тут сабраліся дзяліць без мяне, пакажыце.

Усе расступіліся. Сыч, нядобра зірнуўшы на боса, толькі крыху пасунуўся ўбок. Капайла спачатку знерухомеў, убачыўшы грошы, у яго аж заняло дыханне і пацямнела ўваччу: ці магчыма такое? Але хутка прыйшоў у сябе, нахіліўся, зашчоўкнуў дыпламат і павярнуўся да бадзяг:

— Усё правільна, цяпер прыхаваем, а вечарам падзелім па-брацку.

Кажучы гэта, ён націснуў на апошнім слове, і яно прагучала як пагроза. Кныш баязліва зморшчыўся, Чапяла пераглянуўся з Лявонам, Фрыц нервова варухнуў кадыком, Карась сціснуў кулакі, Бугай шумна ўздыхнуў, і толькі Сыч уголас адрэагаваў на такое развіццё падзей:

— Гэта не тваё, Капайла, не чапай, гэта наша, мы знайшлі дыпламат.

— Па-першае, вы працуеце на мяне, і калі ты забыў, то ўсё знойдзенае павінны аддаваць мне. Па-другое, я не збіраюся забіраць усё сабе, я сказаў, што падзелім, трэба пачакаць. Бо, па-трэцяе, можа аб'явіцца і гаспадар гэтага багацця, і я лепш, чым вы, магу з гэтым разабрацца, — суха працадзіў скрозь зубы начальнік.

— Мы не верым табе, — выгукнуў Сыч, — ты хочаш сабе ўсё захапаць.

— Ты на каго рот разявіў? — вочы Капайлы звузіліся, і ён павярнуўся да былога зэка. — Забыў, хто цябе прыгрэў? Каб не я, даўно б парыўся на зоне ці, нават, расстралялі б. Хочаш, пайду і патэлефаную, куды трэба? Таму лепш маўчы і слухай, што я гавару: падзелім.

І бос абвёў падначаленых разгневаным позіркам. Сыч раззлавана сплюнуў, астатнія прамаўчалі, а Капайла з дыпламатам пайшоў да жылля.

— Уцячэ, гад, з нашымі грашыма, — Сыч павярнуўся да ўсёй суполкі. — А мы будзем маўчаць? Не, лепш я пайду і заб'ю гада, пакуль не збег. Вы са мною?

Яго пытанне павісла ў паветры. Адзін Чапяла, крыху памаўчаўшы, паспрабаваў супакоіць раззлаванага Сыча:

— Нікуды ён не дзенецца, я яго крыху ведаю. Супакойся.

Сыч вылаяўся і дастаў цыгарэты. Працаваць пасля такой знаходкі ніхто ўжо не хацеў. Бадзягі закурылі, прыселі каля кучы, абмяркоўваючы апошняе здарэнне.

— Як толькі атрымаю грошы, адразу зраблю пашпарт і махну адсюль за мяжу. Там з грашыма ты — чалавек, ніхто цябе не чапае, — зазначыў Сыч.

— А я куплю кватэру ў сталіцы, машыну, буду адпачываць і хадзіць у самыя крутыя рэстараны, — са смакам зажмурыўся Карась.

— Навошта раскідаць грошы, — выказаўся Бугай, — я лепш куплю добрую хату ў вёсцы — і тады мне хопіць на гарэлку да смерці. І яшчэ заплачу хлопцам, каб адмалацілі ўчастковага, што ўпёк мяне ў ЛПП. І будзе жытуха…

Маленькія вочкі бадзягі аж засвяціліся ад будучага задавальнення.

— Я куплю самую лепшую кватэру ў горадзе, адзену дарагі касцюм і да сваёй былой. Пыхну ў нос цыгарэтай, патрасу доларамі і паеду дахаты на мерседэсе. От тады хай яна пашалее ад зайздрасці, — выдыхнуў Фрыц.

— І я, мужыкі, куплю сабе кватэру, зраблю новы пашпарт, каб мяне ніхто не адшукаў і забяру да сябе маці. Буду жыць ціхенька, сам па сабе, — нясмела агучыў сваю мару Кныш.

Пасля яго павісла цішыня.

— А вы чаго маўчыце, ці вам грошы не патрэбны? — звярнуўся Сыч да Лявона і Чапялы.

Стары падумаў нейкі момант і адказаў:

— Што мне з тых долараў? Яны не дадуць ні шчасця, ні здароўя, а хадзіць па рэстаранах я не прывык. Мне б крышку грошай, каб паставіць добрыя помнікі на магілах тых людзей ды адаслаў бы бацькам, калі яшчэ жывыя.

Лявон, пакуль усе прысутныя марылі пра тое, як скарыстаць нечаканае багацце, думаў: сапраўды, а што б ён рабіў са сваёй доляй? У яго ёсць свая хата, машына, ён не збіраецца нікому помсціць. Сапраўды, што рабіць з грашыма, калі атрымае? Не тое, каб ён вельмі багаты, грошы заўсёды спатрэбяцца, але мае рацыю стары Іван — не ў іх шчасце, а, як ён казаў, у надзейнай і трывалай сям'і, каханні, добрых дзецях, здароўі, у самых простых рэчах. А гэта разумееш толькі тады, калі губляеш. Некалькі складнікаў, але ўсе яны вельмі важныя, каб адчуваць сябе шчаслівым, няма аднаго — і шчасце няпоўнае, а гэта ўжо не тое. Таму ён не ведае, што рабіў бы з доларамі са сметніка.

— Гэй, а ты, фраер, што рабіў бы са сваёй доляй? — вывеў яго з задумення голас Сыча.

— Не ведаю, пакуль не ведаю, — шчыра прызнаўся Лявон.

— Што з цябе ўзяць, — грэбліва зморшчыўся Сыч, — мазурык балотны. — Усё, мужыкі, баста, кідай працу, хай той сквалыга сам цяпер грабецца ў смецці. Мы цяпер маем грошы, у нас сёння свята, будзем гуляць. Пайшлі.

Бадзягі дружна падтрымалі яго, сметнік даўно абрыдзеў ім. Загалдзеўшы, як чародка патрывожаных гракоў, яны павярнулі да буданоў. Як толькі ўсё аціхла, з кучы смецця высунуўся тлусты шэры пацук з даўжэзным хвастом, прыўзняў угару вусатую пысу і, асцярожна панюхаўшы паветра, маланкаю сігануў некуды ў глыбіню сметніка.

## 7

Капайла ўпэўнена крочыў да сваёй хаты, адчуваючы, як прыемна абцяжарвае руку чорны дыпламат. Не, вагі ў ім няшмат, але колькі каштуе такая вага! Вось яно, шчасце, не дарма сядзеў у калоніі, не дарма гніў на сметніку з бадзягамі — цяпер ён узнагароджаны за ўсе свае пакуты. Ён пакуль і не ўяўляў, з чаго пачне сваё новае жыццё і куды паедзе, але гэта не істотна. Галоўнае, што багацце ў яго руках, ён валодае цэлым дыпламатам долараў, толькі ён. Тое, што ніхто больш нічога не атрымае,

Капайла ведаў з таго самага моманту, як убачыў грошы. Ці ж яны, нікчэмныя бамжы, зэкі, маюць якое права на гэтае багацце, **яго** багацце? Не, і яшчэ раз не, бо толькі ён мае права быць каралём жыцця. А гэтым трэба толькі адно — пляшка чарніла. І яны яе атрымаюць. Сёння ён дасць ім яго ўволю, хай жаруць, глыкаюць, а потым, цёмнаю ночкаю, калі яны ўсе паснуць, былы вайсковец Кастусь Рахубовіч, зэк і некаранаваны кароль сметніка Капайла згіне назаўсёды, каб пачаць новае жыццё, якое так доўга яго чакала. А дыпламат, пакуль што трэба прыхаваць у патаемным месцы. Ён пакруціўся каля хаты: дзе ж схаваць, каб ноччу без цяжкасці адшукаць грошы, але каб ніхто іншы не змог на іх натрапіць? Падумаўшы, скіраваў да крайняга будана, адлічыў ад яго дзесяць крокаў, спыніўся і разгроб пясок каля нізкага, даўно струхлелага пня. Вось так, кругом роўненькі шэры пясочак, ніхто не здагадаецца, што тут нешта ляжыць. Задаволена хмыкнуўшы, пайшоў назад, прысеў на ганку і з выглядам чалавека, які скончыў цяжкую і адказную працу, закурыў.

Бадзягі вярнуліся да буданоў, як ніколі рана і з шумнай гамонкай: яны ўзмахвалі рукамі, пра нешта спрачаліся. Сычу вельмі хацелася, каб Капайла зачапіў іх, спытаў, чаму яны зарана вярнуліся, але той змаўчаў. І тады ён гучна, каб чуў бос, звярнуўся да Бугая з Фрыцам:

— Дык што, у нас сёння свята, так, мужыкі? Па бутэлечцы ды будзем дзяліць нашы грошы.

Ён падкрэсліў апошнія словы. Капайла адрэагаваў на яго вокліч спакойна, нават абыякава:

— Чаму б і не адзначыць, я не супраць. Цягніце, што ёсць на стол, а выпіўка за мною.

Ён устаў, крутнуўся ў хату і праз хвіліну вынес цэлую торбу моцнага напою: акрамя шасці бутэлек таннага віна, на стале выстраіліся і чатыры бутэлькі гарэлкі. У Бугая і Фрыца загарэліся вочы, а Капайла, абвёўшы ўсіх загадкавым позіркам, спыніўся на Лявоне і Чапяле.

— Калі свята — то гуляюць усе, я падкрэсліваю — усе.

Сказаўшы гэта, ён дадаў:

— Нам няма куды спяшаццца, таму, калі ласка, усё гэта ваша. А потым, калі ўсе будуць у добрым настроі, падзелім грошы, нікуды яны не дзенуцца.

— А ты? — запытальна глянуў на яго Сыч.

— І я разам з вамі, гуляем усе, — Капайла згодна хітнуў галавою.

Лявон бачыў, што Сыч не давярае босу і, мабыць, мае рацыю, бо і сам не асабліва верыў у праўдзівасць былога прапаршчыка. Але ён і не спадзяваўся на тое, што яму перападзе нейкая частка. Сапраўды, як дыпламат мог апынуцца на сметніку? Верагодна, грошы маюць нейкае дачыненне да крыміналу. А вось тое, хто іх уладальнік і ці будзе ён шукаць сваё дабро, пытанне адкрытае. Толькі хай яны тут самі разбіраюцца з грашыма, яму ўсё роўна. Цікава толькі адно: што будуць рабіць далей і сам Капайла, і бадзягі. Пэўна, што мясцовы кароль не захоча дзяліцца, але і гэтыя не лыкам шыты: вунь як зыркае спадылба Сыч ды кідае кароткія позіркі на боса Карась.

Тым часам мясцовае насельніцтва балявала, гучныя спрэчкі і размовы падпітых мужчын рэхам разносіліся па наваколлі. Спустошыўшы бутэлькі з «чарнілам», бадзягі ўзяліся за гарэлку. Капайла з кілішкам сядзеў воддаль ад кампаніі, але іншы раз уставаў, падыходзіў да іх і прапаноўваў чарговы тост:

— Давай, хлопцы, за нас, за наша багацце!

«Хлопцы» дружна падрымлівалі яго, але не ўсе: Сыч піў мала, крыху прыгубіўшы, ён адстаўляў кубак у бок і хмурыўся, Карась як быццам піў, але не хмялеў. Затое

Фрыц з Бугаём, дарваўшыся да дармовага, паспелі добра прыкласціся да бутэлькі — абодва ўжо ледзь-ледзь варочалі языкамі. Кныш яшчэ трымаўся, але і ў яго галава абвісла, як пераспелы памідор. Расчырванелы стары Чапяла ў спрэчкі асабліва не ўцягваўся, болей слухаў і глядзеў ў неба. Капайле, які выпіў мала, гарэлка ўсё-такі цюкнула ў галаву, і ён ужо сам палез нешта даказваць Сычу.

— Ты думаеш, што я звер, гэтакі гіцаль, здзекуюся з вас, нажываюся?

Наадварот, я падтрымаў усіх вас, не даў загінуць, усё вырашыў.

— Не ведаю, што ты вырашыў, але ж гарбацімся мы амаль задарма, — незадаволена адгыркнуўся Сыч.

— Бо я кароль, разумееш, кароль тут, а вы ніхто, і маё слова — закон!

— Бачыў я такіх каралёў, — зморшчыўся, як ад зубнога болю, Сыч. — Ты давай, цягні грошы.

— Хочаш паказаць, які ты разумны? Ты ўвесь час ваду баламуціш мне, забыўся, што я цябе прыгрэў, схаваў. Вось яна, падзяка, за мае турботы, — Капайла скрушна пахітаў галавою.

— Якія там турботы, даў некалькі рублёў на лапу — і ўжо дабрадзей.

— Добра-добра, пабачым… — ціха сказаў Капайла і сеў на ганак.

Раптам Чарныш завурчаў, потым падскочыў і зайшоўся тоненькім залівістым брэхам. Па сцежцы ад шлагбаума да іх размашыста крочылі чатыры дзецюкі моцнага целаскладу. Усе ў чорных акулярах, з каменнымі тварамі — яны выглядалі нейкімі тэрмінатарамі з галівудскага блакбастэра. У Лявона заныла пад лыжачкай: гэта яны. Дзецюкі, не зважаючы на брэх Чарныша, набліжаліся да буданоў.

— Чарныш, да мяне, да мяне, каб цябе халера! — гукнуў сабаку гаспадар.

Той паслухаў і вярнуўся назад, спыніўся каля ног Капайлы, працягваючы пагрозліва вурчаць. Бадзягі недаўменна глядзелі на незнаёмцаў.

— Глядзі, гуляюць, — сказаў адзін з «тэрмінатараў». — Гэта добра, мабыць, мы прыйшлі па адрасе. Хто тут Капайла?

— Напрыклад, я, — азваўся той. — І што з гэтага?

— Вельмі добра, — дзяцюк весела ўхмыльнуўся, — што ўсе на месцы. Ты аддасі тое, што належыць нам, і можаш гуляць далей.

— Што я павінен вам аддаць? — здзівіўся Капайла.

— Бачыш, не разумее, — дзяцюк уздыхнуў. — Гэта, канечне, горш, але яшчэ не позна. Паспрабую патлумачыць. Сёння ноччу наш чалавек павінен быў атрымаць «тавар» і аддаць за яго грошы. Але, на жаль, нехта здаў нас і нашаму чалавеку давялося ратавацца. Каб грошы не патрапілі да іх, ён кінуў дыпламат у кантэйнер са смеццем. Дабрацца да месца мы змаглі толькі пад раніцу, але кантэйнер аказаўся пустым. Дасведчаныя людзі шапнулі нам, што ты ўсё ведаеш пра смецце, сёння, думаю, вы знайшлі тое, што належыць нам. А чужое трэба аддаваць. Я добра патлумачыў?

— Нічога не ведаю, тут смецце прывозяць з усяго горада. Мы можам пашукаць, канечне, але ж на гэта патрэбен час. Прыязджайце заўтра.

— Шкада, што ты не разумееш нашай дабраты. Тады мы пастраляем тваіх хлопчыкаў, а апошнім цябе. Згодзен? Не адказвай, я і так бачу, што згодзен. Штыр, займіся.

Дзяцюк, якога назвалі Штыром, выцягнуў пісталет, падышоў да знямелых бадзяг, паўглядаўся і схапіў за каршэнь Кныша. Той імгненна працверазеў, спалохана залыпаў вачамі і, цяжка дыхаючы, зашаптаў:

— За што… як жа… я ж не вінаваты, не чапайце мяне.

Штыр трасянуў Кныша і тыцнуў яму ствалом у галаву:

— Дзе грошы, бомжык?

— У мяне няма, праўда, я не ведаю, дзе яны, — збялелы Кныш быў гатовы страціць прытомнасць.

Невядомая сіла падняла Лявона на ногі:

— Адпусці яго, чуеш? У яго няма вашых грошай.

— Ого, тут смелыя ёсць, — здзівіўся Штыр, але адпусціў Кныша, які снапом зваліўся вобзем. — Значыць, ты ведаеш?

— Капайла, аддай ім дыпламат, — гукнуў Лявон, — бо яны так не пойдуць.

— Няма ў мяне нічога, адчапіцеся, — злосна крыкнуў той.

— Як няма? — падняўся Сыч. — Ах ты, гад, сабе ўсё хочаш загрэбці?!

— Вось мы і разабраліся, — галоўны «тэрмінатар» валюхаста падышоў да Капайлы. Чарныш зноў нядобра завурчаў, ашчэрыўшы зубы. Бандыт выцягнуў зброю, клацнуў затворам і накіраваў ствол на сабаку.

— Не чапай сабаку! — Капайла засланіў сабою свайго гадаванца.

— Грошы і хутчэй, бо ты мне надакучыў. Баюся, што маё цярпенне скончыцца раней, чым ты іх прынясеш.

Прыніжаны бос, коса глянуўшы на бандыта і цяжка ступаючы, накіраваўся да схованкі, разгарнуў пясок і выцягнуў дыпламат.

— Гад, прыхаваць ужо паспеў, — ціха прабурчаў Сыч.

Бандыт адчыніў дыпламат, агледзеў грошы і апусціў крышку:

— Усё на месцы, толькі гэта і ратуе вас ад пакарання, бамжы смярдзючыя.

А можа, пастраляць вас, каб не псавалі паветра?

Раптам адусюль: зверху, са сметніка, аднекуль з бакоў як пацукі з кладоўкі, пасыпаліся людзі ў камуфляжным адзенні і чорных масках з крыкамі:

— Усім ляжаць, тварам уніз! Ляжаць! Кінуць зброю! Ляжаць, каму кажу!

Амапаўцы — а тое, што гэта былі яны, Лявон не сумняваўся — са зброяй у руках і гучнымі крыкамі запоўнілі палянку. Адзін з бандытаў спрабаваў уцячы, раптоўна кінуўшыся ўбок, але яго тут жа збіў з ног шыракаплечы амапавец, у дадатак добра таўхануўшы ботам у плечы. Усе бадзягі і бандыты ляжалі на зямлі, не ўзнімаючы галавы. Лявон пачуў, як Чарныш, які спачатку спалохаўся вялікай колькасці людзей і зашыўся пад ганак, раптам голасна забрахаў і на некага кінуўся. Сухадольскі асцярожна павярнуў галаву: на паляну выйшаў яшчэ адзін міліцыянт без чорнай маскі, відаць, кіраўнік аперацыі па затрыманні бандытаў. Ён ішоў у бок Капайлы, і сабачка, мабыць, вырашыў абараніць гаспадара. Чарныш з гучным брэхам смела кінуўся на амапаўца і схапіў таго за нагу. Верагодна, ён укусіў крыўдзіцеля, бо той ускрыкнуў ад нечаканасці, безвынікова спрабаваў адчапіцца ад сабакі, потым вылаяўся і выхапіў пісталет.

— Ах ты, падла! — закрычаў ён і стрэліў у Чарныша, які спачатку з енкам зваліўся на траву, потым заскавытаў і хутка заціх.

— Ты што нарабіў, гад!?

Абураны Капайла падскочыў, у адно імгненне апынуўся каля міліцыянта і з усёй сілы саўгануў кулаком таму па твары. На былога прапаршчыка тут жа кінуліся амапаўцы, павалілі на зямлю і сталі біць нагамі. Нечаканай замінкай скарыстаўся Штыр: убачыўшы, што за ім не сочаць, падняўся і пабег уздоўж сметніка. Ён паспеў прабегчы толькі каля дзесяці метраў: амапавец даў чаргу з аўтамата яму пад ногі і бандыт спыніўся, бухнуўшы на калені. Каля Лявона заварочаўся стары Чапяла, якому мулялі бок пустыя бутэлькі. Ён прыўзняўся, адкінуў іх і сеў.

— Ляжаць, гад! — дужы амапавец стукнуў нагою старому па рэбрах.

Той, глуха застагнаўшы, з перакошаным ад болю тварам, паваліўся на зямлю.

— Дурань, навошта б'еш старога чалавека?

Лявон падхапіўся, баронячы Чапялу, але больш не паспеў нічога сказаць.

— І чаго вам не ляжыцца, бамжы праклятыя, — выгукнуў амапавец і з развароту так садануў Лявону, што той адляцеў да сцяны будана і, праламаўшы яе сваім целам, зваліўся разам з дошкамі. У яго перахапіла дыханне, пацямнела ўваччу, а ў галаве нешта зазвінела — і ён паляцеў у чорную бездань…

Сонца пякло няшчадна і ў гэтым пекле цяжка было зразумець, дзе рэчаіснасць, а дзе дрыготкае, як багна, мроіва. Натоўп падаўся яму нейкім нежывым, быццам мерцвякі, паслухмяна ідуць да нябачнай мяжы, на якой, як па загадзе, закрычаць:

— Смерць яму, смерць! Распні, распні!

Тады яны атрымаюць асалоду, назіраючы, як будзе паміраць у пакутах ахвяра, бо іх жыццё, як ім здаецца, не менш пакутнае, але яны ніколі не змогуць зразумець, што ўжо даўно не жывуць, даўно памерлі, і ўсе іхнія радасці прывідныя. Лявон зноў зірнуў на таго асуджанага, што яшчэ раней прыцягнуў яго ўвагу, і ўсю істоту як токам працяло: ён ведае хто гэта! Гэта ж ЁН — той, што прыйшоў выратаваць усіх: і Лявона, і паслухмяны натоўп, і бяздушных правіцеляў, і крыважэрных катаў. ЁН прыйшоў, каб паказаць ім свет у цемры і шлях да выратавання, не даць застацца жывымі мерцвякамі, прынёс тое, чаго не ставала людзям — ВЕРУ. І цяпер ЁН толькі чакае, калі каты прыб'юць ЯГО цвікамі да крыжа, добраахвотна чакае страшнай і пакутлівай смерці, каб разарваць цемру і паказаць святло. Нешта ўзарвалася ў Лявонавай галаве. Нельга так рабіць з ІМ, людзі могуць і павінны зразумець Ісціну без такіх страшэнных, жахлівых з'яў, бо яны маюць вялікую сілу — мову і розум. І ён рашуча спыніўся. У яго ўтыкнуўся наступны, за ім яшчэ адзін, пасля яшчэ, хутка спыніліся ўсе, у тым ліку і тыя, хто ішоў наперадзе. У непаразуменні ўсе глядзелі адзін на аднаго: што здарылася, чаму спыніліся? Каты і стражнікі захвалявaліся: як так, парушаецца парадак. І яны, выцягваючы шыі, сталі ўзірацца ў натоўп: хто асмеліўся спыніць працэсію? Гарачая хваля ўзнялася ў Лявонавых грудзях: не, не ўсё яшчэ згублена, ёсць надзея, што ён не адзін.

— Стойце, спыніцеся! Што ж мы робім — хочам забіць Збаўцу! Мы — людзі і павінны выратаваць яго! — закрычаў ён.

Натоўп завагаўся, нейкі рух хваляю прайшоўся па шэрых запыленых ценях, і, здавалася, вось-вось, яшчэ крышку — і манекены расплюшчаць вочы, стануць людзьмі. Але праз іх шэрагі ўжо прарваўся тоўсты ўзмакрэлы стражнік з азвярэлым выразам твару і, цяжка сапучы, выцяў парушальніка спакою мячом па галаве. Свет разляцеўся на тысячы дробных аскепкаў і паглынуў Лявона…

Ён прыйшоў да свядомасці ад таго, што нешта балюча кусала яго. Расплюшчыўшы вочы, перавярнуўся на спіну і сеў. Аказваецца, Лявон ляжаў побач з невялікім мурашнікам і злыя чырвоныя мурашы паспелі добра пакусаць яго за жывот. Вечарэла, сонца хавалася за гарызонт, на траве павіслі доўгія цені ад высозных тапаляў, промні заходзячага сонца застылі ў ціхай утульнай азярынцы. Дзе ж ён знаходзіцца? Што з ім было на самай справе? Дзе ж усе астатнія, што з імі? Пытанні, на якія ў яго няма і, хутчэй за ўсё, не будзе адказаў.

Уздыхнуўшы, Лявон падняўся і агледзеўся. Ён стаяў на ўзбочыне, на скрыжаванні дзвюх дарог. І куды яны вялі — невядома. Але трэба ісці, некуды вяртацца. Так ці інакш трэба выбіраць сваю дарогу, бо чалавек павінен рабіць выбар. Заўсёды.

Ігар ЗАПРУДСКІ

# МЫСЛЯР-НАТУРФІЛОЛАГ
## *Нататкі аб прозе Міколы Купрэева*

***Беднасць сама пракладае шлях да філасофіі: тое, у чым філасофія спрабуе пераканаць на словах, беднасць прымушае рэалізоўваць на справе.***

Дыяген

***Пісаць трэба толькі тады, калі гэта прыносіць радасць.***

Эрнэст ХЭМІНГУЭЙ

***Я толькі намагаюся быць справядлівым.***

Леанід ГАЛУБОВІЧ

Даволі няпростая задача характарызаваць творчую індывідуальнасць пісьменніка, у якога былі праблемы і цяжкасці з прыжыццёвай рэалізацыяй свайго літаратурнага даробка, асабліва тады складана, калі лёс канкрэтнага мастака і крытычная ацэнка яго творчай спадчыны, па сутнасці, абмяжоўваюцца агульнымі меркаваннямі і павярхоўнымі заключэннямі. Гэта цалкам стасуецца да Міколы Купрэева (1937—2004), чые маральныя імператывы, погляды на жыццё і эстэтычныя густы рэальна амаль не даследаваліся.

Паміж першым («Непазбежнасць», 1967) і другім («Правінцыйныя фантазіі», 1995) зборнікамі вершаў Міколы Купрэева прайшло 28 гадоў, таму прынята лічыць, што пісьменнік напоўніцу скарыстаўся сваім правам на маўчанне. Але і ў гэты перыяд ён калі-нікалі друкаваў вершы ў перыёдыцы. А вяртанне ў «актыўную» літаратуру я схільны звязваць з тым, што ў творцы досыць нечакана з'явілася «сваё» выданне — слаўнае дзіця эйфарыйнага часу, часопіс «Крыніца». І тут Купрэеў праявіў сябе як празаік, прычым было яму далёка за пяцьдзясят. Яго першая аповесць «Дзіцячыя гульні пасля вайны» датуецца 1994—1995 гадамі. Вось такое позняе выспяванне дало магчымасць адразу вызначыць сваю тэму і героя — жыццёвыя перыпетыі Анатоля Кухарава ў 5, 10, 15, 18, 24, а затым ужо ў 30, 45 гадоў; сваю праблему — натурфілалагічнай татальнай праўды і шчырасці; сваю стылёвую інтанацыю — лагодную і элегічную. Падаецца, што Мікола Купрэеў ішоў у прозе нібы сваім, для 1990-х гадоў дзіўнаватым шляхам: не ад характараў герояў да акалічнасцей, а наадварот.

У выніку стратэгічная задача была дасягнута адносна хутка: купрэеўская проза была прызнана літаратурнай з'явай канца XX стагоддзя. Але зададзімся пытаннем: якім чынам проза маргінала Купрэева інкарпарыравалася ў літаратуру, так бы мовіць, прызнаных ужо аўтарытэтаў? І тут становіцца відавочным, што адно, меншае, падсвечвае і высвятляе другое, большае. Купрэеўская проза была настолькі «дэмакратычнай», што міжволі прымушала задумацца пра ступень дэмакратычнасці ці народнасці нашай прызнанай літаратуры. І ці можна знайсці кропкі судакранання, скажам, паміж «дзяржаўнікам» Шамякіным ды «бічом» і «грамадзянінам свету» Купрэевым? Увогуле, ці можна весці размову пра літаратурную кансалідацыю ў 1990-я гады? Ці можна знайсці штосьці супольнае ў творчасці літаратурных «генералаў» і шматгадовага літаратурнага «дэзерціра»? Зразумела, што зусім не выпадкова Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы пісьменнік так і не атрымаў.

Падкрэслю, дэмакратычная скіраванасць празаічнай творчасці Міколы Купрэева знайшла падтрымку ў часопісе «Крыніца», а знаёмства і сяброўства з Леанідам Галубовічам адыгралі, відаць, вырашальную ролю ў лёсе ўсёй купрэеўскай прозы. Цікавы факт: «згубленыя» ў савецкі час літаратар у першыя гады незалежнасці Беларусі, якія прынеслі народу не толькі і, можа, нават не столькі рэальнае вызваленне, колькі разарэнне і матэрыяльныя нястачы, не выглядае «разгубленым». Гэта час яго найбольш плённай самарэалізацыі.

У «Дзіцячых гульнях пасля вайны» аўтар з успамінаў свайго дзяцінства выводзіць уласную маральную пазіцыю, малюе партрэты сваіх крэўных і сяброў, усходнебеларускія пейзажы і палескую экзотыку. Ён у храналагічнай паслядоўнасці другі раз пражывае сваё жыццё ў творчасці, не абмінаючы ўвагай і бягучы пісьменніцкі клопат. Аўтар-апавядальнік фіксуе і ўласныя творчыя пакуты: *«Нарэшце, свята маё пачалося. Я даўно яго чакаў, але не прыспешваў. Сёння я пачну пісаць аповесць — першую і, можа, апошнюю ў сваім жыцці»*. *«Сяджу над чыстым аркушам паперы, чакаю, але свята першага радка першай і, можа, апошняй аповесці — гэтае свята не прыходзіць...»* Як бачым, пошукі адпаведнай формы выяўлення не былі гэткімі лёгкімі для «маладога» і сталага гадамі празаіка, які з пэўнай бравадай прызнаваўся ў лісце да Галубовіча: *«Я лёгка пішу прозу і вершы...»* Толькі здагадваюся, чаму мне так цяжка пішацца пра купрэеўскую прозу, як крыху раней надзвычай пакутліва і доўга нараджаўся артыкул пра паэзію Міхася Стральцова.

**Купрэеўская проза была прызнана літаратурнай з'явай канца XX стагоддзя. Але зададзімся пытаннем: якім чынам проза маргінала інкарпарыравалася ў літаратуру, так бы мовіць, прызнаных ужо аўтарытэтаў?**

У матэрыялах «Вікіпедыі» сцвярджаецца: «Пасля выдання аповесцей "Дзіцячыя гульні пасля вайны" (1995) і "На вуліцы Карла Маркса з Паэтам" (1997), якія вызначаліся шчырасцю ў адносінах да сябе і сваіх родных, бацька адмаўляўся пускаць Міколу ў родную хату падчас ягоных візітаў на радзіму». Зрэшты, ва ўсіх аповесцях, несумненна, адчуваецца адбітак хваравітага стану, у якім знаходзіўся празаік доўгія гады. Некаторыя творы падаюцца няскончанымі, дакладней нават недавыказанымі. Так, у своеасаблівым эпілогу «Працяг пачатку» да аповесці-ўспаміну «Дзіцячыя гульні пасля вайны» ўтрымліваецца пытанне, якое аўтар задае сам сабе: *«Пра што я не сказаў на гэтых старонках, а хацелася ж сказаць?»*

Увогуле, падалося, што агульнай рысай галоўных купрэеўскіх герояў з'яўляецца сентыментальны індывідуалізм, калі не эгаізм. Ужо ў маладым веку некаторыя з іх выяўляюць жаданне герметызавацца і самахоць ізалявацца ад людскога свету. І прычына тут, здаецца, не ў складанасці характараў, а ў іх дзяцінстве. *«Калі я вылез з хаты праз вакно і стаў пад вішняй, я падумаў: пайду далёка ў лес за Жыгулянку, там пад густой елкай зраблю сабе шалашык, дол у шалашыку засцялю папараццю і буду там сядзець доўга-доўга, там я нічога не буду чуць і бачыць, толькі — лес, трава, мурашкі, птушкі, вавёркі, ну, можа, зайка праскочыць міма... Цяпер я ўспомніў пра Галю: як ёй будзе ў хаце адной без мяне?..»*, — разважае хлапчына, герой-апавядальнік першай аповесці, які не прымае лад жыцця бацькі з мачыхай, а шкадуе толькі малодшую сястрычку.

Ад аповесці да аповесці Мікола Купрэеў відавочна эвалюцыяніраваў ад фактаграфічнасці і рамантызаванай апісальнасці да ўсё больш выразнага псіхалагічна-філасофскага асэнсавання рэчаіснасці. У гэтым пераконвае аповесць «Імгненне светлае» (1996), дзе элементы літаратурнай гульні спалучаюцца з іранічным адлюстраваннем «адліжнай» савецкай рэчаіснасці. Пэўны камічны эфект ствараўся дзякуючы стылістычнай разнапланавасці, спалучэнню высокай лексікі з празаізмамі, а таксама беларуска-ўкраінска-рускай макаранічна-

сці. Кампазіцыйна аповесць складаецца з дзвюх частак, аснова яе — падарожжа па Украіне і ўкраінскім Палессі, няўдалая закаханасць васямнаццацігадовага студэнта-беларуса, а затым, праз шэсць гадоў, беларускага настаўніка ў тамтэйшых кветачак-прыгажунь.

У першай частцы герой — студэнт-філолаг, а апісаныя падзеі трэба датаваць недзе 1955 годам. Пасля расчаравання ў вучобе, але паспяховай здачы сесіі, ён едзе ў Кіеў з намерам уладкавацца на працу на нейкі рачны параход. Але, як і некалі Купрын, перабіваецца заробкамі грузчыка кавуноў і вінаграду на гарадскіх прыстанях. Нарэшце ён становіцца вартаўніком кукурузнага поля ў адным з украінскіх калгасаў. Праца абсалютна нікому не патрэбная, бо бескарысная. Але яна дае шмат вольнага часу не толькі на залёты да хахлушкі Лэсі, але і на чытанне: *«Увесь дзень я чытаў Някрасава. Самотная кніжка. Відаць, пісаў яе такі ж самотны чалавек. Паранены франтавік вяртаецца дамоў у свой родны горад, але і тут ён адчувае адзіноту. Стала так шкада чалавека — героя аповесці дый самога самотнага аўтара, што й мне зрабілася самотна і жаласліва, як і пасля прачытання трагедыйнай аповесці Купрына»*. Без сумнення, маецца на ўвазе аповесць «У родным горадзе» (1954) Віктара Някрасава, вядомага тады рускага пісьменніка, а пазней дысідэнта, які ці не ўпершыню ў СССР адлюстраваў нялёгкую паваенную долю «пераможцаў». Калі праз сорак гадоў Мікола Купрэеў надзяліў свайго, трэба думаць, аўтабіяграфічнага маладога героя такой здольнасцю суперажывання, то можна меркаваць, што і на яго стаўленне да рэчаіснасці някрасаўская аповесць зрабіла істотны ўплыў.

У тэксце другой часткі аповесці «Імгненне светлае» лічу патрэбным акцэнтаваць увагу не столькі на пераклічцы-дыялогу з «Алесяй» (1898) Аляксандра Купрына, колькі на нейкай наіўнаватай «публіцыстычнасці». Напрыклад, сумленныя настаўнікі пішуць ліст пра прыпіскі ў дасягненнях беларускіх бураказодаў Хрушчову. Купрэеў доўгія гады прапрацаваў настаўнікам, і ідэйны змест яго аповесцей павінен быў

## Ці можна знайсці штосьці супольнае ў творчасці літаратурных «генералаў» і шматгадовага літаратурнага «дэзерціра»?

пераканаць і праілюстраваць, што савецкая камандна-адміністрацыйная і праваахоўная сістэмы цалкам нейтралізавалі і забівалі якую б там ні было сацыяльную актыўнасць тагачаснага настаўніцтва. Вось як апавядаецца пра канец педагагічнай кар'еры сябра галоўнага героя, настаўніка геаграфіі Вуліча, які зацверджаную праграму двухдзённага краязнаўчага паходу з пяцікласнікамі абмежаваў простым выхадам на прыроду: *«У райана гарачы Вуліч пасварыўся з загадчыкам, забраў сваю працоўную кніжку, пайшоў у буфет ля прыстані, напіўся таннага «Днепро-Бугского» віна, свайго, здавалася б, самага роднага віна — бо Днепра-Бугскі канал пралягае бліз яго вёскі і ўваходзіць у Піну, тут жа ў буфеце, а потым і на беразе Піны цалаваўся з давыд-гарадоцкімі прыгажунямі. І тыя давыд-гарадоцкія цыганы вывезлі чорнавалосага і смуглявага, як і самі, п'янага настаўніка геаграфіі аўтобусам за горад, на шашы злавілі спадарожную машыну, закінулі Вуліча ў кузаў і самі туды перакуліліся цераз борт. Ім пашанцавала: машына ішла на Валынь <...> Пілі, елі, спявалі. Раніцай Вуліч прачнуўся ў ложку і здзівіўся: побач ляжала голая жанчына і паглядала на яго збоку напаўрасплюшчаным вокам. Цыганы на кухні ўжо звінелі шклянкамі і спявалі. Потым яны сабраліся і пайшлі праз лес на дарогу.*

*Вуліч застаўся на хутары ў Любы, на працу ў школу яго не ўзялі, і ён уладкаваўся ў калгасную будаўнічую брыгаду. Пісаў мне, што жыве куды як добра, весела і вольна, яму там уежна і ўлежна, і запрашае мяне ў госці і ўвогуле на Валынь...»* Мне здаецца, мастацкі вымысел не адыгрывае істотнай ролі ў купрэеўскай прозе. Але калі нават пагадзіцца з тым, што аповесці празаіка — гэта карціны з натуры, лёгка запісаныя здольным чалавекам, яны ўсё роўна часам выглядаюць досыць анахранічна.

Зрэшты, як дасавецкі (коласаўскі Лабановіч), савецкі (купрэеўскі Вуліч і кампанія), так і постсавецкі школьны педагог, на жаль, стала застаецца асобай бяспраўнай і вельмі часта прыніжанай і зняважанай.

Але і ў яго жыцці ёсць месца калі не савецкаму подзвігу, дык постсавецкаму звычайнаму чалавечаму шчасцю. *«Аксана глядзела на мяне з-пад далоні — глядзела не вачамі, а слязьмі з вачэй. І я зразумеў: большага, чым было сёння, шчасця ў нас не будзе, большага шчасця ніколі не будзе…»* Малады беларускі настаўнік на Валыні закахаўся ва ўнучку гнанай уладамі *за Быкава* былой украінскай настаўніцы Ганны Маркаўны. Але ён і пазней так і не сказаў дзяўчыне, *«тыя словы, якія трымаў у душы столькі часу…»: «Аксана, паедзем да мяне»*. Няўжо ў гэтым на ўзроўні праблематыкі і заключана нацыянальная спецыфіка прозы Купрэева, засяроджанай усё ж пераважна на побытавым эмпірычным матэрыяле? *«Усё жыццё я буду памятаць цябе — светла»*. Здагадайцеся, хто і пра каго.

Як творчае крэда можна разглядаць аповесць «На вуліцы Карла Маркса з Паэтам» (1997). Аўтар распавёў сумную гісторыю правінцыйнага 45-гадовага настаўніка, які трапляе ў раённы гарадок, дзе прайшла яго маладосць, з намерам атрымаць дазвол уладкавацца на працу ў мясцовай газеце. Паволі ўвага чытача пераносіцца з падзейнага боку на ідэйны — паказ бесчалавечнасці савецкай рэчаіснасці ўзору 1982 года. Герой аповесці падбірае шчанюка, якому дае мянушку Паэт і перад якім спавядаецца. Гібель Паэта — сімвалічная, як і лёс выразна аўтабіяграфічнага галоўнага героя, як і маральная дэградацыя яго школьнага сябра Юры, былога зухаватага хлопца, пазней дысідэнта, а цяпер прыніжанага чалавека, непатрэбнага тагачаснаму грамадству. Аповесць «На вуліцы Карла Маркса з Паэтам» можна назваць праграмнай, таму яна і атрымала, у пэўнай ступені, палемічную назву. Як павінен сябе адчуваць і паводзіць Творца-паэт на цэнтральнай вуліцы, дзе канцэнтруецца ўлада пад сцягамі марксісцкай ідэалогіі?

**Падалося, што агульнай рысай галоўных купрэеўскіх герояў з’яўляецца сентыментальны індывідуалізм, калі не эгаізм**

Не мае станоўчага фіналу і аповесць «Палеская элегія» (1998), у якой паралельна драматычнай долі некалькіх персанажаў разгортваецца журботная гісторыя пра смерць жорава. У раскрыцці адвечнай тэмы прыніжаных і зняважаных, у дакладным веданні і адлюстраванні жыцця прыроды дасягненні Міколы Купрэева былі, на маю думку, даволі значнымі ва ўсёй беларускай прозе. У канцэптуальным плане большасць герояў пісьменніка — гэта няўдачнікі і пакутнікі з надламаным лёсам. *«Адчуваю сябе такой пабітай. Я такая падбітая — быццам мне ўжо многа-многа гадоў, быццам я даўнымдаўно жыву, а мне ж толькі васямнаццаць...»* — у роспачы прызнаецца адна з купрэеўскіх гераінь. Якраз такім жа пабітым і падбітым будзе маляваца і галоўны герой гэтай аповесці. Яго аповед пра студэнцкае жыццё-быццё на цаліне мае выразны адбітак дакументальна-мастацкай прозы, а падзеі ў творы разгортваюцца *«ў нейкай Азіі, за нейкай станцыяй Есіль, на беразе Ішыма»*. Зрэшты, і ранейшыя аповесці пісьменніка ўтрымліваюць рысы нарыснай аўтабіяграфічнай белетрыстыкі. Як быкаўскі Агееў капаў кар’ер сваёй памяці, так і Мікола Купрэеў у чатырох аповесцях відавочна ўзнаўляў мінулае ў розныя перыяды ўласнага жыцця.

У гэтым плане хіба што вылучаецца аповесць «Рэчкаю плывём, плывём» (1999), у якой ёсць вобраз пажылога настаўніка Анатоля Хведаравіча Кухарава, але ён не галоўны персанаж. Аповед вядзецца ад першай асобы, 13-гадовага хлапчука-сіраты Васіля, які нарадзіўся ў бацькоў-алкаголікаў 26 красавіка 1986 года, у трагічны дзень чарнобыльскай катастрофы. Проза Купрэева — апраўдальна-ачышчальная ў адносінах да несамавітай маладосці аўтара і ангажаваная ў экалагічны клопат, надзвычай балючы і нават замодны ў нашай літаратуры 1990-х гадоў. З пункта гледжання падзейнасці пятая аповесць знешне небагатая. Гэта гісторыя пра тое, як пляменнік

з дзядзькамі на лодцы плаваў шукаць незабруджаную радыяцыяй траву, каб выкасіць яе на сена. Аўтар зноў праяўляе сябе як адметны прыхільнік такога «нявыяўленага» жанру, якім з'яўляецца «падарожжа». У яго аповесцях вельмі істотную кампазіцыйную ролю выконваюць своеасаблівыя падарожныя занатоўкі. Яго героям, як, відаць, і пісьменніку, аматару вандровак і пажыццёваму пілігрыму, доўга не сядзіцца на адным месцы.

Перад намі найбольш «літаратурны» твор са змешчаных у зборніку, у чым пераконвае багацце разнастайных алюзій і сімвалаў. Так, у лодцы, як у вядомым каўчэгу, разам з героямі плывуць сабака, каза, казёл і певень. У аповесці старанна падабрана і прадумана сістэма персанажаў. Два адзінокія старыя дзядзькі героя-апавядальніка, Сцяпан і Восіп, якія хоць і жывуць па суседстве, але з'яўляюцца носьбітамі розных жыццёвых прынцыпаў. Выкарыстаны ў творы і іншыя мастацкія маркеры: алегарычны вобраз дэградацыі — алкагалічка Дуня Кучараўка, якой супрацьпастаўляецца вобраз бабы Матруны, увасабленне дабрыні і мудрасці. Носьбітам схаваных ведаў паўстае баба Наста ці Анастасія Іванаўна. Увогуле нельга казаць, што аповесці Купрэева рэдканаселеныя. Як правіла, у іх дзейнічае немалая колькасць эпізадычных персанажаў, якіх празаік або робіць сваімі антаганістамі, або надзяляе правамі аўтарскага разумення жыцця.

Асобна трэба сказаць пра мову купрэеўскіх твораў, для якіх вельмі характэрна натуральная пластыка беларускага маўлення з яе эмацыянальнай выразнасцю. А яшчэ прастата. Пісьменнік імкнуўся пісаць жывой мовай, якая міжволі не натуралізавалася ў празаікаў, што жылі ў горадзе. Яны спакваля станавіліся эксперыментатарамі, а не носьбітамі ёмкага «размоўнага» маўлення.

Пра літаратурныя ўзоры, на якіх выхоўваўся Мікола Купрэеў, ён адкрыта гаворыць у гутарках з Леанідам Галубовічам, датаваных 1994 і 1999 гадамі. Друкаваныя тэксты іх адпаведна адкрываюць і закрываюць зборнік аповесцей «Палеская элегія». Тут названы дзясяткі імён рускіх, беларускіх і замежных пісьменнікаў. Мае ж спробы разабрацца са спецыфікай стылю купрэеўскай прозы прывялі мяне да думкі пра генетычную блізкасць яго творчай манеры да стылістыкі так званай «спавядальнай прозы» ў рускай літаратуры памежжа 1950—1960-х гадоў, прадстаўленай імёнамі маладых празаікаў А. Гладзіліна, В. Аксёнава, Ю. Сямёнава, А. Прыстаўкіна, У. Арлова і іншых на старонках авангарднага і надзвычай папулярнага часопіса «Юность». Вельмі многія характэрныя для гэтай плыні мастацкія атрыбуты знаходзяць сваё адлюстраванне-працяг у беларускай прозе Міколы Купрэева 1990-х гадоў. Гэта і пастаянная рэфлексія героя, што згубіў мэту ў жыцці, з яго негатывізмам і максімалізмам, і форма аповеду — «запіскі», «пісьмы», дзённік», «хроніка», а ў нашым выпадку «ўспаміны», насычаныя ўнутранымі маналогамі герояў, і праблемы неадпаведнасці ідэалаў грубай рэчаіснасці і пошуку сапраўдных каштоўнасцей, і канфлікт бацькоў і дзяцей, і жаданне пісаць «пад Хэмінгуэя», і асаблівая ўвага да дыялогаў, і, нарэшце, спавядальнасць. Дарэчы, цікавае супадзенне: маладыя героі знакавай для свайго часу аповесці В. Аксёнава «Зорны білет» (1961, экранізавана ў 1962) едуць на мора і становяцца рыбакамі. Нагадаю, што падобны ў нечым намер працаваць на дняпроўскім караблі меў малады герой купрэеўскай аповесці «Імгненне светлае». І іншых кропак судакранання на самых розных узроўнях тэкстаў даволі шмат.

> **Нельга казаць, што аповесці Купрэева рэдканаселеныя. Як правіла, у іх дзейнічае немалая колькасць эпізадычных персанажаў, якіх празаік або робіць сваімі антаганістамі, або надзяляе правамі аўтарскага разумення жыцця**

Таму мне падаецца цікавай і перспектыўнай спроба даследавання тэмы «Традыцыі рускай “спавядальнай прозы” ў творчасці М. Купрэева». І мэта яе павінна заключацца

**Пісьменнік імкнуўся пісаць жывой мовай, якая міжволі не натуралізавалася ў празаікаў, што жылі ў горадзе. Яны спакваля станавіліся эксперыментатарамі, а не носьбітамі ёмкага «размоўнага» маўлення**

не ў тым, каб выявіць своеасаблівы «эстэтычны інфантылізм» беларускага аўтара, а ў паказе яго лучнасці з часам «адліжнай» маладосці і складанасцей шляхоў фарміравання яго творчай манеры.

Мне пісьменнік уяўляецца асобай уражлівай, шчырай і неяк па-дзіцячы бездапаможнай, словам, «божым чалавекам», які ў 1970—1980-я гады, здаецца, творча не жыў, а пражываў свой век. А якія тады працэсы праходзілі ў шматнацыянальнай савецкай літаратуры? Каб праўдзіць, лепш звяртацца не да канстатацыйных «Гісторый...», а да крыніц аператыўнага рэагавання. Таму давялося ўзяць у рукі кнігу Юрыя Сураўцава «У 70-я і сёння. Нарысы тэорыі і практыкі сучаснага літаратурнага працэсу» (Масква, 1985). У анатацыі да яе сцвярджаецца: *«В книге рассматриваются проблемы советской многонациональной литературы: возрастающая ее роль в строительстве общества развитого социализма, в международной идеологической жизни; новые художественные обретения социалистического реализма; полифония его жанров и стилей...»* Кніга дагэтуль у многім цікавая, хаця, асабліва сёння, і вымагае антыдоту ад навязлівага агрэсіўнага ідэалагічнага дактрынёрства і афіцыёзнасці. Ёсць там назіранні і пра беларускую літаратуру. Але ўвага зачапілася за іншае. *«...Некоторые наши критики, да и сами писатели-практики, когда брались рассуждать о “литературе 60—70-х годов”, стремились в обостренном нравственном пафосе многих произведений увидеть “знак времени”, особенность литературно-художественного процесса этого “периода”. Субъективно для писателей и критиков, на сем настаивавших, так оно и было, так чувствовалось»*, — дыскусійна заўважыў аўтар. Не буду спрачацца, але «абвостраны маральны пафас» прэваліруе ва ўсіх аповесцях Купрэева 1990-х гадоў.

Яшчэ больш мяне зацікавіла палеміка Ю. Сураўцава з крытыкам Л. Анінскім, які канстатаваў з’яўленне ў тагачаснай літаратуры цэлага «напрамку», тэмай для якога стала *«душа человека на вольном воздухе, в свободном пространстве»*, а сваім героем — *«изящно-душевным, якобы освобожденным от жестких социальных функций»* — «пазасістэмны» чалавек у лесе ці на рыбалцы, якога трэба адтуль вярнуць у грамадства. Для купрэеўскіх герояў найперш прырода і мастацтва (літаратура) з’яўляюцца крыніцамі прыгажосці, што даюць эстэтычнае задавальненне: *«Мне добра ад свежасці зверху і знізу, ад цішыні, ад нейкай самотнасці лесу. Зусім блізка, нябачная, крыкнула сойка — толькі яна так можа крычаць: тужліва, няголасна, роспачна. Успомнілася журба Пімена Панчанкі ў яго “Крыку сойкі”»*. Мне падаецца, што Мікола Купрэеў на працягу застойных гадоў не ў літаратуры, а ў жыцці, у сваёй быційнай практыцы імкнуўся рэальна ўвасобіць існасць на прыродзе такой «анамальнай» асобы, бясконца зморанай ідэалагічнай няпраўдай, уладнай жорсткасцю і лозунгавай крывадушнасцю.

У аповесцях 1990-х гадоў Мікола Купрэеў імкнуўся не столькі асэнсаваць, колькі назваць прычыны ўласнай сацыяльнай апатыі, паказаць спружыны таго, што з ім адбылося, акрэсліць духоўны сэнс свайго існавання ў перыяд страты духоўных арыенціраў. Купрэеўская проза прыцягвае сваёй гуманнасцю, прапаведдзю спачування, асуджэннем амаральнасці, здольнасцю аўтара пражываць чужы боль. Думаецца, што аповесці ўяўляюць сабой багаты і ўдзячны матэрыял для напісання канцэптуальнага твора пра драму пакалення «шасцідзясятнікаў». Хочацца спадзявацца, што наша літаратуразнаўства зверне нарэшце сур’ёзную ўвагу на творчасць пісьменніка, і мы даведаемся больш пра мастацкія вартасці яго спадчыны.

Наталля ЯКАВЕНКА

# АБ ПРОЗЕ МАЛАДЫХ

## ІНСТЫНКТ САМАЗАХАВАННЯ
*(проза Веры Бурлак)*

«У літаратуры любога часу лічу каштоўнымі натуральнасць (што для мяне роўна таленавітасці) і дабрыню», — сказала «эквілібрыстка ад паэзіі» Вера Бурлак у інтэрв'ю інтэрнэт-часопісу «ПрайдзіСвет». Эквілібрызм паэткі выяўляецца ў эксперыментатарстве з літаратурнымі жанрамі, дакладней, у разбурэнні класічных жанравых межаў, і ў дэманстратыўнай гульні не па правілах з любымі агульнапрынятымі нормамі — як у творчасці, так і ў жыцці. Яе першая кніга прозы — «Творы соннага жанру» — сведчанне вернасці няўрымслівага аўтара свайму эквілібрычнаму стылю, а вось ці адпавядае зборнік крытэрыям Веры Бурлак, згодна з якімі яна ацэнвае літаратуру, варта разабрацца асобна.

«У гарадах, дзе доўгае метро, праехаўшы па лініі з канца ў канец, можна прачытаць маленькі раман, сярэднюю аповесць або доўгае апавяданне. Больш прыемна прачытаць раман. Абавязкова цалкам. Або некалькі апавяданняў. Абавязкова некалькі. Дагнаць развіццё машыннай тэхнікі развіццём тэхнікі чытання», — тлумачыць аўтар зборніка ў творы нявызначанага жанру (калі не лічыць «соннага») пад назвай «Проза для чытання ў мінскім метро». І, напэўна, для таго, каб палегчыць задачу тым, хто зацікавіцца развіццём тэхнікі чытання наўздагон за развіццём машыннай тэхнікі, Вера Бурлак змясціла ў кнізе 4 раманы па 1—2 старонкі кожны, шэраг апавяданняў памерам у некалькі радкоў і творы, якія змястоўна і паводле сваёй формы падобны да апавяданняў. Іх жанр (у класічным разуменні), у адрозненне ад згаданых выпадкаў, не быў вызначаны, але, калі следаваць аўтарскай логіцы, гэта аповесці.

Аднак разам з тым усе творы, паводле аўтарскай задумы, належаць да аднаго жанру — «соннага». Чаму? Магчыма, таму, што яны нагадваюць сны, трызненні. І як «саснілася», так Вера Бурлак і распавядае. Прыкладам: «Усе ў горадзе захварэлі. Усе сядзяць дома, адчуваюць сябе вельмі кепска і здзіўляюцца, што нікога няма на вуліцы» (апавяданне «Усе захварэлі»). Калі не браць пад увагу, што дадзены твор прыведзены цалкам, не мае нічога агульнага са сваім жанравым вызначэннем і, па сутнасці, не мае ўвогуле нічога, акрамя ідэі, можна ўпікнуць аўтара за адсутнасць мастацкасці. Затое натуральнасці тут замнога — як прыйшло ў галаву, так і занатавалася. А ў дадатак сястра таленту прадэманстравалася — кароткасць.

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што ў Веры Бурлак ёсць творы, дзе «сонная» натуральнасць аповеду дастаткова апраўдана. Дапусцім, як у выпадку, калі гераіняй з'яўляецца вар'ятка і дзеянне адбываецца ў адпаведнай установе: «На мяне сёння лаяліся, што я зноў прынесла ў ложак пясочак, а я забыла, што з ім учора рабіла, а тое б я ім сказала, гэта было нешта вельмі важнае. Сёння я пайду на вакзал. Я чакаю там ліст ад сястры. Мая суседка смяецца. Яна кажа:

> «У гарадах, дзе доўгае метро, праехаўшы па лініі з канца ў канец, можна прачытаць маленькі раман, сярэднюю аповесць або доўгае апавяданне. Больш прыемна прачытаць раман. Абавязкова цалкам»

у цябе няма ніякай сястры. А другая суседка кажа: не слухай старую дурніцу, хадзі куды хочаш» («Анёл»).

Пісьменніца назвала дабрыню адной з асноўных вартасцей літаратуры. Што ж, гэтага і ў яе творах не бракуе. Асабліва добрым з'яўляецца лірычнае апавяданне (паводле майго вызначэння) «Яшчэ адна сняжынка»: «Калі яно ўпала ў снег, спачатку ўсе падумалі, што гэта проста яшчэ адна сняжынка. Але яно не было белым. Яно было цёплым, шэрым, нашмат цяжэйшым нават за градзіну і, упаўшы на зямлю, працягвала варушыцца замест таго, каб, як належыць прыстойнай сняжынцы, ціха ляжаць на месцы… Прамоклыя валёнкі спыніліся ля шэрага скрутка… У ім было зусім маленькае дзіця… І тут да яго падышла жанчына ў зялёнай хусціне з кветкамі. Яна загарнула малое ў сваю прыгожую хусціну і панесла.

— Хто ты? — спытала малое, але жанчына толькі ўсміхалася. Але колькі лагоды і дабрыні бачыла дзіця ў расплывістых плямах яе вачэй, носа, губ — бо інакш малое бачыць пакуль не ўмела. — Ты… мама?

— Я Жыццё, — адказала жанчына. — Аднойчы я зрабіла памылку, але цяпер выправіла».

Гэты твор увогуле выбіваецца з усяго зборніка сваёй паэтычнасцю і пяшчотнасцю, своеасаблівай жаноцкасцю, бо толькі жанчына, якая мае дзіця, можа глядзець на свет яго вачыма.

Калі Вера Бурлак здольна пісаць так пранікнёна і прыгожа, адкуль жа тады эпатажнасць і гульня не па правілах, дух супярэчнасці, дэманстратыўнае жаданне зрабіць усё наадварот, не так, як прынята, чым прасякнуты ўсе іншыя яе тэксты? На гэтае пытанне ёсць адказ у «Творах соннага жанру»: «А што тут дзіўнага? Гэта адна з нармальных рэакцый на жыццё» («Алергія»). Абарончая рэакцыя, я б сказала, якая ляжыць у падсвядомасці і выяўляецца на ўзроўні інстынкту. А без яе цяжка, асабліва творчай асобе, таму і хаваецца за эпатажнасцю добрая і чуллівая душа.

**Натуральнасці тут замнога — як прыйшло ў галаву, так і занатавалася. А ў дадатак сястра таленту прадэманстравалася — кароткасць**

## «СЁННЯ — ЛАПТА, ЗАЎТРА — КЁРЛІНГ»
### *(проза Паўла Касцюкевіча)*

28 снежня 2011 года была заснавана літаратурная прэмія імя Ежы Гедройца (1906—2000) — польскага палітыка, публіцыста, пісьменніка, стваральніка і рэдактара парыжскага часопіса «Культура». Ураджэнец Мінска, Гедройц на працягу 50 гадоў змагаўся за добрасуседскія дачыненні Польшчы з усходнімі краінамі — Беларуссю, Літвой, Украінай.

Менавіта гэтая акалічнасць выклікала здзіўленне ў літаратурных колах, калі першым узнагароджаным прэміяй імя Гедройца стаў беларускі пісьменнік і перакладчык сучаснай ізраільскай ды амерыканскай прозы Павел Касцюкевіч, «прадстаўнік, — паводле самахарактарыстыкі — таго пакалення, якое не мае сваёй краіны», бо, пражыўшы дзесяць гадоў у Тэль-Авіве, «у Ізраілі хоча быць беларусам, а калі прыязджае сюды, то пачынае задумвацца, ці трэба гэта».

Аднак, калі верыць іншаму польскаму пісьменніку Каралю Буншу, узнагарода з'яўляецца знакам заслуг перад тымі, хто яе дае, і ў такім разе тым больш цікава прачытаць кнігу апавяданняў Паўла Касцюкевіча «Зборная РБ па негалоўных відах спорту», за якую ён атрымаў вышэйназваную прэмію.

«Ашмянскія цёткі ніколі не спяць. — Першыя радкі, што кінуліся ў вочы, калі я адкрыла зборнік. — Пасля чаўночнага рэйса ў Вільню, ужо ў роднай Ашмяне, яны выцягваюць мужа з шафы, кормяць яго, здзьмухваюць пыл, мяняюць шкарпэткі і вешаюць назад, пад цэлафанавы чахол. Потым ідуць на працу, сядаюць за стол пад партрэтам, налічваюць квартальную прагрэсіўку ўсяму калектыву і — назад, на лінію фронту» (апавяданне «Айчына кантрабанда»). Зразумела было, што чытача і надалей у кнізе чакаюць рэалістычныя вобразы-персанажы і сюжэтныя калізіі, пададзеныя ў гіпербалізаваным, фантасмагарычным стылі, а праз іранічнасць будзе выяўляцца аўтарскі крытычны

погляд на свет, у прыватнасці на беларускую рэчаіснасць, якая часта дазваляе прыгадваць эстэтыку тэатра абсурду.

Так і ёсць: «Чорнае птаства з драпежнай дзелавітасцю лунае па-над горадам. Ад Панікоўкі і Купалаўскага сквера аж да плошчы Якуба Коласа. Зграя пацукоў з прыробленымі крыламі, менска-мінскія птушкапцыцы» («Шэсцьсот шэсцьдзесят шэсць вечароў»); падчас З'езду беларусаў свету «на нашу краіну навaліліся орды дзьмухаўцоў… Дзьмухаўцы займаюць тэрыторыю, пратачаюцца праз асфальт, каласяцца на кожным найменшым лапіку, лезуць напралом. Мільярды палёвых шчупальцаў, што шалёна прагнуць аднаго — людскіх сэрцаў» («Вайна з дзьмухаўцамі»); шырока адзначаецца «Дзень ВДВ — свята сямейнае, таму ў гэты дзень трэба сядзець дома і нікуды не выходзіць. А ноччу, будзь ласкавы, пастаў свечку і літровы слоік «ёршыка» на падваконне. Гэта для заблукалых берэтаў. І не важна, што ў цябе сёмы паверх. Стропы ў іх доўгія — дацягнуцца» («Дзень дэсантніка»). Разам з тым, у чытача ёсць магчымасць стаць «удзельнікам» звароту да доктара Хаўса («Доктару Хаўсу ад беларускага народа») або «сведкам» заляцанняў дасціпнага маладзёна да каляжанкі Юлі («Я кахаю цябе, Юлія»).

Трэба аддаць належнае ўменню аўтара нязмушана, з прыхаванай усмешкай і без лішніх слоў абмаляваць падзею, стварыць даволі пазнавальны, тыповы і сімпатычны вобраз нашага сучасніка. Так, акрамя цётак-кантрабандыстак, у творах Паўла Касцюкевіча

> **Паглядзеўшы збоку з дапамогаю Паўла Касцюкевіча на нашы «спартыўныя» дасягненні, хочаш-не хочаш, а задумаешся, што будзе, калі Беларусь заваюе сусветнае лідарства ў негалоўных відах спорту…**

можна «пазнаёміцца», напрыклад, з прымхлівай Бярнардай Бярнардаўнай, якой сасніўся Пётр Машэраў, што просіць прынесці яму на магілу кропу («Пра вечнасць ды іншыя часы»), з Францавічам — галоўным трэнерам зборнай Беларусі па негалоўных відах спорту: «Сёння — лапта, заўтра — кёрлінг… Кракет, пола, даміно, гарадкі» («Зборная Беларусі па негалоўных відах спорту»).

Увогуле ўсіх герояў Паўла Касцюкевіча, як і многіх, калі не ўсіх нас, беларусаў, з нашымі штодзённымі клопатамі і дробнымі праблемамі, што нярэдка насамрэч выглядаюць дастаткова абсурдна, можна лічыць прадстаўнікамі адной каманды — той самай зборнай. А нехта нават дасягае ўзроўню майстра спорту, гуляючы ў «лапту» ці «даміно», мае фанатаў і пераемнікаў. Паглядзеўшы збоку з дапамогаю Паўла Касцюкевіча на нашы «спартыўныя» дасягненні, хочаш-не хочаш, а задумаешся, што будзе, калі Беларусь заваюе сусветнае лідарства ў негалоўных відах спорту…

Валянціна ЛОКУН

# НАСТАЛЬГІЯ ПА СТРАЧАНАМУ РАЮ

***(Рэцэнзія на аповесць Федарэнкі А. «Дзікі Луг» / А. Федарэнка // «Маладосць». — 2012. — № 6.)***

У прыродзе няма выпадковасцей. Кожны чалавек нараджаецца з пэўнай мэтай. І пісьменнікі таксама. Сапраўдныя пісьменнікі. А. Федарэнка з іх ліку. Ён прыйшоў у беларускую літаратуру ў канцы 80-х гадоў — разам з такімі яркімі творцамі, як А. Казлоў, У. Сцяпан, А. Наварыч, А. Бадак, А. Глобус, Л. Рублеўская і інш. Гэта была новая генерацыя пісьменнікаў, народжаных «перабудовай». Яны з надзеяй узіраліся ў новае жыццё, імкнуліся стварыць і новую гісторыю літаратуры.

Шырокую вядомасць А. Федарэнку прынесла яго аповесць «Вёска» (1995). Менавіта гэты твор зрабіў яго мастацкі «почырк» адметным, індывідуальна-адрозным. Пасля з’явяцца іншыя тэксты, якія выклікалі захапленне ў чытачоў і ўвагу крытыкаў: аповесці «Смута» (1994), «Салдат» (1996), «Памарак» (1997), «Цугцванг» (1998), «Нічые» (2001), «Афганская шкатулка» (2002), «Повесць» (2006), раманы «Рэвізія» (2004), «Мяжа» (2009). Яго мастацкае слова дзівіла псіхалагічнай глыбінёй і дакладнасцю, аб’ёмнасцю жыццёвага малюнка, асаблівай аўтарскай усхваляванасцю, нейкім унутраным «крыкам» пісьменніка.

За кнігу «Смута» малады творца атрымаў літаратурную прэмію імя І. Мележа. Гэта — пацверджанне блізкасці мастацка-стылявых дамінант двух пісьменнікаў: імкненне выяўляць анталагічна важную праблематыку ў рэалістычнай сістэме каардынат, той сістэме, эстэтыка і паэтыка якой склаліся ў сусветнай літаратуры яшчэ ў XIX—XX стагоддзях, сістэме, якая пастаянна развіваецца, ускладняецца, эвалюцыянуе ў адпаведнасці з запатрабаваннямі свайго нацыягістарычнага часу. Менавіта ў гэтай, стратэгічна важнай для сваёй творчасці, сістэме А. Федарэнка будзе заставацца і пасля, універсальна спалучаючы сацыякультурную матываванасць, псіхалагічную дакладнасць вобраза і яго метафарычнасць. Апошні пасыл будзе ўсё больш пашырацца ў яго тэкстах, што сведчыць пра паглыбленне філасофскай думкі пісьменніка.

**Па-федарэнкаўску ярка, у дэталях адлюстраваны першыя старонкі — палешукі збіраюцца на сенакос ва ўрочышча Дзікі Луг**

Апошняя па часе аповесць Федарэнкі «Дзікі Луг» надрукавана ў красавіку гэтага года ў «Маладосці». Пісьменнік ізноў выбудоўвае арыгінальную па змесце і форме гісторыю-прытчу пра вёску. Па-федарэнкаўску ярка, у дэталях адлюстраваны першыя старонкі — палешукі збіраюцца на сенакос ва ўрочышча Дзікі Луг (тыпалагічная паралель з І. Мележам), за Нароўлю, на другі бераг Прыпяці. Рыхтаваліся грунтоўна, кожны меў свой абавязак. Мужчыны кляпалі косы і іншыя прылады. Жанчыны пакавалі закуску, біклажкі з вадой. Дзеці майстравалі вуды, збіралі «*тоўстых чарвякоў-выпаўзкаў*». І нарэшце: «*Выязджалі зацемна, гадзіны за чатыры раніцы, на дзвюх грузавых машынах…*

*Машыны ехалі з уключанымі фарамі. Дарога вяла праз поле з жытам, праз пясчаныя заносы, дзе колы буксавалі, трэба было выгружацца і штурхаць, праз лес з каранямі, ад якіх кішкі з цябе вытрэсвала, і, нарэшце, каціліся гладкай роўненькай шашою… Прыткнуты да берага, людзей чакаў маторны паром…*» (14). У гэтай непаспешлівасці і грунтоўнасці бачыцца нейкі

асаблівы сялянска-жыццёвы «рытм» — спрадвечны, паляшуцкі, — які адпаведна трансфармуецца ў рытм мастацкі, стылёва «афарбоўвае» мастацкую прастору твора. «*…Плыве, скрыпіць паром. Плюхае знізу ў дошкі вада. Над ракой туман. У тумане на сярэдзіне адзінокая лодка з рыбаком*». Ствараецца яскравы малюнак жыцця, які паступова будзе ўсё больш метафарызавацца, пранікацца філасофіяй.

Суладдзе чалавека і свету працягваецца, змяняецца толькі тып вобразнага малюнка. Цяпер у якасці галоўнай дамінанты — Дзікі Луг як мадэль некранутага гарманічнага прыроднага свету: «*Гэта было поўнае ўладарства дзікай прыроды, аддадзенай самой сабе, панаванне амаль не кранутай чалавекам першабытнасці, чароўнае запусценне, глушэча, непралазная нізінная дзіч. Толькі рака звязвала з цывілізацыяй…*» (15). У гэты спрадвечны прыродны свет і ўступае невялічкая група касцоў: «*Туман апаў на зямлю. Роснае павуцінне блішчыць на сонцы. Хоць сонца ўжо добра ўгравае, а паміж касцоў не ўбачыш голага цела: адзіная вольнасць — адкасаць у кашулі рукавы*» (16). Апошняя рэмарка вельмі істотная: чалавек, трапіўшы ў прастору Дзікага Лугу, адразу ж падпарадкоўваецца яго законам.

Вобраз Дзікага Лугу ў апавядальнай структуры — ключавы архетып, які злучаны з экзістэнцыяльнымі каштоўнасцямі, з адмысловым паняццем жыцця гарманічнага. Да прыкладу, ролю такіх архетыпаў адыгрывалі вобразы-метафары балота ў мележаўскай «Палескай хроніцы», «Ваўчынай ямы» ў аднайменнай аповесці В. Быкава, толькі ўкладзеныя ў іх каштоўнасці змястоўна іншыя, працілеглыя федарэнкаўскім. В. Быкаў укладваў у інварыянт «ваўчынай ямы» матыў парушэння сусветнага парадку — старажытную міфалагему, уласцівую апакаліпсісу. Для А. Федарэнкі Дзікі Луг — мадэль паляшуцкага зямнога раю: «*Размякчэлыя ад спіртнога, ад такой прыгожай ночы, людзі адчувалі кожны адно і тое —* ***паўнату жыцця*** (падкрэслена мною. — **В. Л.**)*, якога так многа вакол, якое і ў стракатанні конікаў, і ў гэтай цыбуліне, у хрумсце, з якім яе грызуць, і ў тым, як чарка перадаецца з рук у рукі, і ў вогнішчы, якое гарыць сабе, падымаецца дымок над ім,*

**Апавядальнік нібыта здалёк углядваецца ў героя, бачыць яго знешні выгляд, адзенне, узрост, а пасля ўжо падае кароткую «гісторыю» яго жыцця. У гэтым творы няма галоўнага героя — у традыцыйным яго разуменні. Ёсць гурт вяскоўцаў, мужчын і жанчын, розных па ўзросце, характары і паводзінах**

*а полымя кідае водбліскі на твары і выхоплівае з цемры няроўны круг пакошы*» (23). І ўжо зусім паляшуцкае чуецца ў начной гаворцы «ля вогнішча». Бога, вядома, няма, бо чалавек ужо пабываў у космасе і нікога там не знайшоў, але разам з тым «*нешта ўсё-такі ёсць*». А пасля пра містычнае, неверагоднае, невытлумачальнае, пра тое, што «*пужае*», — у гэта верылі ўсе палешукі.

Паступова ў гэтае прыроднае царства будуць упісвацца па аднаму і персанажы. Апавядальнік нібыта здалёк углядваецца ў героя, бачыць яго знешні выгляд, адзенне, узрост, а пасля ўжо падае кароткую «гісторыю» яго жыцця.

У гэтым творы няма галоўнага героя — у традыцыйным яго разуменні. Ёсць гурт вяскоўцаў, мужчын і жанчын, розных па ўзросце, характары і паводзінах. Вось Кулініч: «*Худы, скура, косці ды мускулы. Такіх звычайна ніякая ўтома не бярэ*». Аўтар заўважае, што да жаніцьбы (а ажаніўся герой, калі яму было за сорак) быў ціхі, спакойны, працаваў у лясніцтве, да людзей ставіўся з разуменнем. Пасля жаніцьбы яго нібыта падмянілі, задраў нос, пачаў вылазіць уперад. Побач з Кулінічам яго жонка Махновачка — у свае трыццаць яна выглядала як дзяўчынка-падлетак, «*такая вясёлая, спрытная, са зграбнай постаццю і з мілым наівам у твары*» (17). Пісьменнік усяляк падкрэслівае радасны стан жанчыны, маладой маці. «*Яна сама ўся як сонца. Усё ёй у навіну — і яе роля замужняй кабеты, і маладой маці, і клапатлівай гаспадыні*» (17). Гераіня радуецца людзям і жыццю, якое ёй здаецца «*такім поўным, аграмадным!*»

Яна — «*шчаслівая!*» Ад яе зыходзіць «*ззянне*», якое «*аж наўкол разліваецца: толькі гляньце, людзі, якой я ўмею быць!..*» (17) Гэты падкрэслены пафас насцярожвае, ён уносіць матыў прадчування бяды.

Сярод насельнікаў Дзікага Лугу малодшы брат Кулініча Пятро, па мянушцы Кветка. Мясцовы прыгажун, ён да ўсіх людзей і свету вельмі «*дабрачы*» і вельмі жаласлівы — нават траву шкадуе касіць. Некалі марыў Пятро вывучыцца на машыніста цеплавоза, ездзіць па свеце, знаёміцца з людзьмі. Толькі мара не збылася, ён так і застаўся працаваць на чыгунцы.

Дапаўняюць калектыўны «здымак» 70-гадовы, падобны на «*сівы пень*», дзед Мікалай Мірон і 19-гадовы Грыгор Ігнатаў. Апошні толькі што адседзеў у турме, і праз гэта адчуваў сябе «*заразным, адрынутым, гнаным — і саромеўся ўсяго да непрыстойнасці*» (18), а найбольш свайго памерлага ўжо бацькі, бо той быў сапраўдным ведзьмаком.

Апынуўшыся ў сілавым ці, дакладней, высокадухоўным полі Дзікага Лугу, палешукі становяцца інакшымі: добразычлівымі, спагадлівымі. Яны адно аднаму дапамагаюць, нават бабулю з хворай каровай успамінаюць са шкадаваннем. Яны становяцца нібыта часткаю гэтай прыроднай прасторы.

Змястоўна тэкст А. Федарэнкі складаецца з дзвюх частак, якія процістаяць адна адной як дзве мадэлі жыцця, як духоўнасць і бездухоўнасць, як гармонія і дысгармонія, як першароднасць і дэградаваны соцыум.

Далучанасць да жыцця Дзікага Лугу, адчуванне раю зямнога для герояў А. Федарэнкі скончылася гэтак жа раптоўна, як і пачалося. Дзікі Луг стане іх памяццю. Анталагічнай памяццю. Вяскоўцы вярталіся ў жыццё для сябе звыклае, сацыяльнае. Праўда, соцыум у творы амаль сябе не выяўляе — за выключэннем адной маленькай рэмаркі пра трох начальнікаў, што суправаджалі касцоў:

**Соцыум у творы амаль сябе не выяўляе — за выключэннем адной маленькай рэмаркі пра трох начальнікаў, што суправаджалі касцоў**

«*Адзін* (начальнік. — **В. Л.**) *паказаў пальцам направа, другі рукой махнуў налева, трэці прыставіў далонь да ілба… І на тым місія іх скончылася*» (16).

Такая сацыяльна ізаляваная прастора, як і ідэалізаваная прастора Дзікага Лугу, спрыяе дамінацыі ідэі, метафарызацыі тэксту, уносіць момант прытчавасці.

Прайшло шэсць гадоў. Апавядальнік завяршае жыццяпіс сваіх герояў, дакладней, прыводзіць іх існаванне да пэўнага лагічнага выніку. Вяскоўцы, якім, лічыць пісьменнік, ад свайго першавытока наканавана заставацца сялянамі, перасталі быць такімі, яны страцілі сувязь з зямлёй, страцілі і адчуванне зямлі як духоўнай субстанцыі. Разам з гэтым — як вынік — яны страцілі і сваё сутнаснае «я». Яны сталі насельнікамі вёскі, працаўнікамі лясніцтва, чыгункі і г. д. Страціўшы сваю сялянскую сутнасць, яны «выпалі» з усеабдымнай прыроднай сувязі.

Храналагічна аўтар адлюстроўвае жыццё вёскі 70-х гадоў. Аднак працэс дэградацыі вёскі, як працэс трагедыйны для ўсяго сялянства, пачаўся даўно, з тых часоў, калі вяскоўцаў пачалі адлучаць ад зямлі, пра гэта сведчыў яшчэ І. Мележ у сваёй «Палескай хроніцы», В. Быкаў — «Аблаве», «Знаку бяды». Гэтым была занепакоена амаль уся «вясковая» проза былой савецкай літаратуры: В. Бялоў («Привычное дело», 1966), В. Астаф’еў («Последний поклон», 1968), В. Распуцін («Последний срок», 1970; «Прощание с Матерой», 1976), В. Карамазаў («Пушча», 1979; «Аброчны крыж», 1994), В. Казько («Неруш», 1983; «Хроніка дзетдомаўскага сада», 1987; «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел», 1990) і інш. Менавіта ў гэты шэраг, як яго працяг, можна паставіць і мастацкі дыскурс А. Федарэнкі. Праўда, савецкая проза яшчэ на нешта спадзявалася, ідэалізавала вёску (А. Жук «Халодная птушка», У. Салаухін «Владимирские пролески»), А. Федарэнка ідэалізуе ўжо **памяць** пра Дзікі Луг. Т. Мазур у сваёй рэцэнзіі на аповесць «Дзікі Луг» адзначыла, што «*Андрэй Федарэнка, напэўна, першы з беларускіх пісьменнікаў асмеліўся сказаць, што вёска бывае далёкая ад ідэалу*» («Дзе твой Дзікі Луг?» // ЛіМ, 19 кастрычніка 2012, С. 7.).

Пра дэградацыю вёскі вельмі востра сказаў А. Федарэнка ў апавяданні «Уночы» (2009), а яшчэ раней, з вялікім болем у душы, і ўжо як прысуд, — В. Быкаў у апавяданні «Народныя мсціўцы» (1997).

Матыў спакусы, толькі не біблейскай, а сучаснай, увасобленай у тыповым для сённяшняга грамадства ачмурэнні гарэлкай, звязаны з вобразам Пятра, які «*пакрысе ператварыўся ў ціхага, скончанага п'яніцу*», нават калі і не піў, што было вельмі рэдка, то ўсё роўна пад вечар «*пачыналі блытацца думкі і ногі*» (27). Гаспадарку Пятро не любіў. Дома Пятра не любіла жонка Валя, не любілі і дочкі, якія «*ўсе ўдаліся ў Валю, пабралі і знешнасць — такія ж непрыгожыя, і душу — так жа ненавідзяць бацьку*» (28). Усе яны п'янага бездапаможнага Пятра звязвалі на падлозе і білі, «*усур'ёз, з усяе сілы, чым патрапіць*» (28). Некалі вялікая мара Пятра стаць машыністам цеплавоза дэвальвавалася ў сціплае жаданне купіць касцюм. Касцюм ён, нарэшце, прыдбаў, але ў той жа дзень напіўся і разбіў сабе нос. Замест носа ў яго цяпер засталіся «*дзве дзірачкі*». Пятро-Кветка перастаў быць Кветкай, стаў Пятром — Носарам. Ён стаў **ніхто**. Такім жа «ніхто», як і герой У. Дамашэвіча Рыгор Доля («Доля — пустацвет», 2004). У гэтых герояў і жыццёвыя фіналы аднолькавыя: Рыгор Доля ўшчэнт п'яны згарэў у ім самім падпаленай хаце разам з катом і сабакам. Пятро-Кветка напіўся так, што «*з рота паказаўся сіні агеньчык*».

Пятро-Кветка, як і Рыгор Доля, — гэта пакаленне страчаных людзей незваротна страчанай вёскі. Аўтар не засяроджваецца на прычынах. Ён проста інфармуе, што крах вёскі і першыя яе «перадсмяротныя сутаргі» абазначыліся задоўга да Чарнобыля і «перабудовы». Пакаленне Пятра, даводзіць пісьменнік, «*было апошнім пакаленнем, звязаным з зямлёй, яны ведалі, што апошнія, што на іх усё і скончыцца, дзеці іхнія ўжо не выберуць іхняй долі, ды ніхто і не хацеў, каб яны яе такую выбіралі*» (27). Толькі нам здаецца, што пакаленне Пятра не столькі **ведала** пра драму вёскі, колькі яе **адчувала** — на ўзроўні падсвядомага, інтуітыўнага, але змяніць ужо нічога не магла, не ўмела, не хацела. Не было такіх герояў.

**Яны асмеліліся не падпарадкоўвацца правілам вёскі і тады, калі не хавалі свайго шчасця ад людзей. А вясковая мараль забараняе хваліцца сваім шчасцем, бо шчасце не любіць публічнасці**

Не менш трагічна склаўся і лёс Кулінічаў. І ўсё таму, што яны, як сведчыць ідэя, закладзеная ў іх вобразах, адступіліся ад правілаў вёскі. Сына Васілька, што быў «*увесь у свайго дзядзьку Пятра*», гэткі «*херувімчык*», выхоўвалі насуперак правілам вёскі, па-свойму, аддаючы яму ўсю сваю любоў і пяшчоту. Такое стаўленне да дзяцей дзівіла вёску, тут было не да «*мусі-пусяў, не да цялячых пацалункаў, не да цырымоній*». Этычныя паводзіны вёскі выпрацоўваліся вякамі, перадаваліся з пакалення ў пакаленне «*як абярог*», былі няпісаным «*кодэксам*». Кулінічы праігнаравалі гэты кодэкс. Яны асмеліліся не падпарадкоўвацца правілам вёскі і тады, калі не хавалі свайго шчасця ад людзей. А вясковая мараль забараняе хваліцца сваім шчасцем, бо шчасце не любіць публічнасці, «*шчаслівыя павінны адгародзіцца ад астатніх дубовымі дзвярамі, жалезнымі замкамі — хаця б дзеля таго, каб не сурочылі*» (27). Быў і яшчэ адзін момант: Кулінічы пасадзілі ў сябе пад акном каліну. А па вясковых законах каліну (як елку ці сасну) нельга садзіць блізка, бо гэта апрабаваны сімвал жаночага лёсу, жыцця дзяўчынкі. Урэшце спрацавала «*подлае, бязлітаснае, горкае да агіды правіла, не забывайся, хто ты ў гэтым свеце, не любі моцна, не прывязвайся да каго б ні было, не прывыкай, будзь заўсёды напагатове, каб не заспела знянацку, умей абараняцца, трымай пра запас усе варыянты — аж да самага горшага… А забудзеш, расслабішся, захочаш пазіраць на гэты свет шырока раскрытымі васільковымі вачыма — дык мы напомнім!..*» (35).

Празмерна жорстка паплаціліся Кулініч з Махновачкай за сваё непаслушэнства: яны страцілі свайго Васілька — недарэчна,

## Вёска, якая страціла сваю спрадвечную дабрыню, спагадлівасць, людскасць, — ці вёска гэта ўвогуле?

ад таго яшчэ больш жахліва. Толькі працэс адступніцтва працягваецца: зло паўстала супраць зла і нарадзіла новае зло. Куленіч пайшоў з сякерай на каліну. «*Куст супраціўляўся смерці. Сякера спружыніла на нечакана цвёрдым ствале, рука дрыгнула і ўдар прыйшоўся па назе*» (35). Такім чынам, лёс пакараў Куленіча яшчэ і фізічна. Праз пэўны час перад намі паўстане «*згорблены, з палкаю*» чалавек, у якога «*зрабіўся цік на воку. Калі ён гаварыў, вока пачынала торгацца, і разам з ім шчака, а са шчакой — задзіралася верхняя губа, і ўсе зубы з таго боку былі відаць. Грыцко празваў яго Скалазуб*» (37).

Трагедыю душы герояў аўтар раскрывае праз іх паводзіны, знешняе дзеянне.

Вёска, якая страціла сваю спрадвечную дабрыню, спагадлівасць, людскасць, — ці вёска гэта ўвогуле? Гэта ўжо прастора «ваўчынай ямы», прастора «зоны» — з «перспектывай» апакаліпсісу. Публіцыстычна абвострана, вуснамі «чужынца» (дарэчы, у структуры мастацкага твора гэты персанаж выглядае празмерна зададзеным, функцыянальным) пісьменнік абвінавачвае людзей у культурным і гістарычным бяспамяцтве, у занядбанні традыцый, звычак, абрадавых дзей.

Знікае беларуская вёска ў сваім сакральным значэнні. Зыходзіць у нябыт духоўная Атлантыда беларусаў. Знікае род Васіля Дзятліка (І. Мележ), Сцепаніды і Петрыка Багацькаў (В. Быкаў), Лявона Кужаля (У. Гніламёдаў). Вёска поўніцца цяпер іншымі «гаспадарамі». Грыгор паспеў яшчэ раз адседзець у турме і другі раз ажаніцца. Жонку завуць заморскім імем Сюзанна. Грыгор даўно ўжо не чырванее з-за бацькі-ведзьмака. Гэта ўжо не зацюканы апостал часоў Дзікага Луга. Ён «*памажнеў, памужнеў, выцягнуўся ў рост… Грудзі распраўленыя: зухаваты, нахабны, разумны, дзвюма жонкамі дагледжаны, на мясе адкормлены — мардаты, гладкі мужчына*» (30).

У тэксце А. Федарэнкі адсутнічае выразная мяжа паміж дабром і злом. Няма іх процістаяння. Нельга падзяліць і герояў на станоўчых і адмоўных, вінаватых і бязвінных, «дабрачых» і злых. Яны — ахвяры, толькі не соцыума і цывілізаванага працэсу, а бяспамяцтва і бязвер'я.

У мастацкай прасторы твора шмат філасофскіх разважанняў. Чалавек, па А. Федарэнку, гэта ўсяго толькі маленькае звяно ў бясконцым па часе Космасе. Звяно, якое ўтрымлівае інфармацыю папярэдніх пакаленняў, — каб перадаць яе наступным. «*Жыццё — рака; у яе то ўваходзяць, то выходзяць, то нараджаюцца, то паміраюць. Я памру — выйду з ракі, нараджуся — увайду ў раку іншым целам. Целы розныя, а… душа на ўсіх адна*» (27).

У тэксце прадстаўлены і малюнак велічнага і дасканалага зорнага Сусвету. У гэтым малюнку закладзена ідэя бессмяротнасці жыцця чалавека, адсутнасці смерці: «*Такое хараство было разліта вакол, што не дапускала яно думкі пра смерць; ды не бывае яе, не можа быць у гэтай зорнай бясконцасці, сярод вечнай гармоніі, дзе ўсяму сваё месца, дзе ніводная касмічная пылінка не з'яўляецца і не знікае сама па сабе, без чыёйсьці на тое волі!*» (34) Незлічоныя душы памерлых увасабляюцца ў зоркі на небе, і пасля ўжо, у небе, працягваюць жыць. Перамаўляючыся між сабой, яны пазіраюць на людзей і спачуваюць ім. Але першароднае адзінства чалавека і свету, зямлі і неба, мінулага і будучыні парушана — па віне чалавека, які беззваротна страціў свой Дзікі Луг. Як рэфрэн у фінале мастацкага дыскурсу гучаць словы Куленіча:

«*Ніжай, ніжай, ніжай…*» (37). Усё «ніжай» дэградуе чалавек, усё «ніжай» дэградуе жыццё чалавека…

«Дзікі Луг» — тыпова федарэнкаўскае «востразанепакоенае» мастацкае слова не толькі пра вёску 70-х гадоў, але і пра сучасную вёску таксама. Найперш пра сучасную — галоўным «месцы быційнай экзістэнцыі» беларусаў. Гэта — аповесць-прытча пра нацыянальны паляшуцкі Дзікі Луг і пра страту гэтага Дзікага Луга. Гэта — твор, які выклікае своеасаблівы духоўны катарсіс, — праз адлюстраваную ў ім нацыянальную быційную драму.

Вікторыя ТРЫПУЦІНА,
Надзея АНТОНЕНКА

# КАХАННЕ, УВАСОБЛЕНАЕ ЧАЛАВЕКАМ

***Габрусь Т. Паэзія архітэктуры / Т. Габрусь. — Мінск : Беларуская навука, 2012. — 279 с.***




Ці можна назваць стыхіяй што-небудзь, створанае чалавекам? Можна, смела адзначае аўтар кнігі «Паэзія архітэктуры» доктар мастацтвазнаўства Тамара Габрусь і, услед за выдатным паэтам Восіпам Мандэльштамам, называе архітэктуру пятай стыхіяй, створанай чалавекам. З першых старонак аўтар знаёміць чытача з задачамі дойлідства. Найстаражытнейшым матэрыялам для будаўніцтва было дрэва. Цяпер мы, магчыма, недаацэньваем значэнне дрэва ў архітэктуры і яе артэфактах. Цяслярства ў феадальную эпоху было самай распаўсюджанай прафесіяй. Спосабы рубкі з дрэва на ўсходнеславянскіх землях адрозніваліся метадамі, якія прымяняліся нашымі продкамі. Што ўжо казаць пра значэнне драўляных скульптурных кампазіцый, якімі ўпрыгожвалі храмы на працягу ўсёй эпохі Барока. У наш час запатрабаванасць у дрэве як будаўнічым матэрыяле некалькі зніжана, але ў аздобе інтэр'ераў яно па-ранейшаму паспяхова выкарыстоўваецца.

У сваіх даследаваннях Тамара Габрусь уздымае пытанне адносна гістарычнай асобы Багуслава Радзівіла, князя «на Слуцку і Капылі». Сучаснікі склалі вельмі неадназначнае ўяўленне пра яго. Палітычныя перакананні заўсёды становяцца прычынай разладу, нават у адной сям'і. Аднак гісторыя або вяртае ўсё на свае месцы, або паказвае, што два бакі можа мець толькі медаль, а ў чалавека іх значна больш. Постаць адважнага, адукаванага магната-мецэната заслугоўвае больш уважлівага даследавання. Менавіта ў той час калі ўладальнікам Слуцка быў Багуслаў Радзівіл, горад атрымаў Магдэбургскае права і герб з выявай Пегаса. Сярод лістоў князя, што захоўваюцца ў архівах, прадстаўлены праекты цэркваў, выкананых з дрэва, кафляных печак, замалёўкі гарадоў і мястэчак. Род Радзівілаў лічыўся адным з самых багатых і адукаваных на тэрыторыі сучаснай Беларусі, і, вядома ж, Багуслаў неаднаразова выязджаў у замежныя краіны. Адсюль можна зрабіць выснову, што яго цікавасць да драўлянай забудовы невыпадковая. Акрамя таго, на Пегасе, пра якога мы ўжо згадвалі, на гуньцы

На сваім шляху
кожны сутыкаецца
з шалапутнымі людзьмі.
Але і яны могуць
падштурхнуць да геніяльнай ідэі

**Кніга прысвечана не толькі архітэктурнай спадчыне Беларусі. Чытач прагуляецца па Італіі, даведаецца пра галоўныя патрабаванні да твора архітэктуры, якія ляжаць у аснове ўсякага будаўніцтва, пазнаёміцца са старажытнымі ордэрнымі сістэмамі, элементы якіх выкарыстоўваюцца да гэтага часу**



можна пабачыць манаграму з дзвюх літар: B і R. Адсюль Тамара Віктараўна робіць выснову, што герб быў распрацаваны менавіта Багуславам Радзівілам.

Аднак кніга прысвечана не толькі архітэктурнай спадчыне Беларусі. Чытач прагуляецца па Італіі, даведаецца пра галоўныя патрабаванні да твора архітэктуры, якія ляжаць у аснове ўсякага будаўніцтва, пазнаёміцца са старажытнымі ордэрнымі сістэмамі, элементы якіх выкарыстоўваюцца да гэтага часу.

Па дарозе ад Рыма да Венецыі раскідана мноства звестак з гісторыі і этымалогіі. Напрыклад, чаму галоўны храм багоў носіць назву Парфенон? Што за матэрыял ляжыць у аснове ўсяго і перакладаецца як краевугольны камень? Далей апісана, як хрысціяне пачалі будаўніцтва сваіх храмаў: якой форме будынка яны аддавалі перавагу. Як выглядалі старажытнарускія гарады і чаму Масква атрымала назву белакаменнай? У Мілане і Падуі будзе магчымасць пазнаёміцца з непаўторнымі помнікамі архітэктуры эпохі Сярэднявечча. Што такое «контрфорсы» і навошта яны готыцы — візуальна растлумачаць касцёлы ў Празе, Вільні і мястэчках Беларусі.

Як конь на гербе Слуцка атрымаў свае крылы? Якім раней быў родны горад Уладзіміра Караткевіча? Дзе чэрпаў натхненне Напалеон Орда і што ён змог захаваць для нашчадкаў? Хто не даваў разбураць архітэктурныя каштоўнасці ў эпоху сацыялізму і каго можна прызнаць пакутнікам дойлідства?

На сваім шляху кожны сутыкаецца з шалапутнымі людзьмі. Але і яны могуць падштурхнуць да геніяльнай ідэі. Падобны выпадак з жыцця распавяла нам Тамара Віктараўна. Была ў яе вельмі лянівая аспірантка, якой патрабавалася напісаць навуковую працу. Ніяк яна не магла прыдумаць тэму. Тамара Віктараўна зрабіла падказку, сабрала нейкія матэрыялы, але аспірантка не зрэагавала. Тады Тамара Віктараўна пачала пісаць працу замест яе — і паступова прыйшла да цэлага даследавання, у выніку якога выйшаў артыкул пра выявы анёлаў у архітэктуры, скульптуры і выяўленчым мастацтве. З'явіліся гэтыя істоты як антрапаморфныя фігуры яшчэ ў раннехрысціянскіх фрэсках, і паступова кожная новая эпоха ўносіла свае змены ў іх выяўленне. Гэта далёка не ўсё, што можа захапіць чытача.

Вікторыя ТРЫПУЦІНА

# «ТОЛЬКІ ПРАЎДАЙ ДАРАЖЫЎ»

***Зубрыцкі Э. Восень над вогнішчам. — Мінск, 2011. — 256 с.***

Хто з нас не адчуваў сябе адзінокім? Сучасны чалавек, здараецца, адчувае сябе выкінутым з нястомнага кола часу. А яшчэ больш балюча гэта для такіх людзей, як паэт Зубрыцкі, што перажылі змену эпох. Аўтар правядзе вас праз усе кругі трагедыі адзіноты. Тут будуць расчараванні, нясмелыя надзеі і непрызнанне, непатрэбнасць, і маўклівыя пытанні самому сябе. Усё наша жыццё, як сцвярджаюць псіхолагі і сацыёлагі, — спроба не застацца аднаму. Але як далёка ты гатовы зайсці дзеля гэтага? Магчыма, праз нейкі час «Дом, пазбаўлены дыхання» будзе чакаць і нас: «Цяжка і стомлена брыду. / Адзін. / Навобмацак. / Ні праведнік, ні грэшнік. / Чаго шукаю — пэўна ж, не знайду». У вершы «Ізгой» паэт звяртаецца да птушак — з просьбай забраць яго з сабой. Але гусі рашуча адмаўляюць: «Ты на зямлі прыжыцца / Не змог, а як між нас?» Ізгой і там, і тут, — вось прысуд паэта.

Іншая шырокая тэма — Лёс. Вечныя пытанні без адказу, зададзеныя Зубрыцкім, раскрываюць яго таемныя асцярогі і неадменную цвёрдасць. Чалавек не павінен апускаць рукі, і аўтар з дапамогай паэтычных радкоў падае прыклад для людзей, што звыклі наракаць на лёс.

Беларускую мову Зубрыцкі называе «выгнанніцай», дарэмна спрабуе дастукацца да чалавечых сэрцаў. Гэта той «Паром», які хоча паспець пераправіць аўтар для будучых пакаленняў.

Як прызнаваўся Зубрыцкі ў сваіх вершах, ён амаль не памятаў вайны. Толькі самыя яркія моманты засталіся: як спальвалі суседнюю вёску, якімі на самай справе былі «выратавальнікі»-партызаны. У паэме «Горкі парог» паэт піша пра свайго бацьку — аднаго з тых, хто аддаваў жыццё за нешта добрае, якое, здавалася, абавязкова павінна было наступіць. У двух вершах перададзена тое, на што прозе спатрэбілася б больш за дзвесце старонак: «І ў неба сваё, / Што бацькі адчынілі, / Узняцца на крылах змаглі».

Трэба сказаць некалькі слоў і пра яго Жанчыну. Як у рыцараў былі свае Дамы Сэрца, як у Блока была Незнаёмка, так Зубрыцкі ўсхваляе Жанчыну. Гэта не паблажлівыя кампліменты моцнага слабому, гэта пакланенне і нават часам рабалепства. Жанчына як сімвал прыгожага і маральна неабходнага — тая нітка, за якую чапляецца паэт. Яго просьбы застацца побач не могуць не знайсці водгук у душы людзей, для якіх любоў яшчэ не стала пустым гукам.

Неразгаданым застанецца трыпціх «Венцаносная». Хто яна, гэтая Багіня, якая на вуснах у самога Бога і якой «напаўняе свой храм» аўтар? Яна прыйшла ў эпоху Адраджэння — падказвае ён. Можа, гэта Жанчына, якую апяваў Франчэска Петрарка?

Даволі загадкавы і верш «Вароны». Ва ўсе часы вароны ўспрымаліся благім знакам, у амерыканскай літаратуры сімвал крумкача выдатна адлюстраваў паэт Эдгар По. Вароны Зубрыцкага — гэта прадвеснікі смерці, але, што самае дзіўнае — яны больш брудныя і грэшныя за чалавека.

Сёння для многіх рэлігія стала чымсьці накшталт містычнай забавы. Але аўтар не з іх ліку. Вера — гэта тое, што ніколі не дазволіць пачуццю адзіноты ўзяць верх над чалавекам. Паэт шчыра непакоіцца за сваю святую веру, якую яшчэ не так даўно тапталі нагамі. Царства «бязвер'я» спарадзіла і выхавала зусім іншых людзей. Але дзе ж ім чэрпаць мараль і правілы жыцця, калі галоўны закон адменены? Гісторыя часта ўпадае ў крайнасці, але Зубрыцкі пасылае пытанне, адрасаванае хутчэй нашчадкам: «Мы аднаўляем сёння храмы, / А хто ж адновіць нам / Душу?»

Бадай, што Эдуарда Зубрыцкага, як і ў старадаўнія часы, можна таксама лічыць рыцарам: з верай у сэрцы, з імкненнем да прыгожага, у любы момант гатовага аддаць жыццё за сваю мару.

Уладзімір ДАМАШЭВІЧ

# ДЗЁННІКАВЫЯ НАТАТКІ*

**1987 год**

**1 снежня, аўторак**

Апошні месяц года. На дварэ плюсавая тэмпература. Хоць сёння ішоў снег — ноччу і раніцай, але тут жа раставаў. Ветру няма, цёпла, адзін градус цяпла.

Хацеў чытаць маладзейшых, але пасля зноў узяўся за Карпеку, трохі прайшоўся. Засталася яшчэ палавіна. Але які тыдзень трэба патраціць.

На працу заходзіў Капыловіч Іван, пытаўся пра сваё апавяданне — ці я прачытаў.

Яшчэ быў Ланеўскі, прынёс дапрацаваны матэрыял пра Гурку-Рамейку, нашага земляка — генерала, які камандаваў рускімі ў Балгарыі ў мінулым стагоддзі. Ланеўскі, аказваецца, добра ведаў Машэрава, разам з ім партызаніў спачатку на Расоншчыне, а пасля на Вілейшчыне. Вось чаму і напісаў пра гэта кніжку.

Зноў заходзіў Белы да Янкі Сіпакова, нешта доўга гаварылі пра Скарыну і яго гравюры, пра Шматава, які памяняў погляды на некаторыя рэчы.

Была ў нас дзяўчына з Літмузея, збірае матэрыялы, але ў нас нічога такога няма, што не надрукавана, ёсць толькі матэрыялы, якія прайшлі праз друк.

Заходзіў Пякарскі, трохі пагаварылі. Паглядзелі на разбітае таксі пад нашым акном.

Калі ўсе прыйшлі на працу, гаварылі пра ўчарашнюю секцыю прозы — што зноў выбралі Адамчыка, што ўвялі ў бюро некалькі чалавек ад «Маладосці» — Дайнеку (намеснік), Далідовіча і Гігевіча. Не прайшлі Арабей, Марчук, Паўлаў. Вылучалі і на прэміі, на Мележаўскую трапілі нашы два — Дайнека і Далідовіч. Марчук не прайшоў. Усе былі супраць, нават ні аднаго голаса «за», хоць Брыль прапанаваў яго кандыдатуру.

Пасля працы заходзіў да Іры Крэнь, пасядзелі, пагаварылі. Пра Дануту, пра Савелія, пра палеміку вакол Адамовіча і Шагала.

**2 снежня, серада**

Чытаў і рэдагаваў Карпеку, забыўся пра «Літгазету». Паглядзеў потым на рабоце, сёе-тое ёсць, трэба будзе пачытаць.

Абмяркоўвалі збольшага ўчарашнюю гутарку Гарбачова з амерыканскім карэспандэнтам Бошам Брокаў. Усе выказалі думку, што Гарбачоў добра адказваў на ўсе яго пытанні. Па ўсім відаць, што хлопцу добра заплацілі за яго настойлівасць і нават бесцырымоннасць. І мо яшчэ больш заплацяць, бо ён быў вельмі настырны, асабліва ў яўрэйскім пытанні. Нават пра берлінскую сцяну ўспомніў. Але і тут Гарбачоў яго добра адбрыў.

Сёння ў нас аўтараў было няшмат, толькі Янка доўга гаварыў з Тамарай Чабан.

Мне званок быў ад Пасынкавай, хоча пазнаёміцца з маёй жонкай — каб расказала пра Клецк, пра свайго бацьку, ён у час акупацыі быў дырэктарам дзіцячага дома, які вывезлі з Мінска.

Званіў Санько, нешта ён доўга маўчаў. Неяк мне нават няёмка было, што я закінуў, не дачытаў, так і ляжыць палова аповесці. Але ж не разарвешся...

Званіў яшчэ Лук’янаў з Магілёва, казаў, што канчае аповесць, ёсць яшчэ адна гатовая, але на рускай мове. Адным словам, дамовіліся, што прышле — адну ці другую, якую раней давядзе да ладу.

* Заканчэнне. Пачатак у № 1—6 за 2008 г., № 7, 8, 9, 10, 11 г. г.

**3 снежня, чацвер**

Янка Сіпакоў аддаў мне газету «Ленінскі прызыў» з Оршы (яму прысылаюць), у якой расказана пра перайменаванне вуліцы Касманаўтаў у вуліцу імя Ул. Караткевіча. Змешчаны невялікі артыкул А. Танчэўскай і тры фота Ф. Быкава, на якіх: выступае Таццяна Мархель, другое — сама мемарыяльная дошка з надпісам: «Гэта вуліца названа ў гонар Уладзіміра Караткевіча, беларускага савецкага пісьменніка», трэцяя — групавая, на якой выступае сакратар Казько, побач з ім настаўніца Лілія Змітраўна Радомская, а лявей — я ўласнай персонай.

Пасля працы ездзіў да Карпекі, завёз частку рукапісу.

**9 снежня, серада**

Зранку адразу пайшоў на дзяжурства. Трохі чытаў Асташонка, потым схадзіў па «Літгазету», але не купіў — разабралі. Затое забраў рэдакцыйную пошту, пачытаў цікавы артыкул генерала Ваўкагонава пра Сталіна — «Феномен Сталіна». Увогуле цікава і, па-мойму, правільна ён глядзіць на гэтую асобу першай паловы нашага стагоддзя. Аказваецца, яго бацька быў рэпрэсіраваны і нават невядома дзе пахаваны, як і мільёны другіх такіх людзей. Правільна ён гаворыць, што Сталін не вытрымаў выпрабавання ўладай. Ён нават выказвае думку, што Сталін быў душэўнахворы, што нянавісць у яго была паталагічнай, бо ён вельмі быў заняты рознымі экспрапрыяцыямі і знішчэннямі. Цікавую думку выказвае пра акружэнне Сталіна пасля смерці Леніна — што па сіле натуры ў той час яму не было роўных, хоць па іншых якасцях былі і вышэй за яго. Шмат было мяккіх і падатлівых, якіх ён зрабіў сваімі слугамі, а мацнейшых паступова знішчаў. Адзінокі тыран на вяршыне піраміды.

Было некалькі званкоў ад Пасынкавай і Юркевіча.

Прабыў да 15 гадзін, пасля паехаў у Дом літаратара, хацеў даць на чытку аповесць Дубінкі Юрэвічу ці Зуёнку. Зуёнак едзе ў Маскву, а Юрэвіча не было. Пасядзеў у Міклашэўскага, трохі пагаварылі пра свае справы, пра яго артыкул, які я занёс у «Звязду» і яшчэ не ведаю, што з ім рашылі там зрабіць.

Хацеў з'ездзіць у выдавецтва, але не паспеў, трэба будзе заўтра, папрасіць, каб выпісалі які авансік, бо перад Новым годам зусім няма грошай.

Вечарам рэдагаваў Карпеку, дайшоў да 190 старонкі. Засталося яшчэ 50.

Глядзелі таксама сустрэчу ў Вашынгтоне, выступленне Рэйгана і Гарбачова, пасля выступленне Грабачова перад кангрэсменамі. Малайчына наш сакратар, ён трохі прамые мазгі амерыканцам. А то яны глядзелі на нас як на дзікуноў.

**10 снежня, чацвер**

На працы былі званкі, аўтары не заглядвалі. Пазваніў Зайцаў, вельмі турбуецца за сваю аповесць. Пазваніў Рабянок, таксама пытаўся пра аповесць. Зайшоў Гаварушка, памяняў нейкую п'еску — на новы варыянт. П'еска прымітыўная, пра п'янку.

Аношкін прыслаў ліст, у якім некалькі пытанняў, у прыватнасці, ці можам мы надрукаваць аповесць Шумава ў перакладзе на беларускую мову.

З БелСЭ прыйшлі лісты наконт праграмы выдання збору пра нашу мову. Каб мы падумалі над гэтым пытаннем і сабраліся на нараду ў БелСЭ. Падпісаны ліст Шамякіным.

Хацеў пазваніць Юрэвічу, ды не сабраўся. Гаварыў толькі пра аповесць Дубінкі з галоўным і намеснікам. Урэшце яны згадзіліся, што хай прачытаюць члены рэдкалегіі, а пасля паглядзіць яшчэ галоўны.

Пасля працы завёз вялікую частку арыгінала Карпеку, у мяне застаецца недзе 40 старонак — яшчэ на адзін рывок.

А пасля паехаў у Дом літаратара на вечар, арганізаваны маладымі літаратарамі пад назвай «Тутэйшыя». Народу сабралася шмат, пераважна моладзь. Але былі і старыя, і сярэднія. Людзі нават стаялі.

І што ж — вечар быў цікавы, хоць былі і выбрыкі, і гаварыльня, і гульня ў фразы. Добра, мне здаецца, паказаў сябе Сыс, хоць асобныя заносы ў яго ёсць. Мо не варта было прысвячаць нейкі алегарычны верш Танку, «асабліва яго перыяду пасля вызвалення», — падкрэсліў Сыс. Як Танк маўчаў пра балючыя пытанні і праблемы.

З начальства былі Танк, Зуёнак, Бутэвіч, новы парторг — Пашкоў. Сядзелі незнаёмыя

**Успамінае Алесь МАКОЎСКІ**

## «МАЛАДОСЦЬ» І СЛОВА

***Сярэдзіна ліпеня. Самая макаўка лета. Надвор'е ўсталявалася спякотнае. Які ўжо дзень няшчадна смаліць сонца. Раскалёнае да белі, слепіць, не зірнуць на яго. І намёку няма на лёгкія павевы выратавальнага вятрыскі. Нават палахлівы і заўсёды трапяткі асінавы ліст не варушыцца. Духата.***

***Разам з пісьменнікам Анатолем Зэкавым стаім у засені ліп і гонкіх таполяў каля дагледжанай вучнямі мясцовай школы магілы майго слыннага земляка — Каруся Каганца. Даўно (і не раз!) прапаноўваў сябру наведаць разам сваю малую радзіму, вёску Павуссе, што на Дзяржыншчыне. Слова стрымаў.***

***Паклалі кветкі. Стаім. Маўчым. Узіраемся ў выяву творцы на высакаватым, з чорнага мармуру пад «парус», помніку. На нас пазірае інтэлігентны чалавек сталага ўзросту, з пышнымі чорнымі вусамі і шыракаватай смалянай барадою. Пазірае дапытліва, нават патрабавальна. Як быццам кажа ці пытаецца: «Я сваё Слова сказаў. Што маеце вы да яго дадаць?»***

***На помніку высечаны яго ж словы-заклік:***

***Адважна, брацця, наперад ідзіце***
***Цвёрдай і правай ступою!***
***Кожнаму смела ў вочы глядзіце,***
***Праўду нясіце з сабою!***

***— Мінула больш за век, а як па-сучаснаму гучаць гэтыя радкі! — сціхшана, але ўзрушана адгукаецца Анатоль.***

***— Такая ўжо яна, прырода высокамастацкага слова, — кажу, тоячы хваляванне. — Прасеяў на сіта мой зямляк словы, адабраў словы-патроны, загнаў іх плотна ў патроннік-радкі і націснуў на спускавы кручок. Стрэліў — на вякі.***

***Могілкі — прыдатнае месца для роздуму. Гамонім пра незайздросны лёс Слова…*** →

маладыя хлопцы і нешта сабе занатоўвалі. У далоні не пляскалі.

Найлепшы нумар — выступленне дзетак з садка Галіны Прымы. Была і яна сама, кіравала імі.

А ў канцы спявалі «Пагоню» на мелодыю «Марсельезы».

**11 снежня, пятніца**

Сёння мала чаго зрабіў, чытаў Карпеку. Недзе ў 12 гадзін заехалі да Галі госці з Польшчы, з тых мясцін, дзе яна некалі да 1939 года жыла з бацькамі на Пазнаншчыне. Праездам тут цэлая група, і вось два мужчыны гадоў па 30, рослыя, добра ўкормленыя, зайшлі па знаёмым адрасе. Хоць і нечакана, але давялося трохі аддаць ім увагі. Праўда, я пабыў да 14 гадзін, а потым пайшоў на працу.

Сёння было даволі ціха, хоць заходзілі аўтары па карэктуру. Быў Грахоўскі, трохі пагаварыў — ён заўсёды што-небудзь цікавае раскажа. У Янкі Сіпакова быў сёння нейкі салідны аўтар, сівы, высокі і мажны — Мілаванаў, ён некалі пісаў вершы (здаецца, і цяпер піша), вельмі доўга гаварыў з Янкам — яны старыя знаёмыя праз «Вожык». Так што пачытаць на працы амаль не атрымліваецца, я прачытаў некалькі старонак Камароўскага. Хадзіў у «Вожык» па Мрыя, але яшчэ не ўсё Валя перадрукавала. Прыходзіў Лецка, ён ужо на новай кватэры, недзе на Даўгінаўскім тракце, у полі.

Званіў мне Суслаў, нешта я зусім забыўся пра яго аповесць, якую па парадзе Каршукова ён мне прынёс прачытаць. Дамовіліся на панядзелак, мо я і паспею.

Гаварылі сёння шмат пра ўчарашні вечар «Тутэйшых», адны са смехам, другія сур'ёзна. Увогуле ацэнка станоўчая, хоць ёсць за што і крытыкаваць. Многія шакіраваны спяваннем «Пагоні» ў канцы вечара, і тут артадоксы гатовы бачыць вялікую крамолу. А з крамолай, як вядома, трэба змагацца. Гэта шчасце, што часова (ці мо назаўсёды?) выбыў са строю Савелій, ён цяпер учапіўся б за гэты «хвост» і раскруціў бы такую справу, што ўсім стала б моташна.

Званіла мне Гапава, гаварыла пра Зубарава, які збіраецца ў нас друкаваць артыкул пра сяброўства Горкага (з Пешкавых) з Багдановічам. Казала, што гэты Зубараў

паводзіць сябе як Астап Бэндар — бярэ чужое і выдае за сваё.

Вечарам па тэлевізары была вельмі цікавая прэс-канферэнцыя Гарбачова ў Вашынгтоне.

**12 снежня, субота**

З самага ранку пазваніла Іра Крэнь і сказала сумную навіну — памёр Яўген Рапановіч. Раніцай, недзе ў 6 гадзін… Сабраўся, паснедаў і паехаў на Шырокую. Былі ўжо людзі — іх сябры і сваякі. Былі Хаткевічы — Галіна Паўлаўна і Мікола, Валодзя Сарока, швагер з жонкаю і сынам, яшчэ ад школы, Зіна ўся ў чорным, плача і гаруе. Пастаялі, пасядзелі, потым прывезлі дамавіну, пераклалі Яўгена туды, паставілі на месца. Ён з падвязаным падбародкам, але нейкі свежы, не такі, як быў жывы — змарнелы і ўчарнелы. Пад вечар, калі павязку знялі, усе здзіўляліся, што нібыта абноўлены, памаладзелы на дзесяць гадоў. І ніякіх плямаў на твары, толькі вушы трохі пасінелыя.

Быў Сцяпан Грабчыкаў, вельмі ўзрушаны, паехаў хутка. Я таксама недзе ў 16 паехаў, пабыў дома, нават рэдагаваў Карпеку, яшчэ мне трэба пачытаць Суслава. У 20 паехаў зноў да Рапановічаў, людзі ўжо былі іншыя, прыехалі і здалёк — з Мядзельшчыны прыехаў брат Яўгена Серафім, яшчэ малады мужчына — пляменнік, нейкая жанчына, падобная да Рапановіча. Па Зінінай лініі таксама было некалькі чалавек.

Я ехаў трамваем, пасля аўтобусам, недзе калі 12-ці. Людзей было мала, неяк трохі адышлі нервы, перастала шумець галава. Усё гэта вельмі цяжка пераносіць. А што родным і блізкім? Яшчэ цяжэй. Тым больш, калі чалавек быў добры, аддаваў душу сваёй сям'і, працы, калі ён ніколі не выйшаў з рамак прыстойнасці, не нагрубіў жонцы, не абразіў дзіця, не прыйшоў дадому п'яны, не завёў каханкі і г. д. Такіх людзей, як Рапановіч, увогуле мала на свеце.

**13 снежня, нядзеля**

І сёння зранку быў настроены на жалобную хвалю. Але неяк было ўжо лягчэй — зміры́ўся. Учора было больш балюча, а сёння неяк трохі ўсё размылася. У 11 паехаў да Рапановічаў. Людзей было шмат, у кватэру не ўмяшчаліся, стаялі на лесвіцы.

→

* * *

***— Свае першыя апавяданні я надрукаваў у няўрымслівай «Маладосці».***

***— Доўга класікі валынілі? — хітравата пытае заўсёды гатовы на дасціпны жарт Зэкаў.***

***— Як табе сказаць?.. Хочаш, будзем вяртацца, па дарозе збольшага раскажу.***

***За сваё даўгаватае і тлумнае жыццё мне даволі часта даводзілася грукацца ў розныя дзверы: высокіх начальнікаў, шараговых чыноўнікаў і, вядома ж, выдавецкія і рэдакцыйныя. Падчас працы ў газеце «Чырвоная змена» напісаў некалькі апавяданняў. Папрасіў пачытаць тагачаснага загадчыка аддзела літаратуры і мастацтва паэта Міколу Федзюковіча. Той ахвотна пагадзіўся, а калі прачытаў, аўтарытэтна параіў:***

***— У «Маладосць». Толькі ў «Маладосць» і абавязкова ў рукі самому Уладзіміру Дамашэвічу.***

***Рэдакцыя часопіса і газеты месціліся ў адным будынку — Доме друку. Стаю перад запаветнымі дзвярыма, у левай руцэ танюсенькая кардонная папка, а правая ніяк не адважыцца пагрукаць. Часта тахкае сэрца, а вочы мо дзясяты раз чытаюць: «Часопіс "Маладосць". Дамашэвіч Уладзімір Максімавіч. Загадчык аддзела прозы». Урэшце, дзе наша не прападала, асмеліўся.***

***Падобрыдзенькаўся. У невялікім кабінеце тры нехлямяжныя сталы. За кожным — супрацоўнік. «Ага, мяркую сам сабе, дзве самыя вялікія гары рукапісаў на стале вось гэтага, з прыязным позіркам мудрых і разумных вачэй, творцы. Мабыць, гэта і ёсць Дамашэвіч. А вось справа ад яго, з цёмнай і густой кучаравай чупрынай, прыгожы хлопец, калі не памыляюся, Генрых Далідовіч — таксама знаны творца. А насупраць Дамашэвіча рыжаваты мацак, вядома ж, Леанід Дайнека — паэт і празаік, аўтар гістарычных раманаў, ухваленых крытыкай і прыхільна сустрэтых чытачамі…***

→

→

***— У вас проза? — перапыніў мае назіранні мяккі голас Уладзіміра Максімавіча. — То прысядзьце… Паглядзім, што вы нам прынеслі.***

***— Апавяданні ў мяне, — схапіўся і ўдакладніў: — Тры апавяданні.***

***— У нас, каб вы ведалі, — працягваў загадчык аддзела прозы, ледзьве я прымасціўся на мулкае крэсла, — завядзёнка такая: рукапісы чытаем у парадку чаргі. Інакш скаргаў не абрацца…***

***— Для пісьменніка, вядома, важна напісаць добры твор. Але куды важней убіцца з ім у выдавецкі ці рэдакцыйны план! — галасна абвясціў Леанід Дайнека і зычна зарагатаў.***

***Удаламу жарту прыязна засмяяліся. Усе акрамя мяне. «Завочна ў іх — рукапісаў процьма. Гадкоў з пяць давядзецца чакаць. Ды яшчэ ці ўпадабаюць напісанае?» Падумалася мне так — і я зусім зніякавеў. Са слупняка вывеў голас Генрыха Далідовіча.***

***— А вы з якіх мясцін будзеце?***

***— З Дзяржыншчыны.***

***— А я са Стаўбцоўшчыны. Так што мы амаль землякі. Скажыце, а ў вашых краях слова «сценка» ёсць ва ўжытку? Маю на ўвазе не тую сценку, якая ў гарадскіх кватэрах стаіць ад кута да кута, а сценку як дарогу. Чулі такое слова?***

***Мне не трэба было доўга думаць і цягнуць з адказам. Вядома ж, жыве такое слова! У маленстве, калі маці не раз пасылала нарваць свінням ці трусам кош травы, наказвала так: «Збегай, дзіцятка, на сценку. Там паабапал яе расце густая дзяцельніца — мігам налупіш».***

***— Ёсць такое слова, — паспешліва адказаў і пачаў тлумачыць: — Гэта не вельмі шырокая дарога. Так… Як адной фурманцы праехаць. У нас яна пралягае наўскрай вёскі. Непадалёк ад маёй хаты.***

***— Во, во! — радасна заўсміхаўся і ўстрапянуўся Далідовіч. — Сценка заўсёды пралягае па-за вёскай. Яна паказвае мяжу. Атуляе яе…***

→

Прыходзілі з выдавецтваў — «Народнай асветы», «Навукі і тэхнікі», «Энцыклапедыі». Колькі нанеслі кветак! Было шмат знаёмых: Пятакоў, Рудакоўскі, Ляшчынскі, Каўрус, Ланда Барыс, дырэктар школы, дзе вучыць Яўгенава жонка, ён на годканчаў раней за мяне; былі яго сябры і аднакурснікі, землякі. Вось яны вельмі добра выступалі, цёпла гаварылі пра Яўгена. Мне спадабаўся выкладчык політэхнічнага інстытута Шастаковіч і былы загадчык райана ў Мядзелі Станіслаў Станіслававіч, нізкаваты, таўсматы, з носамбульбінкай, цікавы чалавек, калі меркаваць па выступленні.

Назад ішлі разам Рудакоўскі, Станіслаў Станіслававіч, яшчэ некалькі чалавек. Развіталіся і пайшлі-паехалі кожны ў свой бок.

Заехаў да дзяцей, усе былі дома, пачаставаў гарбузікамі, даў ім «Маладосць» № 11 і «Беларусь», апошні нумар, я яго яшчэ сам не глядзеў. Малы Кастусь трохі пакрыквае, але добры хлопец, здаровы. Сказаў ім, што памёр дзядзька Яўген Рапановіч, які ўвесь час цікавіўся іх жыццём і перажываў з-за неўладкаванасці. А цяпер вось яго дачка засталася ў такой сітуацыі, яшчэ толькі на першым курсе, наперадзе даволі ўсякіх нечаканасцей.

**15 снежня, аўторак**

Адчуваю прастуду, халодзіць за плячыма. Зранку дачытаў Карпеку, усяго атрымалася 240 старонак, гэта добрых дзесяць аркушаў. Кніжка атрымаецца неблагая.

На рабоце прагледзеў аповесць Арлова, учора ён прынёс рукапіс пасля дапрацоўкі. Канцоўку ён так і не змяніў, пакінуў адну за другой дзве смерці, і сцэны даволі падобныя, не знайшоў, як падаць гэта ў новым ключы.

Званіў Салавей, казаў, што быў у адпачынку, на днях зойдзе.

Заходзіў Пякарскі, казаў, што ўвесь дзень цісне сэрца, не памагаюць таблеткі.

Мікола Чарняўскі перадаў мне ад Якімовіча невялікую аповесць «Гордзіеў вузел», відаць, ён заходзіў у «Бярозку».

Званіў Сталік Шастоў, пытаўся пра «Дзяцей Арбата». Пагаварылі пра сёе-тое.

Наварыч заходзіў да Гігевіча, Гігевіч хоча ўключыць яго ў аўтары сцэнарыяў для дакументальных фільмаў — нешта пра школу.

Званіла машыністка Валя з «Вожыка», казала, што ўсяго яшчэ не передрукавала, бо зламалася машынка. Так што Мрый можа не паспець у 2-і нумар. Але яшчэ ёсць некалькі дзён, пабачым.

Пазваніла Валя Шаўчук, дамовіліся сустрэцца. Заходзіў у «Звязду» забраў артыкул Міклашэўскага, бо ім не спадабаўся. А апавяданне Шалкевіча будуць даваць перад Новым годам. Гаварылі яшчэ пра гумарэскі.

Яшчэ заходзіў Ул. Дзюба, нешта доўга расказваў Жэні Янішчыц і Віктару Гардзею.

**17 снежня, чацвер**

Скончыўшы адну працу, за другую адразу не хочацца брацца. Ці гэта пратэстуе стомлены арганізм, ці цяжка пераключыцца на новую хвалю, прывыкаць да іншых спраў і абавязкаў. А канкрэтней — ужывацца ў новыя вобразы, тэмы, імёны, стылі. Вось пасля Карпекі не ведаю, што буду чытаць. Назбіралася шмат апавяданняў, трэба тэрмінова прачытаць: Калкоўскага, Праўдзіна, Жука Анатоля, Кантылёва, Паравік, яшчэ некалькі фантастаў. Адным словам, вялікі завал. Але гэта на тыдзень-два, а колькі ляжыць раманаў-аповесцей, якія чытаць трэба месяцы? Не ведаю, ці да пенсіі ўсё прачытаю, хоць смейся, хоць плач.

Трэба прачытаць уласную карэктуру, ужо ляжыць два тыдні, а я толькі пачаў. Набрана кепска, памылак шмат, а я думаў, што падпішам з першай карэктуры. Куды там!

На працы то званкі, то аўтары. Званілі Ланеўскі, Какорыч, стары Філіповіч, пытаўся, што з яго «Аніскай». Дамовіліся пагаварыць у студзені.

Званіў Марозаў, пагаварылі пра яго дакументальную аповесць (урыўкі пайшлі ў «Чырвонай змене»).

Заходзіў Мікола Салавей, аддаў яму другі раз аповесць на дапрацоўку. Ён адчуваў сябе няёмка, а я гаварыў з ім так, нібы паміж намі нічога не адбылося — ва ўсякім разе, на аповесці яго гэта не павінна адбіцца. А ўрок, я думаю, ён атрымаў.

**18 снежня, пятніца**

Зранку трохі прачытаў карэктуры, а пасля ўзяўся за апавяданне Калкоўскага «Біялагіня». Па мове ёсць трохі заўваг, а па сюжэце амаль што закончанае апавяданне. Добра выхаплены з жыцця вобраз сучаснай настаўніцы, якая пайшла на працу выпадкова і, натуральна, не ведала прадмет і не любіла дзяцей — і яны ёй плацілі тым жа — здзекаваліся з яе і жартавалі. Вось яна і збегла ад іх у горад, у нейкую кантору. Калкоўскі добра паказаў і дзетак, але настаўніцу доўга трымаў убаку, не падаваў справу. Калі ён дадасць

→

***Выйшаў з кабінета не сказаць каб у прыгнечаным стане, але даволі кіслы. «Невядома, які лёс чакае мае апавяданні. А тут яшчэ Далідовіч са сваёй сценкай… Патрэбна мне гэта сценка, як сабаку пятая нага. Што мне да яе?»***

***— І толькі пазней, Анатоль, я зразумеў: якое ж патрабавальнае і цнатлівае стаўленне да жывога народнага слова было ў тагачасных супрацоўнікаў «Маладосці»! Як важна, каб не парывалася повязь творчых пакаленняў!..***

***— А яна, дзякаваць Богу, пакуль што не парываецца, — адчайна адмахваючыся ад аваднёў і сляпнёў, якія нас атакавалі, разважліва кажа мой сябра. — Сыход з часопіса Дамашэвіча, Далідовіча, Дайнекі, бясспрэчна, вялікая страта… Але ж пасля прыйшлі ў часопіс новыя… Дарэчы, ты так і не адказаў мне, ці доўга мурыжылі ў «Маладосці»?***

***— Не! — упэўнена адказваю.***

***Мінула тыдні са тры. Раптам тэлефонны званок. Сам Уладзімір Максімавіч запрашае зайсці. Ледзь не бегма бёг. Аддыхаўся. Заходжу і чую: «Спадабаліся, Алесь, нам вашы апавяданні. Але часопіс не гумавы: надрукуем у бліжэйшым нумары толькі два. Вам абавязкова трэба пісаць і больш далікатна ставіцца да мастацкага слова».***

***— Ведаеш, Алесь, вечарам, па халадку, мы лёгка падымем што-кольвечы і за твайго славутага земляка, і за «Маладосць», і абавязкова за роднае слова, — прачулена, адным дыхам вымавіў паэт і празаік Анатоль Зэкаў.***

***Сонца амаль у зеніце. Пячэ неміласэрна. Задуха. Мы спакваля брыдзём маёй утравянелай сцежкай…***

яшчэ адну якую сцэнку праз яе ўспрыняцце, можа выйсці добрае апавяданне.

На працу трохі спазніўся, заходзіў у «Энцыклапедыю», насіў фота Скалабану, але яго не было. Бачыў Саламевіча Янку, пагаварылі хвіліну. У яго былі госці са Слоніма, рыхтуюць «Кнігу памяці», Янка бярэ на сябе збіранне і рэдагаванне.

На працы ўжо чакаў новы аўтар, недзе з Крупскага раёна, з-пад Сялявы — возера, Яўген Шпак (а так, здаецца, Шпакевіч), прынёс вялікае апавяданне «Чарадзей». Сам настаўнік, добра гаворыць па-беларуску.

Затым быў Нічыпаровіч, прынёс дапрацаваную аповесць.

Заходзіла Паравік, але я ездзіў у стол заказаў, размінуліся. Заходзіў да Юрэвіча, прасіў прачытаць Дубінку, але ён адмовіўся, бо заняты. Міклашэўскага чамусьці не было. Бачыў Алеся Яскевіча, перакінуліся словам. Кажа, што цяпер амерыканцы не страшныя, увесь страх у кітайцах. Тут ён, відаць, мае рацыю, больш як мільярд людзей, яны могуць перавярнуць свет.

Званіў Юркевіч, але яго апавядання я так і не прачытаў.

Далідовіча сёння не было, кажуць, што захварэў. Быў Грачанікаў, гаварылі пра другі нумар. Пайшоў Мрый, пяць апавяданняў, а знялі вялікае Варановічава апавяданне. Ждановіч даў мне кіпу фота, але нешта я там сябе не ўпадабаў.

**19 снежня, субота**

Сёння адліга, слізгота, а пад вечар снег зусім пачаў раставаць, са стрэх цячэ вада. Не падобны снежань да канца года. Але цяпер усё так — не падобна тое, як яно павінна быць. Чым займаўся цэлы дзень, дык і сказаць цяжка. Схадзіў у магазін, купіў хлеба, малака, у кіёску набыў газет — «ЛіМ», «Звязду», «Голас Радзімы». Будзе што пачытаць. А так чытаў сваю карэктуру, але робіцца дрэнна — гэта ўжо каторы раз чытаеш адно і тое ж — некаторыя рэчы мо дзясяты раз правіш. Таму і моташна. А вычытаць трэба было б, бо набрана кепска. Рэдка якая старонка чыстая.

Адказаў на ліст са школы з вёскі Альхоўцы, напісала настаўніца Макоўская, якая выкладае беларускую мову і літаратуру, вядзе гурток «Жывое слова». Яна запрашае мяне прыехаць у школу, выступіць перад вучнямі, падараваць для іх гуртка якую кніжку з аўтографам. Як на грэх, цяпер у мяне ні адной кніжкі, вось мо пасля Новага года выйдзе кніжка «выбраных», тады можна і паехаць на сустрэчу. Абяцаў ім яшчэ выслаць свой артыкульчык для кнігі «Памяць» па Ляхавіцкім раёне, які пісаў для «Энцыклапедыі», толькі трэба перапісаць на чыставік або перадрукаваць на машынцы.

Сабраў апавяданні, якія павінен прачытаць за гэты тыдзень. Набіраецца штук дзесяць, калі не больш. У «ЛіМе» артыкульчык — некралог «Памяці таварыша» — пра Яўгена Рапановіча. Маглі б даць і фота, але... Падпісала група таварышаў. Добра, што і так зрабілі, адзначылі, бо ён заслугоўвае большага. Ён заслугоўвае вялікага ордэна, але хіба такі Саўка нам яго дасць?

Яшчэ ў «ЛіМе» артыкул А. Цітова пра «Пагоню», вельмі добра аспрэчвае Бегуна. Цікавы артыкул пра «Тутэйшых», падпісаны «Наш кар.». Вельмі і вельмі ім не спадабаліся «Тутэйшыя» — «Нашаму кар.» і, відаць, яшчэ некаму. Трэба будзе пачытаць вялікі артыкул Мушынскага «Рэабілітацыя героя» — пра аповесць Якуба Коласа «Адшчапенец» — новае прачытанне твора.

**21 снежня, панядзелак**

Яшчэ ўчора вечарам прачытаў невялікую аповесць (ці доўгае апавяданне) Сітухі, увогуле неблагая, але няма канцоўкі, заключнай рашаючай часткі. Самае галоўнае аддае на вырашэнне чытачу. А я не хачу быць суаўтарам, ты аўтар — то і дай тое, што мне цікава. А не можаш — не бярыся. Толькі так трэба ставіць пытанне. Калі чалавек есць, то ён хоча пад'есці, калі хоча духоўнай стравы — то таксама каб задаволіць свае духоўныя запатрабаванні, а не дражніць сябе нечым няпэўным.

А сёння раніцай узяўся чытаць Асташкевічаву аповесць «Дзявяты вал». Ужо даўно ўзяўся чытаць, ды кінуў, нешта перабіла. А тут ад Асташкевіча ліст, трэба даць адказ — і тут ужо давядзецца гаварыць пра п’есу. Але нешта яна мне не надта падабаецца, прачытаў 30 старонак, а ўсяго — 100. Шмат заўваг па мове, вельмі неахайна напісана,

шмат грубасці і павярхоўнасці ў некаторых сцэнах. Часам прарываецца нешта здаровае, але мала.

На працы шмат было размоў, чытаў Камароўскага, але не чыталася.

Званкоў звычайна ў панядзелак шмат.

Пазваніў Калкоўскі, пасля прыйшоў, пагаварылі пра яго апавяданне «Біялагіня» — што варта яшчэ даць раздзельчык пра яе — яе вачыма, як яна глядзіць на сваю працу настаўніцы, мо яна вінаваціць толькі дзяцей, а сябе не? Павінна выйсці добрае апавяданне, аказваецца, Калкоўскі працаваў у школе, таму ён і ведае гэтую тэму.

Званіў Какорыч, абяцаў прыехаць у чацвер, прасіў прачытаць усе яго апавяданні. Гардзей пазваніў мне ад Сітухі, ці прачытаў яго аповесць. Якраз прачытаў, выказаў сваю думку, папрасіў, каб Сітуха трохі дапісаў, высветліў складаную сітуацыю. Вось там будзе відаць, які ён майстар.

Званіў Левановіч, пытаўся пра раман — як і што? Кажу, што яшчэ не браўся, але Левановіч нам драмаць не дае. Цяпер Гігевіч чытае «Мы з Санькам — артылерысты» Сяркова, пасля хай бярэцца за Левановіча.

Званіў яшчэ Макоўскі, але нешта няясна, што ён хацеў. Мо даведацца, ці аддаў яго аповесць на чытку Далідовічу.

Вечарам чытаў Асташкевіча.

**23 снежня, серада**

Адразу пасля снядання пайшоў на дзяжурства. Мароз — 18 °С, так раптоўна падскочыў, хоць плач. А слізгота — не прайсці, не праехаць. Людзі падаюць, калечацца. Вунь зламаў нагу Іван Канановіч з «Мастацкай літаратуры».

На дзяжурстве было некалькі званкоў. Пагаварыў з Ларысай Кунько. Яна сёння хадзіла да пракурора па сваёй кватэрнай справе, сказала, што на працу мо і не паспее. Званілі Грачанікаву, што яму ў суботу трэба быць на семінары — недзе паедуць.

Схадзіў да кіёска, купіў «Літгазету» без усякіх перашкод, што рэдка бывае. Спаткаў Марчука, трохі пагаварылі.

Пасля 14-і, калі ўсе сабраліся, пагаварылі пра паездку нашых пачаткоўцаў у Маскву, бо зайшла Аколава і расказала пра тое, што там адбывалася і з кім яны сустракаліся, празаікі сталі збірацца на секцыю прозы (бюро секцыі), а я хутка за імі пайшоў на пасяджэнне рэўкамісіі, таксама ў 15.00. Выйшла так, што сядзелі разам — і бюро секцыі і мы, рэвізійнікі, у канферэнц-зале, паслухалі план, які склаў Адамчык для секцыі прозы, а праз 40 хвілін пачалі і мы сваю работу: вынікі праверкі прапаганды беларускай кнігі ў шырокім плане, якія прычыны перашкаджаюць папулярнасці нашай кнігі і г. д.

Асноўным дакладчыкам быў Эрнэст Ялугін, вёў пасяджэнне Рагойша. Закранулі пытанне пра абмен літаратурай з Польшчай, канкрэтна з Беластокам. Нікіфаровіч прапанаваў адкрыць кнігарню беларускіх кніг нашых выдавецтваў у Беластоку, усе падтрымалі. Добра выступілі Рагойша, Бажко. Каржанеўскай не спадабалася наша «глабальнасць» ахопу праблем, на яе думку, трэба было засярodзіць увагу на Бюро прапаганды.

У 19 гадзін быў вечар, прысвечаны 100-годдзю са дня нараджэння Цішкі Гартнага. Вёў Гілевіч, у прэзідыуме госці — перш за ўсё з Капыля — сакратар райкама Скрыган (маладая жанчына, добра гаварыла па-беларуску), настаўніца бел. мовы; Заір Азгур, Мазай, Вайтовіч, Грахоўскі, Скрыгана не было — мо захварэў? Выступалі артысты — Белахвосцік, Авяр’янаў, Бальчэўская, Уладамірскі, Захарэвіч і інш. Урачыстая частка атрымалася добрая. Асноўны даклад зрабіў Гніламёдаў.

Народу прыйшло шмат, поўная зала, і гэта радавала. Я сядзеў побач з Ялугіным, ён напісаў дакументальную аповесць пра жыццё і дзейнасць Цішкі Гартнага, будзе надрукавана ў «Нёмане». Напэўна, цікавая рэч, і дай Бог. Пра гэтага чалавека трэба напісаць высокую трагедыю, ён таго заслужыў. Гэты чалавек зрабіў для Беларусі і яе народа больш, чым усе, што прайшлі па зямлі да яго. Мо толькі Каліноўскі — Каліноўскі першы. А другі — Зміцер Жылуновіч, ён жа Цішка Гартны. А найвялікшая трагедыя яго ў тым, што ён загінуў ад сваіх. Ад ворагаў паміраць — звычайная справа, на тое яны і ворагі. Яны не пашкадуюць. А вось ад сваіх родных братоў, ад аднадумцаў, з якімі нядаўна сядзелі за адным сталом і рашалі адны і тыя ж праблемы — паміраць ад іх рукі! — гэта страшней за ўсё. Хто каму

здрадзіў — вось пытанне. Ён — ці яны? Як жа ён, калі ён быў і застаўся такім, як быў: сумленным, шчырым, адданым ідэі стварэння Беларускай Савецкай Рэспублікі? Значыць, яны ўсе? Але як гэта сталася? Чаму дапусцілі, што ўсё стала мяняцца, перайначвацца, перафарбоўвацца, калі сумленных людзей сталі аб'яўляць ворагамі і садзіць за краты? А ўсе сумняваліся, але маўчалі: абы не мяне. Але дайшло і да «мяне» — бралі і навешвалі ярлык. І ніяк нельга было яго скінуць — як кайданы. Сталінізм — вось хто быў сапраўдным ворагам усіх сумленных і шчырых людзей — камуністаў і беспартыйных. Сапраўдныя ворагі народа былі тыя, хто судзіў народ, яго лепшых прадстаўнікоў і сыноў — беларусаў, рускіх, грузінаў. Урэшце мы іх патроху называем, а трэба, каб гісторыя ведала іх усіх. Трэба, каб мы ведалі ахвяр, трэба, каб мы ведалі і тых, хто рабіў іх ахвярамі, хто на іх крыві і слязах будаваў сабе дабрабыт.

**24 снежня, чацвер**

Зноў чытаў Асташкевіча, уражанне тое ж: ёсць добрыя, цікавыя, вострыя мясціны, а ёсць пустата. Няма скандэнсаванасці думкі, стройнасці дзеяння, а нейкая неарганізаваная стыхія.

На працы не паспеў агледзецца, як ужо трэба на пасяджэнне ў СП, збіраецца праўленне Літфонду. Грачанікаў хацеў зрабіць лятучку ў 16.00, але сам недзе засядаў, гэта ён даў каманду Далідовічу, а тут мне і Сіпакову трэба на Літфонд. Відаць, што перанеслі на пятніцу. Я паехаў першы, пасля Янка Сіпакоў. Разбіралі звычайныя пытанні, як заўсёды: таму дапамога, таму пазыка. Аляксей Русецкі просіцца ў адстаўку з паста старшыні праўлення Літфонду, яго ўгаворвалі, але ён стаіць на сваім, і я лічу, што ён мае рацыю: хай робяць маладыя, многія нават хочуць гэтай пасады ці іншых пасад, а яму можна і адпачыць. У канцы Вільтоўскі папрасіў мяне застацца, каб нешта сказаць. Усе пакрысе разышліся, яшчэ пабыў з Вільтоўскім Янкоўскі, я іх пакінуў адных, пасля зайшоў. І вось што мне сказаў Вільтоўскі: магчыма, што мне выпадзе кватэра Пруднікава, які жыў на Кнорына, а цяпер атрымаў кватэру недзе ва Уруччы.

**25 снежня, пятніца**

Учора сам адчуў і пачуў перабудову ў лепшы бок: зранку ў нашым метро аб'яўлялі па-беларуску адзін прыпынак на Якуба Коласа, а вечарам па-беларуску і руску аб'яўляюць ужо ўсе прыпынкі, спачатку па-руску, пасля па-беларуску. Як казалі хлопцы, цэлы месяц вырашалася пытанне: ці даваць аб'явы па-беларуску, і, відаць, параіўшыся з Масквой, увялі двухмоўныя аб'явы. Упэўнены, што без Масквы нашы самі не асмеліліся б, пабаяліся б «нацыяналізму». І ліст студэнтаў па пытанні аб'яў змясцілі не выпадкова: вось, маўляў, якія мы чулыя да голасу мас: толькі тыдзень, як надрукавалі ваш ліст, і ўжо станоўчае рашэнне праблемы!

Трохі пачытаў Асташкевіча і пайшоў на працу. Сёння неяк нязвыкла ціха, аўтары амаль што не турбавалі — няйначай, стаміліся за тыдзень. Было некалькі візітаў да Янкі Сіпакова, які сёння ачышчаў свой стол перад Новым годам. Гігевіч узяў на два тыдні адпачынак за свой кошт і едзе на Іслач, відаць, хоча скончыць нешта ці пачаць новае.

Далідовіча сёння не было, выклікалі ў выдавецтва. Гаварыў з Грачанікавым пра свой намер ісці ў хуткім часе на пенсію, што сабе ў замену хацеў бы Гардзея Віктара, сказаў трохі пра Гігевіча — што яму будзе цяжка з кім-небудзь працаваць, бо ад яго запатрабуюць поўнай аддачы — чытаць рукапіс як рэдактар, а не як чытач.

Пагаварылі трохі пра раман Далідовіча, пра «Пасляслоўе» Сташкевіча. Цяпер прыйшоў да думкі, што гэтае «Пасляслоўе» у нейкай ступені можа застрахаваць Далідовіча ад зласлівай тэндэнцыйнай крытыкі. А з другога боку — за гэта вельмі спрытна могуць учапіцца і раздзьмуць кадзідла. Але гадаць цяжка, пабачым, што будзе далей.

Сёння шмат гаварылі пра метро, пра двухмоўныя аб'явы. Радуемся хоць невялікай, але перамозе.

Шкада, што сёння не схадзіў у 16.00 на адкрыццё выставы, прысвечанай жыццю і творчасці Цішкі Гартнага ў Траецкім прадмесці.

Званіў Шастоў, трохі пагаварылі. Сустрэчу пераносім на наступны год.

Учора атрымаў ліст ад настаўніцы беларускай мовы з Альхоўцаў Ляхавіцкага раёна.

**26 снежня, субота**

Сёння мароз паменшаў, усяго тры градусы. Сыпаў невялічкі сняжок, прысыпаў лёд, вельмі слізка на дарозе. Выходзіў раніцай, купіў газеты, нават не заходзіў у магазін. Прачытаў у «ЛіМе» апавяданне Сачанкі «Адоль». Мне яно здалося цікавым, ён напісаў яго ў стылі тых маладых сваіх апавяданняў. І ўвогуле яго апошнія рэчы, што ідуць у 1-м нумары «Маладосці», мне здаюцца цікавымі. Твор тады цікавы, калі ў ім ёсць боль, а калі не — то ён здаецца мне пустым, не вартым увагі. Але — іншым пустата лепш падабаецца, чым нейкі драматызм жыцця.

Боль выклікае і артыкул Паўла Прудніква «Іх лёс стукае ў сэрцы», дзе ён гаворыць пра ахвяр культу сярод пісьменнікаў, якіх налічваецца каля ста чалавек. Што імёны іх не павінны быць забыты, што вуліцы і плошчы павінны насіць іх імёны, а некаторыя з іх заслужылі сабе помнікі. А іх няма. Час нешта рабіць, а не толькі гаварыць.

Вершы Ларысы Геніюш яшчэ не чытаў, балады Янкі Сіпакова — таксама, пакіну на заўтра.

**27 снежня, нядзеля**

Цэлы дзень праседзеў дома, хоць зранку думаў зайсці да дзяцей, потым да Клімянковых. Але нейкі гнілы снег за акном не даў мне сабрацца і вырушыць. Вечарам пад нагамі ўжо была вада, ішоў дожджык.

Пачытаў у «ЛіМе» вершы, пачытаў «Праўду». Вершы Ларысы Геніюш вельмі самабытныя, вельмі характарныя, як і іх аўтарка. У яе нейкі мужчынскі характар і мужчынская логіка. І страшэнная ўпартасць, стаянне на сваім назло ўсяму свету. Толькі такі чалавек і можа адстаяць сваё права, можа перамагчы. Інакш у наш час нельга.

Балады Янкі Сіпакова — унікальныя, ён іх піша даўно і ніяк не выпішацца. Сапраўды, знайшоў залатую жылу. І з кожным годам гэтыя яго балады ўсё лепшыя і лепшыя, ён робіць іх як дасканалы майстар — як варацьдамаскую сталь. І гібка, і моцна, і звонка — усе якасці сапраўднага тварэння майстра-мастака. І выдатная да таго ж аздоба, інкрустацыя. Малайчына, Яначка! Проста слязу выбівае, калі чытаеш яго рэчы. А тут у «ЛіМе» тры яго выдатныя балады, і якая лепшая — цяжка сказаць.

Званіў я Пташнікаву, ён ужо вярнуўся з лечкамісіі, праляжаў месяц. Казаў, што трохі падлячылі. Ляжаў разам з Савеліем, але пра яго нічога не захацеў расказваць.

Яшчэ два званкі былі мне: ад Сытова раніцай і ад Пякарскага вечарам. Пякарскі пытаўся, ці заказаў я сабе энцыклапедычны зборнік «Маладая сям'я», каштуе 13 руб., з Сытовым гаварылі пра Новы год.

**28 снежня, панядзелак**

Адліга, на двары вада, снег растае, +3 °C. Новы год на носе, а такое надвор'е!

Дачытаў Юркевіча, усяго 37 старонак. І што ж? Здаецца, атрымалася няблага, можна друкаваць. Не ведаю толькі, ці ў нас гэта выйдзе, скажуць, што стары аўтар.

На працу трохі спазніўся, быў шумны Цішчанка, чакаў Янішчыц. Мяне чакалі дзве жанчыны з Крупскага раёна, аказалася — настаўніца і вучаніца, якая піша, друкавалася ўжо ў «Бярозцы», Мікола Чарняўскі і накіраваў іх да мяне. Дзяўчынка пакінула два апавяданні, трэба будзе паглядзець.

Грачанікаў трохі расказваў пра першы дзень «вальнага сойму», які быў недзе ля Ракава, у стацыянарным піянерлагеры. Народу было шмат, мо чалавек пяцьсот. Былі Бураўкін, Чыгрынаў, з ЦК камсамола. Кажуць, цікава выступалі Бураўкін, Пазняк, Садоўскі, шмат было выступленняў маладых.

Як было на другі дзень, не ведаю, бо нікога са сведак не бачыў.

Аўтараў маіх сёння мала, заходзіў яшчэ Зайцаў, прынёс пачатак «Крынічкі», які ён браў на дапрацоўку.

Заходзіў Арлоў, уносіў нейкія праўкі ў рукапіс і казаў, што аповесць яго будзе надрукавана недзе ў чэрвені, г. зн., што мы павінны яе надрукаваць да гэтага часу.

Адносіны з ім нейкія ўжо не такія, як былі, усё ж ён дарэмна стаў публічна паліваць «Маладосць», гаварыць, што яна «асцярожнічае». Ужо хто-хто, а ён бы памаўчаў, яго друкавалі амаль без правак.

**29 снежня, аўторак**

Дачытаў апавяданні Анатоля Казлова. Адно слабаватае, цьмянае, а тры мне здаліся неблагімі, адчуваецца рука і душа празаіка.



*Уладзімір Максімавіч Дамашэвіч вядзе свае дзённікі і сёння. Мы ж надрукавалі толькі ўрыўкі, прысвяціўшы іх юбілею «Маладосці», што будзе адзначацца ў наступным годзе.*

На працы было шмат званкоў і візітаў. Заходзіў Ланеўскі, прынёс яшчэ адно апавяданне, ці навелу, як ён кажа. Нешта пра Чарнобыль.

Заходзіў Капусцін, пытаўся пра апавяданне. Алешка, сын Алешкі Антона, прынёс рукапіс касманаўта Кавалёнка, мы хочам узяць урывак.

Царанкоў-малодшы прынёс аповесць, працяг ранейшай аповесці, што ў нас ляжыць. Ул. Дзюба едзе ў камандзіроўку (ці быў), казаў, што Вялюгін ужо адрэдагаваў яго паэму пра доктара Руселя. Намякаў мне, што хутка прынясе канчатковы варыянт.

Званіў Какорыч, сказаў, што прыйдзе пасля Новага года, захварэў у яго хлопец.

Быў Пятро Сабіна, ён піша п'есы-п'ескі, іх шмат, і ў нас ляжаць даўно, а калі будуць надрукаваны — вось пытанне, на якое не магу адказаць. Агітаваў яго пісаць апавяданні — мо хутчэй дойдзе да чытача. Хлопец ён, здаецца, цікавы, разумны, хай расце, а не топчацца на месцы.

Званіла Эмілія Пасынкава, павіншавала. Яшчэ — вечарам званіў Асташонак, прасіў напісаць прадмоўку ці пасляслоўе да кніжкі, якая выходзіць у «Мастацкай літаратуры», і я адмовіўся — няма часу, гэта раз. А па-другое — не люблю быць сватам. Пагаварылі даволі шчыра, і ён не павінен пакрыўдзіцца.

Вечарам пачаў чытаць Зайцава «Жыві, мая крынічка», спачатку дапрацаваны пачатак на сорак старонак. А ўсяго мяне чакае чытаць больш як трыста старонак. Адным словам, работа будзе...

Вечарам гаварыў з Карпекам, ён прыехаў з Кіславодска, казаў, што добра адпачыў, нічога не рабіў. Машыністка сарвала яму графік, друкавала яго сябра Семяновіча (яны некалі разам вучыліся ў педінстытуце), а яго абяцае адразу пасля Новага года. Мо гэта і не паўплывае на яго выданне ў «Маладой гвардыі»? Пабачым, але ён сам, па ўсім відаць, перажывае.

**31 снежня, чацвер**

Сёння ў нас работы не было, не працавала друкарня. Таму мы рабілі, што хацелі. Я сядзеў над Зайцавым, нешта зачытаўся. Не ведаю, як пойдзе далей, а так няблага.

Ездзіў у горад, зайшоў да дзяцей, перадаў ім нашы невялікія падарункі, павіншаваў з Новым годам.

Пасля паехаў па заказ, мізэрны, усяго на 5 рублёў. Нікога не бачыў, усе недзе рыхтуюцца праводзіць і сустракаць...

Некалькі разоў хадзіў у магазіны, купляў то хлеб, то малако, то кілбасу. Пра напіткі не думаў — ёсць стары запас.

Вечарам было шмат званкоў ад знаёмых і землякоў, ад Чарнышэвіча Ул. з Барысава, ад Дуктава, Палітыкі, Шалкевіча, Сытова, званіла Зіна Рапановіч.

Лічаныя гадзіны засталіся старога года.

*Васіль ШУР*

# БЫЛА ТАКАЯ ВЁСКА*

Пра паходжанне некаторых прозвішчаў, вядомых у Стадолічах, існуюць мясцовыя версіі, засведчаныя ў «Хроніцы Убарцкага Палесся»: «...у *Стадолічах* прозвішча *Жогла* звязанае з туркамі. Калі ў гэтае сяло наехаў турэцкі атрад, адзін мужык схаваўся ў падпеччы курнай хаты. Яго шукаў турак, нешта гаворачы па-свойму: *“жоглы”* (штосьці накшталт *“сукін сын”*). Паводле падання, ад гэтага часу мужык атрымаў мянушку *Жогла*, якая перайшла да яго дзяцей». Інакш тлумачыць гэта прозвішча У. Юрэвіч: *Жогла*, *Жогліч* — той, хто валодае джалам ці нагрэтым прутком, каб выпальваць адтуліны ў любым матэрыяле. Адзін з *Жоглаў* увайшоў у гісторыю як бунтар, што выступіў супраць царскай адміністрацыі, і гэта засведчана ў «Хроніцы...»: «3 студзеня 1913 года прыстаў 5-га стана Мазырскага павета Уладзімір Бярнацкі праводзіў па выканаўчых лістах земскага начальніка шэраг вопісаў маёмасці. У ліку іншых гаспадароў меўся быць вопіс маёмасці ў Антона Юсцінавіча Жоглы, у хату да якога



*Падвядзенне вынікаў экспедыцыі.*
*У кабінеце рэктара Мазырскага педінстытута М. А. Дзмітрыева.*
*Злева направа прарэктар інтытута В. А. Купрэенка,*
*асістэнт кафедры мовазнаўства В. В. Шур,*
*акадэмік М. І. Талстой. 1974 год.*

прыстаў зайшоў разам з паліцэйскім стражнікам Аляксандрам Максімчуком і панятымі. З прычыны адмовы гаспадара аплаціць па выканаўчым лісце, прыстаў прапанаваў паказаць яму маёмасць для вопісу. Тады Антон Жогла, звяртаючыся да прыстава на “ты”, сказаў: *“Ідзі апісвай, ты прыехаў народ бунтаваць”*, — і потым дадаў, што ён *“такіх прыставаў шмат бачыў”*. За абразу службовай асобы пры выкананні абавязкаў Мінскі акруговы суд 3 кастрычніка 1914 года прыгаварыў накласці на Антона Жоглу грашовае спагнанне ў памеры 20 рублёў з заменаю пры неплацёжаздольнасці арыштам пры паліцыі на сем дзён».

Прозвішча *Шур*, якое даволі частае ў *Стадолічах*, можна, як мы мяркуем, звязваць з апелятывам *шур, шурка* — лёгкае збудаванне, своеасаблівая павець, шопа, у якім рудакопы сушылі балотную руду (параўн.: *Аж пад тую шопу, дзе сох калісь сырэц, забраўся я* (Р. Сабаленка)). Так, у «Хроніцы...», дзе даецца апісанне рудняў Убарцкай воласці, паведамляецца

* Заканчэнне. Пачатак у № 11 за 2012 г.

пра цяжкую працу рудакопаў, якія жылі ў будах каля рудняў — месцах, дзе з балота выцягвалі руду і сушылі ў шурах: «Парабкаў па адным прыняць на год да валоў і коней на паташні зімой адразу дровы вывезці, каб высахлі... ставіць, бо паташ псуецца ад ветру і вільгаці, дзеля чаго адрыну, што стаіць на гародзе, перавезці. Шуры на абедзвюх будах паставіць з локамі разам, старыя паправіць можна». Можна меркаваць, што людзі, якія жылі і працавалі каля шураў, маглі атрымаць мянушку *Шура, Шур* і падобныя, якія паступова сталі прозвішчам — найменнем цэлай групы людзей. Згадаем прыклад, які прыводзіць Валянціна Лемцюгова (з пісьмовых помнікаў XVI стагоддзя), дзе паведамляецца пра пасёлкі-дворышчы, у якіх жывуць родзічы — саўладальнікі па зямлі: *«дворище Шурович, на том дворищи Грин, а Сергей, Дмих, а Малец, сыны Шуровы»* (1557). Пра цяжкую працу палескіх рудакопаў, будаўнікоў іх паўсядзённых занятках пісаў В. Маракуеў у кнізе «Полесье и полешуки. Из путевых заметок» (Одесса, 1897): *«По глухим местам Полесья живут почти в диком состоянии семейства будников и рудников. Первые добывают поташ, вторые — железную руду. Это большею частью беглые от помещиков с Волыни или неизвестно откуда забредшие сюда люди. Разобщенные с остальным миром непроходимыми болотами, поселившись среди угрюмых лесов, они зарабатывают здесь себе скудное пропитание, добывают золу и руду; кроме того, на небольших клочках земли в лесах сеют рожь и ячмень. Дети их нередко по несколько лет остаются некрещенными; мертвых они хоронят сами. Рудники добывают болотную руду и обрабатывают ее на месте кусками в человеческую голову; затем руда отвозится в местные кузницы, где выбивается из нее и вытягивается железо; часть железа идет в собственность рудника, он делает из него сошники и другие мелкие вещи»*.

Ёсць таксама мясцовае тлумачэнне паходжання прозвішча *Калеснік*. Сярод першых заснавальнікаў *Стадоліч* не было сваіх кавалёў, цесляроў, але да адной удавы прыняўся ў прымы татарын, які адстаў ад свайго войска, што з нарабаваным дабром і шматлікімі палоннымі вярталася ў Крым. Гэты татарын, па другой версіі — адзін з палонных, які ўцёк ад татараў, аказаўся здольным кавалём, па-майстэрску вырабляў і правіў сякеры, косы, нажы, але асабліва *калёсы*. За гэта яму далі мянушку *Калеснік* (мясцовае *Колеснік*). З тых часоў у *Стадолічах* пайшлі не адзінкавыя *Калеснікі*. Пра самае рознае ўзаемадзеянне беларусаў і татараў (асабліва крымскіх) сведчаць розныя мясцовыя факты і факты, зафіксаваныя ў гістарычных дакументах. Сярод жыхароў *Стадоліч* жыве паданне, што частка татараў асела ў суседняй вёсцы *Ліпляны*, а яе новыя жыхары-прышэльцы, хоць і змяшаліся з мясцовым насельніцтвам, адрозніваюцца знешнім выглядам, выяўляючы мангалоідныя рысы твару. Вядома таксама, што за перыяд з 1474 па 1569 гады крымскія татары зрабілі 75 паходаў-набегаў на землі ВКЛ, вярталіся яны ў Крым праз палескія балоты. У 1507 годзе, як сведчаць гістарычныя хронікі, тураўскі князь Міхал Глінскі са сваім войскам разбіў дзесяцітысячную арду прышэльцаў, захапіў шмат палонных і вызваліў каля 40 тысяч землякоў. Частка іх асела ў паўднёвых раёнах Палесся, асабліва многа каля Турава, Давыд-Гарадка, Століна, дзе захаваліся нават прозвішчы, якія сведчаць, што іх першымі носьбітамі маглі быць крымскія татары: *Бут-Гусаім, Бесан, Кураш, Буглак, Канчак, Кардаш, Кабак* і іншыя.

Сярод стадоліцкіх *Калеснікаў* у «Хроніцы...» , напрыклад, упамінаецца сельскі стараста *Самуйла Калеснік* (1866 год). Пра гэта прозвішча і шматлікія на Беларусі айконімы, утвораныя ад апелятыва *калеснік*, пісала Валянціна Лемцюгова: «...у старажытную пару *калеснікі*, як і майстры ў іншых справах, аб’ядноўваліся ў невялікія хаўрусы, звычайна жылі ў адным паселішчы, якое называлася *Калеснікі* па агульным занятку яго жыхароў, працавалі пры панскіх маёнтках і фальварках. Частка такіх паселішчаў развілася ў больш буйныя, многія з іх абязлюднелі».

Вёскі, хутары, назвы якіх утвораны ад прозвішча або мянушкі *Калеснік*, ёсць у Браслаўскім, Глыбоцкім, Мёрскім, Бераставіцкім раёнах. Гэта прозвішча даволі частае ў беларусаў. У гэтай сувязі варта прыгадаць вядомага беларускага літаратуразнаўца, пісьменніка з Брэста *Уладзіміра*

*Калесніка*, аўтара ўнікальнай кнігі «Доўг памяці», у якой ён падрабязна прасачыў свой радавод. Яго ўспаміны — помнік сваім бацькам, сялянам-працаўнікам, юнакам і дзяўчатам таго пакалення, якое разам з ім з першых дзён Вялікай Айчыннай вайны бараніла Бацькаўшчыну і гінула за яе.

Даволі пашыраным у *Стадолічах* з'яўляецца і прозвішча *Крупнік*, якое ўтворана лексіка-семантычным спосабам ад назоўніка-апелятыва *крупнік*. У беларускай мове ў розныя часы ён мог абазначаць «крупяны суп, крупеню», а ў старажытнасці — хмельны мядовы напой, шырокавядомы на ўсёй Беларусі. *Крупнік* як уласная назва спачатку была, відаць, мянушкай, што дакладна характарызавала чалавека, які захапляўся, магчыма, мядовымі напоямі, асабліва калі ўлічыць, што *Стадолічы* славіліся на ўсё Палессе высакаякасным мёдам, амаль усе жыхары былі выдатнымі пчалярамі-бортнікамі. Такім словам маглі характарызаваць і чалавека, у якога крупяны суп быў у асаблівай пашане. Дарэчы, аналізуючы мянушкі жыхароў вёскі *Вулька Лаўская* Пінскага раёна, Станіслава Каралевіч растлумачыла, чаму яе дзеда празвалі Крупнікам: *«Бабуля аднойчы занадта гучна паклікала яго есці гэтую страву»*. Прозвішчаў, утвораных гэтым спосабам (тыпу *Груца, Дрозд, Куль, Абух*), у беларусаў болей за 8 200, што складае 14,6 % ад усіх засведчаных прозвішчаў (56 300). У анамастыцы, як піша Валянціна Лемцюгова, апелятыў крупнік ужываўся ў метафарычным сэнсе: аматар крупніку — крупянога супу. Поводле гэтага прынцыпу ўзніклі многія іншыя імёны-мянушкі, суадносныя з назвамі страў *(Аладка, Юха, Боршч, Верашчака, Пшонка, Кісель, Каўбаса)*. Дарэчы, у суседніх са Стадолічамі паселішчах ёсць прозвішчы гэтай і падобных семантычных разнавіднасцей: *Масла* (вёска Свіднае), *Боршч* (вёска Карма), *Калеснік, Сукач, Жогла, Сечка* (сяло Стадолічы).

Часта ў *Стадолічах*, як і ў суседніх *Буйнавічах*, сустракаецца прозвішча *Сукач*. Паходжанне гэтага антрапоніма можна звязваць з дзеясловам-апелятывам *сукаць* — звіваць, скручваць у адну некалькі нітак (*сукаць пражу*), рабіць дратву, звіваючы, скручваючы некалькі нітак у адну. Верагодна, спачатку гэта была мянушка, якой трапна,

**Сярод першых заснавальнікаў *Стадоліч* не было сваіх кавалёў, цесляроў, але да адной удавы прыняўся ў прымы татарын, які адстаў ад свайго войска, што з нарабаваным дабром і шматлікімі палоннымі вярталася ў Крым**

метафарычна характарызавалі мужчыну, які ўмела сукаў пражу, скручваючы ніткі, або намотваў пражу на цэўкі пры тканні. Дарэчы, у *Стадолічах* некалькі сем'яў *Сукачоў* ідэнтыфікуюць таксама калектыўнай мянушкай *Прадуны*, гэта сведчыць, што заняткак з пляценнем кудзелі, суканнем нітак быў у асяроддзі *Сукачоў* даволі тыповым і характэрным. Відаць, у іх асяроддзі пралі кудзелю нават мужчыны, што было нехарактэрным для астатніх жыхароў паселішча. А прозвішча *Сукач*, як мы лічым, замацавалася ў *Стадолічах* у выніку міграцыі асоб з іншых паселішчаў (магчыма, з *Буйнавіч*, дзе і ў наш час яно даволі распаўсюджана). Пра гэта ўскосна сведчаць матэрыялы з «Хронікі Убарцкага Палесся», дзе на канец XVIII стагоддзя прыводзяцца спісы жыхароў *Стадоліч* і зусім не называецца прозвішча *Сукач*. На той перыяд у *Стадолічах* згадваюцца наступныя: *Жогла* (10 сем'яў), *Маркевіч* (5 сем'яў), *Шур* (10 сем'яў), *Калеснік* (1 сям'я), *Крупнік* (7 сем'яў), *Белька* (5 сем'яў), *Еўка* (1 сям'я), *Відуля* (сучаснае *Відура* — 1 сям'я), *Казачка* (сучаснае *Казачэнка* — 1 сям'я), называюцца таксама некалькі прозвішчаў, якіх у сучасных *Стадолічах* не існуе: *Смык* (2 сям'і), *Дадацкі* (1 сям'я), *Саковіч* (2 сям'і), *Купрэй* (1 сям'я).

На Беларусі ёсць некалькі вёсак, утвораных ад мянушкі або прозвішча *Сукач* — *Сукач, Сукачы, Сукачоўка* ў Драгічынскім, Ганцавіцкім, Жыткавіцкім, Гомельскім раёнах.

Сярод жыхароў суседніх са *Стадолічамі* вёсак існуе жарт: калі нехта наядаўся без меры, то пра яго гаварылі: *«Наеўся, як стадалюк на Дзяды»*. На гэты дзень гатавалася дванаццаць страў: былі варанае, пара-

**Верагодна спачатку гэта была мянушка, якой трапна, метафарычна характарызавалі мужчыну, які ўмела сукаў пражу, скручваючы ніткі, або намотваў пражу на цэўкі пры тканні**

нае і смажанае мяса, бліны (мясц. *млінцы*), клёцкі, наліснікі, крупнік (кулеш) з грыбамі або рыбай, верашчака з каўбасой, захалод (халадзец), варэнікі з сырам або макам, каша куцця, грэцкая, пшонка з гарбузом. На стале абавязкова была *Дзядоўская чарка і Дзядоўская міска.*

* * *

У *Стадолічах* шырока карыстаюцца «вулічнымі прозвішчамі-мянушкамі», каб прасцей растлумачыць, пра каго ідзе гаворка, дзе жыве той чалавек, якога вылучаюць з ліку яго суродзічаў, землякоў. Напрыклад, у сяле ёсць традыцыйныя прозвішчы *Жогла, Калеснік, Шур, Маркевіч, Сукач, Крупнік, Белька*, паралельна з названымі шырока бытуюць і «вулічныя прозвішчы-мянушкі», якімі часта называюць шматлікую радню з боку маці або бацькі таго ці іншага чалавека. У такім выпадку могуць сказаць: *Іван з Цурулёў* (афіцыйнае прозвішча ў шматлікім родзе *Цурулёў — Жогла*), *Андрэй з Дзеравянак, Хведар з Гарэлоў*. У паселішчы ёсць таксама род *Цумідоў* (іх афіцыйнае прозвішча *Шур*), *Кашламеяў* (афіцыйнае прозвішча *Стасенка*), *Кашоў* (іх афіцыйнае прозвішча *Жогла*), *Прадуноў* (афіцыйнае прозвішча *Сукач*). У *Стадолічах* можна пачуць: «На той вуліцы жывуць *Цурулі, Ласі, Дзеравянкі, Кашламеі, Палевікі, Каўганкі, Кашы, Невядзюкі, Прадуны*». Усе пералічаныя найменні — гэта неафіцыйныя прозвішчы-мянушкі, якія замацаваліся за цэлымі групамі людзей, што знаходзяцца ў роднасных адносінах.

Жыхары амаль усіх паселішчаў Убарцкага Палесся да 1794 года былі ўніятамі. Прылучэнне ўсіх уніяцкіх цэркваў да праваслаўя адбылося ў 1794 годзе ў адпаведнасці з царскім указам, які прадугледжваў *«вяртанне да набожнасці жыхароў, продкі якіх, а іншыя самі спавядалі праваслаўную грэцкую ўсходнюю веру, але потым ліслівасцю і прыгнётам у час польскага ўладыцтва звернуты былі на ўнію з рымлянамі»*... Аднак, як сведчаць гістарычныя дакументы, не ўсе ўніяцкія вернікі пажадалі вярнуцца *«да набожнасці»*. Яшчэ ў 1800 годзе цэрквы ў сёлах *Буйнавічы* і *Стадолічы* згадваюцца як уніяцкія. А першае ўпамінанне пра *капліцу Стадоліцкую* адносіцца да 13 лютага 1787 года ў пратаколе візіту біскупа віленскага яснавяльможнага *Язафата Булгака* ў час наведвання ім парафіяльнай Буйнавіцкай і іншых цэркваў Убарцкага дэканата: *«Тая капліца пад назвай заступніцтва найсвяцейшай Марыі існуе, у вёсцы Стадолічы размешчана, да царквы Буйнавіцкай належыць, з дрэва круглага старасвецкай формай будаваная. Убранні і начынне яе як убогія, так і нешматлікія»*.

Праваслаўныя цэрквы ў сёлах *Буйнавічы* і *Стадолічы* былі пабудаваны адпаведна ў 1838 і 1841 гадах на сродкі мясцовага памешчыка маёнтка *Буйнавічы Міхайлы Добрынскага*. Ён жа забяспечыў іх усім патрэбным. Святар атрымліваў аклад 300 рублёў асігнацыямі ў год. У 1841 годзе, як сведчаць гістарычныя матэрыялы, гэты памешчык прывёў у *Стадолічах* у належны стан і мясцовую капліцу. Гэта было абумоўлена тым, што вёска на той час складалася з 46 дымоў, 140 душ мужчынскага полу і была аддалена ад Буйнавіцкай прыходской царквы на 21 вярсту. Да таго ж дабірацца туды перашкаджалі брады і непраходныя балоты. Паводле padання, на мясцовых могілках калісьці была царква ў імя Прасвятой Багародзіцы. Пацвярджэнне гэтага — старая званіца, якая яшчэ існавала ў той час. Названая царква праіснавала да 1936 года. У той жа перыяд вялася барацьба з рэлігіяй, і храм у Стадолічах закрылі. Ад тых часоў у сяле ёсць *віконім Царкоўе* — пашыраная частка вясковай вуліцы, на якой некалі стаяла царква. Да канца 70-х гадоў XX ста-годдзя на яе месцы быў крыж з іконамі і шматлікімі царкоўнымі атрыбутамі. У той час *Царкоўе* — любімае месца для забаў вясковых дзяцей, якія гулялі ў *лапту*

(мясц. назва: у пекура), *футбол, цурку, перагонкі, вайну, хованкі*.

У наш час *Стадолічы* — цэнтр сельскага Савета, размешчана за 14 км на паўднёвы ўсход ад мястэчка Лельчыцы і 60 км ад чыгуначнай станцыі Ельск. У пачатку XX стагоддзя ў паселішчы дзейнічала царкоўна-прыходская школа (1908 год), якая размяшчалася ў наёмнай сялянскай хаце. На ўтрыманне школы ў *Стадолічах* сельская грамада выдзеліла 70 рублёў. У 60-х гадах XX стагоддзя ў Стадоліцкай сярэдняй школе пасля заканчэння філалагічнага факультэта БДУ настаўнікам беларускай і рускай моў і літаратуры пачынаў сваю працоўную біяграфію *Уладзімір Мархель* — вядомы цяпер даследчык літаратуры, пісьменнік. Урокі яго вызначаліся глыбокім аналізам моўных і літаратурных фактаў, тонкім гумарам і лірызмам. *Уладзімір Мархель* захапляўся мясцовым фальклорам, традыцыйнымі заняткамі насельніцтва. За гады літаратуразнаўчай і перакладніцкай дзейнасці ён напісаў больш за 400 літаратуразнаўчых прац, у тым ліку кнігі «Лірнік вясковы: Сыракомля ў беларуска-польскім літаратурным узаемадзеянні» (1983), «Вяшчун славы і волі» (1989), «Крыніца памяці: Старонкі беларуска-польскага літаратурнага сумежжа» (1990), «Прадвесце: Беларуска-польскае літаратурнае ўзаемадзеянне ў першай палавіне XIX стагоддзя» (1991), «Прысутнасць былога» (1997), «Ты як здароўе...»: Адам Міцкевіч і тэндэнцыі адраджэння беларускай літаратуры» (1998; дапрацаванае выданне — «Шлях да Беларусі: Адам Міцкевіч — прадвеснік адраджэння беларускай літаратуры», 2003).

На беларускую мову пераклаў паасобныя творы А. Міцкевіча, У. Сыракомлі, В. Дуніна-Марцінкевіча, В. Каратынскага, Я. Лучыны, Я. Каханоўскага і іншых, лібрэта М. Радзівіла оперы «Агатка, або Прыезд пана» Я. Д. Голанда (1998), вершы Яна Чачота, з якіх стварыў лібрэта кантаты «Спевы даўнейшых ліцвінаў» В. Кузняцоў (1997). Выдаў кнігу ўласных паэтычных перакладаў з польскай мовы «Водгулле» (2000), зборнікі санетаў «Згадкі Нясвіжа» У. Сыракомлі і «Зніч любові» Я. Купалы (абодва 2002) — на мове арыгінала і ў сваім перакаладзе на беларускую мову. Уганараваны прэміямі прэзідэнтаў трох акадэмій навук (Беларусі, Украіны, Малдовы).

У 1921 годзе ў Стадолічах 247 двароў, 1294 жыхары. Першы калгас *«XV з'езд ВКП(б)Б»* быў арганізаваны ў 1929-м. Нямецкія акупанты ў ліпені 1943-га спалілі вёску і забілі 72 жыхары. У 30-х гадах XX стагоддзя каля *Стадоліч* дыслацыравалася вайсковая частка і быў пабудаваны ваенны гарадок, у якім, як успамінаюць старажылы, служыў будучы Герой Савецкага Саюза, адзін з арганізатараў абароны Брэсцкай крэпасці маёр *Гаўрылаў*. З ім быў у сяброўскіх адносінах Відура Іван Карпавіч — настаўнік гісторыі *Стадоліцкай* школы, які часта ўспамінаў пра *Гаўрылава*, калі яго рэабілітавалі і прысвоілі званне Героя Савецкага Саюза. Потым, у сувязі з пераносам у 1939 годзе савецка-польскай мяжы за Брэст, гарнізон гарадка быў пераведзены ў раён Брэста і Маларыты, але як напамін пра яго існаванне захоўваецца мікратапонім *Гарадок*, а таксама рэшткі палатна вузкакалейкі, што злучала *Гарадок з Буйнавічамі і Ельскам*. Да названых традыцыйных для Стадолічаў прозвішчаў ад былых вайскоўцаў, якія стварылі сем'і ў Гарадку, дадаліся ўжо не адзінкавыя ў наш час у Стадолічах прозвішчы *Аксюта, Махоткін, Рыбак, Лаўроў, Цырульнік* і іншыя. У 30-х гадах у *Гарадку* быў арганізаваны саўгас для забеспячэння вайскоўцаў сельгаспрадуктамі, была пабудавана жывёлагадоўчая ферма, распрацоўваліся лясныя дзялянкі, на якіх вырошчвалі сельгаскультуры. Вялікая Айчынная вайна стала канцом існавання гэтых аб'ектаў. Як напамін пра іх у ваколіцах *Стадоліч*, на захад ад сяла, вядомы мікратапонімы *Гарадок* і *Саўхоз*. Згодна з тапаграфічнай картай (1940), у межах Лельчыцкага раёна дзейнічала вузкакалейная чыгунка. Яна праходзіла ў наваколлі вёсак *Бярэжніца—Заходы—Буда-Сафіеўка—Буйнавічы—Крупка—Станцыя Першамайск—Лісна—Ручное—Жаралец—Станцыя Галадзеда—Жмурнае*. Дзейнічала таксама адгалінаванне гэтай чыгункі ў наваколлі вёсак *Спрымачоў—Зялёны Мох—Бярэжніца*, будаваўся яе працяг каля вёсак *Падляшша* і *Вуглы* ў напрамку вёскі *Сініцкае Поле*.

Паводле сведчання мясцовых жыхароў, у пачатку 1941 года вузкакалейка каля вёскі *Жаралец* (7 км ад Стадоліч на захад — **В. Ш.**) была разабрана, ад яе доўгі час захоў-

ваўся насып. У пачатку вайны былі ўзарваны пры адступленні савецкімі войскамі і дзоты; рэшткі асобных з іх захаваліся да нашага часу сярод лясоў ля вёсак *Жаралец* (цяпер яе няма), *Чырвонабярэжжа, Убарацкая Рудня* і іншых. А ў суседняй вёсцы *Ручное* бетонны дзот не ўзарвалі, і ён амаль у цэнтры паселішча захоўваецца і цяпер, такі ж дзот таксама ёсць і ў *Валаўску* Ельскага раёна, што на ўсход ад *Стадоліч*. Гэта рэшткі так званай «Лініі Сталіна», што вядома была ад Ленінграда да Адэсы.

На ўшанаванне памяці 176 жыхароў вёсак *Стадолічы, Заброддзе і Ручное*, якія загінулі на франтах і ў партызанскай барацьбе, на былых могілках у 1967 годзе пастаўлены абеліск. На ім засведчаны імёны землякоў, але, на жаль, спіс гэты далёка не поўны. На ім, напрыклад, адсутнічае прозвішча *Шур Ганны Дзямідаўны* — сястры майго бацькі, якая была ва ўкраінскім партызанскім злучэнні *Фёдарава*, а пасля расфарміравання злучэння ў *Дзівіне*, пад Брэстам, была прызначана старшынёй сельскага савета ў вёсцы *Угрынічы*, у ваколіцах якой было шмат украінскіх нацыяналістаў-бандэраўцаў. Восенню 1945 года Ганна Шур была пазверску закатавана разам з маленькім сынам, а іх целы скінуты ў калодзеж. Ва ўрочышчы *Міхееў*, што ў пяці кіламетрах на поўнач ад *Стадоліч*, у ліпені 1942 года з «Вялікай зямлі», каб распаліць пажар партызанскай барацьбы, на самалёце была дастаўлена група, якая пад выглядам мясцовых жыхароў вяла разведку ў глыбокім тыле фашыстаў, распаўсюджвала зводкі Саўінфармбюро. Усе члены гэтай дэсантнай групы загінулі ў перастрэлцы з ворагамі, і іх магілы невядомы. У гады Вялікай Айчыннай вайны ў ваколіцах паселішча дзейнічаў партызанскі атрад імя Кутузава (камандзір С. Д. Шур), які быў часткай Лельчыцкай партызанскай брыгады, а таксама часова дыслацыраваліся ўкраінскія і малдаўскія партызанскія злучэнні пад камандаваннем *С. Каўпака, М. Наумава, А. Сабурава, А. Фёдарава, Я. Мельнікава, В. Андрэева*. У асобных атрадах (батальёнах) гэтых партызанскіх фарміраванняў жыхары Лельчыцкага раёна, асабліва вёсак *Стадолічы* і *Буйнавічы*, складалі 30—40 %. Так, паводле афіцыйных звестак у праслаўленым злучэнні Каўпака на чэрвень 1944 года знаходзілася 412 сыноў і дачок Беларусі, у злучэнні Сабурава 36 % ад агульнай колькасці партызан складалі беларусы, у злучэнні Навумава беларусаў было 186.

У малдаўскіх партызанскіх атрадах, якія былі зведзены ў Першае Малдаўскае злучэнне на тэрыторыі Лельчыцкага раёна (камандзірам стаў В. А. Андрэеў), беларусы складалі звыш 40 % агульнай колькасці. Варта тут адзначыць, што за перыяд вайны ў злучэнні Каўпака загінула 76 жыхароў Лельчыцкага раёна, у злучэнні Фёдарава — 58 чалавек, у злучэнні Сабурава — 39, у Вінніцкім партызанскім злучэнні Мельніка — 69 лельчукоў.

З вясны 1943 года Лельчыцкі раён стаў цэнтрам партызанскага краю, які ахопліваў 14 раёнаў Беларусі і Украіны ў чатырохвугольніку *Алеўск—Оўруч—Мазыр—Тураў* з насельніцтвам 400 тысяч чалавек. Ад мясцовых жыхароў, былых удзельнікаў партызанскіх рэйдаў у Карпаты, Заходнюю Украіну, можна было пачуць цікавыя ўспаміны пра нялёгкія, нярэдка трагічныя, рэйды ў тылы фашыстаў. У прыватнасці, вядома, што з партызанскага аэрадрома, які быў абсталяваны каля вёскі *Дубніцкае*, пайшоў у легенду самы вядомы з часоў Вялікай Айчыннай вайны разведчык-дыверсант *Мікалай Кузняцоў*. Ён быў дастаўлены з Масквы самалётам 101 авіяцыйнага палка, якім камандавала Герой Савецкага Саюза Валянціна Грызадубава. У кнізе «Памяць. Лельчыцкі раён» паведамляецца: «З 1 сакавіка 1943 года да 26 чэрвеня 1943 года на аэрадроме было прынята 65 самалётаў з грузамі для партызан, 64 самалёты скінулі над ім грузы на парашутах. У савецкі тыл вывезена 146 параненых партызан. У асобныя ночы на партызанскі аэрадром каля хутара *Дубніцкае* прылятала 6—8 самалётаў».

Першая нямецкая кавалерыйская дывізія войск СС, пераведзеная на Палессе з Югаславіі, прымала ўдзел у ліквідацыі партызанскага руху ў Лельчыцкім раёне, правёўшы карную экспедыцыю *«Балотная ліхаманка» (Sumpffieder)*, знішчыўшы тысячы мірных жыхароў. Мэтай экспедыцыі (яе ўзначальваў брыгадэн-фюрар войск СС *Генрых Ламбард*) было знішчэнне партызанскага злучэння *Сідара Каўпака*, якое разграміла нямецкі гарнізон у Лельчыцах. Партызаны знішчылі да 400 ворагаў (немцаў, паліцаяў,

літоўцаў, якія служылі ў гітлераўцаў), у тым ліку гебітскамісара. Падрабязна пра разгром нямецкага гарнізона ў Лельчыцах апісана ў кнізе П. Вяршыгары «Людзі з чыстым сумленнем» пад загалоўкам «Партызанскія Каны», а таксама ў дакументальнай кнізе Каўпака «От Путивля до Карпат» (1949). Дарэчы, загаловак *«Партызанскія Каны»* — вельмі ўдалы і сімвалічны: бітва пад Канамі ў 216 годзе да новай эры паміж арміямі рымлян і карфагенян увайшла ў гісторыю як узор поўнага разгрому праціўніка шляхам акружэння яго меншымі сіламі. Гэта частка кнігі пачыналася словамі: *«24 лістапада 1942 года мы занялі вялікае сяло Стадолічы. У ноч на 27 лістапада па добрай саннай дарозе мы рушылі ў напрамку Лельчыц. Аперацыя была распрацавана на поўнае акружэнне і знішчэнне праціўніка, які з Лельчыц сваімі шчупальцамі ахапіў увесь гэты вялікі раён»*.

Захопнікі падчас перадыслакацыі з Мазыра правялі ў раёне шэраг «карных акцый», спаганяючы зло пераважна на мірных жыхарах. Яны поўнасцю спалілі цэнтр раёна і 11 вёсак. У некаторых паселішчах (напрыклад, *Тонеж, Глушкавічы*) фашысты расстралялі і спалілі ў будынках у першай 261 жыхара, у тым ліку 108 дзяцей, у другой — 290 жыхароў. У Стадолічах, дзе размяшчаўся нямецкі штаб і засталося 26 старых, таксама адбылася жудасная трагедыя, якая апісана ў «Кнізе пошуку дзяржаўных злачынцаў», якую падрыхтавалі па гарачых слядах савецкія чэкісты: кімсьці з партызан быў забіты салдат-карнік. «Адыграліся» на мірных жыхарах: па загадзе *Ламбарда* іх прымусілі выкапаць у гумне яму і ўсіх закапалі жывымі. На вялізным балоце, якое мае назву *Жэрдзін*, ёсць мікратапонім *Партызанскі востраў*, які засведчаны пасля згаданых жудасных падзей 1943 года і пра які паведамляецца ў слоўніку Г. А. Івановай «Микротопонимия Мозырского Полесья»: гэта мемарыяльная назва дадзена ў памяць пра забітых там партызан, пераважна жыхароў *Стадоліч*, якіх выдаў карнікам мясцовы паліцай Загароўскі. У выніку карнай экспедыцыі з тэрыторыі Стадоліцкага сельскага савета было прымусова вывезена ў Германію і іншыя краіны 458 грамадзян вёсак *Стадолічы, Ручное, Заброддзе*. Каля дарогі *Стадолічы—Буйнавічы—Глініца—Муляраўка*, па якой дастаўлялілі (гналі пехатою) да чыгункі злоўленых у лясах людзей, праводзіліся масавыя расстрэлы. Так, 28 ліпеня 1943 года ва ўрочышчы *Пясочнае* было расстраляна 8 чалавек, у тым ліку і бабуля па бацьку аўтара гэтай публіка-цыі — Шур Наталля Архіпаўна. Карнікі па-кінулі ў лесе яшчэ 22 трупы мірных жыхароў. Усяго за перыяд акупацыі фашыстамі ў *Стадолічах* былі знішчаны па няпоўных падліках 72 мірныя жыхары — пераважна сталыя людзі і дзеці. На франтах Вялікай Айчыннай вайны ў партызанскай барацьбе з фашыстамі загінула 125 стадалюкоў, сярод іх з прозвішчам *Жогла* — 28, *Крупнік* — 13, *Шур* — 10, *Белька* — 11, *Калеснік* — 8, *Кураш* — 8. Ляжаць мае землякі не толькі ў брацкіх магілах роднай Беларусі, а таксама на шматлікіх вайсковых могілках Германіі, Польшчы, Венгрыі, халоднага Запаляр’я, пад Сталінградам і Курскам, а большасць — у безыменных магілах ад Волгі да Эльбы. Трэба адзначыць, што на Беларусі два раёны — *Лельчыцкі* і *Асвейскі* на Віцебшчыне — лічацца самымі пастрадалымі ў гады Вялікай Айчыннай вайны: у іх былі знішчаны ўсе без выключэння паселішчы, супраць мірнага насельніцтва праводзіліся карныя экспедыцыі з пагалоўным знішчэнем. *Асвейскі* раён так і не быў адноўлены ў пасляваенны час. Усяго з Беларусі гітлераўцам удалося захапіць і вывезці ў Германію 380 тысяч грамадзян, у тым ліку з Лельчыцкага раёна 1 790 чалавек.

**Сярод жыхароў суседніх са Стадолічамі вёсак існуе жарт: калі нехта наядаўся без меры, то пра яго гаварылі: «Наеўся, як стадалюк на Дзяды»**

* * *

Да Вялікай Айчыннай вайны ў *Стадолічах*, як і ў многіх іншых паселішчах Мазыршчыны, жылі яўрэі. Яны ўспрымаліся арганічнаю часткаю мясцовага насельніцтва — займаліся сельскай гаспадаркай, працавалі шаўцамі, кавалямі, гандлярамі.

## У Стадолічах вядомы мікратапонім-гідронім Левінова канава, названы ў гонар мазырскага купца-яўрэя Левіна, на сродкі якога канава была пракапана і па якой стадалюкі сплаўлялі лес у рэчку Убарць і далей — у Прыпяць—Дняпро

У *Стадолічах* добра ведалі вялікую сям'ю *Лібманаў*. Галава гэтай сям'і, *Лібман Энель Лейбавіч* (у *Стадолічах* яго называлі *Ёнель*), стаў першай ахвярай фашыстаў. Ён быў першы, каго расстралялі мясцовыя паліцаі ва ўрочышчы *Юрыцкая Даліна* позняй восенню 1941 года. Яго жонка, браты і дзеці — *Энта, Фейн, Раман, Соня, Паша, Марыя, Мікалай, Лёва, Малка* — былі па-зверску закатаваны ў Лельчыцах пры масавым знішчэнні яўрэяў у верасні 1941-га і ў чэрвені 1942-га (усяго звыш 700 жыхароў Лельчыц і суседніх вёсак). Трэба адзначыць, што ў *Мялешкавічах*, гэта на паўдарозе з Мазыра ў *Стадолічы*, у даваенныя гады жыло і працавала некалькі яўрэйскіх сем'яў. Шаўцамі ў *Мялешкавічах* былі бацька і дзед Народнага артыста, прафесара, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, кіраўніка Заслужанага калектыву Рэспублікі Беларусь «Нацыянальны акадэмічны аркестр сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь» *Міхаіла Фінберга*, а ў Мазыры і Лельчыцах, як вядома, у даваенныя гады яўрэі былі асноўнай часткай мясцовага насельніцтва.

Трагізм, які перажылі ў гады вайны жыхары Лельчыцкага і суседніх раёнаў Мазыршчыны, не быў бы такім масавым, калі б кіраўніцтва шматлікіх партызанскіх фарміраванняў своечасова папярэджвала мясцовае насельніцтва пра аперацыі, якія планаваліся фашыстамі, калі б партызаны бралі пад сваю абарону тысячы мірных людзей. Вось фрагмент рашэння Палескага абкама КП(б)Б ад 8 кастрычніка 1943 года: *«...дыслацыраваныя на тэрыторыі Лельчыцкага і Ельскага раёнаў да 25.06.1943 г. украінскія, малдаўскія і польскія злучэнні партызанскіх атрадаў т.т. Сабурава, Мельнікава, Навумава, Іванова, Шытава, Фёдарава, Малінава, Кожухарава, Станіслаўскага і др. пры наступленні карнай экспедыцыі на партызан раёнаў Паўднёва-Прыпяцкай зоны не толькі не аказалі сколькі-небудзь сур'ёзнага супраціўлення ворагу, не ўзялі пад абарону насельніцтва, зняліся з гэтых раёнаў і пайшлі ў паўднёва-заходнім і заходнім напрамках, не папярэдзілі аб адыходзе мясцовыя партызанскія атрады, а затым пасля завяршэння карнай экспедыцыі ў другой палове жніўня месяца зноў вярнуліся на тэрыторыю Лельчыыцкага раёна Палескай вобласці»*.

Гэтыя трагічныя факты дапаўняюцца не менш жахлівымі падзеямі перадваенных гадоў, калі Лельчыцкі раён быў памежным, і ў кожным яго паселішчы сталінскі рэжым выяўляў так званых «ворагаў народа», містычных шпіёнаў, якіх дзясяткамі забіралі і судзілі. У кнізе «Памяць. Лельчыцкі раён» прыведзены спісы расстраляных або замучаных у турмах (гулагах) шматлікіх маіх землякоў. Усяго ў Стадоліцкім сельсавеце было рэпрэсіравана і расстраляна (пераважна ў Мазыры) 35 маіх аданавяскоўцаў. Усе яны ў пасляваенны час былі рэабілітаваны, у тым ліку і мой дзядуля па маці *Крупнік Конан*, 1889 года нараджэння, удзельнік Першай сусветнай вайны, які ва Усходняй Прусіі ў 1914 годзе быў паранены, у 1915-м за гераізм прадстаўлены да афіцэрскага звання, што, мабыць, і стала падставай для абвінавачання яго ў 1938-м. Для параўнання: у суседнім са Стадоліцкім, Грабянёўскім сельсавеце ў канцы 30-х гадоў ХХ стагоддзя было рэпрэсіравана і расстраляна 129 грамадзян (іх потым усіх рэабілітавалі), гэта многім больш, чым загінула ў барацьбе з фашыстамі ў 1941—1945 гадах. Гэта была вялікая трагедыя нашага народа. Толькі ў Мазыры і ў прыгарадных мясцовасцях закатаваны і расстраляны 2 922 жыхары Палесся. Ва ўрочышчы *Бярозаўка* пад Мазыром, недалёка ад дарогі *Міхалкі—Рудня Міхалкаўская*, расстраляна 558 чалавек, каля *Гулевічаў* — 134, *Пеніцы* — 39, *Баравіках* — 18. Было знішчана больш як 140 жыхароў і ў Мазыры. Вынішчаліся цэлыя сем'і: у вёсцы *Крушнікі* былі расстраляны старшыня мясцовага калгаса *Аляксандр Юніцкі*, яго сыны *Пётр, Фёдар, Яфрэм, Васіль, Іван*,

нявестка *Ефрасіння*. Усяго ў гэтай вёсачцы быў расстраляны 41 жыхар, з іх 19 з прозвішчам *Юніцкі*. *Крушнікі* — радзіма беларускага празаіка *Анатоля Бароўскага*, аўтара некалькіх кніг аповесцей і раманаў, у тым ліку «Каліна пад акном» і «Тросніца».

* * *

У пасляваенны час Стадолічы — цэнтр калгаса *«Шлях Ільіча»*. У вёсцы ёсць лясніцтва, сярэдняя школа, бібліятэка, фельчарска-акушэрскі і ветэрынарны ўчасткі, аддзяленне сувязі, тры магазіны. У плане паселішча складаецца з працяглай, крывалінейнай вуліцы, да якой далучаюцца кароткія вуліцы, частка — бессістэмнай забудовы. У мінулыя часы (1853 год), калі сяло было яшчэ ўласнасцю памешчыка *Добрынскага*, у ваколіцах *Стадоліч* была пабудавана ваенна-камунікацыйная дарога з боку *Буйнавіч* на поўдзень. Камунікацыя была пралажана праз сяло. Паводле плана ваенна-камунікацыйнай дарогі, забудова *Стадоліч* у той час была аднараднай уздоўж аднаго боку вуліцы. Пры дарозе ў *Стадолічах* была *«карчма ўязная з двума пакоямі і каморамі. Тракт вялікі на Валынь і Украіну»*. Недалёка ёсць залежы жалезнякоў і гліны, за 3 км ад вёскі — лясное возера *Смердынь*. Паходжанне гэтага гідроніма тлумачыць Г. А. Іванова ў названым слоўніку. Возера было надзвычай багатае на печкуроў, якіх мясцовыя жыхары лавілі спецыяльнымі сеткамі дзясяткамі кілаграмаў, цэлымі мяхамі. Назва гэтага возера як вынік трансанімізацыі была ў даваенны час (1925 год) замацавана за невялікім хутарам *Смердзін* (6 двароў з 26 жыхарамі). У пасляваенны час паселішча не аднаўлена. На поўнач і паўночны ўсход — вялізныя меліяраваныя ў 50—60-я гады XX стагоддзя балоты. Пачатак іх асушэння (канец XIX стагоддзя) звязаны з дзейнасцю Заходняй экспедыцыі па асушэнні балот Палесся, якую ўзначальваў генерал *Іосіф Жылінскі* — аўтар некалькіх прац, прысвечаных праблемам асушэння балот Палесся. Пад яго кіраўніцтвам было праведзена нівеліраванне басейна Прыпяці і многіх яе прытокаў. У сучасным Лельчыцкім раёне да нашых дзён дзейнічаюць асушальныя каналы, пракапаныя ўручную ў адпаведнасці з планамі Жылінскага, агульнай даўжынёй больш як 160 км. Генеральны план асушэння балот Палесся, складзены Жылінскім, на сусветнай выстаўцы ў Парыжы ў 1878 годзе быў удастоены залатога медаля. З тых часоў у *Стадолічах* вядомы мікратапонім-гідронім *Левінова канава*, названы ў гонар мазырскага купца-яўрэя *Левіна*, на сродкі якога канава была пракапана і па якой *стадалюкі* сплаўлялі лес у рэчку *Убарацъ* і далей — у *Прыпяць—Дняпро*.

Падрабязнае апісанне дзейнасці Заходняй экспедыцыі па асушэнні балот Палесся, якую ўзначальваў генерал Іосіф Жылінскі, падаецца ў нарысе «Очерк работ Западной экспедиции по осушению болот (1873—1898)» СПб., 1898 і ў артыкуле І. Некрашэвіча «Меліярацыя на Мазыршчыне», апублікаваным у часопісе «Наш край», 1928, № 8—9. Прывядзём некаторыя фрагменты з гэтых публікацый, каб зразумець маштабы і вынікі праведзенай работы. На Мазыршчыне — ва ўсходняй частцы Палесся, экспедыцыя распачала работы ў 1874 годзе. Да 1892-га былі пабудаваны 3 312 вёрст магістральных і бакавых каналаў. Магістральныя каналы былі шырынёй ад 5 да 20 аршын і глыбінёй ад 1,5 да 4,5 аршына, бакавыя — шырынёй ад 3 да 5 аршын і глыбінёй 1—1,5 аршына.

Пры дапамозе каналізацыі была асушана плошча ў 2 350 000 дзесяцін. Каштоўнасць асушанай тэрыторыі ацэнена амаль у 60 млн рублёў, у той час як да пабудовы каналаў — толькі 9,4 млн рублёў.

Экспедыцыя пабудавала 353 масты, 15 шлюзаў, правяла нівеліроўку па працягу 33 600 вёрст, бурэнне ад 20 да 40 футаў у 196 пунктах. Разам з тым, у непраходных раней мясцінах былі пабудаваны 132 вярсты новых дарог. У рамане Івана Навуменкі «Вецер у соснах» падрабязна, з цеплынёй і павагай гаворыцца пра дзейнасць генерала *Іосіфа Жылінскага* як першапраходца, пачынальніка-меліяратара, патрыёта: *«...па балотах Палесся вандравала экспедыцыя генерала Жылінскага. Генерал быў патрыёт, меў разумную галаву: пакуль пракладвалася чыгунка, ён асушыў тысячы дзесяцін балотных імшарын. Вынік быў відавочны — праз лічаныя гады прылеглы да чыгункі край стаў даваць утрая болей сена і дзелавой драўніны. Падхопленыя ветрам нечаканых перамен, раслі новыя паселішчы»*.

У манаграфіі Н. Багамольнікавай «Гідронімы басейна ракі Прыпяць: структурна-семантычныя тыпы матывацыі» (Гомель, 2004) даследчыца прыводзіць апісанне балот Усходняга Палесся, агульная колькасць гідронімаў — звыш 5 000 самых розных водных аб'ектаў і іх назваў, якія ў асноўным сканцэнтраваны на Мазыршчыне. Гэта пераважна *гелонімы* — уласныя назвы балот; *лімнонімы* — уласныя назвы азёр; *патамонімы* — уласныя назвы рэк; *мікрагідронімы* — уласныя назвы невялікіх водных аб'ектаў (копанак, канаў, каналаў, сажалак, калодзежаў, крыніц, ручаёў, ям). Даследаваны Н. Багамольнікавай рэгіён — адзін з самых насычаных гідронімамі на Беларусі, бо, напрыклад, балоты ў басейне Прыпяці некалі да пачатку іх асушэння займалі каля чвэрці ўсёй тэрыторыі Мазыршчыны. Пра багацце вады ва ўсходнім Палессі сведчаць такія факты. У басейне ракі *Убарць*, якая працякае пераважна ў Лельчыцкім раёне, густата натуральнай рачной сеткі 0,35 км$^2$. Даўжыня меліярацыйнай сеткі 4,8 тыс. км, у тым ліку адрэгуляваных водапрыёмнікаў 54 км, магістральных каналаў 684 км, рэгуляцыйных каналаў 754 км.

Найбольшае возера *Торцін*, што злева каля шашы *Лельчыцы—Стадолічы*. Іншыя такія натуральныя вадаёмы *Замошша, Пупаўскае, Мяшчаўскае* (у Прыпяцкім нацыянальным парку), *Смердзін* (на поўдзень ад *Стадолічаў*). Штучныя вадасховішчы каля вёсак *Ударнае, Свіднае, Ліпляны, Крупка, Вуглы* і іншых. У час зімы з глыбокім снегам балоты ў пойме *Убарці* ўвогуле не замярзаюць.

У наш час многія водныя аб'екты, іх гідранімічныя назвы, тыповыя для былой Мазыршчыны, знікаюць або ўжо зніклі. Як прасачылі даследчыкі, назвы невялікіх рачулак, азярын найперш страцілі свае ўласныя назвы ў выніку меліярацыі і ўзамен атрымалі ландшафтны тэрмін *канава*. Такая з'ява прыводзіць да з'яўлення шматлікіх водных аб'ектаў з аднолькавай уласнай назвай, якая не змяшчае звестак пра гісторыю краю і яго жыхароў.

У 1974 годзе ў *Стадолічах* летам працавала лінгвістычная экспедыцыя пад кіраўніцтвам акадэміка *М. І. Талстога*, у яе складзе былі вядомыя вучоныя, аспіранты, студэнты з Масквы, Ленінграда, Мінска, Жытоміра, Нежына, Мазыра. М. І. Талстой, які неаднаразова бываў у розных паселішчах Палесся, лічыў фальклорныя матэрыялы са *Стадоліч* самымі ўнікальнымі. Запісы мясцовага фальклору, атрыманыя ад жыхароў *Стадоліч*, змешчаны ў працах — артыкулах, манаграфіях, дакладах — М. І. Талстога, *С. М. Талстой, Ю. І. Смірнова*. Інфарматарамі былі жыхары сяла *Стадолічы* Тэкля Казачэнка, Ганна Відура, Саламея Шур, Васіліна Шур, Аляксандра Жогла.

Гісторыя, прырода, лёсы некаторых людзей з Убарцкага Палесся знайшлі мастацкае апісанне ў творах пісьменнікаў, якія наведвалі гэты куток Беларусі ў розныя часы. Для маіх землякоў класічнымі сталі радкі з верша Пімена Панчанкі: *«Тут, у Лельчыцах, сэрца лечыцца»*.

Уладзімір Караткевіч таксама неаднаразова наведваў маляўнічыя берагі Убарці, яго ўражвала мясцовая прырода, пра што з асаблівым захапленнем народны пісьменнік вельмі красамоўна паведамляў у кнізе нарысаў «Зямля пад белымі крыламі», а таксама ў эсэ «Дрэва вечнасці» пра знакаміты на ўсю Беларусь цар-дуб. Па сцэнарыю пісьменніка пастаўлены і кароткаметражны фільм «Сведкі вечнасці» — пра помнікі прыроды Беларусі, дзе асаблівае месца — цар-дуба: *«Мы ехалі ў Палессе, у глыбіню ягоную, за Мазыр і Лельчыцы, каб "засняць" каля вёскі Данілегі славуты тысячагадовы цар-дуб, або дуб Крывашапкі. У нас былі ўжо шасцісотгадовыя дубы, чатырохсотгадовыя ясені, таполя Напалеона, дубы Міцкевіча, дубы Ягайлы, проста сямісотгадовыя дубы. Нам пазарэз патрэбен быў тысячагадовы дуб…»*. І яшчэ: *«…Стаіць у атачэнні шасцісотгадовы дуб — "дуб Крывашапкі", "цар-дуб", "дуб вечнасці" — вось колькі яго назваў. Яму тысяча гадоў. Разменьвае другую тысячу»*. Безумоўна, вядомы пісьменнік перабольшваў, бо спецыялісты-лесаводы адзначаюць, што Цар-дуб — помнік прыроды рэспубліканскага значэння вышынёй 32 м і дыяметрам 1,4 м, узрост каля 300 гадоў. Узяўшыся за рукі, яго абдымуць чатыры чалавекі. У наш час да Цар-дуба з Нацыянальнага парку «Прыпяцкі» наладжваюцца турыстычныя экскурсіі.

Шмат мастацкіх твораў пра гэты куток Палесся ў вядомага беларускага паэта Міхася Башлакова, ён, мабыць, больш за

іншых беларускіх пісьменнікаў прысвяціў свае творы гэтаму краю, з непадкупнай любоўю апеў хараство лельчыцкай зямлі.

У ліку ўраджэнцаў раёна пісьменнікі Мікола Капыловіч з вёскі Астражанка (10.07.1937—28.02.2000) — аўтар кніг прозы «Скрозь жывуць людзі», «Засада», «Дні ціхай восені», «Чужы сваяк»; паэт Алесь Лісіцкі з вёскі Мілашавічы — аўтар зборніка вершаў «Сны ля Убарці»; Іван Колас (1923—2011) — пісьменнік, адзін з арганізатараў партызанскага руху на Палессі ў Вялікую Айчынную вайну, палкоўнік, першы з беларусаў Герой Расійскай Федэрацыі, аўтар дакументальных кніг «Варшава в огне», «Рельсовая война в Полесье», «По заданию центра», «Возвращение из ада».

Іван Колас быў адным з арганізатараў першага ў Лельчыцкім раёне партызанскага атрада імя Кутузава. У газеце «Звязда» ад 23 лютага 2012 года змешчаны грунтоўны нарыс «Беларускі Шціргліц», дзе падрабязна прасочана ваенная біяграфія І. Коласа: «У дваццаць гадоў ён арганізаваў партызанскую брыгаду, рассакрэціў і нейтралізаваў філіял шпіёнскай школы абвера, дзе рыхтавалі агентаў для закідвання ў савецкі тыл і партызанскія зоны. У пачатку 1945 года ён быў рэзідэнтам галоўнага разведупраўлення ў *Саксоніі*, там збіраў звесткі пра нямецкія вайсковыя фарміраванні, а таксама інфармацыю пра бензольны завод, які выраблял для фронта бензін з мясцовага каменнага вугалю. У сакавіку 1945 года ён у Берліне выконваў спецзаданне Г. К. Жукава па захопе нямецкага генерала, праз якога быў дастаўлены ўльтыматум савецкага камандавання аб капітуляцыі фашысцкай Германіі». Выдатнай старонкай біяграфіі І. Коласа стала яго дзейнасць у Варшаве, куды ён быў скінуты з самалёта на парашуце для каардынацыі дзеянняў паўстанцаў, польскай Арміі Краёвай і Чырвонай Арміі па вызваленні ад фашыстаў сталіцы Польшчы. Пра яго вяртанне і здабытыя звесткі было далажана маршалу Савецкага Саюза Канстанціну Ракасоўскаму, а потым асабіста Вярхоўнаму Галоўнакамандуючаму І. В. Сталіну. Пра гэта пісьменнік А. Чакоўскі падрабязна напісаў у рамане «Перамога». Здабытыя І. Коласам звесткі па ваенна-палітычным становішчы ў польскай сталіцы мелі важнае значэнне для прыняцця стратэгічных рашэнняў камандаваннем 1-га Беларускага фронту. У пасляваенны час пра гэтыя падзеі І. Колас падрабязна паведаміў у сваёй кнізе «Варшава в огне». Славуты разведчык таксама рассакрэціў фашысцкую аперацыю «Вінтэр» па плануемым знішчэнні беларускіх партызан на Палессі. Ён даведаўся і пра сакрэт *Хожаўскага танкадрома*, дзе гітлераўцы выпрабоўвалі новую гармату, якую хацелі выкарыстаць для паражэння савецкага танка «Т-34»... Яго жыццё падобна да захапляльнага шматсерыйнага фільма. І нездарма ў пакоі-музеі ГРУ Расіі партрэт Івана Андрэевіча вісіць сярод партрэтаў такіх легендарных разведчыкаў, як Р. Зорге, Р. Абеля, Я. Маневіча. Пасля вайны Іван Колас стаў пісьменнікам, аўтарам шматлікіх кніг. Яго творчы шлях адзначаны прэміямі імя К. Сіманава, А. Фадзеева, В. Пікуля. Праз пяцьдзясят гадоў пасля заканчэння вайны ён удастоены звання Героя Расіі. Прэзідэнт Беларусі ўзнагародзіў яго ордэнам Францыска Скарыны. Так атрымалася, што пра гераізм І. Коласа доўгі час больш ведалі ў Англіі, ЗША і Польшчы, чым у СССР і ў яго на радзіме ў Лельчыцкім раёне. У школах замежных разведак да нашых дзён вывучаецца вопыт савецкага разведчыка «Алега», пад якім ён больш вядомы за мяжой. Сведчаннем такой вядомасці з'яўляецца тэлеграма на імя І. Коласа праз пяцьдзясят гадоў пасля вайны, у якой Дзяржаўны сакратар ЗША піша: «Расія. Коласу. Найцудоўнейшаму з мужчын, майго Героя — віншую і цалую. Твая Кандаліза Райс».

Усім нам, хто любіць сваю радзіму Беларусь, неабходна шанаваць, захоўваць для наступных пакаленняў тыя звесткі, што назапашаны пра мінулае нашых паселішчаў, пра ўзнікненне іх назваў — радасныя і сумныя, легенды, паданні, успаміны. На добры лад ва ўсіх агульнаадукацыйных школах, нават пачатковых, на кожны населены пункт павінна быць запісана паданне, і прычым не адно, а столькі, колькі іх існуе ў народзе. А беларускія выдавецтвы павінны наладзіць выпуск зборнікаў мастацкай літаратуры, публіцыстычных альманахаў, прысвечаных канкрэтным рэгіёнам нашай радзімы. Такая літаратура заўсёды будзе запатрабаванай не толькі ў школе, але і сярод аматараў літаратуры самых розных узростаў.

Мікола КАНДРАТАЎ

# ГРАДУСЫ ГЕНІЯЛЬНАСЦІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА



*Максім Багдановіч.*

**Дзявятым па ліку знакам Задыяка з'яўляецца знак Стральца (♐). Яго сімвалічны вобраз — кентаўр, што страляе з лука ўверх, альбо вершнік на кані. Гэта сімвал злучэння зямнога свету і вышэйшага пачатку. Ключавое слова Стральца — традыцыя. Кіраўнікамі гэтага знака з'яўляюцца Юпітэр (♃) і Нептун (♆) — адпаведна планета аўтарытэту і планета вышэйшай гармоніі.**

Пад знакам Стральца 9 снежня 1891 года ў Мінску нарадзіўся беларускі паэт Максім Багдановіч. Мы ведаем, што на роднай зямлі яму давялося пажыць нядоўга. У хуткім часе пасля смерці маці Максіма сям'я пераехала ў Ніжні Ноўгарад на новае месца працы бацькі. Будучы паэт рос і выхоўваўся ў расійскім асяродку, але змог самастойна вывучыць беларускую мову і стаць выдатным беларускім паэтам.У аповесці «Загадка Багдановіча» пісьменнік Міхась Стральцоў паспрабаваў разгадаць яго тайну. Ён пісаў: «Багдановіча заўсёды хацелі паставіць збоч літаратуры і яе цэнтральнай плыні… Больш цэнтральнай фігуры, чым Багдановіч, у нас не было. Па шырыні непасрэдна-творчага асваення нацыянальнай рэчаіснасці ён, можа, і ўступае, напрыклад, Купалу, але чым замяніць нам тое, што зрабіў Багдановіч як крытык і тэарэтык літаратуры, як эксперыментатар і перакладчык, наогул як асветнік у самым высакародным значэнні гэтага слова?» Зрабіць такое пад сілу толькі генію. Але, магчыма, хтосьці сёння сумняваецца ў геніяльнасці Багдановіча. Паспрабуем «разгадаць» лёс паэта з дапамогай астралогіі.

Калі паглядзім на касмаграму, заўважым у знаку Стральца самотнае Сонца (☉), якое сімвалізуе творчы дух, эга чалавека, яго самога. Сонца Максіма — нібыта ілюстрацыя жыццёвай самотнасці паэта. Багдановіч не з'яўляецца тыповым Стральцом, бо некалькі іншых знакаў ягонай касмаграмы запоўнены планетамі больш, чым згаданы. Такое становішча Сонца магло адгукацца недахопам сіл, ілюзіяй успрымання інфармацыі сонечнага знака, звязанага з далёкімі вандроўкамі, вучэннем, сацыяльным прызнаннем. Гэта сказвалася, напэўна, і ў тым, што паэт дрэнна клапаціўся пра сябе. Нават цяжка хворы ў 1916-м, ён дрэнна харчаваўся, не ў час прымаў лекі, заседжваўся за працай да глыбокай ночы, мог заснуць у халодным пакоі.

Ключом да гараскопа Максіма Багдановіча з'яўляецца тэрмін *градусаў Задыяка*. Згодна з міфам Авесты, створаная Богам ідэальная Зямля, якую нашы продкі называлі *Рапітвінай*, абарочвалася вакол Сонца роўна за 360 сутак. Кожны дзень Рапітвіны быў не падобны да іншых. Свет тады не ведаў ліха, з'яўляўся цэласным і гарманічным. **Градусам Задыяка** нашы продкі назвалі тую вуглавую адлегласць, на якую перамяшчалася Сонца за суткі Рапітвіны. Кожны такі градус мае ўласную характарыстыку, сваю містэрыю, бо звязаны з адным з ідэальных дзён і ўтрымлівае велізарны пласт інфармацыі. Для нас важнымі ў ёй будуць псіхалагічныя характарыстыкі і татэмы. Любая планета касмаграмы, трапляючы пры нараджэнні чалавека ў пэўны градус, праяўляе яго інфармацыю. Кожны з дванаццаці знакаў Задыяка ўтрымлівае 30 градусаў. Прычым у любога градуса маецца свая планета-кіраўнік, што ўплывае на варыянт праявы ягонай інфармацыі ў лепшы ці горшы бок.

Бацька паэта Адам Ягоравіч у сваіх успамінах называе часам народзінаў сына 9 гадзін вечара. Аднак хочацца выказаць меркаванне пра магчымую памылковасць гэтага сцверджання, абапіраючыся на астралагічную інфармацыю. Падобна на тое, што Максім з'явіўся на свет у 16 гадзін 11 хвілін.

Каб удакладніць час нараджэння Максіма Багдановіча, можна скарыстацца планетай Месяц (☽), што сімвалізуе душу чалавека, яго перажыванні і эмоцыі. Месяц — важная планета для пісьменнікаў, асабліва для паэтаў, справы якіх у пэўным сэнсе звязаны з праявай пачуццяў і інтуіцыяй, натхненнем. Ведаючы, што Максім нарадзіўся вечарам, заўважым, што планета Месяц у ягонай касмаграме можа знаходзіцца ў апошніх градусах знака Рыб (♓) ці ў першых градусах Авена (♈). Адзначым, што пераход Месяца ў знак Авена ў дзень народзінаў Багдановіча адбываўся ў 16 гадзін 18 хвілін. Калі б паэт нарадзіўся пасля гэтага часу, Месяц у ягонай касмаграме меў бы адмоўны кармічны статус —3 балы і надзяліў бы Максіма лянотай, істэрычнасцю, марудлівасцю і неабавязковасцю. Месяц жа ў знаку Рыб мае кармічны статус +5 балаў і дае ўладальніку пачуццёвасць, успрымальнасць, уражлівасць, капрызнасць, сентыментальнасць, цягу да дому,




*Касмаграма Максіма Багдановіча.*

сям'і, бацькоў, асабліва да маці, прывязанасць да дзяцей, гатоўнасць клапаціцца пра іх да апошніх сіл. Як бачым, Багдановічу адпавядаюць менавіта апошнія рысы. Чаго варты адзін факт, які засведчыла ва ўспамінах пра Максіма пісьменніца Зоська Верас, калі цяжка хворы паэт у 1916 годзе ў Мінску адмаўляўся ад ужывання цукру, пакідаючы яго для дзяцей бежанцаў. Максім прызнаўся ёй, што любіць салодкае, але вельмі любіць дзяцей і перажывае, што не зможа іх мець. Таму хаця б такім чынам хоча пра іх паклапаціцца.

Пра важнасць Месяца для Багдановіча сведчыць і тое, што градусамі васьмі планет (паловай ад усіх!) ягонай касмаграмы кіруе планета Месяц. Адсюль і больш глыбокая душэўная сувязь Максіма з маці, а не з бацькам, а таксама — ягоная хвароба на сухоты.

Большаму ўдакладненню часу народзінаў Багдановіча дапамагае інфармацыя татэмаў *градусаў* планет касмаграмы, а таксама татэма *Асцэндзента* (ASC) гараскопа — кропкі, якая ўзыходзіць над небакраем у момант нараджэння чалавека ў пэўнай мясцовасці.

Па-першае, атрымалася, што Асцэндзент гараскопа трапіў у 21° Рака (♋), татэмам якога з'яўляецца Сом. У названым знаку Задыяка няма планет. Таму з цягам жыцця татэм мог адбіцца нават на знешнасці Багдановіча. У гэтым можна пера-

канацца, калі паглядзець на прыведзены фотаздымак паэта. Пра пэўнае падабенства сведчаць вусы Максіма, якому тут 25 гадоў. 21° Рака можа даваць свайму ўладальніку сур'ёзнасць, глыбіню, маўклівасць, загадкавасць і таямнічасць, магчымасць быць пісьменнікам.

Па-другое, планета Месяц у касмаграме Багдановіча трапіла ў 30° Рыб, татэмам якога з'яўляецца Салавей. «…Невялічкая птушка, а ведае ўсё, увесь спектр у ім. Ён сімвал ахвяры, вышэйшага мастацтва, Боскага дару. Такога чалавека цяжка зразумець, таму ён самотны. Геніяльны псіхолаг». Як бачым, усё ў кропку. Вось яна разгадка «загадкі Багдановіча», апісанай Стральцовым.

Па-трэцяе, сведчаннем знаходжання ў касмаграме паэта Месяца ў апошнім градусе знака Рыб можна лічыць факт, прыведзены бацькам Максіма ва ўспамінах. Калі сыну споўнілася ўсяго два месяцы, з ім здарылася бяда. Маці выкупала Максіма і папрасіла сястру пасвяціць лямпай. Тая падышла і стала ззаду. У гэты час шкло лямпы трэснула, і распалены цыліндр упаў на жывоцік малыша. Пачуліся крыкі дзіцяці і маці, што аслупянела ад жаху. Бацька кінуўся на крык і схапіўшы шкло, уратаваў Максіма. На жывоціку малога ўскочыў пухір велічынёю з далонь.

Прыведзены выпадак можна патлумачаць наступным чынам. У авестыйскай астралогіі існуюць паняцці сімвалічных *Кропкі Жыцця* і *Кропкі Смерці*. Першая з цягам жыцця чалавека раўнамерна рухаецца ад пачатку Авена па гадзіннікавай стрэлцы і праходзіць знак Задыяка за 7 гадоў. Праходзячы па градусе, у якім знаходзіцца планета, Кропка Жыцця праяўляе станоўчы досвед па ёй. Кропка Смерці, наадварот, рухаецца ад 1° Авена ў процілеглым кірунку і праходзіць знак Задыяка за 9 гадоў. Сустракаючы на сваім шляху планету, яна праяўляе адмоўны вопыт па функцыях апошняй. У нашым выпадку Кропка Смерці, рухаючыся ад пачатку Авена па знаку Рыб, вельмі хутка павінна была сустрэць планету Месяц, якая, дарэчы, сімвалізуе маці і разам з тым адказвае за жывот на целе чалавека. Як бачым, усё слушна.

Па-чацвёртае, вельмі яскравым вобразам у паэтычнай творчасці Максіма Багдановіча з'яўляецца Страцім-Лебедзь. Было б, напэўна, дзіўна, калі б сярод праяўленых градусаў касмаграмы ці гараскопа не знайшлося такога з татэмам Лебедзя. Усяго ў Задыяку тры такія градусы. Аказваецца, што пры нашым выбары часу нараджэння Максіма градусам, з якога пачынаецца VIII дом гараскопа — дом смерці, якраз і ёсць 5° Вадаліва (♒) з татэмам Чорнага Лебедзя.

Хтосьці скажа, што ўсё гэта проста супадзенні. Але ці не зашмат супадзенняў?

У касмаграме Максіма Багдановіча Узыходзячы Вузел (☊) трапіў у градус геніяльнасці. Гэта 27° Цяльца (♉): геніяльнасць, паяднаная са сціпласцю. Але гэта не ўсё. Калі прызнаць новы час нараджэння Максіма, планеты Меркурый (☿) і Венера (♀) ў яго касмаграме трапляюць у 8° Казярога (♑). А гэта таксама градус геніяльнасці, які дае веліч духу, вялікія разумовыя здольнасці, велізарную працаздольнасць, халодны розум, дысцыплінаванасць і поспех. Планета Меркурый сімвалізуе памяць, пісьмо, слова, інтэлект. А Венера — планета гармоніі і кахання. Іх злучэнне сімвалізуе гармонію слова — паэзію. Пад знакам Казярога, як вядома, знаходзіцца Беларусь — цэнтр прыцягнення Максіма. Усе мы памятаем: «Зорка Венера (♀) ўзышла над зямлёю (♑)».

Значыцца, маем тры планеты (!) у градусах геніяльнасці. А згодна з авестыйскай астралогіяй, калі пэўная інфармацыя мае пацверджанне ў трох і больш градусах Задыяка, яна павінна абавязкова праявіцца ў жыцці чалавека. Таму геніяльнасць Максіма Багдановіча не падлягае сумневу.

Геніяльнасць — вялікая сіла. Аднак, на жаль, усе градусы геніяльнасці ўтрымліваюць разам з тым і пэўныя рысы адмоўнай маральнасці. Што ж дапамагло Багдановічу пераадолець спакусы? Ён выбраў адзіна правільны кірунак у жыцці, пайшоўшы шляхам самаадукацыі і паэтычнай творчасці — па знаку Блізнятаў (♊), дзе знаходзіцца ягоны анёл-ахоўнік, планета Белы Месяц (⯝) — 21° ♊ дае паэтычны дар яго ўладальніку. А значыць, Багдановіч як паэт быў дадзены Беларусі Богам. За сваё кароткае жыццё ён фактычна заклаў асновы для таго, каб будучая беларуская паэзія змагла стаць прызнанай ва ўсім свеце.

АНДРЭЙ КУВАЕЎ

# РАДЗІВІЛЫ. СКАРБНІЦА. РОСКВІТ

## НАРЫС-РАЗВАЖАННЕ



*Мікалай Радзівіл Чорны.*

Традыцыі збіральніцтва і калекцыянавання на Беларусі вядомыя здаўна. Свае вытокі яны бяруць у глыбокім мінулым, яшчэ ад старажытных, абабітых жалезам куфраў з мудрагелістымі ўнутранымі замкамі, дзе некалькі пакаленняў захоўвалі ўсё самае лепшае і каштоўнае, што мела сям'я, да шырокавядомых цяпер камодаў, сервантаў, буфетаў ды шафаў, дзе па-ранейшаму, як і стагоддзі таму, ахайна зберагаюцца сямейны архіў, старыя лісты і фотаздымкі, дарагі посуд, цяжкія святочныя абрусы, парадная вопратка, а яшчэ глыбей — у патаемных ці зачыненых шуфлядах — шкатулкі з каштоўнасцямі. Змесціва гэтых «хатніх скарбонак» і шмат гадоў таму залежала ад сацыяльнага і маёмаснага стану сям'і, роду, узроўню яго дабрабыту, колькасці спадчыннікаў, ды звычак тых людзей, у чыім распараджэнні былі гэтыя каштоўнасці.

Калі сялянская сям'я хавала ўвесь свой скарб у адзін драўляны дзедаўскі куфар, дык узровень даходаў і становішча ў грамадстве прадстаўніка шляхецкага стану не толькі дазваляла, але часам нават і дыктавала мець маёнтак-рэзідэнцыю, дзе б месціліся партрэтная галерэя продкаў, рэдкая і легендарная зброя, парцалянавы посуд — кітайскі або саксонскі, сталовае срэбра, вялікая бібліятэка, гардэроб, расшыты золатам і срэбрам, нарэшце, калекцыі каштоўных упрыгожанняў. Канечне, самыя багатыя і дзівосныя скарбніцы меліся ў палацах ды замках вяршыні шляхецкага стану — магнатаў. Шыкоўныя палацы Радзівілаў, Сапегаў, Тышкевічаў, Вішнявецкіх, Гаштольдаў, Пацаў ды Астрожскіх хвалююць нас і цяпер, нават у руінах. Вялізныя ўладанні, атрыманыя ў спадчыну або ад караля ці вялікага князя, ды ашаламляльны прыбытак ад гэтых уладанняў дазвалялі нават самай пладавітай на спадчыннікаў сям'і папаўняць свае маёнткі ўнікальнымі рэчамі. Тут ужо ставілася мэта не толькі прадэманстраваць усім сваю заможнасць, але і здзівіць заезджых гасцей, а часам нават і самога караля размахам і уладай, багаццем і ўплывовасцю, вытанчаным густам ды моднымі замежнымі навінкамі. І няма нічога дзіўнага ў тым, што менавіта пры дварах тагачасных алігархаў панавала ўлада, падмацаваная ўласным войскам, пульсавала культурнае жыццё, напоўненае ўражанымі гледачамі асабістым тэатры, а палацавыя галерэі — творамі мастацтва самых славутых майстроў усіх эпох. Дзякуючы менавіта гэтым абставінам узрастаў аўтарытэт «дома», вызначаліся густы і перавагі вышэйшага свету, модныя тэндэнцыі, а таксама ўсталёўвалася добразычлівасць Еўрапейскіх двароў. Як вынік — новыя «фаворы», узнагароды і прыхільнасць валадароў-правіцеляў. Багацце і раскоша дэманстраваліся на самых розных забаўках — прыёмах, абедах, паляваннях, балях, у якіх бралі ўдзел і асобы каралеўскай крыві.



*Палац Радзівілаў у Алыцы.*

У канцы XVIII стагоддзя папулярнасцю карысталіся маскарады ў князя Іераніма Фларыяна Радзівіла — на іх траплялі толькі шляхецкія вярхушкі, рэдутныя забавы ў Слоніме і Шклове, радзівілаўскія «каруселі» — так называліся тады спаборніцтвы на спрыт і трапнасць, тэатралізаваныя паляванні з цкаваннем дзікіх звяроў, якіх шмат вадзілася ў княжых пушчах… Да такіх дэманстрацый сілы і ўлады можна аднесці наведванне ружанскай рэзідэнцыі князёў Сапегаў у 1617 годзе самім каралём Польскім і Вялікім князем Літоўскім Уладзіславам IV. У 1644-м ён прыехаў сюды зноў, з жонкай Цэцыліяй Рэнатай, і тады, па словах князя Альбрэхта Станіслава Радзівіла, які прысутнічаў пры сустрэчы, «кароль з каралевай і ўсім дваром, запрошаныя надворным маршалкам Казімірам Львом Сапегам, на працягу дзевяці дзён нечувана частаваныя былі, а пасля, па заездзе ў сапегаўскія маёнткі, не было канчэння банкетам». Каралю паднеслі сапраўды каралеўскія дары: залатая міса коштам у дзве тысячы дукатаў, галандскіх (верагодна, шаўковых) шпалераў на тысячу дукатаў, каралеве — пярсцёнак коштам у шаснаццаць тысяч дукатаў і собалевы мех, куплены ў Маскве, канцлеру — срэбны кубак, фрэйлінам — каштоўныя пярсцёнкі, пану падкаморыю — шаблю ў золаце, духавенству — па сто дукатаў, усе астатнія таксама атрымалі розныя грашовыя падарункі.

Радзівілы ў спісе магнацкіх родаў займалі асаблівае месца. Узяўшы свой пачатак у XV стагоддзі, гэты магнацкі род ужо ў наступным, XVI стагоддзі амаль імгненна ўзвышаецца дзякуючы ўдалым дынастычным шлюбам і блізкасці да вялікакняжацкага вянца. У 1513 годзе Ян Радзівіл па прозвішчы Барадаты бярэ за жонку Ганну з Кішкаў і атрымлівае пасаг — вялікія тэрыторыі цяперашніх Беларусі і Украіны, у тым ліку мястэчка Нясвіж, якое пазней стане галоўнай рэзідэнцыяй роду.

У 1518 годзе Радзівілы атрымліваюць ад імператара Карла V тытул князёў Свяцейшай Рымскай імперыі. Гэты тытул распаўсюджваецца на ўсіх прадстаўнікоў роду і пераходзіць у спадчыну. Праз трыццаць гадоў Мікалай Радзівіл Чорны дабіваецца пацвярджэння гэтага тытула спачатку новым імператарам Фердынандам I, а потым і Вялікім князем Стэфанам Баторыем. З гэтага моманту Радзівілы афіцыйна лічацца князямі «на Нясвіжы і Алыцы, на Біржах і Дубінках, на Ганендзах і Мядзелі». Гэта азначае, што род геаграфічна дзеліцца на тры галіны, галоўнай і найбольш заможнай з якіх потым стане нясвіжска-алыцкая. Яе галавой у сярэдзіне XVI стагоддзя з'яўляецца князь Мікалай Радзівіл Чорны. Неверагодна разумны, бліскуча адукаваны, выхаваны пры двары Вялікага князя, светач дыпламатыі свайго часу, праз шлюб сваёй стрыечнай сястры Барбары ён парадніцца з каралём Жыгімонтам II Аўгустам і будзе адначасова яго лепшым сябрам, пра што кароль неаднаразова зазначыць у сваіх шматлікіх пісьмах.

З каралеўскай ласкі ды міласці радзівілаўскія ўладанні хутка дапоўніліся мястэчкамі і маёнткамі па ўсёй тэрыторыі княства Літоўскага і каралеўства Польскага. Ужо ў другой палове XVI стагоддзя акрамя рэзідэнцый у Нясвіжы, Алыцы, Міры, Дубінках

можна было назваць Шчучын, Давыд-Гарадок, Копысь, Лахву, Кейданы, Геранёны, Клецк, Шыдловец, Здзітаў, Дуброву, Шацк, Узду, Дусяты, Бігушкі, Лукішкі і дзясяткі вёсак з сотнямі сялян да кожнага маёнтка. Да таго ж трэба дадаць і так званыя староствы, што даваліся каралём у пажыццёвае распараджэнне, — у Ашмянах, Лідзе, Брэсце, Мазыры, Барысаве… Некаторыя прыпісвалі паспяховаму князю вялікія амбіцыі і далёка сягаючыя мэты. І менавіта Мікалая Радзівіла Чорнага прынята лічыць заснавальнікам радзівілаўскіх збораў — княжацкага скарбу. Сродкі і ўплывовасць, адукаванасць і дыпламатычныя сувязі дазволілі князю набываць найвыдатнейшыя творы мастацтва, а таксама запрашаць да двара знакамітых паэтаў, пісьменнікаў і мастакоў таго часу. Сучаснік Мікалая Чорнага паэт Ян Каханоўскі прысвяціў паэму «Сусанна» жонцы князя — Эльжбеце Шыдлавецкай. А не так даўно навукоўцы выступілі з цікавай гіпотэзай: маўляў, вядомая карціна Тыцыяна «Партрэт шляхціца» можа быць партрэтам самога князя Мікалая Радзівіла Чорнага. На гэта ўказваюць падабенства асобы на партрэце з князем, а таксама факт знаходжання мастака ў Аўсбургу, пры двары Карла V, у 1549—1550 гадах — якраз у той час, калі Радзівілам быў дадзены княжацкі тытул. Партрэт, на якім, згодна з некаторымі версіямі, намаляваны Джавані Франчэска Аквавіва герцаг Атры, таксама падпісаны 1550 годам. Між тым, Чорны ў 1547 і 1553 гадах быў у Вене і Аўсбургу, дзе аглядаў багатыя зборы Габсбургаў. У самога караля Жыгімонта II Аўгуста ў яго Вавельскім замку была шыкоўная калекцыя з трох з паловай соцень фламандскіх габеленаў і дзясяткаў скульптур. Робіцца зразумелым, чаму ў хуткім часе для свайго палаца ў Брэсце князь набыў некалькі галандскіх габеленаў, два з якіх — «Хрышчэнне Хрыста ў Іардане» і «Лютэр сярод электараў».

Але галоўнай рэзідэнцыяй роду князь абраў Нясвіж. Менавіта Нясвіж павінен быў дэманстраваць магутнасць і становішча роду Радзівілаў. У 1551 годзе ён дамогся ў караля прывілея на захаванне ў нясвіжскім замку разам з архівам роду архіва ўсяго Вялікага Княства Літоўскага, надаўшы гэтым свайму замку статус архіва дзяржаўнай важнасці. Ці трэба ўдакладняць, якую каштоўнасць мелі дзяржаўныя акты, што захоўваліся там? Сярод іх — арыгіналы Гарадзельскай і Люблінскай уній, граматы каралёў і вялікіх князёў Літоўскіх Баляслава Сарамлівага (1271 год), Уладзіслава Лакеткі (1298), Казіміра Вялікага (1348 год). А першы, самы старадаўні пергамент нясвіжскага архіва быў датаваны 1178 годам, гэта была грамата польскага караля Казіміра Справядлівага. Архіў складаўся з гістарычнай і адміністрацыйнай частак. Так побач з дзяржаўнымі паперамі захоўвалася дыпламатычная перапіска, тэстаменты, дзённікі і мемуары, асабістыя ліставанні Радзівілаў з еўрапейскімі манархамі, архівы пародненых з Радзівіламі родаў, паперы эканамічнага, біяграфічнага і рэлігійнага зместу.

Для кіравання архівам і правільнага карыстання такімі рарытэтамі Радзівілы запрашалі на службу дасведчаных архіварыусаў і навукоўцаў свайго часу. У пачатку XX стагоддзя ў радзівілаўскім архіве працаваў вядомы навуковец і даследчык Наркевіч-Йодка. Шмат гадоў пазней нясвіжскі архіў Вялікага Княства Літоўскага стаў падмуркам для шматтомнай «Літоўскай метрыкі» — збору найкаштоўнейшых дакументаў ВКЛ. Што датычыцца бібліятэкі, то спачатку яна была неадлучнай ад архіва, а кнігі яе па каштоўнасці наўрад ці саступалі дакументам: гэта былі сапраўдныя інкунабулы, рукапісы да 1501 года і палеатыпы — першыя друкаваныя кнігі пачатку XVI стагоддзя. Сам Мікалай Радзівіл Чорны, заснавальнік друкарань у Нясвіжы і Брэсце, стварыў умовы для пастаяннага папаўнення замкавага кнігазбору, куды ўвайшлі выдадзеныя ў 1562 і 1572 гадах знакамітыя Берасцейская Біблія і Катэхізіс Сымона Буднага. Дзякуючы замежным падарожжам князя бібліятэка рэгулярна атрымлівала кнігі з друкарань, размешчаных па ўсёй Еўропе, і ў хуткім часе стала найвядомейшым і найбагацейшым у краі кніжным скарбам. Канечне ж, не магло там не быць і перавыданняў Скарынавай Бібліі з Прагі і Вільні! Пазней бібліятэка была аддзелена ад архіва. У XVII стагоддзі яна налічвала ўжо каля тысячы найкаштоўнейшых кніг, у пачатку XVIII стагоддзя — каля дзевяці тысяч, а да канца яго пераўзышла дваццаць тысяч.

На жаль, замкавы збор у 1772 годзе быў вывезены з Нясвіжа па загадзе Кацярыны II



*Залатая зала замка ў Падгорцах. XIX стагоддзе.*

разам з унікальным нумізматычным кабінетам, які таксама месціўся ў замку. Дарэчы, князя Мікалая Радзівіла Чорнага можна лічыць заснавальнікам знакамітай нумізматычнай калекцыі, бо менавіта ён у 1554 годзе замовіў першы вядомы родавы медаль у гонар свайго пяцігадовага сына Мікалая Крыштофа, які ўвайшоў у гісторыю як Сіротка. Для гэтай калекцыі князь замовіў дзве вялікія скарбонкі з шуфлядамі, выкладзенымі аксамітам. Медалі і манеты раскладваліся па ячэйках у залежнасці ад месца, дзе біліся. Разам з талерамі, пенезямі, дукатамі і іншымі грашовымі знакамі ў калекцыю ўваходзіў вялікі набор арабскіх, рымскіх і галандскіх манет. У канцы XVIII стагоддзя калекцыя мела звыш трынаццаці тысяч манет і медалёў, прычым, некаторыя з іх існавалі ў адным экзэмпляры. Яны былі прымеркаваны да памятных дат роду, біліся ў гонар нараджэння дзяцей або з прычыны шлюбаў. Медалі выраблялiся не толькі з каштоўных металаў, але з дрэва і каменя. Пазней гэты ўнікальны збор быў перададзены ў Харкаўскі ўніверсітэт.

Справы бацькі працягваў сын — наступны нясвіжскі князь Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка.

У гісторыі Нясвіжа, напэўна, не знойдзецца больш яскравай асобы. Нясвіж ён перапланаваў па самых сучасных на той час прынцыпах. Для гэтага ў Нясвіж з'ехаліся лепшыя архітэктары і настаўнікі-езуіты, былі запрошаны гандляры і рамеснікі. І вось у самым цэнтры з'яўляецца грандыёзны касцёл, створаны італьянскім архітэктарам Джавані Марыя Бернардоні па ўзоры храма Іль-Джэзу ў Рыме, а побач «вучэбны цэнтр» — калегіум. Горад распачынае бурнае свецкае, рэлігійнае і гандлёвае жыццё, цяпер ён — цэнтр Нясвіжскага княства. Хутка Нясвіж набывае Магдэбургскае права, і гэта робіць яго вольным ад шматлікіх падаткаў, а таксама дае шмат прывілеяў. На галоўнай плошчы ўзнялася ў атачэнні гандлёвых радоў гарадская ратуша. Не забыўся князь Сіротка і на замак: дом яго бацькі з драўлянага робіцца каменным. У 1583 годзе пачынаецца грандыёзнае ператварэнне спарахнелых умацаванняў у сапраўдную фартэцыю па ўсіх канонах еўрапейскіх фартэцый эпохі Рэнесансу. Каб яшчэ больш замацаваць пазіцыі, Сіротка прапануе сваім братам Альбрэхту і Станіславу, якія з'яўляліся галавамі алыцкай і клецкай ліній роду, зацвердзіць спецыяльны юрыдычны дакумент — статут родавых ардынацый (ад лацінскага ordinatio — парадак). У ардынацыю ўваходзілі асноўныя, найбольш значныя валоданні галіны роду разам з родавым замкам або палацам і яго маёмасцю. Ніякія прычыны не павінны былі з'явіцца падставай для продажу, закладу, дарэння і іншага часовага адчужэння гэтага непарушнага валодання. Ардынацыі перадаваліся старэйшым спадчыннікам мужчынскага полу, астатнія патомкі маглі распараджацца так званымі аладыяльнымі маёнткамі, якія складалі большую частку ўладанняў сям'і. У 1586 годзе адпаведна лініям роду ўтварыліся тры ардынацыі, з іх нясвіжская пазней стала самай уплывовай і багатай.

Разам з пераўтварэннямі на еўрапейскі лад тых уладанняў, што меліся, князь Мікалай Крыштоф набываў новыя землі. У тым жа 1586 годзе па тэстаменце ад бяздзетнага Юрыя Ільініча да князя перайшло Мірскае графства разам са знакамітым Мірскім замкам, а таксама вялізныя абшары ў Бялай Падлясцы, Чарнаўчыцах, Дворышчы, Зэльве. У пасаг яго жонкі Эльжбеты Вішнявецкай увайшлі маёнткі Дзераўная, Хотава, Востраў, Пацейкі, Жодзішкі. Ад караля Жыгамонта Аўгуста ён атрымаў у падарунак Крожы

(цяпер у Латвіі), ад Жыгамонта Вазы — Грэск. Купіў Салтанаўшчыну, Затур'е, Кунас, Мікалаеўшчыну, Магільна, Гарадзею, Гавязна і іншыя. Гэтыя набыткі значна пашырылі тэрыторыю нясвіжскага княства. Ды і ў самім замку Мікалай Сіротка не толькі ўзбагаціў бібліятэку, але і паклаў пачатак замкавай галерэі, збраёўні, а таксама прынёс са шматлікіх сваіх падарожжаў незвычайную ідэю — кунсткамеру.

Вядома, што яшчэ студэнтам у Страсбургу Сіротка замовіў мясцоваму мастаку свой партрэт, а таксама партрэт «караля з залатым ланцугом». А ўжо дарослым вылучыў у Нясвіжскім замку тры спецыяльныя залы, у якіх дэманстраваліся адпаведна 28, 94 і 150 твораў жывапісу. Вядома таксама, што адзінаццаць партрэтаў для ўпрыгожвання замка Сіротка замовіў у віленскага партрэтыста Яна Мачульскага. Тады ж для найкаштоўнейшых прадметаў у замку было адведзена спецыяльнае памяшканне. Скарбніца ўмоўна падзялялася да дзве часткі: прадметы мастацтва, якія былі прыдбаны Радзівіламі, падораны ім або перайшлі ў спадчыну, і прадметы, якія маюць дачыненне да так званай натуральнай гісторыі, то бок кунсткамера. Пачатак гэтаму экзатычнаму збіральніцтву і паклаў Сіротка, які доўгі час вандраваў па Італіі, Германіі, Кіпры, Грэцыі і іншых мясцінах. Са свайго знакамітага, пазней падрабязна апісанага ў асобнай кнізе пра паломніцтва да Гроба Гасподняга ў Іерусалім праз Палесціну і Егіпет нясвіжскі князь прывёз экзатычных жывёл, частку якіх потым пасяліў у пабудаваным пад Нясвіжам звярынцы, чучалы дзікіх звяроў, рыб, егіпецкія старажытнасці і нават некалькі мумій, дзіўныя прыборы для астранамічных назіранняў, археалагічныя знаходкі старадаўніх гарадоў, зубы слана і біўні маманта. Пазней менавіта ў Нясвіжы князь захапіўся калекцыяніраваннем воскавых фігур, і гэта дазваляе лічыць Нясвіж адным з першых, калі не першым еўрапейскім паноптыкумам. У кунсткамеры знаходзіліся таксама маскі, зброя і адзенне афрыканскіх плямён, цудоўная калекцыя мінералаў, рэдкія машыны і механізмы, у тым ліку і складаныя гадзіннікі — іншымі словамі, усё тое, што магло выклікаць здзіўленне ў рэдкага наведвальніка гэтага збору, паколькі Радзівілы адчынялі дзверы ў сваю скарбніцу далёка не ўсім, а толькі самым значным і знакамітым асобам.

Гаворачы пра радзівілаўскія скарбы часоў Сіроткі, нельга не зачапіць арсенал — тое, чым заўсёды славілася нясвіжская цытадэль. У розныя часы тут знаходзілася да сотні гармат, сотні стрэльбаў, янычарак і аркебузаў, мушкетаў, халодная зброя — самая розная, пачынаючы з двуручных крыжацкіх мячоў, што з аднаго маху маглі рассекчы чалавека напалам, да крывых турэцкіх кінжалаў — анджараў. Былі тут і поўныя камплекты рыцарскіх даспехаў, нярэдка ўпрыгожаныя залатым і срэбным траўленнем, і конскія даспехі. Многія з гэтых рэчаў, створаныя для вайны, з'яўляюцца сапраўднымі творамі мастацтва. Праз стагоддзі яны страцілі сваё першапачатковае прызначэнне, і з'яўляюцца цяпер упрыгожваннямі, але пры жыцці князя Сіроткі яны былі бязлітаснымі сродкамі разбурэння і смерці. Вядома, што ў пачатку XVI стагоддзя ён заснаваў паблізу Нясвіжа так званую людвісарню — майстэрню, дзе адлівалі зброю featнага калібра. Для гэтай мэты ў Нясвіж быў запрошаны ці то нямецкі, ці то галандскі майстар Герман Мольцар або Мольцфельд. Кожная адзінка зброі, адзначаная яго кляймом, была шэдэўрам ліцейнага майстэрства. Кожная яго гар-



*Рыцарская зала замка ў Падгорцах. XIX стагоддзе.*

мата насіла імя і мела адпаведны выгляд: у «Гідры» ствол быў аплецены пяцігаловай пачварай, «Чаша дастатку» нагадвала вінаградную лазу, былі таксама «Цэрбер», «Цырцэя», «Мелюзіна», «Папугай», «Святы Іаан», «Святы Марк», «Святы Лука» і іншыя. Амаль на кожнай гармаце разам з назвай меўся дэвіз: «Хімера: знішчаю вогненнай пасткай разверстай Хімеры», або «Мелюзіна: перуны выклікаю і бітвы славаю вянчаю», або «Цырцэя: нездарма раву, каго крану — знішчу». У XVIII стагоддзі гэтымі прыгожымі пушкамі салютавалі ў гонар вяльможных гасцей і родавых свят, перамог і ўрачыстасцей. Нават у канцы XIX стагоддзя рэшткі ваеннай моцы, ужо закінутыя, зваленыя гарой і пабраныя брудам у адным з падзямелляў Нясвіжскага замка, яшчэ былі здольны здзіўляць адмысловасцю. Цяпер часткі гэтай калекцыі захоўваюцца ў музеях Расіі, Польшчы, Швецыі, але большасць, на жаль, страчана, расплаўлена або затоплена.

І ўсё ж менавіта дзякуючы Сіротку мы можам цяпер ацаніць працу старых ліцейшчыкаў. Бо акрамя сваёй ліцейнай майстэрні князь карыстаўся паслугамі іншых. Таму на пакарабачаных часам ствалах можна бачыць гербы Быхава, Слуцка, Львова, а таксама італьянскіх майстроў. Шмат зброі дастаўлялася з іншых радзівілаўскіх замкаў, напрыклад, Слуцка і Біржаў.

З Мікалаем Радзівілам Чорным нашчадак разышоўся толькі ў адным — у веравызнанні. Хрышчаны бацькам-кальвіністам, Сіротка адрокся ад бацькоўскай веры і перайшоў у каталіцтва, з-за чаго пазней амаль цалкам былі знішчаны пратэстанцкія рэлігійныя кнігі нясвіжскай бібліятэкі. Сыны Радзівіла Сіроткі былі прыхільнікамі бацькоўскіх памкненняў: нехта захапіўся палітыкай, нехта ўзначаліў першую на нашай зямлі камандорыю Мальтыйскага Ордэна, а багацці тым часам працягвалі асядаць у сценах Нясвіжскага замка.

Значнае папаўненне атрымала карцінная замкавая галерэя ў часы Альбрэхта Уладзіслава Радзівіла, які сабраў пры сваім двары вялікі штат мастакоў. Інвентары замкавай галерэі 1657-га і 1671-га гадоў утрымліваюць звесткі пра палотны найбуйнейшага жывапісца эпохі Адраджэння Лукаса Кранаха, сярод выяў вялікіх людзей — партрэты Івана Жахлівага, цвярскога князя Міхаіла, князя Вітаўта Вялікага і іншыя. У часы Альбрэхта Станіслава і яго брата Аляксандра Людвіка — наступнага нясвіжскага ардыната — замак атрымаў новыя ўмацаванні і быў дабудаваны карпусамі з галерэяй, якая злучыла браму з будынкамі камяніцы і арсенала. Старыя фартыфікацыі былі адноўлены, а частка іх змянілася новымі. Магчыма, гэта і выратавала нясвіжскую цвярдыню ад захопу і рабавання ў крывавыя часы «патопа» — непарыўнага шэрага войнаў сярэдзіны XVII стагоддзя з маскоўскай дзяржавай, атрадамі Хмяльніцкага, Швецыяй, туркамі.

Страшэнны час войнаў, у якіх загінула палова насельніцтва ВКЛ, і наступныя неўраджаі, голад, эпідэміі вымусілі Радзівілаў пайсці на сур'ёзныя растраты для ўзнаўлення сваіх уладанняў і наладжвання гаспадаркі. Хоць Нясвіжскі замак і не быў захоплены ворагамі, ён усё ж значна ад іх пацярпеў: згарэлі амаль усе дахі, быў разбіты дэкор мармуровай залы і капліцы, разбуранымі аказаліся вежы і апартаменты трэцяга паверха аднаго з карпусоў. Ад маскоўскай арміі Хаванскага пацярпелі і сам горад, і прылеглыя тэрыторыі. Палі засталіся без гаспадароў, былыя маёнткі апусцелі, амаль усе радзівілаўскія рэзідэнцыі былі разбураны.

Адно толькі каштоўнае прыдбалі Радзівілы за тыя гады ліхалецця — родавы абраз Маці Божай.

Здарылася гэта перад бітвай войскаў Яна III Сабескага з туркамі пад Венай у 1683 годзе. Вынік бітвы быў яшчэ невядомы, а тым часам кракаўскі кашталян Станіслаў Ябланоўскі знайшоў непадалёк ад гарадской брамы скрутак, утаптаны конскімі капытамі ў гразь. Разгарнуўшы яго, воін здзівіўся: перад ім паўстаў лік Маці Божай і надпіс на лаціне на адным баку яго сцвярджаў: «Пераможаш, Ян», а на другім баку: «Будзеш пераможцам, Ян». Надпісы тыя і напраўду прадраклі перамогу, а кароль, калі даведаўся пра цудоўную знаходку, залічыў абраз у асабістую скарбніцу, а праз шмат гадоў падарыў родзічам, Радзівілам, і тыя захоўвалі яго на працягу стагоддзяў у замкавай капліцы. Захоўвалі і верылі: цудадзейны абраз абараняе ад няшчасцяў увесь іх род. Гэты абраз і сёння знаходзіцца ў нашчадкаў слаўных Радзівілаў, і, як стагоддзі таму, ахоўвае прадстаўнікоў роду.

*Працяг будзе*

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## СТАЎБЦОЎСКІ РАЁН

**Маляўкі Міколы** (н. 13.12.1941), паэта, перакладчыка, радзіма. Скончыў БДУ (1965). Працаваў на лесанарыхтоўках у Карэліі, у рэдакцыі нясвіжскай раённай газеты, на Беларускім радыё і тэлебачанні, настаўнічаў. З 1980 г. — у часопісе «Вясёлка». Друкуецца з 1957 г. Аўтар зборнікаў «Едуць маразы» (1966), «Жалеза» (1970), «Лотаць» (1973), «Круг» (1977), «Эстакада» (1982), «Дар» (1985), «Аднавяскоўцы» (1988), «Зімні дождж» (1991); «Ручнічок на крыжы» (1995); дакументальнай аповесці «Ой, бярозы ды сосны...» (2007); кніг для дзяцей «Дзед і ўнучка» (1983), «Салодкі лядзяш» (1986), «Як дом будавалі» (1987), «Вясёлая азбука» (1992, з К. Камейшам), «Дзе жывуць казкі» (1994), «Запрашаем на каляд-кі» (1998), «Старая зямля» (2008), «Коласаў абярэг: гісторыя ў асобах» (2011) і інш. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова, спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2002). Узнагароджаны медалём Францыска Скарыны (2007).

**Сянкевіча Алеся** (20.1.1884—11.11.1939), дзяржаўнага і партыйнага дзеяча, радзіма. Прататып Сташынскага ў рамане А. Фадзеева «Разгром», Садовіча ў рамане Я. Коласа «На ростанях», Баса-Грэнкі ў п’есе Я. Коласа «Забастоўшчыкі». Яго імем названа вуліца ў вёсцы.

**Вёска Налібакі,** цэнтр сельсавета

**Фарботкі Юзіка** (Язэп Фарботка; 23.8(4.9).1893—1945), паэта, літаратуразнаўца, перакладчыка, актыўнага ўдзельніка грамадска-культурнага руху Беларусі пачатку ХХ ст., радзіма. Вучыўся ў Кіеўскім універсітэце. У 1916 г. актыўна ўключыўся ў работу мінскага культурна-патрыятычнага згуртавання «Беларуская хатка». У 1920 г. працаваў адміністрата-рам Беларускага тэатра ў Мінску. У міжваенныя гады жыў у Польшчы, займаўся навуковай дзейнасцю. Месца і дакладная дата смерці не ўстаноўлены. Аўтар песні «Доўга мы спалі». У кнізе «Беларусы ў песнях. Літаратурна-гістарычны нарыс», якая выйшла ў 1920 г., падаў гісторыю беларускай паэзіі XIX — пач. XX ст. У яго гонар у вёсцы пастаўлены мемарыяль-ны знак-камень.

**Вёска Новы Свержань,** цэнтр сельсавета

У будынку Навасвержанскай сярэдняй школы працуе музей ***«Панямонь літара-турная»***.

**Базыльянскі кляштар**

---

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7, 9—12 за 2010 г., № 1—11 за 2011 г., № 3, 4, 5, 6, 7, 8, 10, 11 за 2012 г.

Існаваў у 1743—1833 гг. Пры ім была бібліятэка, а таксама працавала семінарыя.

У ліпені 1912 г. сюды хадзілі са Смольні **Якуб Колас і Янка Купала**. У сакавіку 1940 г. Якуб Колас сустракаўся тут з выбаршчыкамі.

**Пысін Аляксей**, (22.3.1920—27.8.1981), паэт, ураджэнец в. *Высокі Борак* Краснапольскага р-на Магілёўскай вобласці, на пачатку 50-х гадоў працаваў рэдактарам газеты палітычнага аддзела МТС «Уперад да камунізму». У гэты час выйшаў з друку яго зборнік вершаў «Наш дзень».

**Пяткевіча Аляксея** (н. 30.3.1931), крытыка, літаратуразнаўца, краязнаўца, радзіма. Нарадзіўся ў сям'і рабочага. У 1954 г. скончыў БДУ, у 1957 г. — аспірантуру пры ім. З 1957-га працуе ў Гродзенскім універсітэце. Кандыдат філалагічных навук (1963), прафесар (1994). У друку выступае ў галіне крытыкі і літаратуразнаўства з 1958 г. Суаўтар «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (т. 2, 1969), «Гісторыі беларускай літаратуры, XIX — пачатку XX ст.» (1968). Культуры Гродзеншчыны прысвечаны кнігі «Літаратурная Гродзеншчына: Мясціны. Людзі. Кнігі» (1996), «Людзі культуры з Гродзеншчыны» (2000), «Старонкі спадчыны. Культурнае памежжа Гродзеншчыны: Працэсы. З'явы. Асобы» (2006).

Мястэчка апісана ў **Сыракомлі Уладзіслава** (сапр. Кандратовіч Людвік)**,** пісьменніка, ураджэнца в. *Смольгава* Любанскага р-на, у кнізе «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах», **Шпілеўскага Паўла,** этнографа, пісьменніка, публіцыста, перакладчыка, ураджэнца в. *Шыпілавічы* Любанскага р-на Мінскай вобласці, у яго «Падарожжы па Палессю і беларускаму краю».

Новы Свержань названы Панямоннем у трылогіі Якуба Коласа «На ростанях».

**Вёска Падлессе** Варацішчанскага сельсавета

Вёска знаходзіцца на памежжы Стаўбцоўскага, Нясвіжскага і Карэліцкага раёнаў. Адсюль родам маці **Жылкі Уладзіміра,** паэта, ураджэнца в. *Макашы* Нясвіжскага р-на Мінскай вобласці, — Таццяна Раманейка. Жылка часта бываў тут у дзяцінстве ў свайго дзеда Ануфрыя Раманейкі. Дзед пражыў 112 гадоў, адыграў значную ролю ў выхаванні паэта. Уладзімір пазней прысвяціў яму адзін з першых вершаў («Дзед»). Прыязджаў сюды, калі вучыўся ў Міры. Сюды прыехаў у 1920 г., калі захварэў на сухоты. Тут паэт перажыў сваё першае каханне да вясковай дзяўчыны Ганны Яцэвіч. Ёй прысвяціў верш «Скажы» і санет «Каханне».

**Вёска Ператокі** Навасвержанскага сельсавета

**Мазура Ігната** (1890—1958), дзяржаўнага дзеяча, навукоўца, педагога, аўтара (у суаўтарстве з настаўнікамі Калінічэнка Мартай і Шапялевічам Канстанцінам) хрэстаматый для беларускіх школ «Чырвоная змена» і «Чырвоная Беларусь», якія ў канцы 20-х — пач. 30-х гадоў мінулага стагоддзя былі асноўнымі падручнікамі па роднай мове і літаратуры.

**Вёска Рочавічы** Літоўскага сельсавета

У Рочавіцкай сярэдняй школе працуе музей ***«Пушкін і Беларусь»***.

**Вёска Рубяжэвічы,** цэнтр сельсавета

Каля вёскі, у фальварку Няшота жыла бабуля **Янкі Купалы** — Кацярына, нарадзілася яго маці Бянігна.

**Зязюля Андрэй** (сапр. Астрамовіч Аляксандр), паэт, ураджэнец в. *Навасяды* Ашмянскага р-на Гродзенскай вобласці, служыў ксяндзом у мясцовым рубяжэвіцкім Іосіфаўскім касцёле ў 1911 г. Вёў службу па-беларуску.

Вёсцы прысвяціў верш «Рубяжэвічы, Рубяжы...» **Рубін Іван** (Гл.: «Маладосць». — 1983. — № 4).

**Вёска Савані** Варацішчанскага сельсавета

**Камароўскага Яўгена** (н. 26.8.1930), мовазнаўца, радзіма. Скончыў БДУ (1954). З 1957 г. у БелТА, з 1962 г. — у БДУ. Аўтар прац «Беларускі правапіс» (1965), «Беларуская мова. Арфаграфія» (1972), адзін з аўтараў (з Е. Мяцельскай) «Слоўніка беларускай народнай фразеалогіі» (1972), вучэбных дапаможнікаў «Беларуская дыялекталогія. Хрэстаматыя» (1979), «Беларуская мова» (2-е выд., 1993) і інш.

**Хутар Смалярня,** або Цёмныя Ляды. Не існуе. Цяпер непадалёк ад гэтага месца прыпынак на чыгунцы Мінск—Брэст «Цёмныя Ляды».

Тут у 1903—1907 гг. служыў лесніком старэйшы брат Якуба Коласа Уладзімір. Пры ім жыла маці. У час канікулаў у Смалярню прыязджаў і сам пісьменнік. Зімою 1906—1907 гг. ён жыў у Смалярні на паўлегальным становішчы, адкрыў нелегальную школу, якую наведвалі 12 вучняў. Тут ён пачынае складаць «Другое чытанне для дзяцей беларусаў». Адсюль у канцы 1906 г. ездзіў у Вільню, знаёміўся з супрацоўнікамі «Нашай нівы». У 1907 г. Уладзіміра выгналі, і ён перабраўся ў Мікалаеўшчыну.

У трылогіі «На ростанях» Якуб Колас дае апісанне Стаўпецкай каморы і смалярні ў Цёмных Лядах: «За доўгі час будынкі пачарнелі, пастарэлі, пакрываліся. Дый што гэта былі за будынкі! Нізкая падслепаватая хата з закуранымі вокнамі і збуцвелым ганкам пазірала ў бок чыгункі».

Па датах нумароў «Нашай нівы» можна меркаваць, што шматлікія коласавы публікацыі прыпадаюць на той час, калі ён жыў на стаўпецкай лясной каморы ў Цёмных Лядах.

**Хутар Смольня,** да 1978 г. у Пекалінскім сельсавеце

Сядзіба ў складзе філіяла Літаратурнага музея Якуба Коласа. Адчынена 8 чэрвеня 1967 г. На доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка. На тэрыторыі сядзібы хата, гаспадарчыя пабудовы, калодзеж, ліпы. Экспазіцыя складаецца з літаратурнай і мемарыяльнай частак. У літаратурнай частцы, якая размешчана ў 2-павярховым будынку і адноўлена ў 1982 г. — архіўныя дакументы, фотаздымкі, аўтабіяграфічныя матэрыялы, аўтограф твораў Коласа, асабістыя рэчы і мэбля паэта пасляваеннага часу. У мемарыяльнай частцы (адкрыта для наведвальнікаў 2.11.1972 г. у хаце) матэрыялы пра сустрэчу Я. Коласа і Я. Купалы, фотаздымкі, прадметы побыту сям'і Міцкевічаў.

З 1910 г. тут жыла сям'я Міцкевічаў. Хата, купленая ў Яршах, пастаўлена ў тым жа годзе намаганнямі дзядзькі Антося. Тут ён і памёр. Пазней зрабілі прыбудову, прывезлі з Мікалаеўшчыны ацалелае гумно. Колас прыехаў сюды ўпершыню ў верасні 1911 г. Пасадзіў 5 ліп. Потым, у 1911—1914 г. бываў наездамі. Наведаўшы хутар 2 чэрвеня 1947 г., Я. Колас запісаў у сваім дзённіку: «Мае дрэвы павырасталі. Проста не верыцца, што я саджаў іх 36 гадоў назад...»

У Смольні 26 ліпеня 1912 г. адбылася першая сустрэча Коласа з Купалам.

**Галіна Антось** (сапр. Міцкевіч Міхаіл), пісьменнік, публіцыст, педагог, перакладчык, ураджэнец в. *Мікалаеўшчына* Стаўбцоўскага р-на Мінскай вобласці, жыў тут да 1944 г.

**Вёска Стары Свержань,** Навасвержанскага сельсавета

**Мазура Алеся** (н. 21.8.1940), паэта, радзіма. Закончыў аддзяленне журналістыкі БДУ. Працаваў у Талачынскай раённай газеце. Аўтар паэтычных зборнікаў «Перасветы» (1979), «Святліца» (2006).

**Гісторыка-краязнаўчы музей**

Створаны ў старой хаце па ініцыятыве настаўніка гісторыі Івана Шавеля.

**Вёска Тулёнка** Аталезскага сельсавета

Бацька паэта **Сыракомлі Уладзіслава** (сапр. Кандратовіч Людвік), ураджэнца в. *Смольгава* Любанскага р-на, арандаваў тут зямлю.

**Вёска Цяшота,** не існуе, сельсавет невядомы

Радзіма маці **Янкі Купалы**.

**Вёска Ячонка** Засульскага сельсавета

**Рубіна Івана** (29.1.1954—28.6.1993), паэта, радзіма. Па іншых звестках нарадзіўся на хутары Раздоры гэтага ж р-на. Скончыў БДУ (1976). Працаваў на радыё, у выдавецтве «Юнацтва», рэдакцыях газет, настаўнічаў. Друкаваўся з 1971 г. Аўтар зборнікаў вершаў і паэм «Над вечнасцю гнязда» (1984), «Вянок надзеі» (1990), «Набытак» (1992).

**Вёска Янкавічы** Хатаўскага сельсавета

**Далідовіча Генрыха** (н. 1.6.1946), празаіка, радзіма. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Маці працавала паляводам у мясцовым саўгасе, бацька адзін з арганізатараў мясцовага калгаса. У 1963 г. скончыў Дзераўнянскую СШ і паступіў у БДУ, які скончыў у 1968 г. У 1968—1973 гг. працаваў у Шабынькаўскай васьмігадовай школе Барысаўскага р-на. У 1969—1970 гг. служыў у Савецкай Арміі. З 1973 г. працаваў у рэдакцыі часопіса «Полымя», з 1979 — намеснік галоўнага рэдактара, з 1991 г. — галоўны рэдактар часопіса «Маладосць». Друкуецца з 1966 г. Аўтар кніг «Дажджы над вёскай» (1974), «Цяпло не першацвет» (1976), «Маладыя гады» (1979), «Міланькі» (1980), «На новы парог» (1983), «Станаўленне» (1985), «Гаспадар-камень» (1986), «Міг маладосці» (1987), «Пабуджаныя» (1988), «Заходнікі» (1998), «Кліч роднага звона» (2000).

*Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС*

# Бярозка

№ 12/2012(1015)













**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**



# Мокры снег

Цёмны вечаровы парк, што прадзімаецца наскрозь халодным восеньскім ветрам. Кінуты ў твар рыжы, мокры, з цёмнымі пражылкамі кляновы ліст.

Рына змахнула з твару «далоньку» дрэва, прасякнутую пахам кіслай вады ды гнілля. Апусцілася на старую кульгавую лаўку, якая стаіць ужо невядома колькі гадоў пад шатамі дуба — адзінага яшчэ цалкам апранутага ў гэтым парку дрэва. Дуб, быццам суцяшаючы, загудзеў галінкамі, абдаў дробнымі калючымі кропелькамі дажджу — і пакінуў цёмныя плямкі на паліто.

Лаўка мокрая. Рына села толькі на самы краёчак, не абапіраючыся на выгнутую надвор'ем і гадамі спінку, якая напалову згніла. Яна часта сядзіць на спінках лавак, але сядзець на такой немагчыма. Адна ў парку, сам-насам з уласнымі невясёлымі думкамі... Ну, і ветрам, вядома. Вакол тыповы кастрычнік: змрочнае самотнае змяркание. Ужо каля дзевяці — і Рына адчувае гэта, нават не гледзячы на гадзіннік. Але дадому не хочацца. Прасцей сядзець тут, у восеньскім парку, і слухаць спевы ветру ў дрэвах: то ціхія, то гучныя. Перарывістыя і гаротныя — так вецер развітваецца з лісцем.

Лаўка размалявана. Не, не мацюкамі і нават не футбольнымі формуламі, якія звычайна прыгожа вісяць на самых прыкметных месцах сцен, напісаныя балончыкамі. Тут нешта цікавейшае: чырвоная гелевая асадка лаецца з тоўстым чорным маркерам, лаецца доўга: спісаны тры дошкі сядзення лаўкі, адзіныя дошкі, якія не праламаны. Цёмна і дрэнна відаць, але не настолькі, каб не адрозніць напісанае: роўны востры почырк чырвонай асадкі і крывыя завітушкі маркера. Рына адразу зазірае ў канец: пачатак перапіскі ёй ужо добра вядомы, няма сэнсу яго паўтараць.

«Навошта?» — чорным маркерам. Пытальнік трохі нагадвае клічнік, хіба што сагнуты, а ў «а» няма загагуліны.

«Так было трэба», — тут чырвоны саступае сваёй роўнасці і таксама змазваецца крывымі літарамі, прыпадобнены чорнаму.

«І ў чым быў сэнс?» — чорны ўжо раўнейшы і не змыты. Пісалася ў сухое надвор'е.

Дзяўчына ўздыхае, павольна разглядваючы апошнія літары, і дастае з кішэні асадку. Не чырвоную гелевую — яна згубілася — а звычайную шарыкавую, сінюю. На мокрай лаўцы яна не піша, і Рына проста выціскае на мяккай драўніне літары стрыжнем: «А сэнсу няма. Проста я...» — і тут дошка канчаецца. Можна паспрабаваць пісаць на наступнай, і дзяўчына нават падносіць асадку да дошкі, збіраючыся напісаць, напэўна, самае важнае, але замірае. Усё і так зразумела.

Яна ўстала, не зважаючы на тое, што пайшоў дождж. Валасы прыліплі да шчок, рудыя пасмачкі лезуць у вочы і рот. Няёмка. Рына трасе галавой, пры-



біраючы іх, і ідзе прэч з парку, не аглядаецца. У гэтым жыцці з яе хопіць!

Дрэвы гудуць яшчэ гучней, і з-за дажджу, напэўна, спалохана. Галіны загароджваюць выхад, але дзяўчына рассоўвае іх, упэўнена ідучы наперад, у процілеглы бок ад дома.

Хутчэй, яшчэ хутчэй! Пераходзіць на бег, імкнецца не паслізнуцца ў змоклых красоўках, ледзь не падае, але не збаўляе хуткасці. Спачатку наперадзе цёмна, але потым — святло: самотны ліхтар на шашы. Рына яго ведае — да яго і бяжыць. Хаваецца ад калючага дажджу, заплюшчвае вочы: тут дарога ўжо чыстая, не ўпасці, не ўрэзацца. Выляцела на цвёрды асфальт. Замест мяккай зямлі — асфальт! Адчувае яго з зачараваннем. Замерла, павольна прысела. Сядзіць і перарывіста дыхае пасля доўгага бегу, нічога не разумеючы. Усё ж так проста: святло, удар і цемра. Чаму, чаму няма машын?.. Але адкуль узяцца ім на цёмнай дарозе ўскраіны горада, у лівень, ды яшчэ ў пятніцу? Дыханне ўжо спакайнейшае, сэрца не так трасецца. Прыйшло разуменне таго, што яна хацела зрабіць. І жах. Рына хутка адпаўзае далей, назад да ліхтара ля дарогі, міма якога яна пранеслася. Усё яшчэ дрыжучы, падыходзіць да старога бетоннага слупа і садзіцца побач, не разумеючы, што на яе найшло. Свядомасць вяртаецца павольна, штуршкамі.

Яна разгублена абдымае слуп, нібы шукае ў яго абароны, і сядзіць так доўга-доўга.

А лівень тым часам спыніўся: спачатку стаў цішэйшым, а потым і зусім перастаў, пераўтварыўся нечакана ў ранні мокры снег. Вялікія, белыя, пухнатыя хлапякі лёталі вакол. Рына азірнулася, падняла галаву, разглядаючы чорнае неба і сняжынкі ў святле ліхтара. Сняжынкі ляцелі: кожная сама па сабе, спакойныя, упэўненыя. Секунд праз трыццаць апусцяцца на зямлю і згінуць. Але ім няма розніцы: яны жывуць дзеля гэтага палёту. Нават зусім нядоўгага.

Рына ўстала на няцвёрдых нагах, з упэўненасцю, якая ўсё нарастала. Яна не ведае, колькі ёй ляцець — дні, гады ці стагоддзі. Але ляцець трэба. І не важна, як доўга!

***Кацярына ЖОРАВА, 16 гадоў, Ліцэй БДУ***

● **Пункт погляду**

# Хада па мяжы



Мне здаецца, што менавіта хада па мяжы робіць чалавека чалавекам. Ці здольны ўтрымацца на гэтым канаце жыцця, дзе балансаваць дапамагае нейкая рыса дазволенасці? Ідзеш па хісткай мяжы, яшчэ і іншым паказваеш клас, ды ўсё адно ўпасці можаш — і толькі ўніз. Ды яшчэ абавязкова ў яму!

Пралюбадзейнічаць — грэх, адна з ям. У бязладдзі хуткіх падзей страціць галаву, а разам з ёй страціць і сэнс кахання. Упасці ў яму і больш не адчуваць разумную рысу. Геній — вар'ят, фермер — скуралуп, чалавек — прымат, палюбоўніца — распусніца... Бам! — і ты перайшоў рысу. Бам! — і вярнуцца назад ужо няпроста.

Шмат каханых! Новая эра, новыя магчымасці?.. Жыць, як падабаецца?!. Шмат спрабаваць?.. Разбэшчаныя вы мае, ды ніколі ў жыцці інстынкты не стануць паказчыкам развіцця, ніколі! Не проста так у вас у галаве з'яўляецца пачуццё няправільнасці пры першай жа спробе здрады. Паверце, калі ў вас ёсць пачуццё, што нешта няправільна, даверцеся яму — гэта гены. Менавіта іх закладвалі ў нас пакаленні нашых продкаў.

Гомасэксуалізм — павеў моды і стадыя эвалюцыі?!. Не, я не злосны змагар з «блакітнымі» і «ружовымі». Але... Самі падумайце: хлопчык + хлопчык альбо дзяўчынка + дзяўчынка = няма дзяцей, няма далейшага роду, няма эвалюцыі. Гэта тупік развіцця.

Вы проста дэградуеце, пераходзіце праз рысу дазволенасці. Падаеце ў яму — а ў яме вас усё больш і больш. Хутка яма перапоўніцца. І прыйдзецца вас закапаць...

*Лёха DRUNK, малюнак аўтара*

# Рамантычны падман прафесій

***У старэйшых класах натхнёна марым: «Галоўнае — паступіць! І ўсё вырашыцца...» Страшна не трапіць ва ўніверсітэт альбо каледж, застацца без даху навучальнай установы. Як быццам бы няўдачнікам стаць!***

***Часам, прагнучы аднаго — паспяховага паступлення, можна згубіцца ў марах. Нафантазіраваць, дрэнна ўяўляць будучую працу на самай справе. І пасля сканчэння ўніверсітэта ўжо і не ведаць, што рабіць з той кашай, якую так імпэтна зварыць хацеў.***

***У грамадстве ёсць цэлы шэраг рамантычных прафесій — філолагі, філосафы, фізікі, мастацтвазнаўцы... Як правіла, вучыцца там бывае цікава, але ж па спецыяльнасці ў дарослым жыцці працуе меншасць. Атрымліваецца, для сябе вучыўся. Для кагосьці — прымальна, для кагосьці — крыўдна і непатрэбна.***

## «Ні адзін з маіх аднагрупнікаў не працуе па спецыяльнасці»



**Ганна АНДРЭЙЧУК** атрымала дыплом мастацтвазнаўцы ў 2008 годзе ў Акадэміі мастацтваў. Цяпер Ганна працуе малодшым навуковым супрацоўнікам у музеі «Дом Ваньковічаў. Культура і мастацтва І-й паловы XIX стагоддзя».

«З васьмі чалавек па спецыяльнасці працуюць толькі два. То бок я і яшчэ адна дзяўчына, якая выкладае ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце ды вучыцца ў аспірантуры. Усе астатнія людзі займаюцца бізнесам. Адзіны шлях для мастацтвазнаўца — гэта музей ці прыватныя галерэі. У мастацтве вельмі мала плоцяць. Шмат хто проста не можа зарабляць так мала грошай. Мая сяброўка, з якой разам вучыліся, вельмі таленавітая дзяўчына. Клічу яе вярнуцца ў мастацтва, але яна не хоча: зарплата маленькая.

Я з дзяцінства малявала, але не развіла свае здольнасці. У дзясятым класе вучыла мову, збіралася паступаць у Лінгвістычны ўніверсітэт. Але прыйшоў цудоўны настаўнік па сусветнай мастацкай культуры. І пасля двух урокаў я дакладна зразумела, што буду паступаць не ў Лінгвістычны, а на нешта, звязанае з мастацтвам.

Мне ў музеі цудоўна працуецца. Вядома, ёсць свае плюсы і мінусы. Але і адчуванне, што ты не зусім на сваім месцы, ёсць. Канечне, грошай мала... Але ўсё роўна ты як быццам бы на сябе працуеш, бо навуковая праца — гэта праца ўсё ж на сябе».



Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт, што знаходзіцца цяпер у Вільні, **Каця КУЗІНА** скончыла ў 2009 годзе. Атрымала забаўную спецыяльнасць «Тэорыя і практыка сучаснага мастацтва». Цяпер жа працуе ў дзіцячым выдавецтве рэдактарам-складальнікам, што, па шчырасці, зусім не праца па набытай прафесіі.

«Здаецца, што ні адзін з маіх аднагрупнікаў не працуе па спецыяльнасці. Толькі адна дзяўчына артыкулы часам піша на фатаграфічныя тэмы. Нехта выйшаў замуж за мяжу, нехта ўзгадаў сваю першую адукацыю — для многіх маіх аднагрупнікаў ЕГУ быў другой навучальнай установай. Нехта менеджарам працуе, а адна дзяўчына на рэжысуру ў Польшчу паступіла.

Калі скончыла школу, у мяне быў такі рамантызм юнацкі: “Мастацтвазнаўца! Гэта ого-го! Не бухгалтар!” Мая адукацыя не зусім класічная. Нават зусім не класічная. У нас было мала гісторыі мастацтваў, затое шмат усялякага іншага — фатаграфія, анімацыя... Студэнцтва непаўторным атрымалася: чыталі розныя тэксты і кніжкі. Добрыя студэнты, добрыя і захапляльна-разумныя выкладчыкі. Старая Вільня, абшарпаныя інтэрнаты, студэнцкі эксперыментальны тэатр...

У музеі цяпер мне працаваць не хочацца. Ды і спецыяліста-мастацтвазнаўца я ў сабе не адчуваю — базы не хапае. Але я не шкадую, што не працую па спецыяльнасці».

А вось пасля гістарычнага факультэта БДУ са свету музеяў і каштоўных карцін, як ні дзіўна, большасць не з’язджае.



**Валодзя ВАЛОДЗІН** — малодшы навуковы супрацоўнік аддзела рускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь. БДУ скончыў у 2006 годзе. Гісторык. Спецыяльнасць — музеязнаўства. Спецыялізацыя — мастацтвазнаўства. Цяпер гісторыяй мастацтваў займаецца, навуковыя артыкулы піша, экскурсіі праводзіць.

Гуляем з Валодзіным па прасторных і ціхіх музейных залах. Ён, вядома, не маўчыць, а пра музейныя каштоўнасці і біяграфічныя факты мастакоў распавядае. І я разумець пачынаю, што далёка не ўва ўсіх людзей гэткі розум, як у мастацтвазнаўца Валодзі: вельмі ўчэпісты, дэталі і дробязныя, як пацеркі, факты збіраць прагны.

«Каля дзесяці чалавек з трынаццаці працуюць па спецыяльнасці. Справа ў тым, што падрыхтоўка ў БДУ вядзецца ў супрацоўніцтве з вытворчасцю. Студэнты дастаткова рана трапляюць у музеі на практыку, і заняткі праходзяць у музеях. Са сваёй будучай працай студэнты знаёмяцца дастаткова рана, я ўжо з пятага курса на палову стаўкі працаваў.

Мне падабалася хадзіць па музеях, калі я быў старшакласнікам. Прычым, не разам з класам, а самастойна, па сваёй праграме. Калі спрабавалі прымусова, то мякка адхіляўся. Паступаючы пасля школы, вельмі цьмяна ўяўляеш сваю будучую працу, таму выбар спецыяльнасці быў пальцам у неба. У нашым музеі сярод усіх музеяў заробак самы вялікі. Але і недастатковы, каб утрымліваць сям'ю. Праца ў музеі і сям'я — рэчы не сумяшчальныя. Але праца сама па сабе мне падабаецца. Яна творчая. Хтосьці можа ўдзельнічаць у тэхналагічных, фізіка-хімічных даследаваннях твора мастацтва. Хтосьці больш схільны да працы з архіўнымі дакументамі альбо літаратурнымі крыніцамі. Хтосьці і тое, і другое ўмее спалучаць. Апрача экскурсій, трэба яшчэ і з іншымі ўстановамі ды музеямі кантактаваць. Часам даводзіцца разам з нейкай выставай ехаць у камандзіроўку. Вось нядаўна давялося ў Слуцк з'ездзіць. Пазнаёміўся з гэтым горадам, з калектывам краязнаўчага музея. Бывае, што да нас нехта прыязджае, тады даводзіцца стасавацца, прымаць гасцей. Гэта цікава, бо незвычайныя людзі прыязджаюць. Таксама час ад часу займаюся ліставаннем з бібліятэкамі, музеямі, каб высветліць лёс нейкага твора ці звесткі пра якога-небудзь мастака».

## І нават у крэсле сакратара мысленчую культуру ў філосафа не адбярэш!

Філасофія — забаўная і рамантычная сфера! Толькі вось і з ёй, як з мастацтвазнаўствам: потым, калі салодкая нявызначанасць стракатага студэнцтва міне, ці будзеш здольны зарабляць грошы сваёй «любоўю да мудрасці»? Пераважная большасць сыходзіць у зусім іншыя сферы, пакідаючы свае знаёмствы з Дэкартам і Хайдэгерам проста як упрыгожанне асобы. Аднак ёсць, канечне, і нешматлікія, рэдкія людзі, што зрадняюцца з гэтай дзіўнай навукай на гады.



Вось як **Надзея ІЛЬЮШЭНКА**, напрыклад. Дзяўчына вучыцца ў аспірантуры Інстытута філасофіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, выкладае філасофію і логіку ў Мінскім вышэйшым авіяцыйным каледжы.

«Калі я паступала, то, як і ўсе, сыходзіла са сваіх схільнасцей і здольнасцей: дакладна ведала, што ў мяне гуманітарны, схільны да аналізу склад розуму. Выбар стаяў паміж сацыялогіяй і філасофіяй. І быў зроблены на карысць апошняй, бо філасофія здавалася больш грунтоўнай. Здаецца, у Арыстоцеля сказана, што той, хто ў вышэйшай ступені валодае веданнем агульнага, у некаторым сэнсе ведае ўсё. Не шкадую, што зрабіла менавіта такі выбар. Хаця, вядома, заўжды ёсць разыходжанне паміж першапачатковымі ўяўленнямі абітурыента і тым, што ўяўляе прафесія на практыцы. Філасофская адукацыя развіла мяне, дала магчымасць,

вобразна кажучы, за дрэвамі бачыць лес. А гады навучання ў БДУ на факультэце філасофіі і сацыяльных навук былі яркімі. Даводзілася, вядома, шмат чытаць, рыхтавацца да семінараў... Але студэнцтва — не толькі навучанне. Гэта яшчэ і стасункі, сябры, адкрыццё новага. Так, у філасофіі застаецца меншасць. Нехта — прыватны прадпрымальнік, нехта ўладкаваўся сакратаром, хтосьці працуе ў лагістычнай кампаніі. Сапраўды вельмі часта філасофскі факультэт — гэта проста адукацыя дзеля адукацыі. Яшчэ ў савецкія часы быў жарт, што факультэты філасофіі выпускаюць... будучых выкладчыкаў філасофіі! На жаль, сёння гэты жарт таксама шмат у чым актуальны. Але ў філасофскай адукацыі ёсць свае плюсы. Філасофія вучыць думаць, аналізаваць, арыентавацца ў прасторы ідэй. У цэлым, гэта пэўная мысленчая культура. І нават калі ў будучыні чалавек выбірае працу ў іншай сферы, гэтую культуру ўжо не адменіш. Філасофская адукацыя дае добрую тэарэтычную базу, у чым, уласна кажучы, і мусіць заключацца сэнс вышэйшай адукацыі. Для мяне філасофія — гэта спосаб самавызначэння ў той прасторы культуры, у якой я існую».



**Вераніка КРАСОЎСКАЯ**, скончыўшы факультэт філасофіі ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце, працуе зусім не па спецыяльнасці — натуршчыцай у Акадэміі мастацтваў. Праўда, філосафам усё ж засталася: вядзе няспешны лад жыцця і любіць разважаць на вечныя тэмы.

«Чаму менавіта філасофія? Былі рознага кшталту прычыны, матывы, інтуітыўныя імпульсы, якія я ўсведамляла і не ўсведамляла. Памятаю, было імкненне наблізіцца да нейкай ісціннай сутнасці рэчаў, сапраўднасці быцця. Несумненна, прысутнічаў і момант славалюбства, імкненне да самасцвярджэння: філасофія — гэта ўсё ж годна! Вучоба на філасофскім факультэце пашырыла мой кругагляд, дала прафесійныя навыкі аналізу і працы з тэкстам, навучыла абстрактна думаць, працаваць з інфармацыяй. А таксама на пару-тройку гадоў адбіла ўсялякае жаданне ўсім гэтым займацца!

Не, я не шкадую, што навучалася філасофіі. Дзе ж яшчэ можна так прагматычна і інтэлектуальна забіваць час? Па спецыяльнасці цяпер не працую, бо змяніліся інтарэсы і светапогляд. У цэлым не адчуваю сябе гатовай да ролі філосафа ў соцыуме, не хачу быць пасярэдніцай у перадачы філасофскіх ведаў — не дарасла ні псіхалагічна, ні прафесійна».

Няхай жа ў кожнага школьніка будзе больш рэальнага ведання, чым уяўленняў-фантазій! А зрэшты... адукацыя дзеля адукацыі — чаму б і не? Толькі ты сам ведаеш, як правільна.

***Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ***

# Ілюзіі



Што такое ілюзія? Гэта ўменне бачыць навакольны свет не так, як іншыя. Нечаканы сполах святла, маленькія крокі, якія чалавек робіць у сваёй падсвядомасці, размова душы з целам...

Вось карціна «Чорны квадрат» Казіміра Малевіча. Для кожнага яна мае свой сэнс. Дзіця знойдзе тут фрагмент забаўнай гульні — нешта падобнае да даміно, толькі без маленькіх кропачак-лічбаў. Архітэктар будзе глядзець сваімі вачыма: замкнёная прастора, падобная да зачыненых дзвераэй... Для ілюзіяністаў жа чорны квадрат — шлях да чагосьці нязведанага раней. Нібы дзверы ў будучыню. Думкі людзей розных прафесій не будуць супадаць. У кожнага — сваё бачанне.

Задума мастака вядома толькі яму. І разгадаць сэнс таго, што ён хоча перадаць, складана. Дакладна зразумець усё можа толькі чалавек, які мае такое ж бачанне навакольнага свету, як і мастак-ілюзіяніст.



З ілюзіямі мы сутыкаемся не толькі ў мастацтве. Ці звярталі вы ўвагу? Калі знаходзішся ў метро, то адчуванне, быццам па рэйках ідзеш. Пад нагамі — белыя квадрацікі, адцененыя чорнымі палосамі. Вось вам і рэйкі! Задума аўтара? Ці проста падман зроку? Не, ілюзія...

*Кацярына БЯДУЛІНА*

# Ролевыя гульні



***Субкультуры, разнастайныя захапленні падлеткаў — надзвычай папулярная тэма на старонках газет і часопісаў. Пішуць пра нефармалаў, «готаў», «эма», гістарычных рэканструктараў і нават пра посткросінг. А вось на тэму свайго захаплення артыкулаў яшчэ не сустракала! Ролевыя гульні ці ролевікі — мая творчасць, маё самавыяўленне.***

## «Жыццёвыя» ролевікі

Ролевыя гульні існуюць двух відаў: проста ролевікі і ролевікі форумныя. Проста ролевікі — гэта людзі, якія ў жыцці, пад кіраўніцтвам гульнявых майстроў, максімальна дакладна ўзнаўляюць якую-небудзь сітуацыю. Галоўнае адрозненне ролевікоў ад гістарычных рэканструктараў у тым, што яны, як правіла, выбіраюць для гульні сюжэт не з гісторыі, а з фэнтэзі. Хочаце быць Хобітам, Гары Потэрам або цёмным эльфам? Ды на здароўе! Напэўна, па кожным з гэтых казачных сусветаў існуе не адна супольнасць ролевікоў.

Акцёрскае майстэрства для ролевіка далёка не адзіны важны пункт. Яшчэ касцюмы і дбайнае ўладкаванне навакольнай рэчаіснасці, усялякія прадметы з жыцця персанажа...

## «Сеціўныя» ролевікі

Але мне б хацелася больш падрабязна распавесці пра другі від.

Форумныя ролевікі — цалкам асобны свет! І знаходзяцца яны не ў рэальнасці, а на прасторах сеціва. Фантазію сваю ўвасабляюць не ў касцюмах і баях на драўляных мячах, а... пісьмова. Аматары ФРПГ (ад англ. Forum Role Playing Game) часцей за ўсё любяць чытаць, маюць цягу да графаманіі і добрую фантазію. Калі вы заўважалі за сабой усе тры якасці, дык смела далучайцеся да іх шэрагаў! Правілы такіх вось тэкставых ролевых гульняў прадугледжваюць прапісванне гульцамі ў асобным паведамленні на форуме дзеянняў, думак і выказванняў тых персанажаў, ролі якіх яны адыгрываюць. Прынцып гульні тут падобны да жыцця: апісваць вы можаце толькі дзеянні свайго персанажа,

дзеянні ж навакольных апісваюць самі навакольныя. У форумных ролевікоў таксама ёсць майстар гульні — дасведчаны чалавек, які тут, у сеціве, знаходзіцца дзеля таго, каб накіроўваць гульцоў у новыя цікавыя сітуацыі, сачыць за парадкам. Вы рэагуеце на чужыя паведамленні сваімі, нехта, адпаведна, рэагуе на вашы — гульня ідзе! Часцей за ўсё ролевыя гульні адбываюцца ў асобных тэмах форуму, дзе кожны персанаж-гулец пакідае так званыя «пасты» — кавалачкі вялікай кнігі, якую ён піша разам з астатнімі.

Сеціўныя ролевыя гульні адбываюцца не толькі на форумах, але і ў адмыслова арганізаваных супольнасцях у сацыяльных сетках. І нават на прафесійных сайтах.




## Гульні па вядомых творах і арыгінальныя гульні

Класіфікаваць ролевыя тэкстоўкі можна па-living рознаму. Напрыклад, па тыпу персанажаў і самой гульні: яны альбо канонныя, альбо арыгінальныя. Пры каноннай гульні выбіраецца часцей за ўсё сюжэт якой-небудзь кнігі, фільма, серыяла ці нават проста эпізод з жыцця існуючых у рэальнасці вядомых людзей ці «зорак». У такім выпадку гульцы выбіраюць сабе ролі з персанажаў, якія ўжо існуюць у межах сюжэта. І ім застаецца толькі пісьмова ўвайсці ў характар і максімальна дакладна адыграць свайго Фрода, Дракулу або П’ера Бязухава (сустракаюцца ролевыя гульні нават па класічных творах!).

У арыгінальных ралёўках шлях ад рэгістрацыі на форуме да гульні крыху складанейшы. Як правіла, сусвет, прызначаны для гульні, там прыдумляюць адміністратары форуму і майстры-мадэратары, іх памочнікі. І тады гэта можа быць нешта зусім нечаканае — ад перанаселенай вампірамі Францыі віктарыянскай эпохі да антыўтапічнага кібер-сусвету далёкай будучыні. А персанажы ў гэтым выпадку прыдумляюцца часцей за ўсё самімі гейм-майстрамі або гульцамі. Для таго, каб адыграць арыгінальнага персанажа, давядзецца папрацаваць, напісаўшы перад гэтым яго анкету, альбо «квенту». Звычайна ў кожнай ролевай гульні свой адмысловы шаблон анкеты, але асноўныя пункты ўсюды аднолькавыя: імя, узрост, знешнасць, характар і біяграфія (гісторыя жыцця персанажа да таго моманту, як ён уступіць у гульню). Анкету могуць адобрыць ці не адобрыць. Калі адміністратар палічыць, што апісанне вашага персанажа не адпавядае ўсталяваным правілам, прыйдзецца анкету перапісваць.

Існуюць таксама ролевыя гульні змешанага тыпу, калі ў канонны сусвет дазваляецца ўпускаць арыгінальных персанажаў, якія могуць развіваць




сваю самастойную сюжэтную лінію. Гульні такога тыпу найбольш папулярныя.

На вялікіх ролевых праектах часцей за ўсё не мае значэння досвед гульца і аб’ём пастоў, на які ён здольны. На прыватных, больш камерных ролевых «для абраных» часта могуць ўсталёўваць ліміты на граматычныя памылкі і нават на іх памер. Напрыклад, на ролевай гульні для гульцоў з багатым досведам прыстойны пост пачынаецца з аб’ёму ў трыццаць і больш радкоў. На папулярных жа ролевых форумах бываюць і арфаграфічныя памылкі, і пасты памерам у тры-пяць радкоў. Зрэшты, гэта не значыць, што пачатковец назаўсёды можа застацца «невукам». Развіваць літаратурны талент і ўменне ўжывацца ў вобраз — святая справа.

## Класіфікацыя па ўзроставым рэйтынгу

Напрыканцы таксама трэба сказаць, што ролевыя гульні падпарадкоўваюцца класіфікацыі па ўзроставым рэйтынгу, які тут узяты па аналогіі з узроставымі абмежаваннямі Амерыканскай кінаакадэміі. G (General): сюды дапускаюцца гульцы любога ўзросту. Як правіла, на такіх ролевых гульнях няма сцэн гвалту, грубых выразаў, згадак наркотыкаў і ўсяго іншага, што бацькі могуць палічыць непрымальным для свайго дзіцяці. Наступны па спісе — PG. Сюды ўваходзяць дзеці з дзевяці—дзесяці гадоў. Тут ужо могуць сустракацца гвалт і грубасці, але ўсё яшчэ забаронены рэчы, пра якія дзецям ведаць не дазволена. І, нарэшце, існуюць гульні фармата R (Restricted) і NC-17 (No Children): на такіх, як правіла, у сілу можа ўступаць адыгрыш жорсткай рэальнасці з усімі яе падрабязнасцямі.

Зацікавіліся? Дарэчы, ролевыя форумы цяпер існуюць практычна па ўсіх хоць трохі вядомых кнігах і фільмах, разнастайнасць жа арыгінальных сусветаў увогуле неверагодна ўражвае. У пошуках патрэбнай табе ролевай гульні можа дапамагчы не толькі Google, але і адмысловыя каталогі.

І не бойцеся рэалізоўваць свой літаратурны дар! Хай персанажы, якія выходзяць з-пад вашага пяра, любяць, ненавідзяць, б’юцца і мірацца! Шукайце на форумах новых сяброў, але не забывайце, што рэальнае жыццё такое ж выдатнае, як і віртуальнае.

*Кацярына ЖОРАВА, 16 гадоў, Ліцэй БДУ*

# Ёга як лад жыцця

***Чаму сёння стала модным займацца ёгай? Можа таму, што ёга не толькі праца з целам. Калі робіш ёгаўскія практыкаванні, якія называюцца «асаны», важна не захапляцца думкамі пра хатняе заданне па фізіцы, а быць уважлівым да таго, што цяпер робіш з целам. Той, хто праяўляе ўвагу да свайго цела, любіць яго!***

**Козіч Алена Іванаўна** выкладае ёгу ў мінскім цэнтры пазашкольнай працы «Золак» і ў 23 мінскай гімназіі. Выкладае і школьнікам, і дарослым. «Мае вучні — ад чатырох гадоў і да пенсійнага ўзросту. Я са сваімі сяброўкамі дома яшчэ займаюся. Паробім асаны, а потым кудысьці ідзём. У Батанічны сад, напрыклад. Альбо проста гарбаты пап'ём». Яе ёга — гэта ёга індуса Аенгара. І ад усіх іншых ёг адрозніваецца тым, што тут выкарыстоўваюцца дапаможныя сродкі для практыкаванняў: дзягі, драўляныя блокі, сцены...

Алена Іванаўна — прыгожы чалавек. І не толькі знешне, а ў цэлым. Увага да кожнага вучня, унутраная моц... Смелае і бескампраміснае служэнне свайму пакліканню — ёзе. Усё гэта выглядае як нейкая вельмі дарослая і спелая любоў. Пра свой улюбёны занятак Алена Іванаўна кажа: «У ёзе зусім няважна, наколькі дасканала ты можаш зрабіць. Галоўнае, што ты гэта робіш, і што ў цябе адбываецца ўнутры».



**— Не надакучвае? Столькі ёгі ў жыцці!**

— Не, бо гэта маё жыццё. Гэта стымул да жыцця. Ёга мне вельмі дапамагла, можна сказаць, што працягнула жыццё. Да гэтага, у юнацтве, я займалася гімнастыкай, мела поспехі, але была нейкая неарганізаваная. Увесь час форму забывалася. Забуду, потым назад вяртаюся, бягу — і прастуду падхопліваю ў выніку. Бацька сказаў: «Альбо ты не будзеш забываць, альбо я ўсё гэта



прыпыню!» У выніку я кінула займацца гімнастыкай. Але спортам усё роўна займалася — лёгкай атлетыкай. Але і яе кінула, бо ў мяне моцна выпрацоўваўся адрэналін! Нават калі я бачыла бегавыя дарожкі, не магла на іх глядзець! Бо адразу хацелася бегчы. А потым, калі ў інстытуце вучылася, пачала займацца баскетболам. Нягледзячы на тое, што я ростам невысокая, добра трапляла ў кошык. І аднойчы мяне нават узялі ў зборную інстытута. Ёсць фотаздымак, дзе стаіць высокая дзяўчына і я побач — такая маленькая. А потым стала займацца танцамі. Бальнымі. І з мужам пазнаёмілася там. І сёння разам «танчым»! У 36 гадоў у мяне моцна забалела спіна. Аказваецца, солі адкладвацца пачалі. Трэба нешта рабіць! Муж адвёў мяне на ёгу. Цяпер у маіх сяброў і сяброўак таксама адкладваюцца солі (Алене Іванаўне 63. — **Аўт.**). Няўжо канец жыцця?! А ў мяне солі зніклі, як пачала ёгай займацца. Мама адной дзяўчынкі, якая ходзіць да мяне, робіць УГД. Мне неяк УГД зрабіла і ўразілася. Кажа: «Вы трэці чалавек, у якога я бачу такі добры пазваночнік. Першая — гэта адна маладая дзяўчына, другі — малады мужчына, а трэцяя вы — пенсійнага ўзросту!»

**— Распавядзіце, калі ласка, чым ёга адрозніваецца, напрыклад, ад гімнастыкі?**

— У гімнастыцы чалавек заўжды хоча бачыць вынік. Калі ў гімнастыцы нешта не атрымліваецца, то ўсё: цябе не бяруць на спаборніцтвы... А ўнутры асадак вельмі непрыемны застаецца. У ёзе мы не звяртаем увагі на вынік. Галоўнае тое, што калі займаешся, змены адбываюцца на клетачным узроўні. Але яны не адразу заўважныя. Калі мы робім асаны — увага не рассейваецца, яна сканцэнтравана на дыханні, на тым, як працуюць цяглíцы і куды іх павярнуць. Я не хачу сказаць, што трэнажорны зал — гэта дрэнна. Але там ты можаш сесці, круціць педалі — і думкі будуць зусім у іншым накірунку. А тут ты не збягаеш у думкі, сустракаешся з самім сабой.

**— Як асаны на псіхіку ўздзейнічаюць?**

— Утвараецца спакой. Бо ўсе хваляванні, увесь клопат сыходзяць. Увага пераключаецца на іншае: як размясціць сваё цела, як дыханне выкарыстоўваць, як выцягнуцца? У выніку ўзбуджаныя ўчасткі мозга адпачываюць.

І калі пасля асанаў робіш расслабленне — шавасану, то быццам наноў нарадзіўся! Як пасля адпачынку ў Крыме. І па-іншаму ўжо жыццё ўспрымаеш.

**— А ці не цяжка дзецям канцэнтравацца на ўласным целе?**

— У дзяцей ёга крыху адрозніваецца. Яна больш у гульнявой форме, больш дынамічных практыкаванняў. Мне трэба іх хваліць, больш даверу да іх праяўляць. Ім тут усё ж даводзіцца вучыцца ўважлівасці. І потым, калі яны ў школе, то хутка пачынаюць канцэнтравацца на кантрольных. Лепш атрымліваецца вучыцца, бо ўвага не так рассейваецца. Падлеткі не павінны адчуваць сябе самотнымі ў жыцці ці разумець сваю нікчэмнасць. Не павінны думаць: «Вось у мяне не атрымліваецца, таму і не буду рабіць!» Трэба наадварот: «Я ўсё магу! У мяне ўсё атрымаецца!» Расправіць плечы, падняць рукі ўверх — насустрач сонцу, адчуць яго праменне, энергію, якая ідзе праз паднятыя рукі.

**— А як вы ўвогуле трапілі ў цэнтр пазашкольнай працы і пачалі займацца са школьнікамі?**

— Я тут да гэтага працавала. Была сацыяльным педагогам. Бачыла дзяцей, бачыла, што ў іх праблемы са спінамі. Яны вядуць сядзячы лад жыцця, працуюць з камп’ютарам. Раней дзеці і падлеткі больш гулялі, і калі дзесяць гадоў таму яны да мяне прыходзілі, то спакойна маглі дакрануцца далонямі да падлогі. А цяпер сантыметраў дзесяць-пятнаццаць не дастаюць!

**— Знакаміты «масток» (у ёзе ён называецца «чакрасана»), бярозка — сарвангасана... Распавядзіце, чым карысна ўсё гэта для здароўя?**

— «Масток» раскрывае грудную клетку — і сутуласць адступае. А бярозка паляпшае абменныя працэсы ва ўсім арганізме. Яе лічаць маці ўсіх асан. Ну, а стойка на галаве, альбо шыршасана, — гэта бацька ўсіх асан. Шыршасана ачышчае кроў, павышае колькасць гемаглабіну ў ёй. Калі рабіць шыршасану і сарвангасану, то ніякае павышэнне ціску табе не пагражае. Мне 63 гады — і я не ведаю, што такое павышаны ціск!

**Аліна Занько, 10 гадоў:**
«Тут ты больш увагі ўдзяляеш менавіта сабе. Гэтым ёга адрозніваецца ад фізкультуры ў школе. Я тут пачынаю верыць у сябе! Дома таксама раблю — зранку і ўвечары. Прачынаюся і хвілін дзесяць раблю практыкаванні перад школай. А ўвечары — гадзіну, таксама маме паказваю».

**Віялета Крук,** 7 гадоў, і **Юля Волчэк,** 7 гадоў, лаканічна паведамілі: «Так, падабаецца сюды прыходзіць!»

А вось **Алена Крук,** мама Віялеты, калі была школьніцай, таксама займалася ёгай з Аленай Козіч! «Алена Іванаўна — цудоўны кіраўнік. Мы дзякуючы ёй рэдка хварэлі ў школьныя гады».

*Кацярына* ***БЕЗМАЦЕРНЫХ****,*
*фота аўтара*

# Сон смарагдавага караля

***Абразкі***

* * *

У ліпені стала парна, таму на ноч мне даводзілася пакідаць вокны адчыненымі, і любы неасцярожны ўздых вуліцы мог перарваць мой трывожны сон.

Так і здаралася каля пяці раніцы на працягу амаль цэлага месяца, калі пад маім пад’ездам адзін мясцовы дзядок пачынаў корпацца ў смецці і ствараў пры гэтым жахлівы шум.

Ён шукаў там пярсцёнак з буйным смарагдам, які, згодна з плёткамі, адна жанчына, якая жыве ў маім пад’ездзе, выкінула ў смеццеправод пасля сур'ёзнай сваркі з мужам (відаць, гэты пярсцёнак быў падарункам ад яго). Пошукі былі марнымі, і калі адчай не знаходзіў выйсця, ён аглушальна разбіваў аб асфальт нешта шкляное, пад руку яму звычайна траплялiся зялёныя бутэлькі з-пад віна. Гук заміраў у прасторы і рэхам расцякаўся па двары, знікаючы ўжо праз некалькі хвілін, быццам круг на вадзе.



Аднойчы дворнікі злавілі і пабілі яго за тое, што ён пакідае аскепкі шкла і раскідвае смецце ля кантэйнераў. З тых часоў ён стаў старанна прыбіраць пасля сябе, запіхваючы ў кішэні зялёныя шкельцы, і толькі потым сыходзіў, са зрэзанымі рукамі.

Хутка ён пакінуў надзеі знайсці гэты пракляты пярсцёнак і прыходзіў толькі па зялёныя бутэлькі. А потым ён знік. Яго ніхто не бачыў два альбо тры дні, пакуль па неверагодным супадзенні нейкай службе не спатрэбілася агледзець сутарэнне, да якога нікому раней не было справы.

Ён сядзеў там на іржавай рабрыстай батарэі, што была вырвана аднекуль і стаяла,

быццам трон, у цэнтры пакоя. Пад столлю, нібыта зорка, зіхацела лямпачка, якая звісала на аголеным дроце, а сцены, умела выгравіраваныя бітым зялёным шклом, пераліваліся маленькімі агеньчыкамі.

Аказалася, што ён памёр. А на спакойным твары застыла ўсмешка.



* * *

Нам было каля васямнаццаці, і нашы адносіны нагадвалі мне лялечны тэатр.

Не ведаю чаму, але мне здавалася, быццам нехта ўвесь час торгаў нас за нітачкі, і мы несвядома падначальваліся, выдаючы рухі невядомай нам рукі за свае ўласныя.

Мы ўжо ведалі ўсё, што ведалі дарослыя, і калі я пасляхова ствараў вобраз мужчыны — ёй усё ж не хапала ўпэўненасці.

Мы амаль ніколі не глядзелі адно аднаму ў вочы, але ўсё ж аднойчы гэта адбылося.

Мы смяяліся доўга і гучна, а потым елі марозіва.

Я — звычайны пламбір, а яна — нейкае дзіўнае, здаецца, фруктовае.

Больш мы не бачыліся.

* * *

Мы сядзелі, абняўшыся, на старэнькай зялёнай лаўцы ў старым бязлюдным скверы.

— Ты памятаеш, як мы прыйшлі туды?

— І я не памятаю...

Але чамусьці здавалася, што мы былі там заўжды (і Мы — таксама былі заўжды).

Час пралятаў незаўважна.

Восень уплятала ў твае сівыя валасы пажоўклую лістоту, узімку снег накрываў нас сваёй коўдрай, і мы глядзелі на людзей, якія смела, але марна змагаліся са злосным ветрам.

Мне падабалася глядзець, як у мандарынавых промнях ранішняга студзеньскага сонца пералівалася агеньчыкамі твая скура, пакрытая шэранню.

А потым прыходзіла вясна, і прахалодныя красавіцкія ручайкі абмывалі нам ногі. Пасля было лета...

Часам побач з намі нехта сядаў: такія ж закаханыя, якія быццам хаваліся ад уважлівых вачэй часу за нашай з табой вечнасцю; проста людзі, самотныя

альбо не, старыя — ім усім было нешта трэба, толькі дзеці сядалі побач з намі проста так і за гэта ты іх любіла.

Божа, колькі розных людзей мы бачылі, колькі чулі гісторый, і столькі ж у нас яшчэ наперадзе!

Дарэчы, ты не памятаеш, хто гэта сказаў пра нас: «Якая прыгожая скульптура»?..

* * *

Аднойчы мы захварэлі. Мне стала не хапаць паветра ў старых кампаніях, і, у пракураным пакоі, спаўзаючы ўніз са спінкі парэпанай канапы, я хаваўся ў дыме ад вачэй старых сяброў (хаця і вачэй саміх я ўжо не адрозніваў — толькі бессэнсоўнае і бязладнае мільгаценне чыіхсьці зрэнак).

Я апускаўся ў едкі туман, глыбей і глыбей, спадзеючыся знайсці яе там, як вожык, што аднойчы заблукаў, знайшоў свайго белага каня.

Я так і не даведаўся, што было з ёй тады.

Аднойчы мы захварэлі.

Мне стала шалёна цесна. Спачатку я адчуваў, што пакой сціскаецца, і не мог спаць, бо баяўся, што столь расцісне мяне.

Потым мне стала цесна ў звыклых месцах: у крамах здавалася, што калідор паміж гандёвымі шэрагамі звужаецца за маёй спінай і хоча мяне праглынуць.

Потым пачалі звужацца трамваі, пераходы, вуліцы і ўвесь мой горад.

Мне жудасна. Свет сціскаецца ў камяк. Хутка ён стане чорнай дзіркай і засмокча мяне туды.

Можа быць, калі я апынуся на яго дне да мяне працягнецца знаёмая рука.

Дзе ты?

*Уладзіслаў КАЛЕСНІКАЎ, 17 гадоў, Мінск,*
*малюнкі Алісы МАТАВІЛАВАЙ*



**● Дынамік**

# Калядуем пад спевы Данчыка



***Данчык, «Калядныя песні», Мінск, 2012, «БМАgroup» паводле ліцэнзіі «RL/RFE», 1998.***

У раздзел лёгкай музыкі неаднаразова перавыдаванай кнігі «222 альбомы беларускага року» ажно шэсць альбомаў прадставіў знакаміты спявак з Амерыкі, залаты беларускі голас — Данчык. А нашыя меламаны так да канца і не ўсвядомілі, што голас у яго — залаты! Бо нават не ў кожнага з сусветных славутасцей столькі якасных альбомаў набярэцца (напрыклад, пяток кружэлак ад французскага электроншчыка Jean Michel Jarre, 4 CD легендарнага Марка Болана з ягоным «T. Rex»).

І пакуль Фама-недаверак сумняваецца, сапраўдныя калекцыянеры шукаюць абяцаную «БМАgroup» серыю 6 CD-перавыданняў, ды яшчэ з бонусамі! Шукаюць і знаходзяць, бо ўжо выйшлі ды паспелі парадаваць тысячы калекцыянераў беларускай фанаграфіі пяць якасных вытвораў амерыканскіх студый (альбомы Данчыка: «Беларусачка», 1978; «Я ад вас далёка», 1985; «Мы адной табе належым», 1989; «Ровесники», 1991; «Мы яшчэ сустрэнемся», 1992). А пра шосты дыск не ведаў нават Данчык, бо запісвала яго з падачы Змітра Марчука (старшыні фан-клуба «Данчык-forever») адна мюнхенская студыя з мінскага канцэрта артыста ў вялікай зале Белдзяржфілармоніі. Альбом мае назву «Калядныя песні».

Калі нехта сумняваецца, што канцэртны альбом можа мець нейкую самастойную каштоўнасць, дык адразу мушу засведчыць, што тыя 19 песень вы не знойдзеце больш нідзе. Хіба што ў беларускай песні «Крывічаначка» можна пазнаць украінскую «Галічаначка», але ж пераклад Сяржука Сокалава-Воюша таксама чагосьці варты:

Ці Дняпро віруе сіні між палёў-лугоў,
Ці Дзвіна цалуе плынню стромы берагоў,
З даўных дзён у неспакоі ясна паннaчка —
У чаканні слаўных вояў крывічаначка.

Total свяжак падорыць і нямала іншых перакладаў! Хто з вас чуў на роднай мове знакамітыя раней хіты «Milisse mou» Наны Мускуры, «Les Feuilles Mortes» Эдзіт Піяф ды іншыя? А некаторыя сусветныя песенныя шэдэўры




гучаць і без перакладу: «The Boxer» амерыканскага дуэта 60-х Simon/ Garfunkel, «Yesterday» ад вялікіх брытанскіх бітлоў Lennon/McCartney, яўрэйскі танец «Hava Nagila!», іспанскі «Gracias a la vida» ад чылійскай спявачкі Віялеты Парра. Данчык выконвае іх бездакорна, захоўваючы пры тым сваю адметную манеру і шарм.

Варта дадаць таксама, што акрамя С. Сокалава-Воюша над беларусізацыяй сусветных шлягераў для Данчыка працавалі і іншыя знакамітасці — напрыклад, даследчык французскай паэзіі Мацвей Смаршчок з Амерыкі. Гучаць і ніколі тут не чутыя песні на вершы Максіма Багдановіча («Не кувай ты, шэрая зязюля» — mega-hit), Уладзіміра Дубоўкі («О Беларусь, мая шыпшына!»), напісаныя таленавітымі кампазітарамі-эмігрантамі Міколам Куліковічам і Міколам Равенскім.

Ёсць у альбоме і творы сучасных несталічных талентаў. Напрыклад, улюбёны турыстычны хіт «Забыты дом» наваполацкага барда Алега Паўлёнка, «Крыніцы» ягонага земляка Сокалава-Воюша, ананімна распаўсюджаны тут за савецкім часам нацыянальны вайсковы гімн «У гушчарах», які напісаў, аказваецца, усё той жа М. Куліковіч на вершы Н. Арсенневай.

«А як жа Каляды?» — спытаеце вы. Данчык не толькі сам тлумачыць на тым канцэрце (снежань, 1996) прыналежнасць кожнай песні да тэмы свята, а і выконвае сапраўдную класіку жанру: фальклорныя «Учора з вячора», «Свецяць зорачкі», «Саўка ды Грышка», міжнародныя ў беларускіх перакладах «Ціхая ноч» (з нямецкай), «Святая ноч» (з французскай). Прычым, калі папярэдні мюнхенскі рэліз прэзентаваў толькі аўдыётрэкі, дык на CD-перавыданне трапілі і жывыя відэазапісы наўпрост з нью-ёркскай кватэры Данчыка ажно сямі твораў — «Неба й зямля», «У свеце нам» і некаторыя з пералічаных.

Лічбавы рэмайстарынг канцэртных запісаў Змітра Новіка зрабіў Андрэй Плясанаў (студыя «P.L.A.N.»), а мантаж амерыканскіх відэазапісаў належыць Андрэю Старавойтаву са студыі «Ravenlord». Дзякуючы ім, наколькі мы памятаем, быў уратаваны ад забыцця не толькі альбом «Калядныя песні», але і прыгаданыя тут «Ровесники», на якія не захавалася лічбавых сыходнікаў. І вось поўная дыскаграфія Данчыка — усе шэсць альбомаў, каля 100 песень, унікальныя інтэрв'ю, відэазапісы, дакументальныя фільмы, рэдкія фота — даступная беларускім меламанам, якія збяруць поўную калекцыю дыскаў нашай амерыканскай зоркі ад «БМAgroup».

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА, музычны крытык***

# Змест часопіса «Маладосць» за 2012 год

### У ГОСЦІ ДА «МАЛАДОСЦІ»



### АД РЭДАКТАРА



### ПАЭЗІЯ

**ПРОЗА**

## ПЕРАКЛАДЫ



## ДРАМАТУРГІЯ



## СТАРОНКА МІНУЛАГА



## КРЫТЫКА

## ДЫЯЛОГ



## КАМУ ШТО БАЛІЦЬ



## КУФЭРАК ПАРАДОКСАЎ



## ДА ЮБІЛЕЮ ЧАСОПІСА



## КІТАЙ



## ЛІТАРАТУРНЫ ГАРАСКОП



## ЛІТАРАТУРНЫ ЗАДЫЯК



## КРАЯЗНАЎЧЫ ДАВЕДНІК

*Падрыхтавала да друку Кацярына ГОЛУБ*

# Змест часопіса «Бярозка» за 2012 год

## БЯРОЗКА № 1/2012 (1004)



## БЯРОЗКА № 2/2012 (1005)



## БЯРОЗКА № 3/2012 (1006)



## БЯРОЗКА № 4/2012 (1007)

**Кацярына ЮРКЕВІЧ.** Інстытут незвычайных асоб.
**Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ.** Адрозныя малюнкі нашых лёсаў.
**Марыя СЯЦКО.** Быць альбо не быць рэпетытару ў тваім жыцці?
*Слоўнік-алоўнік.* **Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ.** Багоўкі.
*Дынамік.* **Марына ВЕСЯЛУХА.** Дуда ў року.

## БЯРОЗКА № 5/2012 (1008)

**Анастасія ХУРСЕВІЧ.** Жыццё ў чаканні цябе.
**Ксенія ПАРФЕНЮК.** «Ваенкамат. Чарга…»
**Люба МЯЦЕЛІЦА.** Бабуліна гісторыя.
**Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ.** Разгадваць святую таямніцу жыцця з пляцаком за спінай.
**Дар'я МІХАЙЛОЎСКАЯ.** Аборт — гэта забойства.
**Даша МАРОЗАВА.** Буккросінг: прачытаў кніжку — «адпускай» у падарожжа!
*Слоўнік-алоўнік.* **Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ.** Ванцак.
*Вялікі конкурс школьных сачыненняў.* **Лізавета БАСАЛЫГА.** Чаму я выбіраю гэту мову?

## БЯРОЗКА № 6/2012 (1009)

*Верасок.* Малінаўскія галасы. **Ганна УРОНСКАЯ, Марына МАРОЗАВА,** сёстры **Марыя і Наталля КОЧАТАВЫ.**
**Настасся ГОРБАТ.** У мяне няма каханага! Чаму?
**Юлія МАШАРА.** «Я памятаю першую сустрэчу…»
**Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ.** Разгадваць святую таямніцу жыцця з пляцаком за спінай. (Працяг).
**Ганна САСНОЎСКАЯ.** Так не хапае сцэны.
*Дынамік.* **Вітаўт МАРТЫНЕНКА.** Сцёбны кабацкі рок-н-рол, r'n'b ды інш.
*Слоўнік-алоўнік.* **Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ.** Глум, глуміць.
*Вялікі конкурс школьных сачыненняў.* **Паліна БУЧЭЛЬ.** Маё люстэрка Холдэн Колфілд.
*Вернісаж.* **Мар'яна ЯЦЭВІЧ.** Завітаць у госці да мастачкі Сашы.

## БЯРОЗКА № 7/2012 (1010)

*Верасок.* Слова Купалы да творчасці кліча… **Міхась БАЦЯН, Юлія АРЦЮХЕВІЧ, Наталля КУЗЬМІЧ, Бажэна МАЦЮК, Алена НОВІК, Алена СЯЛІЦКАЯ, Зінаіда КІРНАЖЫЦКАЯ, Ігар КАНАНОВІЧ, Таццяна ТАМАШЭВІЧ, Яна ВЛАДЫКА, Вікторыя ЖЫЛЯКОВА, Павел МІТАР, Вікторыя БЕПЕРШЧ, Вольга ТРЫГУБОВІЧ.**
Дынамік. **Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ.** World music разганяе хмары!
*«Гартаючы мінулага старонкі...»* Конкурс на лепшае сачыненне пра самую адметную кнігу ў дамашняй бібліятэцы. **Станіслаў ПЕТРУСЁЎ, Антаніна СКУРАТ, Моніка БОТЭ.**
**Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ.** Прыгодніцкі раман, напісаны школьніцай.
*Нам цікава!* **Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ.** Што ж лецейка водарнае падаруе?
**Мар'яна ЯЦЭВІЧ.** Любімы Стары Пруд, ці як добра ў бабулінай вёсцы.
*Дынамік.* **Ганна ФІЛІСТОВІЧ.** Быццам крычыць шэптам.
**Настасся ГОРБАТ.** Ларыса, Рарыса, Лаліса.

## БЯРОЗКА № 8/2012 (1011)

*Верасок.* Маладая таленты Глыбоччыны. **Крысціна ХІЛЬКО, Рагнеда ЮРГЕЛЬ, Ганна ЛУКАШЭВІЧ, Кацярына МАЛЕЙ.**
**Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ.** Навука кахаць і з людзьмі кантактаваць.
**Анастасія БЕЛАРУСАВА.** Мама.
*Слоўнік-алоўнік.* **Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ.** Даганяты.
**Алена БІРУКОВА.** Агу, джэнтльмены!
**Вітольд ГЛУШЫЦКІ.** Маленькае жыццё.
**Кацярына БЯДУЛІНА.** Выратаваная адзінота.

**БЯРОЗКА № 9/2012 (1012)**



**БЯРОЗКА № 10/2012 (1013)**



**БЯРОЗКА № 11/2012 (1014)**



**БЯРОЗКА № 12/2012 (1015)**



***Падрыхтавалі да друку Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ***
***і Рагнед МАЛАХОЎСКІ***

***Льготная падпіска для ўстаноў***
***Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі***
***Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731;***
***падпісная цана на 1 месяц — 27 720 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 13 800 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 35 080 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592.***
***Цана на 1 месяц — 9700 руб.***

Дызайн лагатыпа на вокладцы *Веранікі ШНІП*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп’ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 07.12.2012. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 13,63. Тыраж 2413 экз. Заказ 3658. Кошт нумара ў розніцу 12 700 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru** **http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**